**Мікола Гіль**

# Кім і Валерыя

*Аповесці і апавяданні*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1988

Рэцэнзент АЛЯКСЕЙ РАГУЛЯ

Героиня новой повести Миколы Гиля «Прогалина» — бывшая колхозница Степочка, а теперь городская пенсионерка тетя Стефа. Ей восемьдесят лет. Шестьдесят из них она прожила в деревне, потом перебралась к сыну в город. Хорошо, в полном достатке живут ее дети и внуки. Только замечает она в кругу своих детей холод, равнодушие... Восстает против сытой, спокойной, но пустой, отупляющей, лишенной высоких идеалов жизни и совхозный инженер Ким из повести «Ким и Валерия».

# АПОВЕСЦІ

## ПРАГАЛ

Зажурылася, замаркоцілася цётка Стэфа. Як з'ездзіла ў Альхоўку, як вярнулася заўчора, абедзеннаю парою, дадому, так і скупалася. І з'есці што, як раней, не жадна, і ў двор спусціцца, з бабамі на лавачцы пасядзець, не мае ахвоты, і зрабіць што рукі не горнуцца — от бы адно ляжала ды ляжала. А каб сказаць, што захварэла, дык — не. І галава ў яе не баліць і не кружыцца, і ногі не ныюць, і ў грудзях не надта каб цяжка было, а ўсё адно — як нездаровіцца цётцы Стэфе. Кажуць людзі, што душа баліць, калі чалавек і хворы і не хворы, калі яго як гняце нешта. Так яно і ёсць. Не хвароба, а туга нейкая, самота незразумелая ў яе на сэрцы.

Ляжыць цётка Стэфа на тахце і ўсё аб чымсьці думае. А каб хто спытаўся, аб чым, дык ці адказала б пэўна. Мітуслівыя тыя думкі, неўпарадкаваныя. Бясшумна гэтак бегаюць, снуюцца ў галаве, як, не ў прыклад кажучы, мурашы па лясной сцяжыне. Аднак жа так яно і не так.

Гэта толькі чалавеку, калі ён спыніцца і паглядзіць зверху на мурашыную мітусню, падасца яна адно мітуснёю. А мурашы на самой справе зусім і не мітусяцца: яны робяць, спакойна і засяроджана, сваю адвечную работу, робяць усё лета, каб пасля, восенню і зімою, можна было ім адседжвацца ў цяпле, сухаце і сытасці,— акурат як і людзі. Але каб зразумець гэта, трэба нахіліцца долу і пільней угледзецца ў нібыта бязладную мурашыную мітусню.

Так і ў бязладнасці думак, якія снуюцца ў цёткі стэфчынай галаве, пры бліжэйшым разглядзе няцяжка заўважыць зусім празрыстую пэўнасць ці акрэсленасць. Прынамсі, сама яна добра ведае, што думкі яе круцяцца не вакол таго, што будзе, а ўсё вакол таго, што было. Што будзе — цётка Стэфа ведае, і яно яе не турбуе. Смерць будзе. Ведама, не сягоння і не заўтра, час той яшчэ не гэтак блізка, але ж — к таму ўсё ідзе, да таго хіліцца. Ну, яшчэ дзень, дзесяць, сто дзён можа яна пражыць, ну, пашанцуе, дык мо і год-другі працыўкае на гэтым свеце, а там і канец. Ад смерці не ўцячэш, гэта цётка Стэфа знае і зусім яе не баіцца. Галоўнае, сумець пражыць, а памерці, ды яшчэ ў яе веку,— не штука. Заплюшчыў вочы, рукі злажыў дый памёр. Адно каб парою светлаю, чыстаю, без хлюпаты ці сцюжы-завірухі. Ёй, ведама, тое ўжо будзе ўсё роўна, але ж яна яшчэ жывая і ёй пра жывых думаецца. Жывым кепска будзе, як давядзецца ў

хлюпату ці ў завіруху выпраўляць яе ў апошнюю дарогу. Хай лепш сонейка свеціць, хай ціха і светла на зямлі будзе ў хвіліны яе расстання з гэтым светам, бо надта не хочацца, каб хто-небудзь папракнуў яе: не знайшла баба часу, каб па-людску памерці! Папракне, ведама, дурны: чалавек, разумны ведае, што ніхто таго часу не выбірае, але — хай і ён так не падумае і такога не скажа. Яна ўсё жыццё, усе свае восемдзесят гадоў, старалася не рабіць людзям благога, дык хай і апошні яе крок не прынясе нікому засмучэння.

Думала пра ўсё гэта цётка Стэфа памяркоўна, і пры гэтым не азывалася ў душы ні болю, ні жалю да сябе. Яна, здаецца, нават і падзівілася з таго. Падзівілася, бо нечакана ўспомніла: калісьці яна вельмі ж баялася смерці. Доўга намагалася прыгадаць, калі тое было. Колішні дзіцячы страх быў не ў залік: усе дзеці баяцца, але — не смерці, а нябожчыкаў. І яна малой, памятае, баялася нябожчыкаў, баялася могілак, палохалася белага трапятання фартушкоў на шэрых магільных і прыдарожных крыжах. Баялася яна нябожчыкаў і пасля, стаўшы дзеўчынёхай, вусцішна было ад згадкі пра іх і пазней, калі хадзіла ў дзеўках, нават калі ўжо стала маткай. А смерці забаялася ўпершыню ці не ў вайну. Але, але, у вайну! Тады, у гады ліхалецця, скаланулася яна ад згадкі пра ўласную смерць пры думцы: як заб'юць яе, што будзе з дзецьмі? А што, калі і Раманок яе з вайны не вернецца? Да каго ж яны тады прыгорнуцца, асабліва меншыя — Міша, Толя і Косцік? Вось тады яна забаялася смерці. Што праўда, то праўда.

А па вайне страх той мінуўся, забыўся. Думаць пра смерць не было калі. Трэба было найперш думаць пра тое, як жыць. Гэта цяпер латва каторым балбатаць пра смерць. Бабы на лавачцы вечарам адна перад адной: хутчэй каб памерці, каб мае вочы таго не бачылі... А яна слухае і пасміхаецца, і хочацца ёй сказаць: мае ж вы бабачкі, не гнявіце бога, не мянташце языкамі, бо паміраць вам ніводнай не хочацца, ой як не хочацца! Кепска жывучы і то не хочацца на той свет ісці, а пры такім жыцці, як цяпер, што і казаць. І ёй, цётцы Стэфе, таксама не хочацца. Ці ж яна хлусіць будзе? Не хочацца, пэўна! Але ж і пару сваю павінен чалавек ведаць. Без пары памёр чалавек — кепска, ведама. Але калі і зажыўся, іншым замінаючы, таксама блага. Жыццё ў радасць павінна быць. І не дай бог, як скруціцца яно так, што чалавек і не жыве, і не памірае. Лепш ужо тады бух, як абушком, і — няма. Яна сабе якраз такой смертачкі жадае.

Ну, але пра гэта цётка Стэфа думае менш за ўсё. Пагаджаецца на тым, што, маўляў, усё адно ніхто свайго апошняга ўздыху не ўгадае, таму лепш і не думаць пра тое. А от што было — гэта не

забаронена, гэта і ўспомніць можна. Мо нават не толькі можна, а і трэба. Раптам і сабе самой што прыдасца, а галоўнае, мо хоць маленькую службу саслужыць дзецям і ўнукам. Яны, праўда, не надта і прыслухоўваюцца, але — такой бяды. Цяпер не прыслухаюцца, дык мо пазней надарыцца тая хвіліна, калі матчына ці бабуліна слова прыбяжыць на памяць,— жыццё ж у іх, асабліва ўва ўнукаў, яшчэ наперадзе, і можа быць у тым жыцці шмат чаго. А самой акрамя ўсяго ўсё, што ўспамінаецца,— як падтрымка перад канцом, перад безвыходнасцю. Адно ўспомніцца, другое, трэцяе — глядзіш — неяк і лягчэй, быццам смялей думаецца пра той момант, калі цябе не стане.

Жыве чалавек столькі, кажуць, колькі яго памятаюць. А каго даўжэй памятаюць, а каго — карацей? А каго зусім не памятаюць, не хочуць памятаць? Мусіць, ніякага чалавека не памятаюць. Таго, хто быў ні благі, ні добры. Каторы адно для сябе жыў. Благога ж доўга памятаюць. Цётка Стэфа гэта ведае. Паліцая, таго душагуба Азановіча, у Альхоўцы і цяпер, мусіць, помняць. Дваццаць гадоў па вайне жыла яна ў Альхоўцы і бачыла: помнілі яго людзі. Пры нагодзе так і казалі: а ўжо ж такі люты, як Азановіч той! Аднак жа добры чалавек, мусіць, даўжэй усяго жыве ў людской памяці. Вунь, хто быў Петрык, чыім імем крыніца ў Альхоўцы завецца, ужо ніхто і не ведае, а кожан, хто нап'ецца, памінае яго добрым словам,— Петрыкава крыніца. Альбо — Анціпава сажалка на аселіцы. Таго Анціпа даўным-даўно і костачкі сатлелі, а ў ягонай сажалцы і цяпер дзеці пялёхаюцца. Колькі людцаў пакінула па сабе доўгую і добрую памяць! Толькі адну Альхоўку вазьмі ды прыпомні...

У Альхоўцы яна, цётка Стэфа, нарадзілася. Не, нарадзілася ў Ганаровічах, за тры кіламетры, а ў Альхоўку замуж пайшла, за Раманка свайго. Даўно яна не была ні ў Альхоўцы, ні ў Ганаровічах. За дваццаць гадоў, як з'ехала адтуль, два разочкі ўсяго. Няма да каго ездзіць. Бацька і маці памерлі яшчэ да вайны, перад саменькаю вайною; браты Паўлюк і Пятрусь разам з сем'ямі ў вайну пагінулі — іх усіх спалілі жывымі ў першую блакаду; Іван маладым па дурноце сваёй загінуў — з вяселля ішоў, з Забор'я, і замерз, у сумяі знайшлі на трэці дзень, а Кастусь без вестак прапаў недзе на Далёкім Усходзе, дзе служыў камандзірам яшчэ да вайны; сястра Аксеня ў Ленінградзе ад голаду ў блакаду зайшлася, а сярэдняя іхняя, Волька, як і сама яна, з'ехала ў горад, толькі не ў Мінск, а ў Жодзіна, чатыры гады, як памерла, і пахавана не там, дзе нарадзілася, а на гарадскіх могілках. От і няма ёй да каго ездзіць. А ўсё ж два разочкі з'ездзіла. Хаваючыся з'ездзіла. Быццам у маліну, а па самой справе — паглядзець, паслу-

хаць, што там і як. Ці цяперся развіталася з Альхоўкай, усе свае карані там паабсякала, а ўсё адно цягне туды і цягне, як магнітам.

Гэта ж, памятае, сышла з аўтобуса, ступіла на брук, а да яе як кінецца кабета, як загамоніць: «А Стэпачка, а родненькая, няўжо гэта ты?!» Расплакалася яна тады, тым разам, абдымаючы на вуліцы, у смуродным шызым воблачку, які пакінуў пасля сябе аўтобус, Гілену Прусаву. Расплакалася ад таго ўжо, што сваё звычнае імя пачула — Стэпачка. Яна ж у горадзе зрабілася цёткай Стэфай. А ўсё жыццё, лічы, як выйшла за Раманка і пераехала ў Альхоўку, была Стэпачкай. Ён — Раманок, а яна — Стэпачка. Ён-то быў Раманком і перад тым — усе да яго Раманок ды Раманок. А яна ў маці, у Ганаровічах, Стапкай хадзіла. І ў хаце і на вуліцы яе так і звалі — Стэпка. А ў Альхоўцы ўраз перарабілі на Стэпачку. Каб сказаць, што яна малая была, дробная, мізэрная, дык — не. Гэта ж, пэўна, па Раманку, па мужыку ахрысцілі. Калі ён Раманок, дык, значыцца, яна — Стэпачка. Так і пайшло. Па вайне Раманка не стала, а яна ўсё роўна Стэпачкай засталася. І дваццаць гадоў усё Стэпачка ды Стэпачка. Калі дык яшчэ Раманкова дададуць.

А ў горадзе неўпрыкмет на цётку Стэфу перайначылі. Новае імя прыліпла да яе ў бальніцы. Перабралася яна ў Мінск да Васі, да старэйшага свайго. А жыў Вася на пятым паверсе, пад самай страхою. Ёй тады якраз шэсцьдзесят стукнула, лёгкая яшчэ была на ногі і, злаўчыўшыся, ледзьве не бегала па тых гулкіх, стромых прыступках уверх-уніз. І дабегалася баба: паляцела аднаго разу потырч носам і зламала нагу. І трапіла ў бальніцу. І так нагледзелася там на людскую немач, наслухалася і добрага і благога, што, ачуняўшы, развітаўшыся з мыліцамі, пайшла ў тую ж бальніцу, на той жа паверх, санітаркай. Вася адгаворваў, і Аня яго таксама. Казалі: «Нашто табе, мама, за кімсьці прыбіраць?» А яна заўпарцілася, пайшла. Дзеткі, сказала, не дай бог вам туды трапляць, але калі трапіце, дык хай пры вас старая нянька-санітарка будзе, а не маладое, дурное і сарамлівае, ды яшчэ і гідлівае дзяўчо. Стары чалавек лепш зразумее і боль чалавечы і не будзе гідзіцца таго, чаго, ведае, не трэба гідзіцца...

Там, у бальніцы, яе і ахрысцілі цёткай Стэфай. Нехта з хворых адзін раз гэтак сказаў, другі, а пасля і хворыя, і сёстры, каторыя маладзейшыя, і дактары пачалі гэтак зваць — цётка Стэфа ды цётка Стэфа. Яна і прывыкла. І на Стэпачку забывацца пачала. Стэпачка засталася ў Альхоўцы. А там, у Альхоўцы, было ў яе жыцці і харошае, добрае, раднае, было і гораснае, цяжкае, крыўднае. Але чым больш жыла ў горадзе, чым больш старэла, тым радзей згадвалася апошняе і тым часцей і харашэй паміналася першае. Дзіўна, але нават і з

пасляваенных гадоў, вунь якіх цяжкіх і гаратлівых, шмат чаго ўспаміналася добрага, і яна, ужо не цётка Стэфа, а Стэпачка, надта ж хацела туды — хоць на дзянёк, хоць на гадзінку.

Бянтэжыла яе, што дзеці быццам выракліся Альхоўка зрэдку ўспаміналі вёску, дзе панароджваліся і павыраствалі, але ні разу, бадай, не паказвалі жадання з'ездзіць туды ў адведкі. Чаму ж так? Думала і не знаходзіла адказу. І саромелася перад дзецьмі сваёй няўцерпнай прагі пабываць там. Па гэтай прычыне і прыкрывалася малінаю тыя два разочкі, калі ездзіла ў Альхоўку. А гэты, апошні раз не стала прыкрывацца ні малінаю, ні ягадамі-чарніцамі. Ці то па радыё, ці то ад дзяцей, як яны яшчэ хадзілі ў школу і чыталі ўголас свае ўрокі, пачула, быццам звер заўсёды ідзе паміраць на тое месца, дзе нарадзіўся. Калі пачула гэта, не памятае. А от цяпер яно раптам прыйшло на памяць. Прыйшло і асела ў галаве. Калі так робіць звер, Пазбаўлены розуму, дык чалавек — подаўна. Значыць, блізкі і яе час. Гэта яна, смерць, кліча яе ў дарогу, гоніць туды, у разбуранае, але ж роднае некалі гняздо. А чаго, каб хто спытаўся? От трэба, і ўсё. Як на споведзь калісь. Не надта каторая баба і разумела, чаго ідзе, а — ішла. Каб душу супакоіць. Толькі ж — ці супакоіш? Ат, як яно будзе, так і будзе, а з'ездзіць трэба. Век яе такі, што чакаць іншай нагоды ці пары не выпадае. Пакуль трымаюць ногі і свецяць вочы, яна з'ездзіць.

Так і сказала Людачцы. Ужо каторы год найбольшую паразумеласць мае яна з унучкай, з Толікавай меншанькай. Была ў Толі з Ірай і яшчэ адна дачушка, старэйшая, Светачкай звалі. Такая дарэчная дзяўчынка была! Тата з мамай нарадавацца не маглі. І яна, бабка, як прыязджала, таксама налюбавацца і наслухацца не магла. І, дай веры, памерла ў шаснаццаць гадкоў. У восьмым, здаецца, класе пачала жаліцца, што галоўка баліць. Усё баліць і баліць. Як ні лячылі, куды ні вазілі, якіх толькі лекаў Толя ні даставаў — нічога не памагло. Запаленне мозга нейкае, ці што. У дзесяты клас перайшла, а вучыцца ў ім ужо не змагла — той восенню і заснула навекі яе ўнучачка. І Толя хадзіў, як хмара, учарнелы, і яго Іра ледзьве розуму не рашылася — ведама, у шаснаццаць гадоў дзіцятка пахаваць.

От тады яна і пераехала да Толі з Ірай. Заняла ў пакойчыку Светаччын ложак, каб смялей і весялей было другой іхняй дачушцы, Людачцы, каторая тады толькі ў трэці тэпала. А сёлета Людачка ўжо дзесяты канчае. І ўсе гэтыя восем гадоў была для бабкі найбольшай дакучніцай і найлепшай уцехай. Толю таму за шафёрствам вечна часу няма, з кранам па аб'ектах гойсае, Іра сваім клопатам занятая, а Людачка заўсёды пры ёй і з ёй. Яна наслухаецца ўнуччынага шчабятання, пакуль тая ўрокі робіць, а пасля сама ўдосталь нагаворыцца,

бо Людачка як прычэпіцца — раскажы, бабуля, як ты малой была,— то не адгаворышся, не адмахнешся. От яна ляжыць ці сядзіць і расказвае. Часам і робіць што — вяжа альбо шые, — і расказвае. І да таго прывыкла, змалку, калі яшчэ малою гарэзаю была, што спаць не ляжа, вачанят не заплюшчыць, пакуль бабуля ёй што-небудзь не раскажа. Не, не казку. Казку, смяецца, я і сама прачытаю — вунь, бачыш, бабуля, колькі іх у мяне: і браты Грым, і Андэрсен, і Харысу і Кэрал, і Чукоўскі, і народныя... Яна і слоў бы тых нізавошта не вымавіла! Раскажы ты, бабуля, не казку, просіць, а пра тое, як ты жыла, у якія гульні гулялі тады дзеці, якія кніжкі чыталі... А як падрасла, дык, блазнота, пачала прасіць, каб бабуля расказала, як хлопцаў за нос вадзіла, як на вечарынкі хадзіла, як замуж ішла... Яна не адмаўлялася, расказвала. Пра ўсё, што памятала, на што не забылася. І дзівілася, што Людачка слухае, не засыпае, раз-пораз перапытвае, калі чаго не разумее. І радавалася чамусьці гэтай унуччынай цікаўнасці.

А як некалькі гадоў назад Толя купіў Людачцы магнітафон, дык яна да чаго даўмелася? Пачала бабуліны апавяданні на магнітафонную стужку запісваць! Неяк сказала: «Помніш, бабуля, ты расказвала, як цэўкі сукала? Мама твая кросны тчэ, ты цэўкі ёй сукаеш, а яна табе казкі расказвае ці песні пяе... Давай і мы гэтак — ты мне расказвай, а я запісваць буду. Быццам тыя самыя цэўкі сукаць, добра?» Колькі яны тых цэвак панасуквалі — каб хто ведаў! І не сцірае, кнігаўка, беражэ! Кажа: «Гэта, бабуля, музейны матэрыял, экспанаты». Смяецца з дурной бабкі, а бабцы тое зусім і не крыўдна. Нельга на Людачку крыўдаваць. Душа ў яе добрая — мяккая, адходлівая. Усіх любіць і ўсіх шкадуе. Гэта ж ні разу яна, Стэпачка, не чула, каб Людачка кепска сказала пра каго-небудзь з падружак сваіх па класе. Добрая, ласкавая і разумная дзяўчынка расце. Гэта, няйначай, як узнагарода Толю і Іры за тое, што не стала ў іх Светачкі...

Ага, дык от яна і сказала Людачцы: паеду я, унучачка, у Альхоўку, мо і ў Ганаровічы загляну, нешта думаецца мне, што мо апошні разок я туды выбіраюся, паеду, пахаджу там, мамінай і татавай магілкам пакланюся, ля іхніх грудкоў пасяджу... А Людачка, тая кнігаўка цыбатая, яе ў шчаку цмок, у другую цмок, кажа: «Едзь, бабуля, абавязкова едзь, толькі не думай, што апошні раз, пра гэта табе рана думаць, ты мяне туды яшчэ не звазіла, а, помніш, абяцала, цяпер я з табой не магу, мне экзамены трэба здаваць, а ты едзь...» Ну, калі ўнучка благаславіла, дык чаго ж яшчэ? От яна і паехала. Села ў аўтобус і паехала. Цяпер, дзякаваць богу, аўтобус у саменькую Аль-

хоўку ходзіць. Праз вёску з канца ў канец праедзе і далей пакоціцца, на Селішча і Корань, а ты, баба, злазь, дзе табе хочацца ці трэба...

Вылезла Стэпачка — тут, у Альхоўцы, яна ж, ведама, зноў Стэпачка — там, дзе ўсе вылазілі, на прыпынку ля Маўчановых. Ранічка такая харошая, самая што ні ёсць летняя, зелень на дрэвах у самай сіле і крамянасці, на градах, за платамі відаць, усё жыўцом угару лезе, і пылу таго пазнейшага, ліпеньскага і жніўеньскага, яшчэ няма, паветра чыстае, духмянае, з прысмакам першай скошанай, яшчэ не даспелай травы на ўзмежках. У яе на душы ад усяго гэтага самае што ні ёсць свята. Стаіць, дзе стала, як высунулася з аўтобуса, і не ведае, што рабіць, куды паткнуцца найперш, у каторы бок пайсці. Пашкадавала, што не злезла ў пачатку Альхоўкі — так бы і прайшла б па сяле з канца ў канец. А цяпер трэба назад ісці, на гару, у Гаранскі канец, дзе некалі яе хата стаяла.

Але не датупала да колішняй сваёй сядзібы, як напаткала Зосю Гарошкаву. Тая на лаўцы пры вуліцы сядзела. І яна, Стэпачка, пры ёй прысела. Слова за слова, дык і гадзіну, пэўна, прабалантэсілі. Успомнілі, што няма ўжо Надзі Камоцкай, Гілены Прусавай, Ганны Пайковай, і Анюты Гэрцавай, і Марылькі Марошкавай, каторая нядаўна, сяголетняй зімою, памерла — усіх іхніх колішніх сябровак-падружак, з якімі разам дзяцей раджалі і гадавалі, вайну перажылі, пасля вайны галадалі і гаравалі. І не стрывалі, падняліся з лаўкі і праз апусцелы Марыльчын двор пачыкільгалі на могілкі, у адведкі да іх.

Адтуль, з могілак, Стэпачка ў сяло не вярнулася — парашыла напрасткі, праз Глінішча і Смалякоў роў, схадзіць у Ганаровічы, на бацькаву і мацерыну магілкі, паабяцаўшы Зосі прыйсці да яе начаваць.

Яна так і зрабіла — пайшла напрасткі, хоць і шкадавала пасля, што не выбілася на дарогу, бо і Глінішча тое, і Смалякоў роў, аказваецца, пазарасталі, колішнія сцежкі пазнікалі, і яна язык высалапіла, пакуль церабілася праз зараснікі. Думала, што ўжо не дойдзе да Ганаровіцкіх могілак — так падбілася. А на могілках, да ўсяго, знервавалася, расстроілася ўшчэнт ад таго, што доўга не магла адшукаць бацькаву і мацерыну магілы. Даўно не была тут Стэпачка, недаравальна даўно. Могілкі разрасліся, свежыя магілы вунь ажно куды пабраліся, з-пад хвой на поле выбеглі. І яна адшукала родныя грудкі дзякуючы старой расахатай хваіне — памятала, што паблізу ад яе паклалі тату і маму. Упала на ўтравелыя, паніклыя, неабгароджаньтя — па старой яшчэ завядзёнцы — грудкі і знячэўку расплакалася: гэта ж, пэўна, ужо мала хто і з ганароўцаў ведае, хто ляжыць тут. А вінаватая яна, Стэпачка. Магла ж бы, каб захацела, і абгарадзіць, на цяперашні лад, і помнічкі якія-небудзь, хай не моцна дарагія, паставіць, Вася ж бы не

адмовіўся памагчы, і Міша з Толікам, а то ж во — перад людзьмі сорамна...

І так разверадзіла сябе, што доўга не магла суняць слёз — абрывала на грудках траву, насіла ў прыпале жаўтапесак і сасновыя шышачкі, аздабляла павесялелыя і быццам павышэлыя грудкі, а сама ўсё плакала і плакала, і ўжо не так, здаецца, над татам і мамай, як над сабою. Думалася чамусьці, настырна лезла ў галаву, што і яе ўжо скорую магілку напаткае такі ж лёс — мусіць, не надта доўга будуць прыязджаць да яе ў адведкі дзеці. Чаму тое лезла ў галаву, не магла б вытлумачыць, а от жа лезла і лезла. Чаму яна сама так даўно не была тут? Перад кім і чым апраўдацца? Па вайне жыццё было такое, што найперш трэба было думаць, як дзяцей накарміць-апрануць. Ну, а пасля, калі жыццё палепшылася, калі ўжо не трэба было трэсціся-дрыжаць над кожнай капейчынай? Чаму ж яна не ўспомніла? Успамінаць-то ўспамінала, ведама, але ж от не знаходзіла часу, каб прыйсці, прыехаць сюды, пабыць з імі хвіліну-другую, не кажучы пра большае. Дык чаго ж дзяцей сваіх папракаць загадзя? Альхоўкі яны выракліся? А мо ёй гэта, старой, здаецца? Мо ад таго яны такія і непрыкаяныя, што душа іхняя разрываецца між Альхоўкай і горадам? Ад болю таго нябачнага, ад бяссілля, што і там ужо, у Альхоўцы, не змогуць жыць і рабіць, як калісьці яна жыла і рабіла, і тут, у горадзе, не заўсёды трацяць на тое, на што след, сілу і сродкі?

Яны, маладыя, пра гэта са старой маткай не гавораць. Чаго яны будуць з ёй гаварыць? Хіба дурная, цёмная баба, хоць і матка родная, зразумее іх, сённяшніх? Яны ж граматныя ўсе, ведаюць усё чыста на свеце — пра што ж яны будуць гаварыць з ёю, пра што пытацца і рахавацца?

Дурная яна, хай сабе і так, але, калі на тое пайшло, магла б і сказаць сёе-тое. От, напрыклад, чаму яна пайшла да Толі з Ірай жыць? Ну, ведама, і таму, што Светачка памерла — каб Людачцы не боязна было адной у хаце, як бацька з маткай на работу пойдуць, каб спаць ёй не адной у тым пакоі, дзе Светачка паміpала. Але ж не толькі таму. Гора паклікала, гэта праўда. Але яна б і па другой прычыне да Толіка з Іркай пайшла. Здавалася ёй, што жывуць яны неяк не так, як Міша жыве, ці Косцік, ці Вася з Сонькаю. Толя з Ірай жывуць, здавалася ёй, быццам так, як яны некалі жылі — яна, Стэпачка, са сваім Раманком. Добра жывуць. Між сабою ласкава, па-людску, без крыку таго, без папрокаў і звягаў, без сварак і лаянкі. Ні Толя на Іру, ні яна на Толю слова благога ці сказалі калі,— яна, пакуль да іх не перайшла, думала, што і праўда не сказалі. Здавалася ёй, што і за грашыма тымі па-дурному яны не гоняцца, як Сонька ці Мішава Вера. А пажыла, то

і пабачыла, што і яны тым жа богам хрышчаны. Адно — каб дастаць, здабыць нешта, каб сабраць, назапасіць як мага болей.

Яна, Стэпачка, думаючы от так пра дзяцей, лавіла сябе на тым, што не разумее яна, няйначай, нечага. Усё здаецца ёй, што не жывуць яе дзеці, а толькі збіраюцца жыць, спадзяюцца, што яшчэ прыйдзе да іх час, калі яны будуць жыць па-сапраўднаму.

Яна, мераючы ўсё на свой капыл і на сваё разуменне, хацела, каб дзеці жылі не так, каб адкрыта жылі, нікога не баючыся, нікому не зайздросцячы і не баючыся нічыёй зайздрасці, каб, скажам, суседзі былі суседзямі, як здаўна вялося, самымі блізкімі людзьмі, амаль што сваякамі, без якіх ні госці, ні свята якое не абыходзяцца. А яна ж памятае, як у Мішы жыла і як праз тых самых суседзяў ледзьве і з сынам, і з нявесткай не пасварылася.

Да Мішы яна ад Васі перабралася. І хацела перабірацца, і не хацела. Хацела, бо згрызоты Аніны абрыдлі, нараканні, нападкі на Васю, што вечна грошай нямашака. А тут Міша са сваёй Вераю пачалі ўгаворваць да іх перайсці — яны на пашырэнне стаялі, лішняя душа — лішнія метры будуць. От і паслухалася, перайшла...

Ага, дык Міша і Вера выгаворвалі ёй, што неяк пазычыла ў суседзяў паўбуханачкі хлеба. Вера шыпела ці не цэлы вечар: «І як вы, мама, дадумаліся? Пара забывацца на дурныя вясковыя звычкі! Не хапала яшчэ, каб пачалі поўзаць то па соль, то па запалкі, то па пыласос ці прас...» Яна спрабавала пярэчыць напачатку: ці ж то вялікі грэх, дзеткі, калі ў суседа акраец хлеба пазычыла? Дык і Міша Веру падтрымаў: «Грэх ці не грэх, мама, а каб болей не рабіла гэтага. Мы жывём самі па сабе, яны — самі па сабе. Нам да іх дзела няма, а ім — да нас...» Дык жа блага так, дзеткі,— яна не магла зразумець таго,— гэта ж во жывём у адным доме, а не ведаем нават, што за людзі за сцяною, ні да каго на парог і да нас ніхто. «А ты хочаш, каб цягаліся, як да Бануковых на сяло?» — зазлаваў чагосьці сын.

Яна нічога больш не сказала. Што тут скажаш? А чым і блага было, што збіраліся ў Бануковых на сяло? І Банук стары, і Банучыха, і іхняя дачка-нябожчыца была добрымі людзьмі і людзям былі рады. Поўная хата, бывала, наб'ецца, як дзверы зачыніць, і сесці няма дзе, прытыкаліся, хто дзе мог, накураць мужчыны і хлопцы, што і газнічка тухнуць пачне, захліпацца, а ніхто не бурчэў, усім добра было і паслухаць адно аднаго, і парагатаць, а часам і папець. Галоўнае — не цураліся людзі адно аднаго, як цяперака во. Ды каб жа яшчэ гэтак рабіў хто-небудзь чужы, незнаёмы чалавек, то ліха з ім ужо, мо такі ён урадзіўся. А то ж — сын, нявестка, дачка. І паразумецца з імі ёй, Стэпачцы, ужо цяжка. Не слухаюцца, не даходзяць да іх яе словы,

адмахваюцца, як ад малога назолы: «Ат, мама, не лезь, куды цябе не просяць, дзе ты нічога не разумееш, жыві ўжо сама, як жывецца, а нам не замінай...»

Яна і не замінае. Толькі хіба ж яна не чуе і не бачыць нічога і ні кроплі тое ёй не баліць, не ные, не турбуе? Яна, навучаная, маўчыць, гэта праўда, але ж гэта не значыць, што і яна пачала думаць гэтак жа, як і яны. Не, яна ўжо так закажанела, што не пераменіцца.

Соньку вунь узяць. Мо па дачцэ ў яе, Стэпачкі, найбольш душа баліць. Думала, настаўніцаю будзе — паступіла вучыцца, дык жа не! Паспытала гарадскога жыцця і скруцілася — вучобу кінула, у гулі кінулася. Пасля на будоўлю пайшла, абы толькі ў сяло не варочацца, пазней на завод убілася. Грошы там добрыя плоцяць, ведама, але ж і работа — не кожны мужчына вытрывае. А Сонька, як вярблюд той, дваццаць пяць гадкоў адбарабаніла, спіны не разгінаючы. Ну і што? Пенсію зарабіла вялікую, нічога не скажаш, ажно сто дваццаць ці нават трошкі больш рублёў палучае, а здароўе паклала. Чаму ж не пакладзеш, калі баба, як ашалеўшы ад тых грошай, магла адну змену адгарбець і ў другую тут жа выйсці, абы каб лішнюю дзесятку на кніжку пакласці? Не ўкрадзеныя, зробленыя тыя грошы, а радасці ў Сонькі няма, бо і здароўя няма, і сынок яе адзіны, Сяргейка, няўдаліца, у чарку лішне зазірае, раз ажаніўся, другі, а сям'і ўсё адно няма, зноў да маткі вярнуўся і ганяе яе: «Мама, купляй машыну, бо з'еду ў Цюмень ці ў Магадан...» Сонька плача, галавою мучыцца — як абцугі, кажа, сціскаюць патыліцу, а ўсё роўна на тыя грошы моліцца, мала пенсіі, крэкча, стогне, а яшчэ на работу цягаецца, усё на тую ж, цяжкую, каб разам з пенсіяй трыста за месяц выходзіла...

А Мішу яе ўзяць? Быў хлопец як хлопец, на будоўлі рабіў — яго Сонька ў горад перацягнула і да сябе на будоўлю ўзяла. Колькі гадоў жыў як чалавек, зарабляў добра, да трох соцень, бывала, у месяц выганяў — ён жа і цясляр табе, і муляр, і сантэхнік, і электрык. А таксама ж каторы ўжо раз разрываецца між работаю і шабашкай. Падрадзіўся людзям па сёлах паравое ў хатах праводзіць. Суботы і нядзелі не бачыць каторы гадок: па сёлах гойсае. Спачатку паблізу Мінска, а цяпер, як на машыну ўзбіўся, дык і за сто, і за дзвесце кіламетраў дападае. Два-тры разы з'ездзіць — глядзіш, чатыры сотні прывязе. І ўсё таксама на кніжку, як і Сонька. А радасці ў сям'і няма. Вера яго, кажуць, падгульвае. Яна дыспетчаркай на аўтастанцыі, от, кажуць, з шафёрамі там і круціць хвастом. Міша, пэўна, здагадваецца, але церпіць, толькі яшчэ больш у тую шабашку ўдаецца. Учарнеў увесь і ад работы, і ад думак тых. Дзяцей пажанілі, адсялілі ад сябе, машыны тыя самыя і ім пакуплялі, а самі на старасці гадоў ці дажывуць во

разам? Баіцца яна, Стэпачка, што скончыцца ў Мішы з Вераю не дабром, бо, кажуць, яна не толькі пагульвае, а і да чаркі пачала прыкладвацца...

У Васі быццам усё добра, як для чужога вока. А як ёй, матцы, дык таксама здаецца, што не так і добра. Вася, старэйшы яе, ці не бяднейшы сярод усіх. Нейкі ён непастаянны, невязучы, Вася. Дзе ўжо ні рабіў, а ўсё не па-ягонаму. Шафёрам шмат гадоў рабіў, а потым і вагоны суправаджаў, і кладаўшчыкам на нейкай базе быў, і грузчыкам, а ўсё нечага шукае. А жонка, Аня, яго грызе. Усё жыццё грызе. За тое, што мала палучае. А раней грызла, што братам памагаў. А ён жа, ведама, памагаў. Усім меншым, як прыходзілі яны ў Мінск. І Міша, і Толік, і Косцік і жылі ў яго, пакуль у інтэрнаты не ўбіваліся ці кватэру не знаходзілі, і капейчынай памагаў. У Васі душа добрая, апошняе аддасць. А якой жонцы гэта даспадобы? А цяпер і Міша, і Толік жывуць куды багацей за Васю, от Аня зноў яго грызе: «Бачыш, якія твае браточкі харошыя? Як ім цяжка было, дык — да Васі, а цяпер — цьфу на Васю, ніхто і не ўспомніць, колькі ты іх пакарміў-папаіў, колькі ты ім траякоў ды пяцёрачак наперадаваў...» Быццам і праўду кажа Аня, але — што ж, Вася цяпер будзе спаганяць з братоў тыя траякі ды пяцёркі?

Апошнім часам Аня ўсё ж запрэгла і Васю ў работу. Соткі яны атрымалі, у садовы кааператыў уступілі. От Аня таксама загарэлася на кніжцы сабраць. Днём і ноччу прападае на тых сотках, дома не стыкаецца. З работы не дадому, а туды. Там у яе парнічок, там трускалкі, там радыска, цыбулька, кропчык, пятрушка... І ўсё — на базар, усё на продаж. А што мы, кажа, горшыя? Ці нашым дзецям нічога не трэба? Дык і Вася загарэўся быццам. Перайшоў у кацельню ці куды, на начныя дзяжурствы, каб удзень ці на сотках карпець, ці на базары сядзець. Яна, Стэпачка, не стрывала была, прысароміла, дык буркнуў: «Ай, мама, не я адзін такі там сяджу, шмат мужчын, і вачэй сорам не выядае...»

Апошненькі, Косцік, для яе ўсё малодшанькі ды малодшанькі, хоць таму Косціку ўжо даўно за сорак. Яна заступалася за яго перад братамі, як яны спрабавалі туркаць яго, і дазаступалася: співаецца яе Костачак. А пачынаў жа лепей, здавалася, чым усе яго браты і сястра. Скончыў, не ў прыклад іншым, усе дзесяць класаў, яшчэ як у Альхоўцы яны жылі. І паступіў вучыцца ў політэхнічны інстытут, на інжынера. Пасля вучобы пакінулі яго ў Мінску, на заводзе, дзе станкі робяць. Неўзабаве ажаніўся, кватэру атрымаў — яго ж і ў армію не ўзялі, там, у інстытуце, заадно і на афіцэра вывучыўся. Радавалася Стэпачка — як ніколі не радавалася. І дзяўчына Косціку добрая тра-

пілася — Томачка. Маленькая такая, але руплівая, увішная, як пчолка, і надта ж ужо зграбненькая. Але год жывуць яны, другі, трэці, пяты, а ўсё дзетак няма. Ёй, Стэпачцы, тое ўсё муляе і муляе. І адноечы не сцярпела, у самой Томачкі па-бабску і папыталася. А тая — Косціка якраз дома не было — як загалосіць: «Мамачка, не будзе ў нас з Косцікам дзетак, і не ён вінаваты, а я, захварэла я, а не лячылася, ажно пакуль аперацыю не прыйшлося рабіць, і не будзе ў мяне дзетак ніколі, не будзе...» Ну, яна тады суцешыла нявестачку: што ж зробіш, дзіцятка, не трэба так убівацца, абы вы адно аднаго шанавалі ды любілі. Дык Томачка на тое яшчэ гарчэй расплакалася. Баіцца, казала, што Косцік не вытрывае, ужо, здаецца ёй, пачаў глядзець на яе не так, як раней, нейкімі як чужымі вачамі, быццам глядзіць на яе, а не бачыць...

Як у ваду глядзела нявестачка: Косцік і праўда неўзабаве ўцёк ад Томачкі, нічога не сказаўшы і не напісаўшы нават. Знік — і ўсё тут, як скрозь зямлю праваліўся. І з работы сваёй звольніўся. А праз паўгода нейкага вярнуўся. З другога горада. Вярнуўся, папрасіўся, і прыняла яго Томачка, ішоў рабіць інжынерам пачаў, але ўжо на другім заводзе, на пеніцылінавым. І спачатку ўсё добра было. Год-другі жылі — быццам толькі пажаніліся. А потым зноў пачалося, зноў Томачка ёй, Стэпачцы, жалілася: «Засумаваў Косцік, пэўна, уцячэ...» А ён не ўцёк, а — піць пачаў. На тым пеніцылінавым заводзе спірт ёсць, от з таго спірту і пачалося. Пачаў з работы прыходзіць пад чаркай. Як яму таго спірту перападала, хто яго ведае, а толькі ці не кожан дзень Косцік цёпленькі. Пакуль не засмактала зусім, дык апраўдваўся, бажыўся, што апошні раз, а пасля адмоўчвацца пачаў. Што ні гаворыць Томачка, ён маўчыць, набычыцца і маўчыць. Ну і што? З майстроў яго слесарам зрабілі, а потым і зусім звольнілі — пратурылі за прагулы ды выпіўкі. На тонкасуконным быў трохі пааціраўся, потым на скургалантарэйнай парабіў, на тытунёвай фабрыцы адзначыўся, у магазіне грузчыкам колькі месяцаў целяпаўся, а то месяцамі — нідзе нічога. Цяпер у мэблевым магазіне, што на Камароўцы, грузчыкам. Ці мо і не грузчыкам. Казаў — упакоўку ў двары магазіна разбірае, рэйкі драўляныя і кардон у кучкі складае і на машыны грузіць... Дакаціўся во, што і сказаць каму сорамна, а піць так і не кінуў. А Томачка ўсё трывае, усё церпіць, усё на нешта спадзяецца. Шкада яе Стэпачцы. Яна во матка, а ўжо, мусіць, страціла веру, што адумаецца яе Косцік, яе малодшанькі, а Томачка — верыць, не акамянела сэрцам. І хочацца ёй, Стэпачцы, вельмі хочацца, каб нявестачцы-цярплівіцы ўсміхнулася нарэшце шчасце — усё роўна, ужо ўсё роўна, ці з Косцікам, ці мо з кім іншым, але каб усміхнулася, каб хоць

трошкі сплацілася ёй штодзённае яе цярпенне. Не скажаш жа нікому, што яна, маці, не раз ужо дадумвалася да таго, што каб жа гэта Томачка даўмелася ды хоць бы знарок якога-небудзь мужчыну займела, хоць бы дзеля адводу вачэй — мо гэта змусіла б Косціка скалануцца, ачнуцца ад ачмурэння, пацягнуцца да працягнутых к яму рук...

Ведама, не ва ўсім тым, што здарылася з яе дзецьмі, Стэпачка вінаваціць горад. Не, не такая ўжо яна і дурная, каб яго ва ўсім вінаваціць. Не ўсіх жа людцаў псуе ён, горад. Колькі вунь людзей харошых вакол! І ў двары, і ў магазіне, у якім яна ножан дзень бывае, і на рабоце яе колішняй, у бальніцы той. Яна ж толькі пяты год на пенсіі, а то ўсё рабіла і рабіла ў бальніцы той. А рабіла ж таму, што ніхто ніколі яе там не пакрыўдзіў, не абняславіў, не абгаварыў, рабіла, бо добра ёй было там рабіць. Не, горад сам па сабе Стэпачцы нават спадабаўся. Першы год, другі дык, праўда, не па сабе было ёй. Саромелася яна ўсяго і ўсіх. Не адразу і на вуліцу — па-гарадскому ў двор — рашылася выйсці. Думалася ж: а ці патрапіць сказаць там што, а ці не будуць смяяцца і з гаворкі яе, а ці не скажуць пасля, што ў Васі матка — дурная баба? Ёй жа тое найбольш балюча будзе — не за сябе, за Васю. Урэшце ўсё ж рашылася, выйшла, прысела на лаўку да гурту старых і не надта старых кабет і жанок. Моўчкі прысела, нават і паздароўкацца ці паздароўкалася, язык у роце быў дзераўняны. А паслухала бабскую гамонку, дык неўзабаве і сама ўплішчылася ў яе: аказалася, ці не ўсе — такія ж, як і сама яна, Стэпачка, вясковыя бабы, забраныя дзецьмі ў горад. Дык яна і акрыяла пасля таго, і ўжо не бянтэжылася нідзе, не баялася ні папытацца ў каго на вуліцы пра што, ні ў магазіне загаварыць да маладзенькіх і надта ж чысценькіх прадаўшчыц.

А яшчэ ж, каб каму сказаць, няёмка было спачатку ёй і з туалетам гарадскім. Не магла звыкнуцца, што ў хаце ён, туалет гэты самы. Усё лаўчыла, каб зачыніцца там, калі дома нікога няма. Але неўпрыкмет і да таго прывыкла, пачала не зважаць. А ванна ёй з першага ж разу спадабалася. У лазні ў сяле яна не надта дух любіла, рэдка калі і лазіла на палок, хіба пасля ўсіх ужо, як дух спадзе, трошкі пахвошчацца венікам, а так у мыцельніку памыецца — і досыць з яе. Дык жа ў ванне — яшчэ лепш, чым у лазні пры тым тазіку ці балеечцы. Тут жа ўся яна ў цёпленькай вадзічцы ляжыць. Паляжыць, адмокне трошкі, а пасля мачалачкай пройдзецца ўздоўж і ўпоперак, спаласнецца пад дожджыкам — любата адна, як на свет нанава нарадзілася. І не трэба тут, як калісь, шчыльненька захутвацца, каб не застудзіцца, і валасоў ручнічком закручваць таксама не трэба — у хаце таксама цёпленька, нідзе ні скразнячкоў табе, ні чаду-смуроду.

Не, што ні кажы, а горад — гэта добра. Людзі жывуць вунь як чыста, культурна, не тое што ў сяле, не ў крыўду будзе сказана. І работа ў горадзе лягчэйшая, нават самая цяжкая лягчэйшая, чым у сяле самая лёгкая. А што пасля работы ўжо — дык анічога не трэба рабіць. Гэта ж не работа, што ў магазін схадзіць ды спячы-зварыць нешта на зуб. На такой рабоце ніводная баба не надарвецца і не састарыцца без пары. Яно ж і відаць. Цяцер яна ўжо налаўчылася, адрознівае, што да чаго. А спачатку каторай бабе пяцьдзесят дае, а тая кажа, што ёй ужо ўсе шэсцьдзесят з коптарам. А ў сяле ж спрадвеку наадварот было: бабе сорак, а як паглядзіш — дык і пяцьдзесят не пашкадуеш гаротніцы, бо ўчарнела, змарнела ўся.

Не, горад ёсць горад, нездарма ў яго маладыя ўцякаюць. Каторая пара пасля вайны мінулася, а ўсё з вёскі ў горад і хлопцы, і дзеўкі, і ніяк не спыніцца, не перарвецца гэты людскі струмень. Ну, а што з каторага ці з каторай выходзіць у горадзе, дык жа, пэўна, ад самога чалавека залежыць, а не ад горада. Калі хлопца лёгкасць гарадскога жыцця завабіла, дык хлопец той, лічы, прапаў. Пусты чалавек і быў, а тут, у горадзе, зусім здурнее. Ну, а каторы ці каторая, перабегшы ў горад, не забываецца, што ўсё ў чалавека працай аплочваецца, з такіх і толк. Такіх і горад не сапсуе, як бы ні стараўся.

Яна, Стэпачка, чаго не ведае, таго гаварыць не будзе. А бальніцу сваю яна ведае. Колькі там харошых дактароў і сястрычак рабіла — расказаць не раскажаш. Яна ж як успомніць, дык кожан раз здзіўляецца: якія ўсе разумныя, як умеюць з чалавекам пагаварыць, суцешыць яго, падбадзёрыць, не пасміхнуцца са слабасці, словам не пакрыўдзіць, а хворага вельмі ж лёгка пакрыўдзіць. Яна найбольш бацькам іхнім зайздросціла. Гэта ж даў бог шчасце людцам мець такіх дзетак, як хірург іхні Уладзімір Іванавіч, як загадчыца аддзялення Арына Аляксандраўна, як працэдурная сястрычка Тасечка...

Але ж нездарма пра тое цялятка з лысінкай кажуць людзі. Гэтак, пэўна, і чалавек. Што катораму наканавана ў жыцці. Адзін жыве і не шманае, дзе, з кім, сярод каго. А другі толькі там сябе цяплей адчувае, дзе нарадзіўся, а ў іншым месцы не прывыкае, хоць і гады зжыве. Гэта ж яна во — усё сваю Альхоўку ўспамінае. Ліха з ім, з тым туалетам у хаце, і з ваннай той, добра яно ўсё, добра, ведама, ніхто не кажа нічога, але ж ніпто не заменіць ні роднай аселіцы за гумном, ні рачулкі на ёй, сярод лазовых і альховых кустоў, ні Доўгага балота, ні Краснай горкі, ні людзей, з якімі змалада знаўся, ні таго, што і назвы не мае, але што заўсёды з табой, праз усё жыццё. Ці казала яна каму, ці не казала, а от жа не адзін раз лавіла сябе ў горадзе на тым, што, хоць і пражыла ў ім нямала гадоў, так і не навучылася разумець, дзе

сонца ўзыходзіць, а дзе заходзіць. Яшчэ ля свайго дома скажа — ведае, у якое акно свеціць сонца даўжэй, а ў якое толькі ўлетку зазірае. А досыць толькі трошачкі адысціся ад дому, дык ужо, калі таго сонца на небе няма, нізавошта не скажа, дзе тут поўдзень, а дзе поўнач.

А дзе ўзыходзіць і дзе заходзіць сонца ў Альхоўцы — з заплюшчанымі вачамі памятае, паміраць будзе — перад смерцю згадае...

Наплакалася, нагаманілася не то з маткай і бацькам памерлымі, не то сама з сабой Стэпачка, седзячы на ганаровіцкіх могілках. Заседзелася. Сонца на захад павярнулася, трэба падымацца, паабяцала ж Зосі прыйсці начаваць, будзе баба чакаць. А ісці і не хочацца, і сілы няма. Пасля доўгай бязмоўнай гаворкі пра дзяцей і пра сябе нейкае стусташэнне найшло на Стапачку — як усё роўна з яе нутро, вантробы ўсе дасталі, а засталася толькі скарлупіна, косці, абцягнутыя задубелай старою скураю. Быццам сіла пакінула яе. Але ж — трэба грэбціся, жывая яна яшчэ, каб заставацца нанач з нябожчыкамі.

Укленчыла перад грудкамі, што набылі выгляд як на радаўніцу, пакланілася двойчы: даруйце, тата, даруйце, мама,— а потым ужо і на ногі паднялася і, не вагаючыся больш, пасунулася з магільнага хвойніку на ўскраек, да сцежкі, што выведзе яе, памятала, да цагельні, а адтуль ужо яна знойдзе дарогу на Альхоўку, бо зноў церабіцца праз Глінішча і Смалякоў роў не хацелася і напроці начы не выпадала.

Зося чакала яе не адна. У хаце сядзела Манька Купцова і Хрыстына. Абедзве састарэлі. Манька ледзьве два крокі па хаце зрабіла, каб абняцца з ёй, Стэпачкай, Хрыстына трошкі жвавейшая, але таксама — богава нявеста ўжо. Пасядзелі, пагаманілі. Найперш, шануючы яе, госцю, пра Альхоўку апавядалі, пра альхоўцаў, каторыя памерлі ўжо і каторыя маладзейшыя і зусім маладыя, напроці веку, жыць ладзяцца,— ёй цікава было пачуць пра ўсіх. Ну, а пасля пра дзяцей сваіх — кожная, адна перад адной навыперадкі — расказалі. Стэпачка ні пра кога благога слова не сказала — ні пра Соньку, ні пра Мішу, ні пра Косціка нават. Нашто, каб хто спытаў? Мала што Хрыстына, Зося і Манька — сяброўкі, апошнія, можна сказаць, сяброўкі, а толькі навошта ім ведаць, што Косцік яе, скажам, п'е? І ёй гэта не ў радасць, і іх не ўсцешыць. Не, наадварот, Стэпачка таксама пахвалілася, што ўсе яе дзеткі і ўнукі, дзякаваць богу, жывуць добра, заможна, хлопцы ўсе машыны маюць, у Васі і дача ёсць, на што бабы зладжана, ахвотна і радасна паківалі галовамі: вось бачыш, Стэпачка, як усё добра павярнулася! Яны, у сваю чаргу, таксама на сваіх дзяцей

не крыўдавалі. Ніхто: ні Хрыстына, ні Манька, ні Зося. Манька пахвалілася, што ў яе меншага таксама машына ёсць і большы, каб хацеў, таксама мог бы даўно купіць. Зося пра зяцёў сваіх добра казала: лепшыя, чымся ў каго родныя сыны. Адно — жаліліся на адзіноту, на самоту сваю. У адзін голас плакаліся Стэпачцы: добрае жыццейка настала, нічога супраць не скажуць, грэх вялікі будзе наракаць на што, адно от — чаму яно, жыццейка тое, старых матак асірочвае, на самыя цяжкія, апошнія іхнія гады і дні пакідае адных. І ў адказ яна, Стэпачка, таксама паразумела ківала галавою, бо і сама, хоць і жыла пры сыне, а ўсё ж адчувала самоту, і каб не Людачка, унучачка, дык льга было б жаліцца амаль гэтак, як і яны, Манька з Зосяй, жаляцца...

Пасля гаворкі з бабамі палягчэла ў яе на сэрцы. Лягла спаць на пасланую Зосяй пасцелю з думкаю: от яна і зрабіла тое, што карцела ёй зрабіць,— пабыла ў Альхоўцы, паглядзела трошкі, паслухала жанчын, пахадзіла па даўніх, але незабытых сцежках, так што ранічкаю, па халадку, і на аўтобус пойдзе. Аднак жа, падняўшыся на досвітку, як радоўнікі ў поле займалі, спахапілася: гэта ж яна не пабывала на сваім родным котлішчы, не пабачыла, што там і як. А ніхто ж яе ў плечы не гоніць, заедзе, калі захоча, а браць грэх на душу — быць у Альхоўцы і не пастаяць на сваім падворку — не будзе.

Адмовіўшыся ад снядання, як Зося ні ўгаворвала, пайшла Стэпачка ў Гаранскі канец. Ішла спакваля, пазірала то направа, то налева, гаманіла сама з сабою: во, ужо і Давыдавых хата апусцела, не відно, каб хто жыў, хаця Тонька, відаць, улетку прыязджае, бо фіранкі на вокнах вісяць; і ў Банукоў больш на сяло ніхто не збіраецца — няма каму збірацца і няма пры кім збірацца; і з хаты Анюты Гарцавай ці пойдзе зноў калі-небудзь дым з коміна — вунь як забуяла зелле ў надворку; а Толікавай во хаценкі і зусім няма, ці не Зося казала, што Сымонаў хлопец купіў сабе на лазню...

Там, дзе была калісь яе хата, пастаўленая Раманком, таксама свіціўся прагал. З аднаго боку стаяў Васілёў паркан, з другога — Габрусёў шчыльны штыкет, а між імі... А між імі злева, бліжэй да Васілёвага паркана, метраў за пятнаццаць ад вуліцы зелянеў яшчэ невысокі грудок — там стаяла хата, там была печ. Грудок не разорвалі, ён высока парос дзядоўнікам, маркоўнікам, чарнобылем. А далей, за грудком, пачыналіся зялёныя ўжо барозны бульбы. Хто садзіў, яна не ведала, не папыталася ўчора ў баб. Мо хто з бліжэйшых суседзяў, а мо хто і з таго канца, мо наогул хто з прышлых — можа, тая ж новая брыгадзірка, пра якую казалі ўчора бабы, ці трактарыст,

што паставіў сабе хату на былым школьным дворышчы. Там сотак няма, от і аддалі яму гэтыя, колішнія яе соткі.

Вішанніку на ўзмежках амаль не засталося — пэўна, павымярзаў, адна ігрушына тырчэла сярод загона бульбы, як і тады, калі яна жыла тут. Пад ёй, гэтай ігрушынай, часта таўкліся Міша, Толік і Косцік...

Ад вуліцы бульба была адгароджана не штыкетнікам, а дзвюма жэрдкамі — яловымі, неакоранымі, прыбітымі да такіх жа тонкіх, таксама яловых і неакораных, як і жэрдкі, слупкоў,— абы карова не ўбілася. Яна, Стэпачка, сагнулася, падлезла пад верхнюю жэрдку, ступіла туды, на свой колішні падворак. Ступіла і спынілася ў нерашучасці. Раптам падумалася: а чаго? Каб яшчэ ўгледзеў той чалавек, што пасадзіў тут бульбу, ды затурбаваўся: чаго трэба кабеціне? Ага, гэта ж яна памкнулася падысці да ігрушыны і назбіраць паданак — Людаччы, на згадку пра бабуліну вёску, але схамянулася: якія ж яшчэ паданкі, час не той, грушкі вунь якія яшчэ драбнюткія, яны і ў канцы лета, памятае, сядзяць на дрэве моцна, кіем не саб'еш! Павярнулася яна, зноў сагнулася, сунула галаву пад жардзіну і вылезла на гэты бок, на вуліцу.

Пабачыла, азірнуўшыся, што ў самым канцы вёскі, дзе гадоў пятнаццаць назад, калі яе ўжо не было тут, паставілі сабе хаты тры браты Булыкі — ніводзін не падаўся ў горад,— што там нейкая маладзіца перайшла вуліцу з судамі вады на каромысле, і закарцела ёй схадзіць да Габрусёвага калодзежа, з якога шмат гадоў цягала яна ваду. З вуліцы да яго вяла, як і даўней, тупкая сцежка. Рашуча збочыла Стэпачка на тую сцежку.

Калодзеж яна ледзь пазнала. Замест драўлянага зруба былі бетонныя кругі, і толькі ўнізе, у вадзе, угадваліся пацямнелыя бярвенцы. На выслізганым ланцугу вісела не драўлянае, як калісьці, акаванае вядро, а звычайнае бляшанае. Каб яно лацвей акуналася ў ваду, да яго быў прывешаны пабіты ржою замок ад жалезных конскіх путаў. Яна паклала даланю на калаўрот, спусціла вядро ўніз і пасля выкруціла яго наверх, паставіла паўнюткае на лавачку пры бетонным зрубе, нагнулася і прыпала вуснамі да жалезнага краю-абручыка. Вада была халодная і смачная — такая ж, як і калісь, яна адразу прыгадала гэты смак і здзівілася, што памятае яго, і зноў прыпала да вядра, і піла прагна, доўга, зусім не па-старэчы, а па-маладому, як шмат гадоў назад, калі прыбягала сюды лёгка, спрытна, упараная пасля работы ў полі з сярпом ці на лузе з граблямі. Тады пілося надта ж доўга і смачна...

Ад калодзежа яна не стала зноў падымацца па сцежцы на вуліцу, а пайшла аселіцаю, паўз гароды, і выйшла на дарогу ўжо за сялом. Не азіраючыся, пайшла па дарозе да Ельніка — у Альхоўку парашыла ўжо не вяртацца. Няма ўжо ёй асабліва і заходзіць да каго. Васіль, сусед яе былы, яшчэ цыўкае, бабы казалі, але да Васіля і да яго Агаты яна не пойдзе: благія яны былі суседзі, звяглівыя і сквапныя, свой яблык падымуць і на чужы бок паркана пералезуць і падымуць, абы толькі суседскія, гэта значыць яе, Стэпаччыны, дзеці не з'елі. Не, да Васіля і Агаты яна не пойдзе. А Габруся, другога суседа, няма з той пары, як і яе Раманка,— з вайны. І Волькі Габрусёвай няма, памерла. Гэта яна па звычцы назвала Габрусёвым той шчыльны штыкет. Ставіў яго, ведама, ужо не Габрусь. Ставіў, пэўна, муж Габрусёвай Зіны — яна, малодшая іхняя, засталася на бацькавай сядзібе. Зіна дзеўка добрая, нічога не скажаш, але пра што гаварыць з ёй? Яна ж, здаецца, на год ці на два маладзейшая за яе, Стэпчынага, Косціка,— пра што ж з ёй гаварыць? Не, яна пойдзе ўжо адразу да гравійкі. А на гравійцы нейкая машына трапіцца. Калі не аўтобус, дык папутная якая — ці мала цяпер гойсае тых машын?!

Пагорак перад Ельнікам, здаецца, і невысокі (раней вышэйшы быў, а як пракладвалі новую дарогу, дык зрэзалі трохі), але яна ўсё роўна задыхалася, пакуль паднялася. Прыпынілася перадыхнуць на хвіліну. І тут не стрывала, азірнулася на Альхоўку. Уся яна адсюль відаць. І не толькі яна. І Селішча за ёй бялее стрэхамі, і Карань на пагорку ў сіняй смузе ўгадваецца, і іншыя вёскі. Шырока адсюль відаць! Альхоўка як бы ў лагчынцы ляжыць, а вакол — пагоркі, то лысыя, то лесам, хмызам парослыя. А яшчэ далей, на самым небакраі, сінеюць зубчастыя грабянцы далёкіх лясоў. Прыгожа — вачэй не адарваць!

Злева, паблізу Альхоўка ці не самы высокі груд — могілкі. Сосны на іх цяпер, пад ранішнім сонцам, цёмныя, амаль чорныя, а папередзе іх бярозкі бялюткія. Адсюль, з-пад лесу, добра відаць і штыкетнік вакол грудка з пабеленымі слупкамі, і помнікі, агародкі рознакаляровыя на магілках за тым штыкетнікам. Добрае месца ў Альхоўцы выбралі пад могілкі. Яна ўчора і Зосі пра гэта сказала, і пахвалілася ёй, што яна, Стэпачка, даўно наказала сынам: як памрэ, дык каб пахавалі ў Альхоўцы, каб не ўздумалі ў Мінску хаваць. Такой бяды, прыедуць ці не прыедуць дзеці на магілку яе, а ёй усё роўна хочацца спачыць тут, у Альхоўцы, сярод сваіх людзей. Яна Зосі нават і месцейка паказала, дзе б хацела, каб яе пахавалі. Месца гэтае і адсюль, з-пад лесу, відаць. Вунь яно, злева, у зацішным куточку між маладым бярэзінкам і штыкетнікам, пад крэпенькім, таксама мала-

дым яшчэ дубком. Там яе магілка будзе заўсёды на сонейку, бо і бярэзнічак не будзе засланяць — ён з паўночнага боку, і дубок, хай хоць і вырасце,— ён у галовах будзе, з захаду. Яна будзе ляжаць там і бачыць во ўсё гэта, усю гэтую красу летнюю, увесь гэты зялёны і сіні ў далечы разлог...

Пасміхнулася сама сабе ціхенька Стэпачка, павярнулася і ўжо зусім з лёгкаю душою пасунулася ў Ельнік, знаёмы некалі да кожнай сцежачкі і раўка, за якім адразу ж дарога з Альхоўкі ўпіралася ў гравійку.

Ехала з Альхоўкі ў прыўзнятым, ледзь не святочным настроі, а дома чамусьці неўпрыкмет развеяўся той настрой, апаў,— і замаркоцілася, зажурылася Стэпачка. Але, але, усё яшчэ Стэпачка, а не цётка Стэфа, хоць і вярнулася ва ўжо звыклы для яе гарадскі побыт. І ўжо во трэці дзень штосьці яна нэндзіцца, усё нечага душа ў яе баліць, як ніколі не балела, здаецца. Учора цалюткі дзень праляжала, як калода гнілая. Дзяцей не турбавала. Ды каб і хацела, дык няма каго турбаваць. Толя ў рэйсе, Іра ў нейкую камандзіроўку паехала, а Людачка... А Людачка — хітрая ліса. Адчула, што з бабуляй яе нешта не тое, і не чапае, не назаляе. Зрэшты, мо Людачцы і не да бабулі — экзамены ж ва ўнучкі. Учора, як і бабуля, цалюткі дзень праляжала з кніжкаю. То на балконе, на раскладанцы, у купальнічку, то, як ужо няма сцерпу на сонцы пячыся, на тахце ў пакоі. І за ўвесь дзень, лічы, да бабулі — ні словам. Ну, а калі так, дык і бабуля да яе — таксама. Значыць, занятая дзеўчынёха, цяпер ёй не да бабуліных споведаўказак. Затое ў яе, у Стэпачкі, якраз той настрой, што, здавалася б, спавядалася б і спавядалася б, усе б тыя Людаччыны цэўкі нагаварыла.

На памяць сваю яна не жаліцца. Не ў дакор цяперашнім маладым, бяспамятным. Толю во ўзяць ці Іру яго. Вечна скардзяцца: ат, галава мая дурная, памяць зусім адсохла, гэта ж забылася, што трэба было... Вечна забываюцца. Калі не адно, дык другое. Яна спачатку дык і не верыла, думала, прыдурваюцца. От проста не зрабіў ці не зрабіла, а пасля, каб апраўдацца, памяць сваю нібы адсохлую клянуць. А пасля пабачыла: праўду кажуць, нейкая дзіравая ў іх памяць. Яна, бывала, пачне што ўспамінаць з таго, што пасля вайны ўжо было, калі і Толя ладнаваты ўжо быў, бачыў тое і чуў не адзін раз,— дык яна расказвае, а ёй здзіўляецца: «Няўжо, мама, і праўда так было?» Яна пачне дакараць: а ці ж ты сам не помніш? Ці ж не ты гэта прыбег надвячоркам, ужо шарэла, я чысціла бульбу ля грубачкі, а ты прыбег у хату і кажаш, што Ляксандра Шавейку бык пакаціў? А ён, блазнота, аднекваецца: «Не, мама, не помню, хоць забі!» Як жа ты не

помніш, калі сам мне расказваў? — яна ўжо ці не заззлуе. «А от цяпер не помню,— рагоча Толік,— і здзіўляюся, што ты помніш нават, калі я табе расказваў, што ты тады якраз бульбу чысціла і што шарэла ўжо». А яна з яго, блазноты, падзівіцца: а чаму ж ёй таго і не помніць? Ці ж яна з розуму выйшла? Ці ж ёй памяць адабрала?

Памяць у яе, дзякаваць богу, не адсохла. Памятае і тое, што даўно было і што нядаўна, год назад ці два. Людачка цэўкі свае запісвае, кажа, на памяць, а яна, Стэпачка, і без таго запісу добранька помніць, што кожны раз унучцы апавядала.

Першы раз Людачка папрасіла расказаць, як яна, бабуля, малая была. Раскажы, кажа, бабуля, пра сябе малую, што ты рабіла, з кім гуляла, якія гульні былі тады, што адзявала... Яна адмахвалася: няма чаго апавядаць, дзіцятка, не было тады ні ў што апрануцца, ні ў што гуляць, і гуляць не было калі... А Людачка сваё: «Не, ты, бабуля, расказвай, ты расказвай, а я магнітафон уключу, хай ён круціцца, а ты расказвай, нават у той бок не глядзі, калі баішся...» Яна засмяялася: чаго ж мне яго баяцца, быццам я дурная такая, не ведаю, што такое магнітафон, хай круціцца, калі табе так хочацца, а от што расказаць табе, дык і не ведаю. Аднеквалася, але ж пасля і разгаварылася — цэлы вечар з Людачкай дудукаліся. Яна, Стэпачка, гаварыла, а Людачка, як чаго не разумела, перапытвала і усе на тую сваю цэўку запісвала. Усё чысцютка запісала. Яны пасля слухалі і рагаталі абедзве, і Толік з Іраю слухалі, і таксама рагаталі. Яна ж памятае, слова ў слова памятае ўсё з таго, хоць аповяд яе і бязладны быў. Яна ж увесь час, як кабыла наравістая, з баразны ў баразну пераскоквала. І Людачка сваімі пытаннямі яе ўвесь час збівала з тропу. А ўсё роўна! Каб нават і не запісала Людачка нічога на свой магнітафон, дык яна, Стэпачка, магла б тое паўтарыць слова ў слова, як са скрыначкі...

«Адкуль жа я ведаю, унучачка, як я нарадзілася? Гэтага ніхто з нас не ведае. Мама казала, што радзіла ў полі мяне. Казала: «Лічы, што ў полі, і добра, што тое поле адразу за гумном было, то дапаўзла з бацькавай падмогай рачком у хату...» І я ўжо ў хаце голас падала. Мама казала, ужо сцюдзёна было, перад самымі пакровамі, а пакровы ж — чатырнаццатага кастрычніка па цяперашнім часе. У полі пуста было ўжо, на далейшых шнурах тата ўжо і пераараў бульбу, а гэтыя гоні, за гумном, пакідаў на пазнейшы час, напаследак. От і пайшоў пераворваць. А мама — за ім, бульбу выараную збіраць за плугам. А гнуцца ёй ужо няможна было, мною яна хадзіла апошнія дні. Тата, мама казала, гнаў яе дамоў, а яна горбілася ўсё ўслед за ім і горбілася. Ну, і абсунулася ў баразну, а тата не адразу ўгледзеў, яна без таты на чацвярэньках пагрэблася з загумення да хаты, пасля ўжо тата пад-

бег... Ну, і, кажу ж, у хаце я голас падала, а не ў халоднай баразне...» — «А колькі ты важыла?» — «А бо, унучачка, хто тады важыў каго! Ці ж гэта ў бальніцы? Тата, каня не выпрагшы, збегаў па бабку Маланку, ад нас непадалёчка жыла, яна пупок мне перавязала, у пялёнку ўкруціла, маму да ладу прывяла, а пасля мяне да маміных грудзей прылажыла, ну, я і пачала смактаць... Мама казала: «Маланн я пастаяла, паглядзела, як я смакчу, і сказала: жыць будзе, дзеўка крэпкая, гадуйцеся на здароўечка, а на хрэсьбіны прыйду, калі нават не паклічаце...» — «І праўду сказала, здаровая ты дзеўка была?» — «А дзякаваць богу, кнігаўка, ніякай трасцай, здаецца, не хварэла. І як малой была, і пасля...» — «А шмат у вас дзяцей было?» — «У мамы з татам? А сямёра, кнігаўка. Я шостай была. Пасля мяне яшчэ брат быў, Кастусь. Гэта жывыя каторыя. А чацвёра памерлі. Тады ж, унучачка, мерлі дзеткі, як мухі тыя, не раўнуючы. Ці ж тых дактароў хто ведаў? Захварэе дзіцятка, дык бабка якая пашэпча, вады дасць, ну, яшчэ, можа, націранне якое зробяць, а ці трэба тое націранне, ці не трэба, хто ж ведае? Папраўіцца дзіцятка — то і добра, а не паправіцца, дык — бог даў, бог узяў, пахаваюць — і як не было. Каторае хрышчонае было, дык крыжык паставяць, а як ахрысціць не паспелі, дык і без крыжыка, так пахаваюць, быццам сабачанятка якое, а не дзіцятка... Ага, дык нас сямёра ў мамы з татам было. Паўлюк, брат, самы старэйшы, потым Аксеня, за ёю Іван, за Іванам была Волька, за ёю Пятрусь, пасля я, шостая, і сёмы, казала ўжо, Кастусь. Мама з татам і добра жылі, і блага. Як тата мамінага бога не чапаў, дык — добра, а як толькі зачэпіць, дык гвалт, сварка ў хаце, праклёны розныя. Тата наш ужо і тады ў бога не верыў. Тата вясёлы быў, высокі такі, кучаравы. Я помню яго, як яму ўжо за сорак было, а малады, казалі, ён надта прыгожы быў. Рабіць усё ўмеў. Чысцютка ўсё! А найперш — на гармоніку іграць, нават сам сабе рабіў тыя гармонікі, пчол разводзіў, садоўнік быў, галубоў трымаў. Помню, пад усімі стрэшкамі і застрэшкамі кашы-гнёзды віселі. Як пачнуць, бывала, буркатаць, дык спаць не дадуць. А непісьменны быў. А мама, наадварот, пісаць і чытаць умела. Яе паповы дочкі трохі навучылі — яна ім услугоўвала. І надта ў бога веруючая была. З царквы так бы і не вылазіла. А тата смяяўся і з бога, і з мамінай веры. Мама ж мне, ужо як я падрасла, як жаць разам хадзілі, расказвала, як яны з татам пажаніліся. Поп не любіў тату, яшчэ хлопцам неўзлюбіў, бязбожнікам называў. Дык як прыйшла пара жаніцца яму, поп вянчаць не хацеў. Мама казала, прымусіў тату трыццаць паклонаў у царкве адбіць. Толькі тады павянчаў. Тата згадзіўся, адбіў тыя паклоны, а — не перамяніўся. Я ж колькі разоў на свае вочы бачыла. Ранічкаю мама прахопіцца і хутчэй

наўколенцы перад абразамі. Моліцца і жагнаецца, моліцца і жагнаецца, паклоны б'е, аж лобам аб падлогу. А тата сядзіць на ложку, звесіўшы долу босыя ногі, і хвігі абразам паказвае. І нас, малых, падвучваў: мяне, Кастуся. Мама моліцца, а ён возьме Кастуся на калені і падначвае: дай, сынок, таму барадатаму дурню хвічку, дай, не бойся, пад самы нос, пад самую яго глюгу... А мама ўсхопіцца, пачне сварыцца з татам, клясці яго: «Гэта ж у мяне праз цябе шчасця няма, гэта ж ты вінаваты, што ў людцаў ніўка ўрадзіла, а ў цябе, нехрысця, град усё пахрабустаў...» Тата маўчыць, пасміхаецца сам сабе, а то не стрывае, таксама ўзгарыцца і пачне крычаць: «Ну, мне бог не даў, дык чаму ж табе не дае?» А мама — на яго: «Даў бы, каб не ты, ірад...» «А мы, малыя, гледзячы на іх сварку, плачам, румзаем...» — «А што вы елі, бабуля? Яда якая тады была? Як і цяпер?» — «Дзе ты бачыла, кнігаўка! Хацела ты чаго... Капусту квашаную елі. Кожан дзень, лічы. То вараную, з салам, ну, як цяпер кажуць — шчы кіслыя, то сырую капусту з бульбай у мундзірах. Сырую капусту часам, каб смачней было, таксама салам запраўлялі. Калі малако было, як кароўкі не запушчаны, дык малако з бульбай. Вечарам часцей за ўсё — малако з бульбай, ці кіслае, ці салодкае. Альбо — зацірку варылі. Ну, крупнікі яшчэ розныя — з ячнымі крупамі, з грэцкімі. Булён варылі — з гарохам, з бобам, з фасоляй. У нядзельку, калі не пост, мама бліны пякла і мачанку рабіла ці яечню-баўтуху, а на абед — бабку, салам затоўчаную. Гарбузовую кашу варылі. Ну, а як пост, дык бульба і семя тоўчанае — льняное і канаплянае, поліўка з грыбамі. Хлеб толькі да каляд быў, да Новага года па-цяперашняму, добры, без дамешак, і то не кожан год, а як жыта ўродзіць. А так і з мукі непрасеянай, і з бульбай, і з ячнай мукі праснак-скавароднік. Булкі бачылі толькі на вялікадня, адзін раз у год. А так нават калі і гасціна якая ў хаце, дык булкі на стале нямашака, хіба толькі бялейшая аладка ў салодкай смятане ці хрушч-пернік, мёдам памазаны... Вясною шчаўю былі рады, крапіўцы маладзенькай, а першага грыбка прычакацца не маглі. Упрогаладзь жылі, кнігаўка. Не памятаю, ці і наядаліся калі ад пуза...» — «А што ты рабіла, як малой была? Хто з табой гуляў, на прагулкі вадзіў?» — «Мая ж ты кнігаўка, хто гуляў, пытаешся, ды на прагулкі вадзіў... Каму ж было гуляць са мною? Як зусім малая была, дык не помню, хто мяне забаўляў. Мама казала, у поле брала з сабою, на луг... А як на ногі стала, як сябе помню ўжо, дык ці ж да гуляў было? Гэта вы цяпер бегаеце без клопату, пакуль вас і замуж не аддадуць. А я ж, помню, як толькі ўведала, дзе выган, аселіца з рэчкай, дык — дубец у рукі і гусей пачала пасвіць...» — «Гусей? А хіба гусей пасвяць?» — «Цяпер ці пасвяць — не ведаю. А мы пасвілі. Усё лета пасвілі. А дзе ж

ім бульбы ці іншай трасцы набярэшся? Выганіш на аселіцу, яны там ходзяць, траўку шчыплюць, у рэчачцы паплаваюць, зноў траўкі пашчыплюць, пад кустамі пасядзяць-паспяць, галовы пад крылцы пахаваўшы,— глядзіш, і жывы на гэтым. А восенню, як бульбіна паявіцца, трошкі падкорміць іх мама, да снегу, каб у пух убраліся, а тады і парэжа іх тата, каторыя старэйшыя, і гусакоў маладых, а рэшта на племя пакінецца. А мы пасля, Волька, Аксеня і я, вечарамі, пры лучыне, пер'е перабіраем, сабе на падушкі пасажныя... А як мне гадкоў дзевяць стукнула, мне ўжо свіней даверылі пасвіць, а гусі да Кастуся перайшлі. Хочацца табе ці не хочацца, а вымушана штодня, з ранку да вечара, свіней пільнаваць, каб з выгану ў чый гарод не ўбіліся. А свінні не такія былі, як цяпер. Тады ж іх не кармілі. Ні мукі яны ўлетку не бачылі, ні мякіны якой, не кажучы пра камбікорм ці хлеб, як цяпер. Худыя былі свінні, дрындалястыя, з вострымі хрыбтамі і доўгай поўсцю на хібах. І лычы такія доўгія, вострыя. Як прыпусцяць у бульбу чыю-небудзь, лычы тыя пазадзіраўшы, дык як коні — не дагнаць! Ну, але гэта яны з зімы такія худыя і спрытныя выходзілі. А папасвіш лета, дык і гладкія робяцца, і ўжо не так гойсаюць, як вясною, ужо і ў гразі, у лужыне якой гадзінамі будуць ляжаць. Дык мы, пастўшкі, з лялькамі пагуляем пры іх, у каменьчыкі, у «глухую цяцеру»...» — «У «глухую цяцеру»? А што гэта за гульня?» — «Не ведаеш? Дык жа, мусіць, і вы ў яе гулялі, малыя, толькі «глухім тэлефонам» завеце...» — «А-а-а... А пасля?» — «Што — пасля? Пасля, падрастаючы, мне ад Петруся кароўкі перайшлі. Ён, як хлопец, пачаў да плуга, да касы прывучвацца, а я, будзь ласка, рабіся каровінай пастушкай. У нас, помню, дзве кароўкі было. Сяды-тады і бычка трымалі праз усё лета, да зімы, але праз зіму — толькі дзвюх каровак. Харошыя такія кароўкі былі, помню, ласкавыя, разумныя. Праўда, і шкадлівыя. Адвярніся толькі на хвілінку — ужо ў шкодзе. Пакуль не пажнуць у полі, не пакосяць у лузе — набегаешся за дзень за імі, ног не чуеш. Прыгоніш увечары дадому, а самой і есці не хочацца — адно каб на сяннік ды пад коўдрачку. А цяпер як падумаю, як успомню, дык і я бедная з імі была, і яны таксама бедныя. Дзве кароўкі былі ў хляве, а масла, смятаны, сыру мы ж амаль не бачылі. Малака яны давалі, як козы. Па тры, чатыры літры, дай веры. А з чаго малако тое магло быць? Ці ж яны калі бурак які бачылі на языку, жменю мукі нюхалі? Сухой саломай душыліся ўсю зіму, сена і таго перападала калі толькі горшага, што конік не з'еў...» — «Сумна ў полі было, бабуля?» — «Хто ж яго ведае, унучачка. Як калі. Калі дождж халодны, калі хлюпата, калі на траве шэрань марозная, што ногі агнём апякае, дык, ведама, не весела. Скурчышся дзе пад кустом, у зацішку, дзе вецер

цябе не так шкуматае і дождж не сячэ, і сядзіш, як птушанё мокрае, акалелае, не могучы вечара прыждацца. Ну, а як дзянёк летні, харошы, як сонейка свеціць і грэе, дык і весела. Птушачкі пяюць, у траве конікі цвіркочуць, на вілачках сваіх граюць, матылькі, пчолкі лятаюць, чмялі калматыя гудуць, цябе палохаюць — дык і не да суму, дык і табе радасна, як матыльку таму, таксама пырхаеш па лузе ці па ўзмежку. А там, глядзіш, ля каменных крушняў, што спрэс цягнуцца па межах, ягадку чырвоную ўгледзіш, а там другую, трэцюю, а то і столькі, што вочы разбягаюцца,— от і сунічак салодзенькіх, духмяных наясіся, і зусім табе добранька стане, так добранька, што і песню запяеш...» — «А якія песні спявалі тады, бабуля? Ну, хоць адну праспявай, га? Ну, можа, помніш, не ўсе забылася, га, бабуля? Праспявай!» — «Людачка, касатка мая, ці цеперся тое было, як ля каровак тых я пела. Хіба ўспомню?» — «А ты ўспомні! Успомні, бабуля!» — «Дык жа яно... Песень такіх, каб адно дзеці пелі, як цяпер, ці і было такіх тады. Пелі, што ад старэйшых чулі, ад дзевак, ад старых жанчын... Я тады шмат песень ведала. І тых, што ў полі, як жалі, бабы спявалі і дзеўкі, і тых, што на вяселлях, па радзінах спявалі, і частушак, прыпевак розных, на вечарынках іх, бывала, уга колькі напяюць, скачучы, і тых песень, што дзеўкі вечарам, сабраўшыся ля каго, пелі... А што табе праспяваць, дык і не ведаю...» — «Любую, бабуля. Якую ўспомніш...» — «Помніць-то я помню, ты не думай, што твая бабуля ўжо зусім старая. І маміну любімую песню помню, і тую, што тата, як чарку браў, пеў... Ну, от слухай. Пра белую бярозку...

— Ой, бяроза белая,
Чаму жоўта, нязелена?
— Як жа мне зялёнай быць?
Кожны дзень начлежнікі
На карэнні агонь кладуць.
Карэнне маё папалілі,
Лісцейка пасмалілі.
— Маладзенькая дзевачка,
Чаму хмура, нявесела?
— Як жа мне вясёлай быць?
Кожны дзень сваты едуць,
Не дадуць мне вырасці,
Шоўкам косы выплесці...»

«Ой, бабулечка, як здорава! Аж плакаць захацелася! І голас у цябе харошы. Слухала б і слухала б... Ну, яшчэ хоць адну, добра?» — «А бо, кнігаўка! Калі так даспадобы, дык я табе наспяваю — цэвак тваіх

не хопіць запісваць... Слухай, калі так. Маміну песню табе спяю. Пра Ядвісечку.

Ядвісечка чарнабрыва,
Твая доля гаратліва.
Ой, пайду я ў роўна поле,
А ў роўным полі кусты растуць,
Кусты растуць лазовыя.
А на іх цвяткі ружовыя.
Сарву цвяток, саўю вянок
Ды свайму дружку на галоўку.
— Насі, мілы, ды не скідай,
А мяне любі ды не кідай.
Насіў, насіў ды і скінуў,
А мяне любіў дый пакінуў.
Ой, пайду я ў роўна поле,
А ў роўным полі разважуся.
А ў роўным полі разважуся,
Аб белы камень разаб'юся.
Няхай жа ўсе людзі знаюць,
Што ад кахання паміраюць...»

«Ну, бабуля, ты даеш! Такія песні ведаеш, а мне ні разу не спявала! І не сорамна табе, га?» — «А ты не, мая красачка, ні разу і не прасіла мяне спецъ».— «Дурная была, таму і не прасіла»,— «Чаму ж, дзіцятка, дурная? Не дурная. Кожнай пары свае песні. Мае адспяваліся, а твае цяпер пяюцца».— «Дурная, бабуля, як ёсць дурная! Ты такія песні ведаеш, а я... Чаму іх «Песняры» не пяюць? Чаму? Не ведаюць, што ёсць такія? Не адступлюся, бабуля, пакуль ты мне яшчэ хоць адну не праспяваеш». «І яшчэ адну, і яшчэ адну... А ўжо ж, унучачка, і знемаглася я, здаецца. Гэта ж не тады, як было шаснаццаць ці васемнаццаць... От аддыхаюся трошкі і спяю табе яшчэ адну. Яе тата вельмі любіў. Спяваў і плакаў. А ў вайну, і ў тую, нямецкую, і ў гэту, з гітлерцамі, і пасля вайны яе бабы нашы альхоўскія многія пелі. Як толькі збяруцца, бывала, на бяседу якую, так яе і зацягнуць-завядуць. Жаласная такая песня, гаратлівая... Ну, от слухай.

Ой, там на гарэ, ой, там на крутой,
Ой, там гуляла пара галубоў.
Яны гулялі, сазываліся,
Шызымі крыламі абнімаліся.
Адкуль узяўся ахотнік-стралец,
Разбіў, разагнаў пару галубоў.
Галуба ўбіў, галубку зlавіў,

Узяў пад палу, панёс дадому...
Насыпаў пшана аж да каленца,
Наліў вадзіцы з чыстай крыніцы.
Галубка не есць, галубка не п'е,
А ўсё на ту гору, усё плакаць ідзе.
— Галубка мая . шызакрылая,
Чаму ж ты такая гаратлівая?
— А як жа мне жыць ды не гараваць,
Была я ў пары, цяпер я адна.
— А ў нашым сяле, блізка ад мяне,
Блізка ад мяне ёсць сад для цябе,
А ў тым у садку сем пар галубей —
Лятай, выбірай, каторы мілей.
— Я й там бывала, усіх відала —
Таго не найшла, каго ўцярала.
Не тое пярцо, не тое крылцо,
Не той галасок, не мілы дружок...»

«Ну, бабуля, дай я цябе пацалую! Маладзец ты ў мяне! Не, не, больш прасіць не буду, бачу, што стамілася... Ты ляж, ляж і расказвай. Распавядай, як ты кажаш. Раскажы, бабуля, як ты дзеўкай была, добра?» — «Іш ты, кнігаўка цыбатая, табе ўжо і тое цікава! Якая ты яшчэ дзеўка, га? Гэта ў наш час, бывала, у шаснаццаць замуж аддавалі, каб рот лішні збыць. Дык жа — дзеўка тая галасіла па сабе, як па нябожчыцы... А ты чаго хітруеш, жмурышся, муркаеш, як катыска? Рана табе пра тое думаць...» — «А я, бабуля, ні пра што такое не думаю. Я пытаюся, што далей з табой было. Кароў ты пачала пасвіць, так? А што далей? Як дзеўкай стала?» — «Ай, унучачка, я і не прыкмеціла, як дзеўкахі стала. Чатырнаццаты гадок ішоў, а тут рэвалюцыя пачалася — як гром з яснага неба. Тады ж цёмна людзі жылі, рэдка хто ў свет выбіраўся. Навіны ў вёску прыходзілі — гады ў рады. Калі салдат які дадому вяртаўся ці хто яшчэ са свету, дык усім сялом збіраліся, каб пачуць, што на свеце робіцца. Помню, татаў малодшы брат, дзядзька Антось, з Амерыкі прыехаў. Якраз перад самай той вайною, якую нямецкай звалі. Прыехаў худы, жоўты ўвесь, кашляў — быццам у грудзях і ў горле ў яго тарка аб тарку дзерлася. Помню, усё ляжаў на палацях у запечку і кашляў. Ехаў у Амерыку, каб грошай зарабіць, зямлі купіць, а прывёз адно сухоты, у Амерыцы ў падзямеллі зарабіў, з тых сухотаў і памёр, году не пажыўшы дома. Дык тады да нас, паслухаць дзядзьку Антося, паўсяла прыходзіла. А ён пачне апавядаць, якія там людзі, што ёсць і чорныя, і чырвоныя, дык усе бож-каюць, галовамі ківаюць, не вераць. І што машыны там усякія, і што

дамы — сто хат адна на адну пастаўлены... Дык каторая баба і не сцерпіць, на дзядзьку Антося рукамі замахае: кінь ты, Антоська, пабойся бога, мы ж не дзеці, што ты нам казкі гаворыш, як малым... А тут — рэвалюцыя. А перад гэтым — вайна. У нас немцаў спачатку не было, яны пасля рэвалюцыі паявіліся, а вайну ў сяле больш па калеках ведалі, што вярталіся і ў Гапаровічы і ў суседнія вёскі. Па тым, што коні кожны год забіралі і забіралі. А як пачулі людзі, што цара не стала, дык напалохаліся — каб ты ведала. Мама, помню, сядзе што рабіць і ўголас сама з сабою: «Што ж гэта будзе, а ці ж можна без цара, гэта ж ці не канец свету ўжо падыходзіць?..» А тата, ён смялейшы быў, ведама, мужчына, кажа: «Так і трэба Мікалашку!..» Але толькі ў хаце, не пры чужым чалавеку, такое скажа, а на вуліцы асцярожнічаў, як усе ў сяле. Усё баяліся і не верылі, што цар не вернецца... Помню, адной раніцы пайшла па сяле чутка: пана няма, за граніцу ўцёк. Тады ж, тым днём, шмат хто ў маёнтку пабываў і сёетое сабе ўрваў — і з палаца, і з аборы, і са свірна... Казалі ўжо і пра бальшавікоў, і пра Леніна. Маладзейшыя мужчыны, найперш хлопцы нежанатыя, смела ўжо, адкрыта пра зямлю панскую гаварылі, што дзяліць яе трэба. Асабліва асмялелі, як у нас, у Ганаровічах, аказаўся першы бальшавік, Зарэмбы Івана сын Даніла. Ён у Мінску рабіў, казалі, на чыгунцы, а тут раптам дадому заявіўся, Савецкую ўладу рабіць. Збіраў людзей і выступаў перад імі. Маладыя хлопцы за яго ўсе пагалоўна. А старэйшыя, бацькі іхнія не спяшаліся, адмоўчваліся: паглядзім, што з таго будзе, куды ўсё павернецца... А яно ж, унучачка, скрутна было — не давядзі бог. Я дзеўчынёха была, мала што разумела, але ж і то бачыла, што сёння — адно, заўтра — другое. Зарэмба Даніла знік нечакана. А там немцы паявіліся, колькі часу стаялі па хатах. Пасля немцы прапалі, дык палякі прыйшлі. Гарцавалі на конях, з людзей здзекаваліся... Аднаго дня сагналі ўсё сяло на Сысоўшчыну, за карчму. Мясціна такая ў Ганаровічах, пагорак так завецца — Сысоўшчына. Яго яшчэ Ямішчам звалі — там многія на зіму ямы капалі і бульбу ссыпалі. Камень там пры дарозе ляжаў — вялізны такі валун, малой, помню, не ўзлезці на яго было. Дык ля таго валуна траіх камуністаў засеклі жаўнеры. Двух хлопцаў і дзяўчыну. Маладзенькую такую, прыгожую. Косы ў дзяўчыны былі доўгія, тоўстыя, іх шабля ніяк не брала, як ім галовы секлі. Людзі нашы адварочваліся, млелі, бачачы тое. У мяне і цяпер уваччу тое стаіць. І дзяўчына тая, і галоўка яе акрываўленая, з касой перасечанай... Хто яны былі, адкуль — каб жа знаццё. Камунары, жаўнеры сказалі, камуністы. Іх пасля мужчыны там жа, на Сысоўшчыне, ля таго валуна і пахавалі...» — «І не даведаліся, хто яны?» — «Не, унучачка, так і не

ўведалі. Мо здалёку адкуль, што ніхто не агукнуўся... Калатнеча была, каб ты ведала! Палякі тыя, жаўнеры — такія ўжо звяры. Але паперлі і іх, дзе і форс дзеўся. Помню, праз Ганаровічы красныя ішлі. На коніках і пешшу. Глядзець на іх было жаласна — абы-як адзетыя, абутыя хто ў што — у каго чаравікі, у каго боты, а ў каго і лапці. Немцы тыя, палякі дык разадзетыя былі, асабліва палякі — усе панамі выглядалі. А гэтыя — от простыя вясковыя хлопцы-гарапашнікі. Але вясёлыя ішлі, бадзёрыя, песні пелі. А якія ж камуністы ўсе, якія справядлівыя! Помню, да нас на надворак салдацік красны забег. Дык жа не так, як той жаўнер польскі: матка, псякрэў, кілбасу давай!.. Гэты зайшоў, ціха так папрасіў: мамаша, мо пакушаць найдзёцца... А ўлетку ж гэта было, самай галоднай парою, бабовым цветам, нават бульбы яшчэ не капалі. Ну, але мама кінулася ў камору, у пограб збегала, у гарод, прынесла яму яек, агуркоў, скрылік сала, нават і шматок паляндвіцы, што пасля сенакосу ацалела, не пашкадавала. Салдацік так ужо дзякаваў: спасіба, мамаша, спасіба, па такім харчам далёка дайдзём... Я і цяпер помню таго салдаціка: гімнасцёрачка і штаны латаныя-пералатаныя, выбеленыя сонцам і потам, чаравікі ці то дротам, ці то аборчынай перавязаны, бо падэшвы цвікамі ашчэрыліся, вінтовачка на плячы, і твар помню — кірпаносы такі, смяшлівы, вяснушчаты. Маладзенькі такі салдацік, як хлопчык-падлетак. Пушок такі рыжанькі па шчоках — ці галіўся яшчэ... Я, унучачка, кажу ж табе, дзяўчо была, а як пабачыла тых красных, што Пілсудскага пагналі, дык як нешта ўва мне перамянілася. Ці сама да таго дадумалася, ці ад старэйшых пачула што, а толькі ж зразумела я: будзе ў нас Савецкая ўласць, ніхто яе не адолее, бо ўвесь народ за яе, бо галодны і босы люд пайшоў на вайну, каб мець волю і шчасце. Не, унучачка, тое бачыць трэба было, каб думаць так. Як яны ішлі, з якою вераю, з якой радасцю. Шчаслівыя людзі ішлі. Я да таго не бачыла і не разумела, што такое шчаслівы чалавек, а тут убачыла шмат шчаслівых людзей. Яны неслі сонца ў вачах... Мне ішоў ужо шаснаццаты год, гэта ў дваццатым ужо было, і з той пары неяк павярнулася да новага жыцця. Мама ў царкву гнала, сварылася: «Ты дзеўка, тваё бабскае дзела, клапаціся, каб замуж выйсці за добрага чалавека, сям'ю дарэчную завесці, пра пасаг думай...» А я кожны вечар, кожную вольную хвіліну да камсамольцаў бягу — неўзабаве ў нас і камсамольцы паявіліся, клуб у былым панскім свірне арганізавалі. А пазней трошкі ўсе пачалі бегаць у камуну. У панскім маёнтку камуну зрабілі, там спектаклі ладзілі, дыспуты, чыткі ўголас праводзілі... Там я і Раманка свайго знайшла...» — «Ой, бабуля, раскажы! Як ты яго знайшла? Ён што, прыезджы быў?» — «Ат, унучачка, гэта я так кажу — знайшла. Знай-

шла, каб жыць разам. А ён ніадкуль не прыязджаў. Ці ж ты забылася, што ён мяне ў Альхоўку забраў? Ну, от ён і быў з Альхоўкі, з суседняга сяла. Яму столькі ж гадоў было, колькі і мне. Толькі доля ў яго была надта ж горшая. Я з татам і з мамай жыла, бедна, але ў сям'і сваёй, а ён бацькі свайго зусім не помніў, яму чатыры было, як бацька памёр, а ў дзевяць гадкоў матка памерла. Ён трошкі ў цёткі сваёй пабыў, а з дзесяці гадоў у папа служыў. Парабкам папоўскім быў. Спачатку пастушком, а пасля, падлеткам, араў, касіў, у лес ездзіў. Адно добра, што Раманок у папоўскім доме чытаць і пісаць навучыўся, як і мама мая, толькі маму папоўскія дочкі навучылі, а Раманок зімою ў школку бегаў. Да навукі ён здатны быў, похапкамі, урыўкамі, але скончыў чатырохкласную школку. Дык ён у камуне з грамаццю сваёй рахункаводам ці пісарам стаў, а ў дваццаць чацвёртым, як яму дваццаць было, яго зрабілі старшынёй сельсавета. Ганарылася я сваім Раманком. Да яго ж людзі адусюль, з розных вёсак ідуць, і ён ужо не Раманок, папоўскі парабак, ужо і не камунараўскі пісар, а старшыня сельсавета Раман Пятровіч! А мама яго ўсё роўна не любіла. Ат, казала, галота, аднымі штанамі свеціць, ні хаты сваёй не мае, ні зямлі. Зямлю яго, што пасля маткі засталася, цётка з дзядзькам абраблялі. Дык я слухаю маму і баюся прызнавацца, што мы з Раманком даўно сустракаемся, дружым, што згаварыліся пабрацца...» — «А што гэта — пабрацца, бабуля?» — «А бо, унучачка, ты ўжо быццам і не ведаеш! Пабрацца — то пажаніцца. Ён ужо даўно гразіўся прыйсці да нас са сватамі, а я ўсё не дазваляла, казала — сама скажу маме і тату, каб па-людску ўсё было. Аднаго разу жалі мы з мамай жыта за аселіцай, ля цагельні, гэта ўжо ў дваццаць пятым годзе. І вазьмі я ды скажы маме пра Раманка. Ой, як мама пачала сварыцца! Ажно серп кудысьці шпурлянула, да мяне ледзь не з кулакамі. «Я,— крычала,— з недавяркам, з бязбожнікам усё жыццё прамэнчылася, і ты сабе такога знайшла, такую долю абрала, ці на ім свет клінам сышоўся?..» А я маму ведаю, пад гарачую руку ёй лепш нічога не кажы. Ну, я і маўчу, жну сабе і маўчу. Мама пакрычала-пакрычала, а пасля села пад мэндлік, паплакала, супакоілася, зноў, як і я, за серп узялася. Мне — ні слова больш. І вечарам маўчыць, як з поля прыйшлі, і назаўтра ні слова. Быццам я ні пра што не гаварыла. Дзень, другі, трэці маўчала. А на чацвёрты, як мы ў поле ішлі, раптам загаварыла. Я, кажа, дачушка, супраць тваёй волі не пайду, бацька таксама не будзе пярэчыць, рабі што хочаш, мо і праўда свет цяпер зыначваецца, мо ў вас доля будзе іншая, лепшая і шчаслівейшая... Ну, кінулася я да мамы, ашчаперыла яе, зацмокала, зацалавала...» — «А што, бабуля, кахала ты свайго Раманка?» — «Іш, кнігаўка, і гэта табе цікава!..

Кахала ж, ведама. Каб не кахала, дык бы і не бегала, не перажывала б і мамы не прасіла б...» — «А як, бабуля? Як ты яго кахала? Скажы, як?» — «А хіба ж пра гэта можна сказаць, унучачка? Хіба ж тое скажаш словамі? От ты жнеш жыта, сонейка з гары-вышыні смаліць, прыпякае, пот вочы табе залівае, муха-назола ці сляпень у вочы пішчом лезе, а ты і не бачыш, не зважаеш на ўсё тое, табе ні спіна не баліць, ні рукі, ні ногі босыя вострае ржонне не коліць — чуеш ты, як лёгкі ветрык валасы твае над лобам варушыць, як каласкі пад ім цененька-цененька звіняць-наспеўваюць, і табе так добранька на душы, так лёгенька, што і самой хочацца запець, і запела б, каб не мама побач... Альбо вечарам пойдзеш на аселіцу, да рэчкі, ногі спаласнуць, сядзеш на кладку, спусціш ногі ў сцюдзёную, крынічную вадзіцу, боўтаеш імі ў рэчцы, а сама глядзіш некуды, куды і не ведаеш, і бачыш не тое, што перад тваімі вачамі,— неба зыркае, чырвонае, дзе толькі што за небакрай сонца села, змрок, што паціху запаўняе лагчынкі, западзінкі між кустамі, светлы, лёгкі, быццам касмылькі расчасанай воўны, туманок над аселіцаю. Нічога гэтага ты не бачыш, а бачыш...» — «Яго бачыш, бабуля? Аднаго яго?» — «А хай цябе кот убрыкне, унучачка!.. І ноччу спаць ляжаш, а табе не спіцца, ты ляжыш на сенніку ці, калі ўлетку, на сене ў адрыне, і так лёгка табе, добранька, быццам ты стала бязважкаю, як пёрына птушыная, вось-вось падымешся ўгару, падхопіць цябе лёгкі начны вятрыска і панясе над соннай вуліцай, над прысадамі, над лугам-аселіцай, над рэчкай, і ты б лятала так і лятала, і не засынаецца табе доўга-доўга, ажно пакуль не пачне святлець пакрысе, і адкульсці прыплыве да цябе на сена золкавы халадок, і ты нацягнеш тады на сябе скамячаную ў нагах, непатрэбную дагэтуль пасцілку, накрыешся з галавой, скруцішся абаранкам і заснеш хутка і смачна, соладка, хоць і ненадоўга...» — «Ой, бабуля, ты ўсё адно як вершамі гаворыш! Каб і мне калі так...» — «Паспееш з козамі на торг, кнігаўка!» — «Бабуля, а пра што вы гаварылі, як сустракаліся, га? Пра любоў?» — «А от як сустракаліся, дык пра любоў, унучачка, якраз і яе гаварылі. Не ўмелі мы гаварыць пра любоў. Ці саромеліся, ці не ўмелі. Я дык болей маўчала, а Раманок пра новае жыццё гаварыў, пра светлы час, калі будуць жыць нашы дзеці, пра курсы лікбезу, мяне гнаў на тыя курсы, дакараў, што ў камсамол не ўступаю. А я сяджу, слухаю, галавой ківаю, пагаджаючыся, а сама сабе думаю: ты гавары, гавары, Раманок, я цябе чую і мне добранька з табой, а больш мне нічога не трэба, ты граматны — значыцца, і я з табой граматная, ты камсамолец — значыцца, і я з табой камсамолка, бо куды ж мне без цябе? А ён як зразумее, як пачуе мяне і сам замаўчыць, абніме мяне, прыгорне...» — «Ой, бабуля, бабуля, і не со-

рамна табе?» — «А чаго ж саромецца? Што было, тое было. Ты пытаешся, я апавядаю. Гэта ў мяне, са мною было. А ў цябе яшчэ будзе. От мо і ведай, як яно павінна быць. А яно павінна быць, унучачка, калі па-сапраўднаму. А як будзе, дык не прабяжыць тады між двума ні сваркі, ні крыўды. У нас з Раманком ніколі непаразуменняў не было. Ад яго я ці ён ад мяне ніколі нічога благога не чуў. І заўсёды было ў мяне адчуванне, што ёсць у мяне чалавек, каторы ці не даражэйшы за тату з мамай, каторы не дасць цябе ў крыўду і прыйдзе на паратунак, як бы далёка ні быў і ад чаго б мяне ратаваць ні давялося...» — «Стоп, бабуля, на сёння хопіць, бо і цэўка наша пасукалася, якраз плёнка скончылася. Але ты не засмучайся, катушак я куплю, і ты мне яшчэ і наспяваеш, і нарасказваеш...»

Але, але, памятае Стэпачка ўсё, што нагаворвала ўнучцы на тыя яе цэўкі. Не выдумляла, не хлусіла, душою не крывіла перад Людачкай. Просіць, хоча ведаць, як жыла бабуля,— хай ведае. А прыдумляць, хлусіць ёй, Стэпачцы, не выпадае. Чаго ж яна будзе Прыдумляць? Не подлічала яна ў жыцці, ад работы не ўцякала, мужа любіла-шанавала, дзяцей глядзела-гадавала. Як магла, як умела, так усё і рабіла. А не магла сама — людзей прасіла, не ўмела — у людзей вучылася.

На лёс свой яна не наракае. З Раманком сваім і праўда жылі яны душа ў душу. І матка пасля пагарнулася да яго, як да сына роднага. Пажаніліся яны ў дваццаць шостым. Два гады жылі ў Ганаровічах — Раманок да іх у хату прыйшоў. А пасля паставіў у Альхоўцы, на колішнім бацькавым селішчы, хату з новага лесу. Яна сама, Стэпачка, глядзела за ўсім, як ставілася тая хата. Яна сама загарнула ў хусцінку манету сярэбраную, савецкую, палціннікам называлася, і паклала ў вугал першага вянка.

Хату паставілі за лета, к зіме яны і перабраліся ў яе, у першую палавіну, меншую, дзе паспелі пакласці падлогу і зляпіць печ, а тая, другая палавіна, ажно тры гады стаяла няскончаная — у наступнае лета рукі не дайшлі, а восенню Раманка ўзялі ў армію. Праўда, доўга ён не служыў, менш чым год, па хваробе адпусцілі дамоў, але зноў жа — не да хаты было.

У той хаце, пастаўленай Раманком, нарадзіліся ўсе яе дзеці — спачатку Сонька, у дваццаць восьмым годзе, праз чатыры гады — Вася, а пасля астатнія, адно за адным, роўна праз два гадочкі, як па заказу,— Міша, Толя і Косцік. У саракавым годзе нарадзілася шостае яе дзіцятка, таксама хлопчык, Сашкам назвалі, але пажыў Сашка нядоўга, месячык з хвосцікам. Нарадзіўся ён на зыходзе вясны, у сярэдзіне мая, а ў канцы чэрвеня, калі пачалі звозіць у пуні свежае сена

з лугу, загінуў яе хлопчык. Падвесіў Раманок у пуні да бэлькі начоўкі, і маленькі Сашка гушкаўся ў тых начоўках, пакуль яна, маці, на гумне сена дасушвала ці ў гародзе поркалася. Большанькія яе, Міша і Вася, там жа, у пуні, гулялі, і меншыя, Толік з Косцікам, пры іх. Тым разам пачула яна, што Сашка заплакаў. Гукнула яна да Васі і Мішы, каб палюлялі малога, суцішылі. А праз колькі хвілін падалося, быццам ці то піскнуў, ці то крыкнуў хто. Абарвалася ў яе чамусьці сэрца, убегла ў пуню, кінуўшы граблі, бачыць — начовачкі на зямлі валяюцца, вяроўкі пустыя на бэльцы матляюцца, а Саша на таку, на чыста падмеценай выбітай гліне ля самай сцяны нічком ляжыць. Падхапіла яна яго на рукі, а ён ужо і звяў, нават не хаўкае — галоўкай аб сцяну ўдарыўся, так разгушкалі старэйшыя яе памочнічкі начовачкі, што сарваліся вяроўкі з набарсцяў, і паляцелі начовачкі разам з дзіцяткам долу...

Колькі гадоў з таго часу мінула, а як успомніць, так і зойдзецца ў яе сэрца, і абарвецца, кудысьці ўніз ападзе — ёй у вачах так і пацямнее. Гэта ж дай веры, не чужы хто, не вораг, свае дзеці такое нарабілі. А ці ж яны вінаватыя? Сама яна, Стэпачка, вінаватая, сама. Раманок, праўда, стагнаў, зубамі скрыгатаў, на сябе віну браў — чаго яму ўзбрыло з тымі начоўкамі ў пуні, але ж яна ведае — сама вінаватая, не трэба было на малых спадзявацца, трэба было самой падысці, пакалыхаць дзіцятка, а мо і цыцкі даць, каб супакоілася. Не падышла, не дала...

Учора так увесь дзень яны і прамаўчалі — маладое і старое. А сёння Людачка з самага ранку да сяброўкі пабегла, каб разам перад экзаменам пачытаць нешта. Сёння экзамен, а, казала, нечага не прачытала і баіцца, што якраз тое, нячытанае, ёй і выпадзе. Па нейкім законе подласці, тлумачыла бабулі, але што гэта за закон такі, яна, Стэпачка, так і не зразумела. Адно зразумела, што ёй зноў ляжаць адной і маўчаць.

От яна і ляжыць на тахце сваёй. А як ляжаць надакучыць, па кватэры паходзіць, у адзін пакой загляне, у другі, на кухню сходзіць, у акно паглядзіць. Ціха, адзінока ў кватэры, і ад гэтага ёй, Стэпачцы, яшчэ самотней робіцца. Адно думкі самоту развейваюць. Ці мо нагоняюць? Думкі не слухаюцца яе, прыбягаюць, як уздумаецца — то з даўнейшага-даўнейшага яе жыцця, калі яна зусім зяленухай была, то з пазнейшага, як яна ўжо ў Альхоўцы Стэпачкай жыла, а то, наўздзіў, набяжыць знячэўку і тое, што зусім нядаўначка было, як яна ў бальніцы рабіла.

Прыгадалася было — і чаго, каб хто спытаў? — як яна з маткай-нябожчыцай хадзіла нечага ў маёнтак. Ён з вёскі відаць быў, маёнтак

панскі, стаяў на пагорачку. Відаць быў парк — дрэвы кучаравыя, высокія, абгароджаны рашотчатай агародкай. Відаць быў сад — шмат-шмат радочкаў яблынь, а за ім высокі і густы шарок елак, роўненькіх, адна ў адну, як блізняці. Злева ад саду бяленіся доўгія будыніны — панскія аборы, кароўнікі, аўчарні, стайні. А сярод дрэў у парку ўгадваўся здалёк палац — таксама белы, мураваны, двухпавярховы. Ім, дзецям, надта ж хацелася пабыць там, паглядзець на ўсё зблізку, але і думаць пра тое не хапала духу. Можа выскачыць, казалі, панскі служка і зацкуе сабакам... І от яна пайшла туды з маткаю. З дарогі ўзышлі на акуратны, дагледжаны, з точанымі парэнчамі масток праз канаву, ступілі на роўненькую, без адзінай выбоінкі, пасыпанку-дарожку, дайшлі ёю да высокай брамы, адчынілі ў ёй малыя ўзорчатыя веснічкі і апынуліся ў парку. Маці трымала яе, малую, за руку, але ўсё роўна дачка трымцела ад страху. Яны дайшлі да ганка — высокага, таксама з точанымі парэнчамі, прыступкі ганка вялі на ашклёную веранду, што апярэзвала з боку парку ўвесь палац. На ганак выйшаў чалавек — у чорнай безрукаўцы, з вялікімі вусамі (яна, Стэпачка, як сёння яго бачыць), нешта сказаў маці. Маці пакланілася, і яны пайшлі назад. Ішлі той жа дарожкай, сярод кветак, Стэпачка глядзела сабе пад ногі і толькі цяпер заўважыла, што дарожка так чысценька падмецена, быццам на ёй ніколі не было ні саломінкі, ні апалага лісточка з дрэва. І пасля, калі чула ад маці пра пекла і рай, малая Стэпачка ўяўляла рай тым панскім паркам, маёнткам, які яна пабачыла краем вока. А чаго яны хадзілі, што трэба было маці там, у памяці не засталося...

То раптам бачыла сябе на альхоўскай вуліцы ў той дзень, як раскулачвалі Хазяінавых і Дабрахотаў. Хазяінавых у Альхоўцы не любілі і тады, у той дзень, не шкадавалі. Яны і праўда былі кулакі — і стары Кузьма Хазяінаў, і яго два сыны. Злыя, жорсткія былі людзі. Казалі, што яшчэ за царом Кузьма купіў сабе гэтае прозвішча — Хазяінаў, як выбіраўся з сяла на хутар. Казалі таксама, што не ўсё чыста і з грашыма, за якія ён купіў зямлю і лес, каб будавацца на тым хутары, быццам ён зарэзаў і абрабаваў яўрэя-карчмара недзе за Віллёй. Жылі Хазяінавы на хутары ваўкалакамі, адасоблена ад усіх, зацята працавалі самі і гэтак жа зацята прымушалі працаваць тых, каго наймалі ўлетку, у касьбу і жніво. І, аказалася, не хлусілі людзі, калі казалі, што Хазяінавы, як барсукі, усё ў сваю нару цягнуць-валакуць. Дабра ў іх і праўда было шмат: і з адзення, і ботаў многа пар, і кажухоў новых, неадзяваных, і скруткаў палатна — саматканага і крамнага, і хамутоў, вупражы markazнай, калёс, саней, панарадаў, і грошай многа. Яна, Стэпачка, сама на тым хутары не была, але бачыла, як Хазяінавых

везлі праз Альхоўку ў раён. Ехалі яны на некалькіх падводах, моўчкі, злосна зіркаючы на людзей. Ганул‍я, Кузьмова старая, падала была голас — залямантавала, але Кузьма так гыркнуў на яе, што ёй умэнт зарвала.

Дабрагостаў яга шкадавалі. Шкадавала і яна, Стэпачка, хоць Раманок і папракаў яе за гэта. Калі Хазяінаў, казаў, кулак, дык Дабрагост — падкулачнік, адно семя, і трэба іх пад корань, каб не заміналі астатнім. А яна не пагаджалася. І тады не пагаджалася, і цяпер не пагаджаецца. Які ж падкулачнік быў Дабрагост? Галота галотай, казалі, быў ён да рэвалюцыі. Рэвалюцыя яго зямлёй надзяліла. І шчодра надзяліла, па едаках, а сямейка ў яго была вялікая — старыя бацька з маткай, ён, Дабрагост, з жонкай і шасцёра дзяцей — чатыры сыны і дзве дачкі. К таму часу, як найшла пагалоска пра калгасы, дзеці ў Дабрагостаў падраслі, тры сыны паспелі пажаніцца і нават абдзеціцца, але бацька ніводнага не аддзяліў, усе жылі ў адной хаце на дзве палавіны — усяго васемнаццаць душ. Яна, Стэпачка, заходзіла да іх у хату і на свае вочы бачыла печ-гамэрню ў сенцах, між дзвюма хатамі, у якой Дабрагосціха з нявесткамі варыла вялізныя, вядзёрныя, чыгуны капусты і бульбы, каб накарміць такую сямейку, бачыла нары-палаці ўздоўж сцен, на якіх упокат спалі малодшыя дабрагосцікі.

Выязджалі Дабрагосты шумна, усе — і старыя, і малыя — плакалі, сядаючы ў калёсы, слёзна развітваліся з людзьмі, просячы ўсіх не хаваць на іх крыўды, прашчаліся з вёскай — з вуліцай, з дрэвамі, з платамі, ажно не вытрываў упаўнаважаны з раёна, махнуў рукой: давай, канчай, паганяй, развялі тут анцімонію!.. Дальбог жа, памятае Стэпачка, альхоўцы спачувалі Дабрагостам, хоць, як паслухаць, кулакі яны, выходзіла: і коней у іх — дзве паркі і жарабя з кабылаю, і кароў многа, у дадатак яшчэ і бык, да якога блізкія і далейшыя суседзі сваіх каровак вадзілі, як патрэба была такая, і авечак больш за тузін, і малатарня свая...

Хазяінавы так і не вярнуліся ў Альхоўку — ні да вайны, ні пасля яе. А Дабрагосты вярнуліся. І вельмі скора — ці не праз месяц. Жанатыя сыны адышлі ад бацькі, паставілі свае хаты, уступілі ў калгас, дочкі павыходзілі замуж. Высяленне іхняе забылася, ніхто і не напамінаў, калі толькі — дык жартам. Аднак жа род іх, хоць і не малы, звёўся ў Альхоўцы. Старыя — дзед з бабай — памерлі яшчэ да вайны, а сам Дабрагост з жонкай на вайне ўжо, неўзабаве, а сыны, усе чацвёра, злажылі галовы ў вайну: трое на фронце, а чацвёрты, самы меншы, Алег,— у партызанах, а дзеці іхнія, як амаль усе дзеці, падаліся пасля вайны ў гарады, параскідаліся па свеце.

А то прыбегла ў галаву Стэпачцы, як ратавала яна ў бальніцы дзеўчынёху адну, маладзенькую зусім, школьніцу, лічы. Даўмелася ж, дурніца: пакрэмзала сабе рукі лёзкам, якім мужчыны голяцца. Гэта ж адчула, што дзіцятка будзе, а хлопец, дай веры, адчураўся: я нічога не знаю, мая хата з краю, ці мала з кім ты магла, а мне, дурню, у хамут лезь... Нарабіла дзеўка бяды, а пасля і сама спалохалася — жыць захацелася, ну, а бацькі баіцца, бо гразіўся з дому выперці, і дзеўчынёха не спіць, плача ў падушку і плача. А калючая — не падступіцца, слова не скажы ёй. І мо таму, што яна, Стэпачка,— не, не Стэпачка, а цётка Стэфа,— не доктар і нават не сястра, а ўсяго толькі санітарка, дзеўчынёха тая з адной ёю мякчэйшая была — хоць на слова абзавецца. От яна, цётка Стэфа, і ўзялася за яе. Не шкадавала, не сюсюкалася з ёю. Супраць поўсці гладзіла. Хто табе, казала, даў права на чужое жыццё замахвацца? На якое чужое? А на тое, што ў табе завязалася! Ніхто такога права не даваў! І хто табе ў вушы ўбалабоніў, што дзяўчыне радзіць сорамна? Не радзіць — от сорам! А баба на тое і баба, каб радніць. А хлопца свайго ты нашто асарамаціла? Ён жа мо проста спалохаўся — таксама ж малады яшчэ і дурны, а ты — адразу за лёзка. Што ён пасля гэтага пра цябе падумае? А на бацьку свайго ты чаго крыўдуеш? Няма на свеце таго бацькі, каб дзіцяці свайму не дараваў. Ну, пазлуе спачатку, пабурчыць, не без таго, але ж пасля і пашкадуе. А табе хай усё гэта навукай будзе. І будучую сваю дачку навучы, што ўсё сваю пару павінна мець. Без пары і яблык, кажуць, зрываць няможна, а то ж... Трэба было памятаць пра гэта, дзеўка... Ну, дзеўка дзеўкай, а цётка Стэфа яшчэ і матку яе пераняла, з ёй пагаварыла, і бацьку — ён з маткай у бальніцу прыходзіў, але ў палату не падымаўся, унізе чакаў жонку — прысароміла: дачка глупства зрабіла, коніка выкінула, дык чаго ж ты, чалавеча, свайго коніка не зацугляеш? Нашто ж думаць, што яна горшая за ўсіх? Ці ж з ёй першай бяда такая? Моршчыўся ён, адварочваўся, маўчаў, але наступны раз не застаўся ўнізе, разам з жонкай падняўся паверх, зайшоў да дачкі...

Ці трэба было ўсё тое цётцы Стэфе? Хто ёй тая дзеўчынёха? Хворая ў палаце, у якой яна прыбірае. Толькі ж не можа яна спакойна глядзець, як хто мэнчыцца. От гэта і падштурхнула яе да дзеўчынёхі: памажы ёй, зяленусе, справіцца з бядою, мо сумееш памагчы, ты на свеце пажыла, бачыла бяду вялікую і малую...

Чаго-чаго, а бяды-гора яна пабачыла. Таму і згадкі, спаміны яе ўсе не сказаць каб вясёлыя. Часцей прыходзіць на памяць тое, што з бядою — сваёй ці людскою — спалучана. Найбольшая ж бяда, адна на ўсіх людцаў, была тады, у вайну. Сама вайна і была той бядою.

Бядою, горам вялікім, пакутамі, страхам, пракляццем страшэнным. Перажыў чалавек вайну тую — ніколі не забудзе. Ці стары, ці малы. Ніхто і ніколі. Ёй жа і па сёння вайна тая сніцца. Яна ўжо адмахваецца ад тых сноў-спамінаў, а — не можа адмахнуцца. Сярод усяго, што помніцца, найбольш яна баліць — вайна. Якая б скруха на сэрца ні лягла — першым успамінам вайна абзавецца.

От і ўчора, і сёння. Як толькі змружыць вочы, так і стаіць перад ёю той дзень, калі яна з дзецьмі ў Альхоўку з лесу вярталася. А заадно і дні перад тым, калі яна ўцякала ад блакады і не магла ўцячы, калі сама ратавалася і дзяцей ратавала. Каб жа яшчэ не ездзіла яна ў Альхоўку! Сорак гадкоў прамінула, а быццам зноўку вярнулася ўсё тое да драбніц, быццам было толькі ўчора...

Расказвала яна пра вясну і пачатак лета сорак чацвёртага Людачцы неаднойчы, унучачка яе аповяд і на цэўку сваю запісала, але ж — ці раскажаш усё і за сто разоў, ці хопіць тае плёнкі, стужачкі тае, каб запісаць усё, што ўведала яна, што рабіла, што думала і перажыла за той месяц-другі?..

Стэпачка не зайшла ў хату — сілы не хапіла, каб падняць босую, у закарэлай балотнай твані нагу на камень, ступіць на ганачак-прыстрэшак і, зрушыўшы ўгору парудзелую ад іржы клямку, пацягнуць да сябе цяжкія філянговыя дзверы. Пакуль тэпала ўслед за дзецьмі, дык і тэпала, не думаючы, здаецца, ні аб чым, машынальна перастаўляючы ногі, шлэпаючы імі спачатку па гарачым, як прысак, дарожным пяску, а пасля па халаднаватай, выбітай, быццам ток, сцежцы, якая хоць і бегла па аселіцы ўлукаткі, аднак жа ўсё ж трошкі спрамляла і скарачала шлях. Так неўпрыцям і датэпала да варотцаў, што аддзялялі падворак ад вуліцы, прайшла міма іх, паваленых, сарваных з драцяных абручоў-завесаў, дабрыла па ўтравелым і таму, пэўна, нязвычна мяккім надворку да каменя-круглея ля ганка, і тут як бы хто знячэўку выцягнуў з яе невідочны прут, што трымаў яе тырчма, стаяком — так і асунулася на той нагрэты, ажно напалены камень-круглей і бяссільна, цяжка паклала рукі на худыя, вострыя калені, звесіла на грудзі галаву. Сядзела і не то драмала, не то адранцвела ў непрытомнасці, чула і не чула, як у хаце гаманілі і смяяліся дзеці, як бегалі з першае хаты ў другую, як нечым там грукалі і бразгаталі і, здаецца, нечага гукалі і да яе, да маці, але не азывалася. Хай бегаюць, хай крычаць, хай смяюцца! Цяпер ужо можна. Можна і пакрычаць, і пабегаць, і пасмяяцца. Нават парагатаць. І громка-громка, каб ажно шыбіны ў вокнах затрымцелі-зазвінелі. Цяпер можна. Цяпер усё можна. Хай яны пабегаюць, пасмяюцца. А яна пасядзіць. Проста так пасядзіць. Во тут, на цёплым камені пры ганку сваёй хаты. Як калісь,

скончыўшы палоць грады ці вярнуўшыся з Доўгага балота, дзе разбівала і варочала пракосы,— тады, натаміўшыся, таксама было добра во так пасядзець на цёплым камені, ні аб чым не думаючы. Сёння ж яна не проста натамілася-напрацавалася. Сёння яна, як той казаў, да ручкі дайшла. Добра яшчэ, што датэпала ўсё ж, дапаўзла-прысунулася сюды, да роднага котлішча, а не павалілася дзе-небудзь у іншым месцы, у Барку тым самым, у Ганаровічах, на Краснай горцы ці на кладцы ля Анціпавай сажалкі на аселіцы. Не думала, здаецца, што дойдзе. А от жа дайшла. І ліха з ім, што не хапіла сілы адчыніць дзверы і зайсці ў хату — ёй і тут добра, на камені ля ганка. Хіба яна мала на ім сядзела? Хіба толькі тады, як з гарода, спіны не чуючы, выпаўзала ці з таго ж доўгага балота вярталася? А колькі бульбы перабрала-перачысціла, на ім седзячы? А колькі разоў, кароўку падаіўшы, прысаджвалася на ім, каб ногі замлелыя адышлі? А колькі праседзела на ім, пылянят і дзяцей пільнуючы?

Раманок як ведаў, што яна ўпадабае камень гэты. Дзе толькі і знайшоў такі роўненькі і кругленькі, быццам высечаны, быццам роблены на жорны і недароблены па нейкай прычыне. Казаў, пад Зубавай гарой недзе ўгледзеў і не паленаваўся, прывёз. Яшчэ хата не скончана была, у другой палове ні вокнаў, ні падлогі не было, а тут зрабіў Раманок ганачак-прыстрэшак і ля яго паклаў гэты камень-круглей. Хадзі, Стэпачка, казаў, і не спатыкайся, бо няма чаго спатыкацца, камень пляскаты, роўны, гладкі, як па заказу...

Згадала Раманка свайго, але — не заплакала. Ці не ўпершыню не заплакала. Хоць і прыкацілася да грудзей гарчэча пякельная, аднак усё ж не заплакала — і на гэта нават сілы не было. Да ручкі, да ручкі дайшла яна, Стэпачка! Нават самой не верыцца, і не паверыла б ніколі, што можа чалавек да такой знямогі дайсці — каб рукой было цяжка пlivarушыць, каб павекі расплюшчыць — як дзверцы ў столі на гарышча галавою падняць-адкінуць. Во, нават уздыхнуць-пазяхнуць і то цяжка — быццам цябе нехта суткі навылёт цэпам па рэбрах, па спіне, па нагах і руках малаціў і малаціў і цяпер ты, як той сноп ababіты, увесь выпатрашаны і пашкуматаны...

Зіму і вясну жыла яна з дзецьмі, можна сказаць, спакойна — не адна, ведама, а як і ўсе альхоўцы. Здаецца, ні разу не наязджалі, не патыкаліся ў сяло ні немцы, ні паліцаі. Няйначай — баяліся. Пэўна ж, баяліся, бо паўсюль партызаны стаялі. Раней, нават і зімою леташняй, партызаны ў лесе туліліся, у сяло калі дык толькі па начах наведваліся, а гэтую, апошнюю зіму ў цяпле, можна сказаць, правялі — па хатах стаялі. А разам з партызанамі амаль спакойна праседзелі ў сваіх хатах і альхоўцы. Мо толькі разы са два ці са тры пракідвалася па-

ніка, што ідуць немцы, і тады ўсе, і яна, Стэпачка, разам з дзецьмі таксама, уцякалі ў парослыя хмызняком равы пад Зубавай гарой, каб перачакаць там навалу ў старых, яшчэ з сорак другога года, зямлянках-норах. Але тыя чуткі-страхі як хутка агукваліся, так хутка і аціхалі, і ўсе к вечару вярталіся з равоў, асцюдзянелыя і змазаныя, у яшчэ неастылыя і надта ж утульныя пасля зямлянак хаты.

І вясну сустрэлі альхоўцы ў сваіх хатах. І не толькі сустрэлі, але і адсеяліся. У каго свой конь быў, каму партызаны памаглі — усе бадай паспелі і ярыны шнурочак пасеяць, і бульбы якія ґоні пасадзіць, і грады ў гародзе зрабіць. Яна, Стэпачка, без мужчыны ў хаце, можна сказаць, бо з Васі які там яшчэ памочнік — трынаццаты ў маі пайшоў, а і то змагла і ячменю латку пасеяць, і бульбу за гумном пасадзіць, і грады ўскапаць. А восенню ўмудрылася нават і жыта з пуд сыпануць у раллю — хай будзе, калі не прападзе і калі жывы будуць, дык мо калі-небудзь смачнейшы праснак будзе. Яно, вядома, і змагла, і ўмудрылася толькі дзякуючы Колю Гарачку, палітруку партызанскаму — ён і ўзараў, і пасеяў і ячмень той, і жыта. Такі ўжо дарэчны чалавек, гэты Коля Гарачка! Яна ж і не прасіла нават, не хадзіла і не звягала, як некаторыя, самагонку падсоўваючы, выпрошваючы коніка. Сам прыехаў з плугам на калёсах, зайшоў у хату і папытаў: «Што, цётка, сеяць-садзіць будзем?» І хіба ж адной ёй ласку такую зрабіў? Усім бабам, у каторых гаспадар на фронце быў, і проста адзінокім бабам з дзецьмі, якім таксама — хоць аб лёд біся, што рыбіне ў той задусе.

Але не паспелі свежыя грады ў гародзе зазелянець, як аднаго ранку апусцела Альхоўка. Партызаны яшчэ нацямку зняліся і падаліся цераз Красную горку на Ганаровічы, а з сонцам пасунуліся туды ж і альхоўцы — спачатку як нясмела ўсё роўна, асобнымі сем'ямі, а пасля кучма, групуючыся па-сваяцку ці па-суседску. Паплялася ўслед за імі і яна, Стэпачка. Спачатку думала была не выбірацца з хаты: а мо адседзіцца, мо як-небудзь пранясе тое ліха міма. Але той жа Коля Гарачка («Дзе ён цяпер, каб хто сказаў? Ці ж ацалеў хаця, ці вырваўся з пасткі на Паліку? Ходзяць жа чуткі, што там палягло людцаў — як снапкоў па полі, не палічыць...»), калі яна запыталася напярэдадні, што гэта людзі ўсё пра блакаду гавораць, адказаў, што немцы і праўда ідуць блакадай на партызан і лютуюць, як ніколі не лютавалі, чуючы блізкі свой канец, і параіў: «Баюся, што не перасядзіце, цётка, мы тут не затрымаемся, так што лепей далей ад ліха». Яна толькі і сказала сама сабе, але так, як усё роўна зноў запыталася ў яго: «А куды ж мне, бабе, з дзецьмі?» Гарачка паціснуў плячамі, сказаў: «Куды і заўсёды, цётка».

Звязала яна сабе ванзэлак, укінуўшы туды дзве пасцілкі-дзяружкі, пачаты і другі нечапаны праснакі, торбачку з ячнай мукой, зберажонай на «бабовы цвет», напарстак солі, брусок зжаўцелага і з'ялчэлага сала, з паўсотні бульбін. Другі ванзэлак прыгатавала Соньцы — падушку, пару бляшаных місак, конаўку, яшчэ сякое-такое драбноцце. Клункі з сякой-такой адзежынай дала ў рукі Васю, а таксама Мішу. І папляліся яны сцежкай праз аселіцу на ганаровіцкую дарогу. А як выйшлі з лазовых ды альховых хмызоў, што густа раслі на аселіцы, на адкрытую дарогу, раптам заспяшалася Стэпачка — зрабілася чагосьці боязна ісці вось так, па дарозе, цераз голае поле, і сама затрусіла-заперабірала нагамі барзджэй, і дзяцей падагнала, каб не валачыліся, як сонныя, а подбежкам, трушком хутчэй да Краснай горкі дапяць, а там ужо і перадыхнуць можна будзе — усё здавалася ёй, што ў кустах, затуленай ад чужога вока, ёй, а разам і дзецям яе, будзе спакайней, не так боязна.

Дабеглі да Краснай горкі, а там напаткалі Анціка Пруса з сям'ёй — з Гіленай і з Волькай і Федзем і Ляксея Камоцкага са сваёй Надзяй і малымі, меншымі за яе Косціка, блізнятамі — Ванем і Пецем. І замест таго, каб спытацца, што яны, Анцік і Ляксей, рабіць думаюць, куды адсюль падацца мяркуюць, накінулася на Ляксея і Надзю: «А дзе ж вашы большыя? Няўжо адных пакінулі?» Надзя жахнулася: «Ай, што ты кажаш! Тут і яны, з Малютай, забаўляюць яе, каб не рыкала...» Тады ўжо яна, як дух перавёўшы, папрасілася: «Дык мо і я з вамі ў кагал? А то ж адной бабе... Га, мужчынкі?» Ляксей не замарудзіў, не стаў круціць галавой, як Анцік, кіўнуў: «Не пытайся пра дурное! Сышліся во, дык разам і будзем...» Пасядзелі трохі, памаўчалі ўсе разам, а пасля Анцік вазьмі ды скажы: «А што, Ляксей, калі абдурыць немцаў тых, га?» Ляксей азваўся так, дзеля прыліку: «Ага, іх абдурыш! Хутчэй яны нас, чым мы іх. Чым ты іх абдурыш?» Анцік, як загарэўшыся нечым сваім, не даў яму дагаварыць: «А ты паслухай, што я скажу! А калі мы нікуды адсюль не пойдзем? Га, Ляксей? Ці ж яны будуць абстрэльваць, абмацваць кожны грудок, кожны лазовы ці альховы гаёк-касмылёк?» Ляксей падняў галаву, зірнуў на Анціка ўжо ці не з увагаю, таксама загарэўся: «А што? Мо і праўда твая, сусед? Зашыемся ў кусты вунь там, з таго краю, ад балотца, і, дай бог, праседзім. Там жа гушчэча — не прадрацца...»

Яны сядзелі там, нават трошку драмалі амаль да полудня. Лета ўбіралася ў сілу, трава шуганула ці не ў калена, сонца, падымаючыся ўсё вышэй, высушвала расу і ў засені, і ўсіх разморыла, пацягнула на сон. Не сядзелася толькі Стэпаччынаму Васю і Ляксееваму Воўку — сказалі, пойдуць «у разведку», будуць наверсе, на самым лабяку Кра-

снай горкі, не надта высоўваючыся з кустоў, сачыць, што робіцца ў сяле і на дарозе, якая бяжыць у сяло з Ельніка — немцы і паліцаі заўсёды адтуль прыходзілі, з Ельніка. Сядзелі сабе, драмалі, ужо ці не зусім супакоіліся, як раптам пачулі няблізкія, але і не надта далёкія стрэлы. Спачатку дык, здаецца, не датумкалі, што гэтае незразумелае пуканне — стрэлы, ажно пакуль недзе ў тым баку, дзе Ельнік, штосьці не вухнула глуха і цяжка, ад чаго быццам скаланулася сыраватая, мяккая зямля і тут, пад імі. Пасля вухнула і другі раз, і трэці. Анцік і Ляксей, а ўслед за імі і ўсе астатнія падхапіліся на ногі. «Што гэта? Га, Ляксей?» — Анцік як пабялеў. Ляксей, быццам усё яшчэ прыслухоўваючыся, сказаў нягромка, з сумненнем у голасе: «А ліха яго ведае... Як міны ўсё роўна...» Учуўшы гэта, Надзя забожкала: «А божачкі, а дзе ж ён прапаў, апоўзлік той? І што ты за бацька? Бяжы цяпер, шукай, раз пасылаў...» У Стэпачкі сэрца таксама абарвалася: дзе Вася? Можа, выткнуліся, дурныя, з кустоў, а тыя тут як тут, угледзелі і... Ляксей прыкрыкнуў на жонку: «Ціха, не гавыль раней часу, зараз будуць тут, гэта далёка вухкала...» Воўка і Вася і праўда неўзабаве, зашастаўшы кустамі, прыбеглі, узмакрэлыя і ўзбуджаныя, і напярэймы загаварылі: «Ідуць! З Ельніка! Але не па дарозе, а напрасткі! У зялёным! Немцы, не паліцаі! Па кустах страляюць! Міны ці снарады на могілках узарваліся!..» Ляксей, не даслухаўшы, скамандаваў: «Ану, на Падлужжа, хуценька! Адно за адным! Уздоўж старой канавы, па той бок, каб за кустамі...»

Стэпачка з дзецьмі бегла апошняй. Цягнула за руку малога Касціка, другой прытрымлівала на плячы ванзэлак і прыглядвала за Мішам, за Васем, якому нагадала не адпускаць ад сябе Толіка, за Сонькай, якой, як старэйшай, таксама наказала не адрывацца ад сям'і, памагаць меншым. І, бегучы, пачула дзіўнае ціўканне і шастанне ў вяршалінах гонкіх альшын, і не адразу здагадалася, што гэта кулі ціўкаюць і шастаюць, а як здагадалася, дык ледзьве не здранцвела: гэта ж па іх, па ёй і па дзецях, страляюць? А калі ж страляюць, дык, значыцца, і бачаць? Ліпкім, але чамусьці халодным потам абліло яе ўсю: як жа ўратаваць дзяцей? Во яны, усе перад ёю, бягуцькалываюцца, толькі пяткі мільгаюць. Ці можа быць такое, што нехта з іх раптам спатыкнецца, упадзе? Толічак, Міша? Вася, што ўжо ў яе памочнікам? Сонька? Касцік маленькі, цёплая ручка якога ў яе потнай далоні? Пра сябе не думала. Яна не можа ўпасці. Яе самой куля дагнаць не здолее, бо як жа тады яны — без яе?! Пасля ціўканне сціхла, знікла, засталося ззаду, і яна, як зразумеўшы, што немцы іх не бачылі, што яны стралялі проста па кустах, трошачкі супакоілася...

На Падлужжы — густа зарослай альшэўнікам, лазоўнікам ды чэзлымі ялінамі балацявіне — яны атабарыліся па-сапраўднаму. Ляксей і Анцік са старэйшымі хлопцамі памасцілі стажар'е, бо паўсюль пад нагамі хлюпала вада і нельга было ні прысесці, ні прылегчы, над стажар'ем змайстравалі цыганскі будан — адзін на ўсіх. Дзеці, большыя і меншыя, як забыліся на ўсе страхі і нягоды — кешкаліся, барукаліся, пішчалі і смяяліся ў паўзмроку будана. Паспакайнелі, гледзячы на іх, і дарослыя. І яна, Стэпачка, таксама акрыяла душою, адтаяў пад сэрцам той страх, калі ўчула над галавою ціхае ціўканне і шастанне ў лісці. Анягож! Ціха во кругом, кароўку сваю Ляксей пакінуў прывязанай да куста далёка адсюль, пэўна, з кіламетр, калі не больш, на сушэйшым месцы, паблізу Бачылаўкі, а вакол будана — дрыгва суцэльная, чужы чалавек не надта і пройдзе па ёй, дык, дасць бог, яны і адседзяцца тут, і, можа, шчаслівей, чым каторыя, што далей, у глыб лесу, за Стайкі, за Дзікае возера падаліся.

Надвячоркам, ужо сутоньвалася, наважыліся зварыць зацірку. Надзя з Воўкам пайшла даіць карову, а яны, Стэпачка з Гіленай, прыладзілі над вогнішчам вядро з вадою, перацерлі колькі жменяў мукі, чакалі, пакуль вада закіпіць. Полымя зырка гарэла — дзеці сухастоін лазовых нацягалі, іх зламаць ці перасекчы цяжка, але затое гараць — як порах. На такім полымі вада ў вядры хутка і забулькала, а раз забулькала, дык і клёцкі мучныя кідаць можна — праз хвіліну і зацірка гатова. Неўзабаве і Надзя вярнулася. Забялілі яны зацірку, паселі вакол вогнішча, дзе хто мог, і навыперадкі, бо згаладаліся, прыняліся сёрбаць гарачае і, нягледзячы на тое, што трошкі жарсцвянае — ведама, ячмень у жорнах быў молаты,— смачнае варыва. За сёрбаннем тым не адразу пачулі нудны, з падвываннем, гул у небе. Задзерлі галовы, калі выццё тое ўжо ледзь не над імі аказалася. А пасля раптам адтуль, ужо з начнога, чорнага ад блізкага вогнішча неба затарахцела-заляскала: бух-бух-бух! І тут жа вакол па твані, па кустах — шлэп, пстрык! Ляксей усё-такі, хоць і сухарукі, мужчына, не тое, што яны, бабы, нават і Анцік той разгубіўся, збялеў увесь,— а Ляксей ускочыў на ногі, ухапіў вядро з вадою (гэта ж яна, Стэпачка, паспела набраць вады ў яго, як толькі зацірку вылілі) і чабохнуў на вогнішча. Цёмна адразу зрабілася і яшчэ страшней, чым хвіліну назад, калі вакол — шлэп-пстрык! Самалёт праз колькі часу няйначай развярнуўся, зноў над імі праляцеў, выючы надта ж праціўна, але ўжо не страляў, і Ляксей па-дзіцячы патрос у чарнату неба кулаком: «А скулля табе! Хай і мы навобмацак давячэраем, але і ты, гіцаль, аслеп!..»

Пераначавалі спакойна, а раніцаю... Яны позна сабраліся снедаць — ціха ўсё, дзеці спяць, ну то хай і спяць. Надзя і да каровы пазнавата пайшла, не так, як дома, што з пеўнямі даіла. Сабраліся снедаць, але так і не паснедалі як след — дзеці малака чакалі. Ажно бяжыць Надзя з пустым вядром, з ног да галавы мокрая, у балотнай рудаўцы і чорнай жужаліне-твані, на сябе не падобная. Падбегла, упала на стажар'е, хапае ротам паветра і слова сказаць не можа. Ляксей да яе: «Ну што там, што?» Надзя нарэшце прадыхнула: «Немцы! Малюту забілі! Застрэлілі! Здалёк угледзела — ляжыць, галаву адкінуўшы... Сюды ідуць!..» Ляксей да яе: «Так і сюды?» Надзя галавою заківала: «Сюды! Мяне ці не згледзелі...» Ляксей зноў усумніўся: «Дык жа стрэлаў, здаецца, не чуваць было!..» Анцік запярэчыў: «А я чуў. Падумаў яшчэ: ці не страляюць? Але гляджу — ты і галавы не падняў...» Ляксей махнуў рукой: «Ладна! Бярыце ванзэлкі, дзяцей — і ходу! Куды толькі, каб знаццё? Ты даўно быў на Доўгім, пад Забор'ем?» — павярнуўся да Анціка. «Ці цеперся»,— адказаў той. «Мо туды?» — «Можна паспрабаваць».— «Ну, то пайшлі».

Лёгка сказаць — пайшлі! Ці ж гэта табе па дарозе? Усё па купінах, усё па карчэўі-ламаччы. А па вачах, па твары галлё сячэ, сухія галіны рукі да крыві раздзіраюць, Косцік малы сам ісці не можа, хоць ты плач, а на руках несці — дух займае. Заліваецца потам Стэпачка, а не спыняецца, неадступна за Ляксеевай сям'ёй дзярэцца, адно Соньку просіць за меншымі глядзець, каб не адсталі. Добра, ведама, што кусты іх затуляюць, але ж такая гушчэча, што толькі качкам хіба тут на доле шныпарыць зручна, а не чалавеку прадзірацца.

Не паспелі выбіцца з балота на сушэйшае ўзбор'е, як збоку страляніна пачулася, а тады і галасы. Сталіся яны, прыслухаліся: чужыя галасы, не свае. Кінуліся ў другі бок, краем балота. Бегма кінуліся, з адным жаданнем — адарвацца ад той страляніны, ад тых чужых, што як брэх сабачы, галасоў. Колькі беглі так — хто скажа? Урэшце выперліся з кустоў на адкрытую лугавінку. Выперліся — і памлелі: проста на іх праз лугавіну ішло трох немцаў. Матлянуліся назад, у кусты, быццам лазоўнік той мог прыкрыць іх ад куль. А яны, кулі, так і заціўкалі, так і зашасталі па кустах — быццам хто доўгай пугай засвістаўзашастаў. «Лажыцеся, дзеткі!» — нема закрычала Стэпачка і сама плюхнулася пад куст. А ззаду так і ляскаюць стрэлы, так і ляскаюць, і па кустах над галовамі раз-пораз — шах-яшх!

Не ведае Стэпачка, хто ёй нашэптваў: «Убок адпаўзай, убок адпаўзай!», а толькі ж як напраўду чула яна гэтыя словы, і пагрэблася ўправа, не туды, адкуль яны ішлі да той лугавінкі, а ўправа. Грэблася і дзяцей за сабой вяла, як тая самая качка качанят, ратуючы ад неві-

дочнага, але блізкага ворага. Потым, таксама быццам па нечай няўцямнай падказцы, слухаючыся нейкага ўнутранага голасу, яна паднялася і падняла дзяцей і павяла іх шпарчэй, усё ў той жа бок, у тым кірунку, які абрала яшчэ пад першымі стрэламі, і вяла доўга, ажно пакуль не дайшло да яе, што гэта ж яна засталася адна, без Ляксеевай сям'і і без Прусавых, і спалатнела ўся, закалацілася ад страху і разгубленасці. Аднак жа спыніцца, ачомацца, падумаць, што рабіць і куды ісці, не магла і ўсё брыла і брыла, ад купіны да купіны, прадзіралася праз адзін куст, каб пасля праз другі, трэці, чацвёрты, і ўпарта цягнула за сабой дзяцей, моўчкі, вачамі пакрыкваючы то на Васю, то на Соньку і моўчкі ўпрошваючы вачамі меншых — Мішу, Толіка і Косціка...

Дзе яны блукалі, яна б наўрад ці сказала каму. Ужо Сонька, а ўслед за ёю і Вася не адзін раз прасілі яе спыніцца, прысесці і адпачыць трошкі, але Стэпачка круціла галавой і ішла наперад. І спынілася яна як укопаная толькі тады, калі апынулася раптам перад стажар'ем і буданом, адкуль яны, тады ўсе разам, уцякалі раніцаю. Будан быў разбураны, стажар'е раскідана — як быццам нехта нечага шукаў пад яшчэ не надта высахлымі галінамі вольхі і лазы. Ага, значыцца, яны былі ўжо тут, падумала яна, і ад гэтага ў яе быццам палягчэла на сэрцы. Калі былі, дык наўрад ці вернуцца. Гэта яна ўжо ведала па леташняй блакадзе, калі таксама вось так, як качка з качанятамі, матлялася-грэблася то туды, то сюды па балоцістым, дрыгвяністым лесе. Значыцца, тут можна прыпыніцца і перадыхнуць, а мо нават і пераначаваць, дачакацца наступнага дня, наступнай раніцы, а там — бог бацька, што рабіць далей, будзе відаць.

Ужо было за паўдня, сонца кацілася ўніз, к вечару, і яна разам з Васем і Сонькай сяк-так падправіла стажар'е, а на ім скідала і нешта накшталт будана, каб спаць дзецям усё ж не пад небам, а хоць пад нейкім дахам. І пакуль рабіла тое, нечакана для сябе трошкі супакоілася і ўжо больш цвяроза пачала думаць, што рабіць далей. Найперш думкі круціліся вакол таго, што трэба пакарміць дзяцей, бо меншыя, як ні сыкалі на іх Сонька і Вася, пачыналі ўжо хныкаць і румзаць. Свайго вандзэлка яна не згубіла — ён, перакінуты звязанымі канцамі пасцілкі цераз галаву, як прыліп да яе спіны. Абрадавалася, што і Сонька свайго не адраклася, і Вася сваёй ношкі не кінуў. Зубамі развязала злямчаныя, мокрыя канцы пасцілкі, дастала загорнуты ў анучку праснак, адламала па кавалку ўсім, сабе толькі не ўзяла — суха, горка было ў роце, адчувала, што не праглыне таго жарсцвянага праснака. Кладучы рэшту праснака ў вандзэлак, намацала там нож,

дастала яго і аб чымсьці задумалася. Пасля, завязаўшы вандзэлак і кінуўшы яго ў будан, пашылася ў кусты.

Яна наважылася схадзіць туды, дзе на беразе Бачылаўкі павінна быць недзе Надзіна Малюта, і, пакуль не позна, нарэзаць мяса. І яшчэ, перш чым ісці туды, яна ўжо ведала, што будзе рабіць з ім. Днём вогнішча паліць няможна, дым будзе відаць, значыцца, яна дачакаецца вечара і тады паспрабуе зварыць ці сасмажыць мяса. А каб вогнішча не было відаць зверху, яна нацягне над ім пасцілку. Леташняй блакадай так рабілі людзі. Убівалі тры ці чатыры калы і нацягвалі над вогнішчам пасцілку. Трэба было адно пільнавацца, каб не шуганула высока полымя, каб пасцілка не затлелася і не ўспыхнула. Так і яна зробіць, і зварыць мяса, зварыць многа, каб было не на адзін дзень, каровіна — не свініна, яе добра будзе жаваць і сухама, без хлеба...

Як думала, так і сталася. Малюту яна знайшла. Карова была цэлая, адно вараннё крыху паклявала, а так не паспела нават і ўздуцца, нягледзячы на гарачыню. Яна, Стэпачка, ніколі не падступалася вось так з нажом да каровы і нейкі час тупала вакол у разгубленасці. А пасля, як рашыўшыся, як заплюшчыўшы ўсё роўна вочы, надта ж хутка і спрытна, не верачы сама сабе, нарэзала са сцёгнаў некалькі ладнаватых шматоў мяса, пакідала яго ў фартух, сашчаміла даланёю ражкі і накіравалася назад. А як добра сшарэла, пад нацягнутай на чатырох калках пасцілкай расклала невялікае вогнішча і, калі трохі пагарэла вуголле, прыставіла да агню саганок. Дзеці паснулі, стомленыя, а яна ўсё сядзела і сядзела ля вогнішча, падкладваючы галінку за галінкай, падтрымліваючы кволае полымя, слухаючы ў саганку глухое, нібы чыёсьці няўмелае смачнае прычмокванне, пакрэктванне і булькание, і саладжавы, ажно прытарны пах свежага мяса кружыў галаву, і ёй было мутарна і млосна. Яна так і не зняла з агню саганка, так і пакінула яго на вогнішчы, абгарнуўшы з усіх бакоў гарачым прыскам і вуголлем, і, пакуль заснула, пакуль канчаткова змружыліся вочы, бачыла, як сіненькія агеньчыкі скакалі вакол саганка і лізалі яго чорныя, закарэлыя ад сажы бакі.

Затое ўранку дзеці, як ваўчаняты ці згаладалыя кацяняты, якіх матка-кошка ўжо не падпускае да сваёй соскі, ірвалі рукамі і зубамі, жавалі не надта ўпрэлае мяса і зіркалі, ці будзе дабаўка...

Яна прасядзела на тым стажар'і больш за тыдзень. А можа, і ўсе два — пэўна сказаць не можа. Вакол было ціха, стрэлы чуваць былі толькі ўначы і то даплывалі аднекуль здалёк, і Стэпачка не бачыла неабходнасці ці патрэбы пакідаць гэтае абжытае куросадне і брысціпялёхацца па вадзе і дрыгве кудысьці яшчэ. І дасядзелася б, каб не... Ляксей з Надзяй і дзецьмі.

Аднойчы, на дзесяты ці дванаццаты дзень яе сядзення на стажар'і, яны, задыханыя і перапалоханыя, выйшлі да іх з кустоў. «А божачкі, вы жывыя?» — здзівілася Надзя. Яна, Стэпачка, ці не ўсміхнулася: «Жывыя, Надзя, жывыя, як бачыш. Мы ўжо пра вас турбаваліся. Агледзелася і жахнулася: адна засталася, вас няма нідзе, а ці ж будзеш гукаць?..» Ляксей абарваў яе: «Ладна, Стэпачка, жывыя, то і добра, маўчы лепш і цяпер ды бяры лахі пад пахі — уцякаць трэба». Яна не паверыла, перапытала: «Чаго ўцякаць, Ляксейка? Ціха ж во...» Ён зноў абарваў яе, зашыпеў: «Маўчы ж, кажу! Ціха, ціха... Пачуеш зараз, як ціха! Бяры вандзэлкі хутчэй, калі не хочаш, каб яны зноў пачалі бабахаць услед!» Яна зарупілася, зазбіралася, але паспела папытацца, дзе ж Анцік з Гіленай і дзецьмі. Ляксей пацiснуў плячамі, сказаў: «Там жа, дзе і ты. Мо адседзеліся дзе, а мо і...»

Шчаслівая, пэўна, яна, Стэпачка, і яна, і дзеці яе. І той раз яны ўратаваліся, з-пад носа, можна сказаць, вырваліся ў гітлераўцаў. А Ляксею з Надзяй... Лепш не бачыць такога! Лепш ужо ў магілу, чым матцы такое перажыць! Воўку іхняга куля дагнала. Сляпая куля. Ляцела, сама не ведаючы куды, і пацэліла хлопцу проста ў скронь — упаў ён, быццам нагой за нешта зачапіўся. Стэпачка бачыла. І здзівілася: упаў і не ўстае. І тут якраз Косцік яе заплакаў — сухая лазовая галіна па тварыку сцебанула. Яна да Косціка зашаптала, супакойваючы, а Надзя раптам нема загаласіла...

Лепш не бачыць таго і не ведаць. І ўспамінаць страшна. Людцы добрыя хай ніколі не ведаюць: бацька з мёртвым сынам на плячах уцякае, каб астатніх ўратаваць, а матка з малымі блізнятамі на руках поруч пляцецца... Бедная Надзя! Як сэрца ў яе вытрывала! Яна, Стэпачка, і то як скамянела, гледзячы на яе, а як жа матка тое вынесла!

Ляксей нёс Воўку ўвесь час, ажно датуль, пакуль яны не выйшлі пад Забор'е, дзе пачыналася Доўгае балота. Там, сярод хмызоў, забор'еўцы паставілі, яшчэ за аднаасобным часам, некалькі пунек. Доўгае балота ў сушэйшае лета выкошвалі, але вывезці сена адтуль усё роўна няможна было, вось і складалі яго ў стажкі, каб вывезці позняй восенню ці ўзімку, калі балота замярзала і пускала да сябе каня. Ну, а хто быў багацейшы ды спраўнейшы, дык паставіў на Доўгім сякуютакую пуньку — каб сена не мачылі бясконцыя восеньскія дажджы і не скублі вецер ды ласі. От яны і спыніліся ў адной такой пуньцы. Ляксей паклаў Воўку на старое адонне, папярэдне прыкрыўшы пацяруху пасцілкаю, а яны ўсе паселі-пападалі воддаль і глядзелі туды, на хлопца, які зусім не выдаваў на забітага, а на спячага — адно кідалася ў вочы, што спіць Воўка неяк не так, надта ж ён роўненька ляжыць, выцягнуўшыся ў струнку.

Меншыя дзеці сядзелі так, сядзелі ды і паснулі ўрэшце, а Сонька з Васем і Вера Ляксеева так усю ноч вачэй не самкнулі, як і бацькі іхнія. І ўвесь заўтрашні дзень Воўка праляжаў у пуньцы — ці не Банадыся з Забор'я была тая пунька. А як звечарэла, Ляксей, учарнелы і як не ў сабе трошкі, згроб сына, ускінуў на плечы і пайшоў, сказаўшы ёй, Стэпачцы: «Глядзі тут, бо яна не пры намяці. А я пайду. Пахаваць трэба ж...»

Ноч тая была, не ў прыклад ранейшай, неспакойная: усё недзе бухала, чулася далёкая страляніна, небакрай свяціўся зарывам. Яна, Стэпачка, паклаўшы і сваіх і Надзіных дзяцей спаць, сама не клалася, хоць вочы як пякучка пякла — пільнавала Надзю. Тая сядзела пад сцяною і, заплюшчыўшы вочы, ківалася з боку на бок. Моўчкі ківалася, адно дыхала цяжка, бы сапла. Зрэдзь часу яна раптам пачынала стагнаць — надта ж голасна ўначы, і тады Стэпачка клала ёй руку на плячо і шаптала: «Ціха, Надзейка, ціха, сястрыца, дзеткі спяць...» І Надзя як разумела яе, сашчэмлівала рот і зноў цяжка дыхала, бы на грудзі ёй уссеў мядзведзь...

Ляксей вярнуўся па досвітку. Дзе быў, куды хадзіў, хто памог яму пахаваць сына і ці пахаваў яго — не сказаў ні слова. Ні Надзі сваёй, ні ёй, Стэпачцы. Пасядзеў колькі хвілін моўчкі, а пасля ціха азваўся як да нікога ці да абедзвюх: «Трэба ісці адсюль. У Забор'і немцы. Не будзе нам тут спакою...»

Яны памалу выбіліся па бераг Бачылаўкі і пабрылі ўздоўж яе. Рэчка раз-пораз давала круцяля, выгіналася то ў адзін бок, то ў другі, але яны не зважалі на гэта, трымаліся берага — ісці тут было прыступней, сушэй, нага ступала цвярдзей. І Ляксей, і Стэпачка ведалі, што Бачылаўка выцякае з Дзікага возера, а там ужо не хмызняк, не парослая лазоўнікам балацявіна, як тут, на Падлужжы,— там ужо лес, глухі і дрымучы, лес-дзіч, як гавораць стайкаўцы. Мо туды немцы не палезуць, мо там будзе зацішней, спакайней і надзейней.

К полудню яны прытупалі да ўскрайку ганаровіцкага Барка. Яна, Стэпачка, і Надзя, разам з дзецьмі, прыселі перадыхнуць, а Ляксей пайшоў пашукаць людзей, агледзецца. Вярнуўся ён скора чамусьці і яшчэ больш пахмурны. Бязвольна апусціўся на сухі і калючы бараны мох, сказаў: «Няма ні душы. Зямлянкі папалены, разварочаны... Дзяміда Блоньку з Гапаровіч напаткаў. Кажа, усе падаліся на Палік, услед за партызанамі...» Надзя маўчала зацята, як і ўсю дарогу, а яна, Стэпачка, не стрывала, спыталася: «Дык што ж нам рабіць, Ляксейка?» Ён адгукнуўся зласнавата, ці што: «А пярун яго ведае!..»

Колькі яны там сядзелі, яна таксама пэўна цяпер не скажа. Ці не вечарэць пачало, калі Ляксей, бы ачнуўшыся, паволі падняўся на ногі

і як загадаў: «Дык чаго ж сядзець? Колькі? Ноч нахопіцца, а тады... Пайшлі да зямлянак, начаваць жа недзе трэба...»

Прайшлі яны там, дзвюма сем'ямі, дні са тры. Ляксей схадзіў ноччу ў Ганаровічы, прынёс торбу бульбы і некалькі цыбулін. На той бульбе і чабаровым чаі-настоі і пратрымаліся тыя колькі дзён — пакуль было ціха. А неяк ранічкаю, калі яны яшчэ спалі на сасновых і яловых лапках пад стрэшкай, зробленай Ляксеем з яе, Стэпаччыным, Васем з яловай кары, пачулася блізкая страляніна. Прахапіліся яны і пашыліся з Барка ў Дзіч, у балота. Берагам Бачылаўкі ісці не асмеліліся — няйначай і немцы на сушэйшым ісці будуць, калываліся напрасткі, ад купіны да купіны, ад дрэва да дрэва, па бруха, часам ажно па пахі правальваючыся ў балотную рудаўку. Пялёхаліся-цялёпкаліся, на адно спадзеючыся: быць таго не можа, каб праклятая немчура таксама палезла ў гэтую бяздонную і смярдзючую твань.

А яно ж аказалася — палезла! Яны ўжо думалі, што адарваліся ад бяды, што пранясе міма іх брахлівую навалач, ажно — зноў быццам з усіх бакоў загаўкалі і бесперастанку трах ды трах, бах ды бах, і не разабрацца, дзе страляюць і куды, то, здаецца, ззаду, то ўжо, дай веры, і наперадзе, і збоку нібы. Ляксей круціў-круціў галавой туды-сюды, прыслухоўваўся-прыслухоўваўся, а пасля і махнуў рукой, плюнуў: «Усё! Капцы нам! Няма куды ісці. Куды ні пойдзем, на іх напорамся. Тут будзем. Пранясе дык пранясе, а не, дык...» Яна, Стэпачка, як і мінулы раз, не датумкала: «А не, дык што, Ляксейка?» Ляксей сыкнуў на яе: «Што ты яшчэ пытаешся? Пазабіваюць! Што яшчэ можа быць, дурная твая галава?» Яна разумела і быццам не разумела, што ён кажа. А як дайшло да яе, дык абмякла, але ўсё ж азвалася: «Дык што, будзем і чакаць? Ляксей, гэта ты кажаш?» Ён зноў сыкнуў на яе: «Маўчы, Стэпачка! От лепей глядзі, дзе сама схаваешся і куды дзяцей прыткнеш... А што рабіць будзеш, га? Кажу — хавацца трэба! Мо і пранясе...»

Вася не захацеў, як і Сонька, класціся ў балотную рудаўку — палезлі на елкі, зашыліся там пры ствале ў лапніку, а яна, Стэпачка, з меншымі ўкленчыла пад купкай маладзенькіх елачак на доле, па плечы, лічы, у рудавата-ржавай твані. Краем вока бачыла, як прыкрываў Ляксей пад вываратнем сваю дзесяцігадовую Веру, як пасля хаваўся сам з Надзяй і блізнятамі — таксама, як і яна з малымі, пад навіссю густога лапніку маладзенькіх елачак.

І от жа — бярог бог, як кажуць. Зусім жа блізенька прайшлі немцы і з аднаго боку ад іхніх схованак, і з другога, нават прыпыняліся, угледаліся ў іхні бок, яна, Стэпачка, сярод вузкіх сцяблін балотнай травы нават бачыла твар аднаго немца, здаецца, ажно вочы яго —

пільныя, хітрыя, як у сабакі, і ад таго пацямнела ў яе ў самой уваччу,— гэта ж няйначай учуў той сабака-гіцаль яе і дзяцей, зараз павернецца і пачоўпае, высока падымаючы ногі ў захляпаных ботах, да іхняй такой, аказваецца, ненадзейнай схованкі... Але — не пачоўпаў. Пастаяў, паглядзеў, другі гіцаль штосьці гаўкнуў яму, і ён адвёў убок свой сабачы пагляд, пацялёпкаўся далей, услед за сваімі.

А яны — і яна з дзецьмі, і Надзя з Ляксеем — яшчэ доўга не то сядзелі, не то ляжалі між купін, ляжалі, як прыгрэўшыся ці, наадварот, акалеўшы так, што ўжо і не чулі, халодная тая балотная твань ці цёплая. Даўно ўжо схаваўся, знік з вачэй не надта густы ланцужок немцаў, даўно аціхлі іх пялёхастыя крокі, іх брахлівыя галасы і нават стрэлы, а яны ўсё не рашаліся вылазіць з-пад навісі яловых лапак.

Урэшце вылезлі на свет, сабраліся ў адно месца. Чакалі, што скажа Ляксей. А ён, усё яшчэ быццам баючыся парушыць нейкую дзіўную цішыню вакол, маўчаў. Надзя не чапала яго, яна ўсё яшчэ была як ачмурэлая. Не загаворвала да Ляксея і яна, Стэпачка. Мо і праўда яе, бабская, галава дурная. От паслухалі, пахаваліся — і абышлося, прайшла бяда міма. А ці надоўга? Хто ж яго ведае. Яму ж, Ляксею, мо страшней было, чым ёй, Стэпачцы, ці Надзі яго. Загадаў хавацца, сам хаваўся, а каб жа апаролі іх пад елачкамі ды пад вываратнямі — хто б дакараў сябе болей, чым ён? Хай ачомаецца, хай сэрца астудзіць, а тады і скажа, параіць нешта, як і перад гэтым.

І праўда, Ляксей неўзабаве сказаў: «Пойдзем, дзеці, назад, да зямлянак. Яны, пэўна, падаліся пад Пуцілава, а мы — назад. Бо — куды ж яшчэ?..»

Моўчкі пагрэбліся за Ляксеем гуськом, след у след, і выпхнуліся нарэшце ў Барок, да зямлянак, і ўжо мо з тыдзень адседжваліся там, палохаючыся, уздрыгваючы ад кожнага птушынага крыку, трэску сухой галіны, далёкага, незразумелага грукату — ці то прыглушаных раскатаў грому, ці то выбухаў бомбаў. Адседжваліся да тых пор, пакуль было ціха...

Штосьці грукнула, дзынкнула, як усё адно чымсьці драўляным па блясе, і Стэпачка ажно скаланулася ўся — як зусім нядаўна ў лесе. Пасля ачомалася, што не ў лесе яна, што сядзіць на камені-ганку ля роднай хаты і што не стрэліла гэта недзе, а дзеці ў хаце лупянулі нечым па балеі, яна павінна была вісець у запечку на цвіку,— але ўсё роўна зазлавала чамусьці на дзяцей і не стрывала, крыкнула сярдзіта, як ужо даўно, усю блакаду, не крычала:

— Чаго вы грукаеце, каб вам... Няўжо мала было ляскату? Сонька, Вася, і ў вас розум адабрала?

Выскачыла на ганак Сонька, смеючыся, перапытала:

— Ты што сказала, мама?

Стэпачка ўсё яшчэ зласнавата сказала:

— Чаго ляскаеце, кажу? Сэрца ледзь не абарвалася...

— Гэта Косцік! Дамавіка качалкай выганяў з-пад балеі.

— І табе надта смешна з таго! — як папікнула яна дачку, але ўжо без злосці.— Лепш бы падумала, што з'есці пашукаць. У грады схадзіла б...

— Схаджу, мама. Яшчэ да вечара далёка,— не пакрыўдзілася, памяркоўна адказала Сонька.

Яна, Стэпачка, кіўнула, здаецца, галавою на тое. Ведама ж, далёка яшчэ да вечара. Вуньдзека сонца — толькі-толькі пайшло з гары, яшчэ не пакацілася нават, адно ўсяго раз-другі ўніз крутанулася. Зрэшты, і не Соньцы першай у тыя грады ісці. Ёй самой, Стэпачцы, трэба туды. Соньцы галава яшчэ ад таго не баліць, ёсць што ў рот узяць ці няма. Хоць і выдыгала неўпрыкмет за вайну, але дзіця яшчэ, без матчынага загаду ці падгону не надта паруліцца з чым.

А не хочацца ні ў грады тыя ісці, ні на сяло да каго. Сама лягла б яна і так, не еўшы, не піўшы, абы адаспацца б, адзеравянеласць з усяго цела скінуць. Але ж дзеці. І так як вытрывалі ўсё тое, на чым у бедных душа трымаецца. Апошнія дні, як сядзелі ў нары, ужо без Ляксея з Надзяй, нічога ў роце, лічы, не мелі, нават вады і той не было — адно каб губы змачыць засмяглыя...

У апошняй суматосе зноў адбілася яна ад Ляксея з Надзяй. Іх, людцаў, сабралася ля Дзікага возера нямала, адусюль. І яны да агульнага кагалу далучыліся. Наслухалася яна такіх жахаў, што верыць не хацелася: і як стралялі ў людзей, не разбіраючы, каторы стары, а каторы малы, і як штыкамі даколвалі, каго куляй не забілі, і як вешалі, вёскі палілі, дзяцей у агонь кідалі. У тым агульным горы сваё гора ці не меншала: яны ж таго, дзякаваць богу, не бачылі, не пražылі. Кажуць жа, што ўжо скора скончыцца ўсё, што нібыта чуваць ужо грукат далёкі — нашы ідуць, дык, можа, перасядзяць як-небудзь, дачакаюцца.

Яна той ноччу доўга не спала, не магла задрамаць, усё слухала цемнату, спадзеючыся ўчуць жаданы далёкі грукат. Але не ўчула. Наадварот, ціха было, як ніколі перад тым, як быццам знарок. Задрамала ці не дасвеццем і тут жа, здаецца, прахапілася ад крыку, енку і ляманту — немцы!

Спрасонку не намятае, як дзяцей параскатурхвала, як пашылася ў лес, куды вочы глядзяць, як узбілася праз балотную твань на сухі грудок і як па тым грудзе скацілася з адхону кудысьці ўніз. Адтуль, знізу, і ўбачыла тую нару, ля падножжа маладых гонкіх сасонак, на

самым краі адхону. Ліха яго ведае чаму, а толькі матлянулася ёй у галаве, што гэта не лісіная нара, што няйначай гэта чалавечая схованка. Дапаўзла да яе — так і ёсць: не зверам копана і не нара гэта, а зямлянка невялічкая, як на сям'ю, нехта рабіў, а не заняў. От яна і пазапіхвала туды дзяцей, а пасля, прывалокшы да ўваходу ахапак сухога галля, усунулася ў зямлянку і сама, прыкрыўшы тым галлём лаз.

Гэтая чыясьці схованка і ўратавала іх. Немцы былі на грудку, нават тупалі паблізу, па краі адхону, яна чула, як яны тупалі, і, яшчэ не чуючы іх галасоў, ведала, што гэта яны, а не свае людзі, бо свае людзі не насілі ботаў і не маглі так тупаць...

Пасля, як тупат і гаворка сціхлі, яна спачатку асмелілася адно рассунуць трошку галлё, што засланяла свет, каб зірнуць, што робіцца вакол. Счакаўшы мо з гадзіну, высунулася з нары, атрэслася, агледзелася. Дзяцей не выпускала, нават Соньку. Потым, пераканаўшыся, што навокал ціха, дазволіла вылезці і ім, але наказала быць побач, нікуды не адлучацца. Наважылася нікуды ад гэтае схованкі ні на крок — досыць, набегалася, нагулялася са смерцю, лепш ад голаду высахнуць на трэску ці апухнуць, а ўсё ж не галовы злажыць, на жывых касцях мяса нарасце. І сядзела з дзецьмі на тым грудку аж датуль, пакуль не напаткала дзеда ажно ці не з-пад Бясяд, які шукаў у Дзічы сваю сям'ю. Ад яго і даведалася, што праз Стайкі ўчарашнім днём прайшлі нашы. Тады яна знялася са свайго седала і пашыбавала дадому.

Спачатку і праўда шыбавала, адкуль і сілы ўзяліся, і дзеці не адставалі, нават малы Косцік, як выбраліся-ўзбіліся на торную лясную сцежку, папрасіўся з рук. Але неўзабаве выбіліся з сіл. Найперш чамусьці яна. Дзеці ўжо абагналі яе, ішлі паперадзе, а яна ззаду матлялася, нагу за нагу перацягвала. Думала, што не дойдзе ўжо, асабліва тады, як спусціліся з Краснай горкі на Дадаткі — ужо і вёска відаць, і свая хата, страха шарэецца сярод вішанніку, а ногі зусім як не свае, не хочуць трымаць.

І во колькі часу сядзіць на камені-ганку, а яны ні кропелькі не адышлі, гудуць і гудуць, і ўсё па іх быццам мурашкі поўзаюць. А сядзець жа быццам і досыць ужо. Трэба ж і праўда падумаць, каб што дзецям даць. Пашукаць у варыўні, можа, якая бульбіна ў загародцы ў куток закацілася і не спортшылася? А мо на сяло схадзіць да каго? Бо ў гародзе тым ці знойдзеш яшчэ што. Парэчкі-зяленухі хіба?

Ад згадкі пра парэчкі ў перасохлым роце яе варухнуўся язык, яна пракаўтнула сухі камяк і сказала сама сабе пра дзяцей ці не голасна: «А хай бы і паглядзелі, мо ўжо і зачырванеліся дзе на ўгрэве.

Дык жа не, у хату паперліся, абрадаваліся, даўно не бачылі, не былі ў хаце...»

І як пачуўшы яе, выйшаў з хаты Косцік, а ўслед за ім і ўсе — Толя, Міша, Вася і Сонька. Яна не бачыла іх, але спіною адчувала — усе тут, стаяць за ёю, на ганку.

— Ну што, дзеткі?

Ніхто не азваўся, ні самы малы Косцік, ні самая старэйшая Сонька.

— І што я рабіць з вамі буду? — немаведама ў каго, спыталася Стэпачка.— І што, га? З пяццю вамі — адна?..— Хацела сказаць «без бацькі», але не сказала, не вымавіла гэтых слоў перад дзецьмі.

Даўно ўжо, ці не гады два назад, сасніла сон, які вытлумачыла для сябе так, што загінуў, зложыў сваю галаву яе Раманок. Яна не хацела ў тое верыць і аднак жа, штораз вяртаючыся да таго сну, верыла і не ўцярпела, пайшла да Волькі Булыкавай, і тая разлажыла перад ёю карты і таксама сказала, што няма на свеце яе Раманка, хай яна, Стэпачка, як хоча, верыць ці не верыць, а толькі карты не хлусяць. І яна паверыла. Надзя Ляксеева была сарамаціла яе. «Пабойся бога,— казала,— грэшна так думаць, хаваць мужыка, нейкім дурным картам паверыўшы...» А яна ёй у адказ: «Не картам веру, а сэрцу свайму... Няма Раманка майго...»

Дзеці зноў прамаўчалі, не агукнуліся на яе словы. Адна Сонька, здаецца, незадаволена крутанула галавой. Стэпачка якраз азірнулася, убачыла тое і датумкала, што Соньчына праўда, што не трэба было ёй гэтага гаварыць, і спахапілася, і загаварыла, нібы нічога перад тым не казала:

— Чаго ж я расселася, га? Не паранее. Трэба, дзеткі, і за работу брацца. Добры дзядзька не прыйдзе, не зробіць за нас,— Яна паднялася, абцягнула на худых клубах спадніцу, акінула вачамі надворак, праз расчыненыя дзверы зазірнула ў хату, у першую палову.— Ты, Вася, скоч на аселіцу, парэж там дубцоў і звяжы лазовы дзяркач, каб было чым і хату падмесці і во тут, ля ганка, прыгрэбці. Добра, сынок? А ты, Сонька, вады прынясі. І не палянуйся, дачушка, другі раз схадзіць, а мо і трэці, у балею налі, калі не дзіравая... А пасля, Вася, паглядзі разам з Мішам, хай паможа табе, дроў якіх, прапаліць у печы трэба. Мала што лета, а не палена столькі. А я з меншымі ў гарод пайду, мо што на зуб знайду. Трэба ж, дзеткі, жыць нейк, калі ўраталіся...

Браўся на адвячорак дзень 3 ліпеня 1944 года.

Ці ўспамінала калі Стэпачка дзень той? Уга, колькі разоў. І той дзень, і ранейшыя, якія падзялілі яе жыццё на дзве розныя, нязлуч-

ныя між сабою палавіны — да вайны і пасля вайны. Як жа іх не ўспамінаць!

Але ж от дарма кажуць, што ў старасці ўсё як і ў дзяцінстве. Мусіць, зусім яно наадварот. Дні ў дзяцінстве былі доўгія, а ночы кароткія, а старасць месцамі іх мяняе, дні ўкарачае, ночы падточвае-падаўжае, бягуць гэтыя дзянькі ой як хуценька, не агледзішся! Ці даўно тое было, як яна сядзела на цёплым камені-круглеі, прыбіўшыся ўрэшце да сваёй хаты? Здаецца, зусім нядаўначка. Калі не ўчора, дык нейкі тыдзень назад. А між тым, сорак гадкоў прамінула — палова з пражытых ёю. Во, па радыё і па тэлевізары толькі і гавораць пра саракагоддзе з дня вызвалення. У Мінску метро збіраюцца пусціць. Людачка на тым метро як памешаная. І ёй, Стэпачцы, спакою не дае. Неяк яна, з месяц назад, была прыхварэла трошкі — грып гэты самы прыслепіўся, ці што, дык унучачка кожан дзень ці не поедам ела, пададобраму, але ела: «Бабуля, ты глядзі ў мяне, не хварэй, загадваю не хварэць, быць у форме, бо без нас, як мне сказалі, метро не адкрыюць». І сама заліваецца, смяецца, шчабятуха! Унучачка даўно ўжо, з вясны яшчэ, паклялася, што павядзе яе, сваю бабулю, у метро і правязе праз усе станцыі ў адзін бок і ў другі. А яна во, усё можа быць, мо якраз і падвядзе Людачку, возьме ды і ўложыць яе ў пасцелю самота гэтая незразумелая, нэндза душэўная...

Як спалохаўшыся гэтай думкі, паднялася Стэпачка з тахты, пайшла на кухню, запаліла газ, паставіла на пліту чайнік, пасля наліла ў кубачак кіпеню, укінула колькі лыжачак малака-згушчонкі і папілапаела з пячэннем. Людачка такі «чай» упадабала, і яна, старая, услед за ўнучкай, хоць спачатку і смяялася з кнігаўкі, а сама як пакаштавала аднойчы, дык і пераканалася, што смачны малочны «чай», мо смачнейшы за той грузінскі ці цэйлонскі, за якім усе ганяюцца. Папіла, і быццам палепшала ёй: унутры стала цяплей, дык, здаецца, і душа трошкі адтаяла, пацяплела.

Але рабіць усё роўна нічога не хацелася. Адно пасоўгалася крыху са шчоткай-качалкай па дыванах на падлозе. А потым тэлевізар уключыла. — паглядзець, што там будуць паказваць. Думала, мо кіно якое будзе ці канцэрт, але і на адну праграму пстрыкнула, і на другую, і на трэцюю, а нідзе нічога, усюды то адзін чалавек сядзіць і гаворыць, то некалькі аб чымсьці між сабою гамоняць. Ды ўсё ж тэлевізар выключаць не стала, прылегла на канапку ў зальчыку. Падумала нечакана, што, пэўна, нехта ж і такія перадачы павінен ці мусіць глядзець, калі іх круцяць во па ўсіх трох праграмах. От і яна паглядзіць. Усё роўна рабіць няма чаго.

Гаварылі на экране пра тое, як будаваць у вёсцы. І паказвалі тую вёску, але не нашу, а каторая пад Масквой недзе, бо ўсё гаварылі — Падмаскоўе ды Падмаскоўе. Спачатку яна не надта і цяміла, пра што спрачаюцца людзі, сабраўшыся за вялікім круглым сталом. А пасля ўслухалася і дайшло да яе — спрачаюцца, якая хата лепшая ў вёсцы: ці як у горадзе, каб усё сяло ў адным доме жыло, ці, каб, як і даўней, кожны ў сваёй хаце. Яна адразу ж стала за тых, хто абараняў хату на адну сям'ю, гаварыў, каб пры хаце і садок быў, і хляўчук, і якая іншая будыніна. У горадзе так не выйдзе, зямлі не хопіць, калі кожнаму чалавеку асобна хату ставіць, а ў сяле, дзякаваць богу, зямлі хапае, дык чаго ў кучу збівацца? Парасяці з пятага паверха насіць есці, ці што? Яна і раней бы так сказала, каб у яе папыталіся, а цяпер, як пажыла ў горадзе, дык і подаўна. Яно, ведама, добра жыць во ў такой хаце, усё роўна, на якім паверсе, на пятым ці на дзесятым, калі ліфт ёсць. Але добра гарадскому чалавеку, у якога, як у ранейшага бабыля, ні кала ні двара. А чалавеку, што на зямлі і з зямлі жыве, нашто такая хата, нашто тыя паверхі? І праўду кажа той вунь, лысаваты, што нават і настаўніку ў вёсцы такая хата, такая даміна не трэба. Бо ў вёсцы і настаўнік — вясковы чалавек, не пан з вусамі, якога яна бачыла калісьці малой. А пан той таксама, дарэчы, высокай хаты ў парку не ставіў, два паверхі ўсяго было ў яго хаце. Каб ад зямлі не адрывацца. Каб хата сярод дрэў стаяла, а не ўзвышалася тычкай над імі. Чалавечая хата — не шпакоўня, ведама!

Слухаючы тую спрэчку на экране, успомніла яна, як сама будавалася з Раманком. Хто тады думаў, каб у хаце некалькі пакояў было, каб паравое правесці, каб ганкі былі ажно два — адзін на вуліцу, чысты, а другі — у хлеў хадзіць, да жывёлы? Абы дах над галавой быў, абы схавацца ўлетку ад дажджу і спёкі, а ўзімку ад холаду, абы дзе было самім жыць ды дзяцей гадаваць. Але ж радасці ў чалавека, які ставіў сабе хату, было не меней, чым цяпер, калі вунь які палац сабе чалавек каторы вымуроўвае. Бо хата — гэта ж не будка сабаку. На ўсё жыццё чалавек ставіў сабе адну хату, нават і дзецям яшчэ перадаваў у спадчыну. А яшчэ ж... І цяпер во, кажуць, пабудавацца нялёгка, а калісьці — яшчэ ж цяжэй было. Каб не талака, дык ці мелі б людцы хаты тыя? Адзін пуп надарваў бы, а ці паставіў бы сабе хату? А талакой, глядзіш, за лета і хата стаіць. Ну, ведама, яно клопатна, турботна, расходна, пачастунак адзін чаго варты, але ж — хата, вунь яна, стаіць, свеціцца свежым акораным бярвеннем на сонцы, смольны дух вакол сябе цэдзіць!

Яны з Раманком тады толькі лес талакой вывезлі. А ўжо часалі плашчакі і рубілі зруб нанятыя мужчыны — чацвёра іх было, каман-

даваў імі Ляксей Камоцкі. Чэсны чалавек быў Ляксей. І астатнія мужчыны таксама. Падрадзіліся абчасаць, зрубіць, пакрыць, столь і падлогу пакласці. Грошай — колькі дамовіліся, а за які час — як справяцца між сваёю работай і іхняю хатай. Падганяць іх не трэба было. Кожную вольную хвіліну цюкалі сякерамі. Калі не ранічкаю, дык днём, у спякоту, а не днём, дык вечарам, ажно пакуль не ацямнее. І бачыла Стэпачка — як сабе рабілі. Драку выбіралі, каб бярвенца да бярвенца і без моху шчыльненька прылягала, каб між бярвеннямі не прадзьмухнуць, не то што ўбачыць цеслям адзін аднаго. Усё рабілі палюдску. Дошак, праўда, Ляксей з мужчынамі не рэзаў, Раманок лес на гатар вазіў у Янавічы, але з дошкамі і без таго клопату хапіла. Гэта ж яны і габлявалі іх, і шпаравалі, бо парашылі ўжо столь класці пановаму — каб гладкая была, шчыльненькая, у бэлькі запушчаная, у пазы. Колькі разоў яна пасля тую столь перамыла — і да вайны, і пасля вайны! І заўсёды Ляксея памінала добрым словам — гэта ж каб хоць калі яна ў палец стрэмку загнала! А якая жоўценькая столь была, калі яе старанненька пясочкам вышаруеш! Як васковая! Кожны сучок блішчыць! Столь яна мыла кожан год, вясною. Як ні берaглася, здаецца, і грубка ў хаце ніколі не чадзіла, і з печы дым асабліва не кідаўся, а за лета і зіму столь усё ж мурзалася, даводзілася вясною мыць. Іншыя бабы мылі звычайна перад вялікаднем. Раманок загадваў ёй не пільнавацца гэтай бабскай звычкі. Яна быццам і слухала, але ўсё роўна часта выходзіла, што якраз перад вялікаднем і яна мыла. Раманок хацеў, каб на Мая ў хаце было святочна, а вялікдзень часцей за ўсё перад Маем і выпадаў.

Любіла яна чысціню ў хаце. Столь тую самую яна сяды-тады і два разы на год мыла — другі раз перад пакровамі, перад зімою, от калі стаіць восень сухая ды цёплая, дык і памые. Хай чысцейшая будзе, святлей у хаце хоць трошку. Бо калі столь чорная, дык пры газнічцы ці пры лучыне як у яме сядзіш, а не ў хаце, а тады ж часта даводзілася сядзець і пры газнічцы, і пры лучыне, бо беднавата яшчэ жылося. А падлогу мыла кожную суботку. І кожан раз з дзеркачом, і не проста цёплаю вадою, а лугам. Дык тады кожная падложынка — таксама як навошчаная. Яна яшчэ, памыўшы падлогу, на аселіцу збегае, аеру ўжне ды па свежых, непрасохлых падложынках насыпле. І блыха, як завядзецца, здохне, і водар у хаце — як на лузе. Ляжаш спаць, дык як на капе сена, адно салаўёў не чуваць...

Хату сваю згадаўшы, пачала думаць чамусьці пра Ляксея Камоцкага, балазе на экране гаварылі ўжо аб нечым іншым. Успомніла Ляксея і ўсміхнулася сама сабе. Гэта ж ужо на яе вачах, як яна прыйшла ў Альхоўку, хадзіў ён, хлопцам будучы, штовечар да Яўхімавых.

Да Зіны прыходзіў, да старэйшай Яўхімавай. А Зіна тая, круцёлка, упадабала настаўніка. Быў такі ў Альхоўцы настаўнік тады — Галубовіч. Высокі, чарнявы, з капелюшом на галаве і з гальштукам на шыі. Як ён там дзяцей вучыў, невядома, а ўсё спектаклі ладзіў, пастаноўкі ў панскім доме. Усе альхоўскія і з бліжэйшых вёсак дзеўкі млелі па ім. І Зіна Яўхімава прападала ў панскім доме вечарамі. А Ляксей прыйдзе да Яўхімавых і чакае, пакуль Зіна дадому прыпляцецца. Са старым Яўхімам пакурыць, з Надзяй пагаворыць. Надзю малой лічыў, не таіўся ад яе, што іхнюю Зіну ўпадабаў, выпытваў у Надзі тайны пра Зіну. Ці не праз усю зіму з хаты не вылазіў, не бачыў таго, што ўсім даўно відаць было,— што Зіна з настаўнікам гуляе. Хадзіў датуль, пакуль яны і не пабраліся, Зіна Яўхімава з тым Галубовічам. Ён жа і звёз яе неўзабаве, і далёка недзе, на Гомельшчыну, ці што. Зіна да вайны пісьмы пісала, два ці тры разы прыязджала, а пасля вайны як у ваду канула. Не чуваць і не чуваць. Яўхіма на свеце ўжо не было, а Надзя не адразу і дадумалася, каб напісаць туды каму — у сельсавет ці ў раён... і толькі, мусіць, ужо недзе ў сорак сёмым даведалася, што загінула Зіна, што ўся яе сям'я загінула: сама Зіна з дзецьмі ў канцлагеры ў Азарычах, а Галубовіч яе — у партызанах, у засадзе. Ага, дык як Галубовіч узяў Зіну, Ляксей прыйшоў, як штовечар, да Яўхімавых і вазьмі скажы Надзі: давай і мы з табой пажэнімся, я прывык да цябе, ты мне ўжо і за Зіну лепей... І Надзя згадзілася, пайшла. І жылі вунь як добра. І да вайны, і пасля вайны. Старэйшага свайго, Воўку, яны страцілі ў апошнюю блакаду, а з Веркай і блізнятамі ацалелі, вырваліся неяк з акружэння ля Дзікага возера, як і яна сама. Пасля вайны ў Ляксея з Надзяй і яшчэ малое знайшлося — дзеўка, Маня, пястушка іхняя. Добрай дзеўкай вырасла: і школу на «выдатна» скончыла, і універсітэт у Мінску, замуж за афіцэра выйшла, хоць яна, Стэпачка, ужо і не бачыла таго яе мужыка-афіцэра...

А Ляксей Камоцкі да вайны быў у Альхоўцы за брыгадзіра. Крыху марудлівы, пра якіх кажуць — цямці-лямці, але справядлівы і да работы жадзён. Ніводнай бабы ці мужчыну ніколі не пакрыўдзіў. Не глядзеў, сусед ты ці не сусед, сваяк ці не сваяк: што зрабіў, тое і зарабіў, лішняга працадня не дапіша. Але ж яна, сорам прызнацца, не проста так Ляксея цяпер успамінае. Была адна прыгода, ад чаго праз усё жыццё ёй, Стэпачцы, было і сорамна, і ніякавата і перад ім, і перад самой сабой, і перад Раманком.

Той вясною паслалі Раманка старшынёй сельсавета ў Казельчыцы, за дзесяць кіламетраў ад Альхоўкі. Яна з дзецьмі за ім не паехала. Каб гэта знаццё, што надоўга, дык мо і ўгаварыў бы яе Раманок. А так ён і сам не ведаў, на які час яго пасылаюць. Тады ж, грэх казаць, не

надта лічыліся: сказана — едзь, дык і ўсё тут, а ці ў цябе сям'я, дзеці, гаспадарка, якую рашаць ці не рашаць, як нікому і знаць не трэба. Раманок з тых Казельчыц то прыедзе нанач, то не прыедзе — ведама, дзесяць кіламетраў! А ёй ужо і ў галаву дурное лезе: дзе ён, у каго начуе, а ці не пагорнецца да кабеты якой? І так тое ў галаву ўзяла, што ледзь не ашалела. Прыедзе Раманок, дык яна ўжо быццам і не рада, усё высочвае, каб угадаць, было ў яго што ці не было. А ў страха, кажуць, вочы вялікія. Дык ёй і праўда ўжо здаецца — не, не такі раней быў яе Раманок, як асцюдзянеў да яе і да дзяцей, усё на стому спасылаецца. А каб падумаць ды паразважыць, каб паверыць, што і праўда яе Раманок стамляецца там, бо не высыпаецца і не паесць як след, а ўсё сухама, урыўкамі, а яшчэ ж у сядле дзесяць вёрст пратрасецца, дык чаму ж не будзе стомлены,— да гэтага ніяк яна, Стэпачка, не даўмеецца. Засланіла ўсё рэўнасць дурная.

І так засланіла, што аднаго разу, калі здарылася так, што засталася яна ў полі з Ляксеем удваіх, павярнуўся ў яе язык падступіцца да яго з тою гаворкаю. Не хвалілася нікому Стэпачка, не расказвала і не раскажа ўжо нікому, пастаралася выкінуць тое з галавы, забыць начыста, як сон дурны, але ж от не забылася, помніцца слова ў слова, што было сказана між імі тады на полі, ля сцірты снапоў. Калі б Людачка магла яе думкі запісаць на тую сваю цэўку, дык і запісалася б так: «А што, Ляксей, спяшаешся куды?» — «Ды каб сказаць...» — «То мо прысядзь тады, га? Ці баішся?» — «Каго, Стэпачка?» — «Ну, мяне... Ці Надзі сваёй...» — «Ну і жарты ў цябе...» — «А я не жартую, Ляксей. Чаму б нам і не падурэць...» — «Ты што, дзеўка, ашалела? Чаго раптам?» — «Не пытайся, Ляксей, нічога не пытайся... Трэба мне! Душу супакоіць! Каб адпомсціць яму!..» — «Каму? Раманку?» — «Ляксей, не пытайся ж, кажу! Надзя не ўведае...» — «А Раманок твой? Ды я сам яму раскажу! Што ў галаву ўзяла! Ты што, ненармальная?..» — «Ненармальная, Ляксей, ненармальная. Змэнчылася, каторую ноч не сплю...» — «Дурная ты баба, і больш нічога! Калі так, то бяры дзяцей і едзь да яго, а не... Ох і даў бы я табе, будучы Раманком! Каб тыдзень сесці не магла...» — «Мне б лягчэй было, каб і адлупцаваў...» — «Яшчэ слова скажаш, дык я адлупцую! Ідзі дамоў, Стэпачка! Нічога ты мне не казала, і не чуў я нічога! Ясна?..»

Гэта ж паўвека мінула, а і цяпер яе як варам абліло. Што на яе тады найшло, дык і не ведае. Гэта ж пасля, як Рамчанка ўжо не было, ніколі ні разу і думка такая ў галаву яе прыходзіла, а то ж... Не, мусіць, праўду такі кажуць, што чалавек з раскошы шалее. Пасля вайны, галечаю тою, не магло ёй такое ў галаву прыйсці. А перад вайною, бач, дадумалася, ашалела баба. Перад вайною, асабліва апошнія два-

тры гады, добра ўжо жылі людзі. Было ўжо і хлеба, і да хлеба, нельга богу грашыць. А па вайне і першы год, і другі, і трэці, і дзесяты не было раскошы. Якая там раскоша! Адзець на змену не было чаго. Сарочку якую на шасток у лазні ўскінеш, каб вошы папрудзіліся, і зноў надзенеш, бо другой не было. І яна, і дзеці зімой і летам адным цветам — адно насілі, латанае-пералатанае. Ашалець ад усяго таго і праўда можна было, толькі сапраўды ашалець, а не таго, каб...

Яна, Стэпачка, кожан раз, як прыгадае што з таго часу, дык і наплачацца, сама таго не хочучы. У сорак пятым выпраўляла Соньку ў Мінск. У педагагічнае вучылішча, на настаўніцу вучыцца. А ў чым выправіць, каб хто спытаў? Адна сукеначка на ёй — ні на ногі нічога няма, ні на плечы накінуць. Хоча, бачыце, дачка ў Мінск, а ўперлася: не паеду босая нізавошта! І яна, Стэпачка, плача, і Сонька разам з ёй. Пайшла да старшыні сельсавета. У сельсавеце тады старшынёй Забаўскі быў, яго пасля ў раён забралі. Паплакалася, расказала, што пасылаюць дачку на вучобу, а босай дзеўка не хоча ехаць. Напісаў Забаўскі запіску. І яна з той запіскай у раён. Там ёй выдалі палітончык, тоненькі такі, як пінжачок, на шоўкавай падшэўцы, баціначкі карычневыя на шнурках і шапачку-берэтачку, усё ношанае, але чыстае, з таго, што амерыканцы прысылалі, сказалі. Ішла яна дадому і ног пад сабой ад радасці не чула. А прыйшла, агледзеліся і зажурыліся разам з Сонькай. Палітончык аказаўся хлапечы, давялося гузікі перашыць і на левым крысе дзіркі - петлі зашыць, а на правым зрабіць новыя, а баціначкі не падышлі зусім — малыя, вузкія, нагу не ўплішчыць. Добра, Надзінай Верцы падышлі, нават вялікаватыя трошкі аказаліся, але Надзя ўзяла, а ўзамен дала свае даваенныя балеткі. Сонька і ім рада была — усё ж не босая, бо ўбіла сабе ў галаву, што ў Мінск босай няможна...

Яна пра ўсё гэта Людачцы расказвала, а тая на цэўку сваю запісвала. І пра тое, як Соньку выпраўляла і як пасля хлопцы, адзін за адным, у Мінск выпраўляліся, у тым ліку і Толік, бацька яе цяперашні. Дужа ёй усё цікава ведаць, як пасля вайны было. Разумная надта ж нейкая, шчырая і спагадлівая ўнучка вырасла. Не па-дзіцячы ўражлівая і цікаўная. Яна, Стэпачка, расказвае, Людачка слухае, а як што не разумее ці як што здзівіць яе, дык і пачне пытацца. Сто пытанняў задасць. А яна на тыя пытанні і адказаць не заўсёды здатная.

Памятае, расказвала Людачцы, як авечак даглядала, як звеннявой па кок-сагызу была...

«Я, дзіцятка, прывыкла і ў калгасе ўсё рабіць гэтак, як і сваё. Да вайны абы-што рабіла. Куды брыгадзір пасылаў. Жаць хадзіла, лён палоць, восенню і зімою лён той самы мяла і трапала. І сіла ў мяне

была, і спрыт, і гонар. Са мной рэдка якая баба магла зраўняцца. Раманок, дзед твой, нябожчык, мною ганарыўся нават. «Правільна робіш, Стэпачка,— казаў,— што не паддаешся, хай ведаюць, што ні я, ні ты сабе палёгкі не даём...» Я й не давала. Жаць пойдзем з бабамі, дык я не буду языком мянташыць, чужыя костачкі перамываць. Я пераваяслаў нараблю і пайшла загон гнаць. Пакуль там хто толькі зажынае, дык я ўжо крыжык-другі снапоў пастаўлю. І лён той самы. І кагалам трапалі-мялі, у калгаснай пуні, і кожны сабе дадому браў. Я лепш дома любіла лён мяць. Тут аніхто не замінае. А там, ведама, баб збярэцца, адна перад адной па слову, дык галава баліць. Яно, кажуць, у кагале спрытней, лацвей рабіць, мо і праўда, але гэта ў мяне, мусіць, натура такая — як адна, дык я больш зраблю. Я Ляксея прасіла: прывязі мне воз таго лёну на падворак, і я табе яго чыстымі ручайкамі здам. А калі зраблю, вечарам ці днём, у будзень ці ў свята, гэта ўжо маё дзела. І ці абагнаў мяне калі хто! Я заўсёды больш ручаек здам. І ручайкі мае не тоненькія, а як пальцамі, жменяй абшчапіць...

Ну, гэта да вайны. А па вайне Ляксей Камоцкі з брыгадзіраў старшынёй стаў. І ўпрасіў мяне авечак калгасных глядзець. Не надта я і хацела глядзець іх. Не прывычная была я да такой работы. Ну, але згадзілася. Улетку тых авечак пасвіць трэба было, а зімою карміць-паіць. Ну, і нічога, глядзела. Пасвіць дзеці памагалі — Вася, пасля Міша і Толя, бацька твой. І зімой без дзяцей я ні кроку. Трэба ж і вады ў карыты паналіваць, і сечкі нарэзаць, і сена натрусіць. А колькі клопату, як акоты пачнуцца! Хлеў, скіданы з Хазяінавага гумна, увесь на дзірках, холадна ў ім, дык я ягнятак усё ў хату ды ў хату. Кармлю іх з сосачак, як дзетак. Свая кароўка не доіцца такой парою, дык я авечак навучылася даіць, хоць бабы з мяне і смяяліся, было. Хай смяюцца, думаю, ад таго мне горай не стане, а ягнятка, глядзі, і ўратую, на траўку вясною выйдзе — к восені добрая авечачка ці баранчык будзе.

І адзін год я іх глядзела, і другі. Спачатку іх мала было, авечачак пяцьдзесят, а пасля ж — і за дзвесце стала. Паболела іх, а сена, як на тое ліха, паменела. Галодныя зімою мае авечкі. Прыйду ў хлеў, а яны рукі мне ліжуць, у вочы зазіраюць. Не паверыш, унучачка, а праўду ж кажуць, што жывёліна таксама свой розум мае. Я гаманю з імі так ласкава, супакойваю, кажу, скора саломкі падвязуць, добрай саломкі, аўсянай,— дык яны як разумеюць, згрудзяцца ў гурт і не бэкаюць, не мэкаюць, цярпліва чакаюць. Аднойчы, ці не ў сорак сёмым зімою, і саломкі той не стала. З гарышча ўсю салому, што восенню на жэрдкі пацягала, каб у аўчарні цяплей было, скарміла, страху саламяную з аднаго боку хлява спусціла на корм. Дохнуць мае авечачкі...» — «А

чаму, бабуля? Чаму не было чым карміць?» — «А ты б у мяне што лягчэйшае папыталася! Хто ж яго ведае, чаму не было...» — «Не рабілі людзі, ці што?» — «Чаму ж, дзіцятка, не рабілі? Рабілі, ведама. Праўда, мо і кепска рабілі. Дык жа... За што ж было рабіць добра? Працадзень пусты быў. Лічы, нічога на той працадзень не давалі. Дык і не хацелі людзі рабіць...» — «Ну, а чаму, бабуля?» — «Каб жа я ведала! Мо не так што рабілася... Ці ж з маім розумам, кнігаўка, разбірацца ў тым? Адно я ведаю, што мае авечачкі галадалі. Аднаго разу не вытрывала, пайшла нацямку не ў аўчарню, а да Ляксея, да старшыні. Прыйшла, а ён толькі ўстаў яшчэ, не мыўшыся, курыў нашча цыгарку. Я яму ключы на стол — бразь, не пайду, кажу, больш у хлеў, калі няма ім чаго даваць, дык хай мае вочы лепей не бачаць таго! Апрануўся хуценька Ляксей, ключы ўхапіў і мне кажа: пайшлі, Стэпачка, пайшлі... Прыйшлі, запалілі ліхтар, падышлі да перагародкі. Збіліся авечкі ў гурт. А тры ці чатыры ляжаць, ножкі адкінуўшы. Выношу я іх з-за перагародкі, а ў самой слёзы цякуць. Бачу, ажно і Ляксей плача. Пабег на канюшню, запрог каня, сам аб'ехаў на санях усіх у Альхоўцы і прывёз праз гадзінку воз сена. Паласаваліся мае авечачкі, і ў мяне праз тое адлягло на сэрцы...» — «І доўга ты іх даглядала, бабуля?» — «Не, унучачка, нядоўга. Тым годам, сорак сёмым, і кінула. Не сама кінула — Ляксей загадаў кінуць. Паслаў мяне на кок-сагыз...» — «На што?» — «На кок-сагыз, цыбатка! От, бачыш, ты і слова такога не ведаеш, а бабуля твая звеннявой па кок-сагызу была... Я, можа, і не паслухалася б Ляксея, не кінула б сваіх авечак, бо прывыкла ўжо, уцягнулася, але ж і яшчэ адна напасць навалілася — ваўкі. Паверыш ці не, унучачка, а ці не назаўтра пасля таго, як Ляксей сена расстараўся, а пасля, днём, і бульбы трохі на аўчарню прывезлі, прыходжу я ранічкаю — бачу, мае авечачкі напуджаныя, ажно на сцяну лезуць. Узяла я ліхтар, аглядзела ўсе загарадкі, вакол аўчарні абышла — няма, здаецца, нікога і нічога. Але ж бачу — напуджаныя. Яшчэ раз пайшла вакол аўчарні. І ўгледзела — ваўкі прыходзілі. Не адзін, а некалькі. Спрабавалі нават пад сцяну падгрэбціся, але нешта перашкодзіла — ці мо сабакі, ці што іншае. Я сказала пра тое Ляксею, але ён ці не надта паверыў, ці чым заняты быў. Ну, я і пайшла ад яго. А ноч прыйшла — будзіць мяне Анюта Гэрцава, яна ад аўчарні непадалёк жыве. Грукае да мяне ў дзверы і крычыць: «Стэпачка, ваўкі ў аўчарні!» Ухапіла я ліхтар, вілы ў рукі і туды паджгала. Прыбегла, адчыніла дзверы — і ў вачах мне цёмна зрабілася. Пад сцяну падгробся ўсё ж, шкурадзёр, і столькі авечачак задушыў! Ажно сямі штук не далічылася... Расстроілася я ўшчэнт. Некалькі начэй пасля на аўчарні начавала, Вася таксама колькі разоў пільнаваў са стрэльбаю — у Якуба Краўца выпрасіў.

Але ж яны хітрыя, падлы! Як мы сядзелі, дык не лезлі. А як мы не пайшлі, дык зноў убіліся і зноў крыві нарабілі... Дык як загаварыў вясною Ляксей пра кок-сагыз той, я і згадзілася...» — «Што ж гэта за кок-сагыз такі, бабуля? Ты ж так і не сказала».— «А бо, унучачка! Гэта трава такая. Ну, можа, не трава — кветка. Ну чыста, як на вока, дзьмухавец. Адуванчык, як вы ў горадзе кажаце. Што вясной паўсюль жоўценькім цвіце, а пасля парашуцікі ад яго лятаюць. Мы, малыя, помню, усё ў полі любілі дзьмухаць на яго і гадаць, дзед ці баба. Ці начыста абляціць, да лысай галоўкі, ці барада застанецца...» — «А нашто той кок-сагыз разводзілі? Што з яго рабілі?» — «А бо, Людачка, мы ж спачатку таксама здзіўляліся. Надумаліся — траву, пустазелле саджаць! І палоць яе колькі разоў за лета, і акучваць, а пасля выбіраць асцярожненька, каб карэньчыкаў не папсаваць, чысціць тыя карэньчыкі і здаваць... Ну, а пасля сказалі нам, што з гэтага кок-сагызу рызіну робяць. З карэньчыкаў у яго малако беленькае і надта ж горкае выступае. От малачко тое і ёсць рызіна. Як загусцее, дык як рызіна. Казалі, гэта на абарону, на армію нашу рызіна тая патрэбна. Папраўдзе, унучачка, не вельмі і дападалі мы, нашто ён. Раз трэба, дык трэба. Адно — ніхто ж не ведаў, ні як яго саджаць, ні як даглядаць. Нас, помню, у раён на нараду сабралі, паказвалі, расказвалі, як з ім абыходзіцца. Я ў раён з Альхоўкі хадзіла, бо мяне звеннявой паставілі. Колькі мы з бабамі папоўзалі-парачкавалі на Доўгім балоце з тым коксагызам! Каму пра гэта калі і раскажаш, унучачка? Ён жа на балоце толькі расце. От шнур балота ля дарогі і акапалі канавай, каб рудаўку ў Бачылаўку спусціць, узаралі яго, рыдлёўкамі і граблямі разбілі дзірван, выграблі ўсе касмылі і карэнні, зрабілі грады, а не поле і пасадзілі на тых градах кок-сагыз. І кожан дзянёк па тым шнуры ля дарогі мы на коленках з канца ў канец, з канца ў канец. Так ужо чысценька палолі, каб нідзе ні травінкі. А ці ж лёгенька гэта? Дождж пройдзе — у разорах жужаліна балотная, не ўлезці, а мусіш лезці, грэбціся, бо не любіць той кок-сагыз ні травінкі зелля, ні спіны не чуеш, ні ног, ні рук. А каб жа гэта добра паснедаўшы поўзаў там, рачкаваў. А то ж усе мае бабы і я з імі, іхняя звеннявая, на нішчымніцы, духі падцягнуўшы. Каторай і ўваччу пацямнее, бывала. Тады мы ўжо насварымся на такую бабу, накрычым: ідзі, пасядзі ля дарогі, адпачні... Найбольш, унучачка, дакучала, што ў гразі даводзілася поркацца. З дня ў дзень па пояс, лічы, мокрыя мы і брудныя, як чэрці. Кожан раз, дадому ідучы, мыешся пад Яськавым мостам, але ўсё роўна — караўкай пляцешся, спадніца тая на табе, быццам з бляхі, такая каляная, так укарэла. Ведама, не будзеш жа кожан дзень мыць яе, за ноч дык і ці высахне, а заўтра ўсё адно ў тую балотную твань

лезці... А лета, як на тое ліха, і халаднаватае выдалася. Дык многія мае бабы і пахварэлі. То адну скруціць раматус, то другую. Ну, але скруціць, ды адпусціць. А от Верку Церахаву, гаротніцу, так і не адпусціў. Як скруціла нагу, так, бедалага, і пачала скакаць на адной. Як ужо матка яе праклінала і балота тое, і кок-сагыз, і мяне заадно. Быццам і я ў чым вінавата была, быццам сама не поўзала разам з Веркаю яе і з другімі бабамі... Ну, але ж — ці лепшай была б іншая матка? Можа, і не была б. З дачкой такое гора, такая бяда. Дзеўка маладая яшчэ, і замуж не паспела выйсці, а цяпер — хто возьме калеку? От матка і кляла ўсіх разам з кок-сагызам тым...

А карэньчыкаў восенню мы навыбіралі шмат. Цяпер я ўжо не помню колькі, але ведаю, што шмат, больш, чым такія ж звенні ў суседніх калгасах. Грамату мне далі ў раёне, а пасля і ў вобласць, у Мінск, паслалі. На нараду звеннявых па кок-сагызу. Помню, у Доме ўрада нарада тая была. Я й зайсці туды баялася. Каб адна, дык нізавошта не пайшла б. Ну, а як кампаніяй, дык, ай, думаю, як усе, так і я. Як жа там хораша, чысценька, помню, было! Зала круглая такая, крэселкі круглымі радочкамі ўсё ўверх і ўверх, так што кожнаму, дзе б ні сядзеў, усё відаць... Выступалі, гаварылі, хвалілі нас. Усё, казалі, наша праца мацуе абарону краіны, што мы здолеем даць адпор проіскам імперыялістаў, падпальшчыкаў новай вайны. Я, не буду маніць, не выступала. І дзякаваць богу, што мяне не пацягнулі на тую трыбуну. Я ж, мусіць, не сказала б ніводнага слова. Язык бы не павярнуўся. А некаторыя бабы выступалі. Па паперках чыталі. Панапісвалі ім тыя паперкі, а яны чыталі. Дык каторая добра, гладка прачытае, а каторая спатыкаецца, мэкае-бэкае... Сядзіш, слухаеш і думаеш: а мая ж ты бабачка, не лезла б ты лепей, адмовілася б, сказала б: вы граматнейшыя, вы і выступайце, а мне, дурной бабе, чаго на тую трыбуну лезці?.. Помню, там і буфет быў, і сталоўка, але дзе ты бачыла, каб я ў той буфет пайшла? Грошай-то я ўзяла. І сама колькі рублёў мела, і пазычыла трохі, але ж — буду я грошы траціць на абед той! І так пасяджу. Гэта ж не рабіць. А пасядзець можна і на пусты жывот, не ўбудзе.

Ну, а як скончылася ўсё, дык я з таго Дома ўрада хутчэй на трамвай ды на Камароўку, на базар. Купіла хлеба некалькі буханачак, пакуначак падушачак — дзецям гасцінца, заадно і сама паабедала — узяла батон і дзве бутэлькі морсу. Як з'ела той батон з морсам, дык, помню, ажно павесялела. Такое смакаццё! Успомню, дык, здаецца, і пасля ніколі так смачна не ела! Надта ж смачны морс той быў. Смачнейшы за цяперашнюю газіроўку. Ці мо ўжо здаецца так? Да

вайны сітро ўсё было. А пасля вайны — морс. Вельмі смачны. А з батонам — дык за вушы не адцягнуць...»

Успомніла Стэпачка, як расказвала пра ўсё гэта Людачцы, і яшчэ больш зажурылася. Разварушаная памяць тузанула іншую нітачку, і вось ужо пабегла думка пра дзяцей. Кепска, ведама, што не так жывуць дзеці, як хацелася б. Але сябе яна не папікае. Яна што магла рабіла, каб дзеці харошымі раслі. Найперш глядзела, каб не гультаямі раслі. А як працу будуць любіць, дык да благога не нахінуцца. І, дзякаваць богу, ніхто ж, здаецца, не скажа, што абібокамі павырасталі. І Сонька, і хлопцы — ніхто ад работы не ўцякаў. Ні ў сяле, ні ў горадзе. Сонька тая дык як зацятая да работы, здароўе хутчэй пакладзе, абы ніхто не сказаў, што гультайка. І Вася цягавіты, і Міша з Толікам. Адзін Косцік трошкі не такі, дык тут, пэўна, вінаватая ўжо яна сама, Стэпачка,— ашчаджала, аберагала, як малодшанькага, апошненькага.

Не, работы ніхто з яе дзяцей не цураўся. За гэта яна была спакойная. І цяпер во. Робяць жа. Ды толькі бачыць Стэпачка, што ўсё роўна як нешта павярнулася ў свеце, ці мо ў дзяцей не так. Яна, услед за Раманком сваім, прывыкла, што трэба лепш рабіць чужую работу, чым сваю. Тую работу, якая агульная,— калгасная, калі чалавек у сяле жыве, ці заводская, калі ты чалавек гарадскі. Тую работу, за якую табе дзяржава грошы плоціць. Ніхто тую тваю работу за цябе не пераробіць. Як ты зрабіў, так і будзе. Тая твая работа да людзей ідзе. І трэба, каб было табе не сорамна перад людзьмі. Як жа інакш? Ты — людзям, а людзі — табе. На гэтым свет стаіць. Яна да такога парадку прывучана. І верыць, што справядліва гэтак, што так і быць павінна, бо чалавек жа не для сябе жыве. Калі для сябе толькі, дык — дурны ён чалавек, гаротны чалавек. Памрэ — і як не жыў. Ніхто не ўспомніць ні благім словам, ні добрым. Як і не было яго ніколі на свеце...

Ніколі яна не вучыла так жыць сваіх дзяцей. Наадварот, зусім іншаму вучыла. А от жа бачыць — як для сябе яны ўсё больш і больш. Гэта ж не памятае ўжо, ці чула калі, каб яны пра работу сваю гаварылі. Ну, што там было, на рабоце, хто што гаварыў, хто больш зрабіў, а хто менш, хто добра зрабіў, а хто блага, абы з рук. Усё больш дзяціныя гаворкі круцяцца вакол таго, хто што дастаў і дзе, хто каго абняславіў і за што, хто каму дарогу перабег і навошта. І сумна робіцца ёй ад усяго гэтага. Бо — радасці ў дзяцей няма. Мала радасці. Найбольшую ж радасць работа прыносіць. Работа, а не што іншае. Гэта толькі кажуць так, што — як сыр у масле качаецца. А як не ведае чалавек радасці ад работы, дык і сыр той з маслам не абрадуюць. Ну, а калі няма радасці ў чалавека, дык, значыцца, і душа яго не на

месцы. Нэндзіцца, пакутуе душа, шукае нечага, а і сама не ведае чаго. Як непрыкаяная. І чалавек тады гаротнік. Бо жывот той самы можна пітвом і ежай наталіць, а душу — чым спатоліш? Душу радасцю адно спатоліш. Тым, што яна, душа, другую душу сагрэла, суцешыла, паспрыяла другой душы...

Яна, Стэпачка, раней не надта думала пра ўсё гэта. Не заставалася ў яе сілы думаць пра гэта. Ставала сілы толькі на тое, каб прывалачыся дадому з аўчарніка, з кок-сагызу таго, з Доўгага балота і да ложка дапаўзці, забыцца ў цяжкім, трывожным сне. Думала адно: як гэта, каб дзеці былі не галодныя, не свяцілі каб локцямі. Пра душу не было калі думаць.

Але гэта толькі цяпер яна так гаворыць, што не думала. Думала, ведама. Бо як там ні было, а душу сваю яна не прадавала. За сваім горам і бядою на чужое гора і на чужую бяду не забывалася. Яна, ведама, баба вясковая, дурная. Хто яе будзе слухаць, калі нават свае дзеці не слухаюць? Але ж не дарэмна жыла яна на свеце. Быць таго не можа, каб дарэмна. Нешта ж павінна застацца і пасля яе. І найперш — дзеці. У дзецях жыве чалавек. Але ж калі во так выходзіць, што матка ці бацька цяпер — самі па сабе, а дзеці — самі па сабе? З маткі можна і пасміхнуцца, ад маткі можна і адмахнуцца, калі што. Няма, няма той колішняй сувязі, спалучанасці між дзецьмі і бацькамі.

Дзеці, ведае Стэпачка, і з яе цішком пасміхаюцца. Найперш з яе любасці да Альхоўкі, да Ганаровіч. Дзівацтвам лічаць. А не могуць падумаць, зразумець, што не дзівацтва гэта. Яно, ведама, і старасць віною. Старасць заўсёды кліча чалавека туды, дзе ён нарадзіўся і ўзрос. Але ж ёй не проста хочацца апошні разок глянуць на ўсё тое, што было з ёю праз гады. А можа, ёй хочацца паглядзець на ўсё, каб сябе зразумець, хоць перад смерцю, а, сябе зразумеўшы, і іншых зразумець, найперш мо іх, дзяцей сваіх? Ды, пэўна ж, так! Не дзеля сябе так ірвалася яе душа туды. Што ўжо ёй ад таго? Усё тое і без таго застанецца ўжо з ёю назаўсёды. Не перарабілася яна і ўжо не перагробіцца, не зыначыцца. А от за дзяцей душа ў яе баліць. І гэта не так яе віна, як іхняя віна — віна перад зямлёю, перад людзьмі, на якой і сярод якіх выраслі, клікала яе туды, звала, вабіла, не давала спакою. І ездзіла яна туды, каб нейкім чынам памагчы ім усвядоміць гэтую сваю віну і спахапіцца, пакуль не позна. Толькі — як гэта зрабіць? Як сказаць пра ўсё гэта дзецям? Калі? Ці будзе ў яе час сказаць пра ўсё? Ці выслухаюць? От у чым бяда.

Слова «віна» збянтэжыла Стэпачку. Асабліва — у дачыненні да дзяцей. Гэта ж ніколі і нікога яна не вінаваціла. Найперш сваю віну шукала і знаходзіла. А тут во, бачыш, да чаго дадумалася — дзяцей

абвінавачваць! Хіба ж яны вінаватыя ў чым-небудзь? Хіба ж самі яны ўцякалі з Альхоўкі? Мо і хацелі, асабліва апошнія ўжо, Толя і Косцік, але толькі не Сонька і не Вася з Мішам. Сонька вунь як не хацела ісці ў Мінск! На вучобу пасылалі, а — не хацела. Плакала не адзін дзень, усё прасілася: «Мамачка, не паеду! Чаго я там не бачыла? Не хачу я вучыцца, пазабывалася, што і ведала, і баюся... Гэта ж, кажуць, там ні выйсці нікуды — столькі жулікаў-урвісаў на вуліцах! А што я? Адно варон лічыць умею. Лепш я тут буду, з табой...» А яна, Стэпачка, сарамаціла яе. Дачушка, казала, чаго ж ты на сябе нагаворваеш? Вучылася ж, дзякаваць богу, не горш за іншых, дык ці ж не зможаш і там? Пасылаюць жа не абы-каго, а цябе во... Настаўніцай станеш, на грашах рабіць будзеш, ці адзець што, ці з'есці — прасіць ні ў кога не трэба... А што баішся, дык жа ты не адна там будзеш. Як усе, так і ты. Адна не хадзі надта, асабліва вечарам, а кампаніяй, з другімі дзяўчаткамі, дык яно і страшна не будзе, да кампаніі не прычэпяцца... Ледзьве выпхнула яна тады Соньку. Выпхнуць-то выпхнула, але ж думала, што не прыжывецца дачка ў горадзе. Колькі разоў уцякаць збіралася. Прыедзе дадому, а назад — мамачка, не паеду! Дык яна насварыцца, накрычыць на яе і зноў выправіць. Сама слязьмі абліваецца, а — гоніць. Едзь, дачушка, казала, не выдумляй, гадок-другі прабяжыць, глядзіш, на свой хлеб выйдзеш... А плакала, бо бачыла, што Сонька як зялёная нейкая і апухлая ўся, прысядзе ці сагнецца, дык, кажа, у вачах цямнее. Сонька ж не прызнавалася, што галадае. Што яна, Стэпачка, давала ёй з сабой? Бульбу сушаную ды праснак які, яшчэ сала брусок, калі было. Каб цыркала пакрысе, дык неяк бы жыла, а то ж прывязе, усё з падружкамі з'ядуць за вечар, а пасля зубы на паліцу да таго дня, пакуль іншай каторай матка ці бацька што перадасць ці падвязе. Дык даўмеліся — кроў пачалі здаваць. Гэта яна, Стэпачка, пасля ўжо ўведала, як Сонька кінула вучобу і на будоўлю пайшла. А тады ж не ведала і не здагадвалася. Адкуль было ведаць? Яна ж як уведала, дык хацела паехаць і забраць Соньку дадому, каб сядзела пры матцы і ні на крок нікуды. Хіба ж не дурная зяленуха? Кроў здае і цукеркі купляе! Атрымае грошы, усе на цукеркі аддасць і за адзін вечар тыя цукеркі з'есць...

Вася таксама не хацеў у горад. Сем скончыў і пайшоў з коньмі рабіць. Пасля на трактар сеў. Ці не тры гады на тым трактары рабіў, аж да самай арміі. Пасля арміі дадому прыйшоў і хацеў зноў на трактар сесці, але яго Сонька да сябе забрала. Мама, сказала, не дурнее хай, тут во іншыя рвуцца, каб толькі ўцячы, а ты не пускаеш. Што ён тут не бачыў? Хай ідзе да мяне, паробіць спачатку на будоўлі, а там відаць будзе. Захоча на завод, дык на завод пойдзе, шафёра ўсюды

возьмуць... Ну, і пайшоў. Сонька быццам і праўду казала. Яна к таму часу ўжо замужам была, кватэру мела, у бараку, праўда, але свой куток, і ўжо ж супакоілася, кроў на цукеркі не здавала, ужо ж была і не галодная, і не голая, дык чаго ж яна, матка, будзе пярэчыць? Хай ідзе! Што ёй? Ёй абы дзіцяці добра было. А яно і дурню ясна было, што ў горадзе тым часам лепей жылося, чым у сяле.

Ну, а за Васем і Міша ў Мінску апынуўся. Той дык пасля сямігодкі не пайшоў у калгас — Вася яго ў фэзэво ўткнуў. Яна спачатку дык і шкадавала трохі, Міша малы нейкі быў, заморак, худы і дробны, як верабей, дык бедавала: як ён там будзе, у тым фэзэве, хто яго там пакорміць, памые? А ён ці не за месяцы тры так справіўся, што яна і веры не дала б ніколі, што такое можа быць. Як прыехаў ён у чорным шынеліку і ў касцюміку суконным, таксама чорненькім, увесь чорненькі, як грачок, адно гузікі беленькія, як сярэбраныя, зіхцяць, дык яна і не пазнала: як не яе Міша ўсё роўна! І пагладзеў хлопец, і падрос, і ў плячах пашырэў, ужо быццам і на хлопца падобны. Дык яна ўжо і рада была: от і яшчэ адзін яе сынок на сваю дарогу выходзіць!

Так, неўпрыкмет, засталася ў хаце адна: Толя і Косцік ужо ці не ўподбежкі ў той Мінск падаліся. Іх ні ўпрошваць, ні выпраўляць ёй ужо не давялося. Гэтыя самі ўжо не маглі дачакацца, пакуль школу скончаць. Тады ж ужо такая мода на горад пайшла, што адно перад адным. Матчына малако на губах не абсохла, а дай катораму горад, і ўсё тут! І маткі ўжо таксама як папрывыкалі, што дзеці не павінны ў сваёй хаце заставацца, на зямлі рабіць. Дзе там! Ужо самі пачалі іх падпіхваць-падганяць: вучыся, дзіцятка, добранька, старайся, дык не будзеш, як я, у брудзе корпацца, гразь гэтую мясіць, у людзі выйдзеш...

Яна, Стэпачка, не будзе на сябе нагаворваць, так не думала і дзецям, таму ж Толю ці Косцю, такога не гаварыла. Але і не трымала іх: ат, хай ідуць, пэўна, ужо час такі, век такі падышоў. Хай ідуць сабе! Хай шукаюць у свеце сабе лепшай долі. А яны, маткі, і бацькі каторыя, будуць тут, у родных сценах, дажываць веку. Ім адрывацца ад усяго позна ўжо. Старое дрэва не перасадзіш. Каб перасадзіць, трэба карані абсекчы. А з абсечанымі каранямі ці прыжываецца тое дрэва на новым месцы? Наўрад! Іхняя доля — векаваць адным. Сядзець у старых сценах і жыць спадзяваннямі на прыезды дзяцей і гэтымі рэдкімі прыездамі. І радавацца гэтым прыездам.

І дарма яна скранулася з месца, дарма рашылася падрэзаць і свае карані. Трэба было шукаць іншае выйсце, а не рашаць гаспадарку, не прадаваць хату. Раманкову памяць. Дзіцячую калыску. От

тут яе віна — недаравальная. Яе і больш нічыя. Ні Васева, ні Толікава, як яны гаварылі пасля той раніцы, а — толькі яе і нічыя болей...

Яна тады надта ж абрадавалася, калі ўвечары, ужо добра-такі сцямнела, па вокнах хаты жыхнула рэзкае святло — няйначай, падумала, нехта з сыноў прыехаў. Яна яшчэ не спала, сядзела, прыхінуўшыся спіною да цёплай грубкі, і кручком вязала з рызаў ходнічак. Той парою яшчэ не былі ў модзе тэлевізары, у Альхоўцы толькі ці не ў аднаго Булыкі Івана і быў. Яна сяды-тады хадзіла туды, да Булыкаў, але не надта часта, бо ў іх і без яе кожан вечар — не павярнуцца, як у клубе тым, не раўнуючы, хто на чым сядзіць, а малыя дык проста ўпокат на падлозе. Уткнуцца ў тое вока і глядзяць, усё запар, да канца, пакуль тое вока спакойнай ночы не скажа. Яна ж, каб вечары караціць, прылаўчылася кручком вязаць з рызаў ходнікі. Раней ткала іх — доўгія, праз усю хату, мяккія, нагой добра ступіць на іх. Але ткаць — гэта ж марока: і аснову аснаваць, і кросны, тыя рэзгіны, у хаце месца займаюць — не павярнуцца. А кручком сядзі сабе і вяжы. І ты нікому не замінаеш, і табе аніхто. Спачатку кругленькія вязала, на падлогу ля ложка пакласці, каб ногі пасля начы на цёплае і мяккае спусціць. Усім дзецям нарабіла тых ходнікаў, ужо ці трэба былі, ці не трэба. А пасля навучылася і доўгенькія вязаць, амаль на даўжыню ложка, дык дзеці зноў падахвоціліся: і мне, мама, звяжы, і мне...

Дык от сядзела яна тады вечарам ля цёплай грубкі і вязала ходнік — балазе Сонька і Аня Васева прывезлі неяк ці не па мяшку розных трантаў, сваіх і дзяціных неданоскаў. І раптам святло ад машыны — шых па вокнах. Жыхнула і тут жа пагасла, а пасля зноў загарэлася, але ўжо ў двары. Дык яна і абрадавалася: гэта ж нехта з хлопцаў прыехаў няйначай! Пэўна, Вася. Ён неяк умудраўся выпрошваць машыны, каб да маці падскочыць. Яна хутчэй за вязанне сваё ды ў сенцы і лоб у лоб сутыкнулася ў дзвярах з Васем і Толікам.

— А бо, дзеткі,— загаманіла, не ведаючы, куды прыткнуць вязанне ў руках.— А я сяджу, і раптам — па вокнах як жыхне. Ажно гэта вы!

— Мы, мама, мы,— азваўся Вася, ён першы ў хату зайшоў, за ім ужо і Толік цераз парог ступіў.— Пераразваніліся во і рашылі пад'ехаць. Не чакала?

Яна нават ці не са злосцю адказала:

— Ай, сынок, не жартуй! Чакала, не чакала!.. Ужо нервы ўсе палопаліся, а ні ты, ні хто другі не едзе і не едзе.

— А што, мама? Ты ж не казала нічога. Што раптам? Ты напраўду злуешся? — Вася затрымаў руку на гузіку, не скінуў ватоўкі-целагрэйкі.

— А ты быццам не ведаеш? Усе ж даўно пакалолі! Па ўсім сяле прайдзі — ці знойдзеш у каго ў хлеве? У адной у мяне рохкае. Не пайду ж я прасіць каго, калі ў мяне дзеці ёсць! — усё яшчэ зласнавата гаварыла яна.

Вася засмяяўся:

— Такую бяду, мама, я рукамі развяду, як той Несцерка казаў. Сёння ж такое дзела і акруцім. Праўда, Толя?

— Акруцім! Збегаю зараз да Булыкі, хай падыдзе з лямпай і швайкай, і перастане ён у цябе рохкаць,— пасміхнуўся і Толік.

Яна таксама, як сумеўшыся ўспышкі злосці, палагаднела:

— Ага, сёння ж! А як жа! Такія руплі́ўцы, што нанач будзеце парсюка калоць і смаліць — людзям на смех! Добра от, што прыехалі. Заўтра раніцай і заколеце, як усе людзі. Я ж як ведала, што вы прыедзеце,— сёння яму ўжо і вячэры не давала...

На тым і парашылі. Толік, праўда, на сваім настаяў, перш чым вячэраць, збегаў усё ж да Булыкі, прынёс і швайку, і лямпу паяльную. Яна, Стэпачка, ужо і не пускала, казала, чаго бегчы, каб хто спытаў, па-суседску і заўтра тая лямпа прынясецца, але Толік не паслухаў.

— Пакуль ты, мама, вячэру збярэш, дык я і збегаю, прынясу,— сказаў.— Раніцою чалавек мо спаць будзе — нядзеля ж заўтра, а мы з Васем марудзіць не будзем. Як падымемся, так і за дзела. А лямпу тую і праверыць трэба, прачысціць, заправіць.

Яна пагадзілася:

— Ну, то не баўся ўжо там...

Павячэралі яны тады ўтраіх, яшчэ і нагаманіліся пасля вячэры. Леглі спаць позна нават і на зімовы час — за поўнач было далёка, калі яна ў комінак на стале дзьмухнула, лямпу патушыла. Але чаркі хлопцы не бралі, ні Вася, ні Толік, як згаварыўшыся ўсё роўна, таму і не заспалі, нацямку падняліся і адразу ў хлеў. Яна таксама пайшла з імі — і ліхтар занесла, на слупку павесіла, і парсючка вывела з загарадкі сюды, да дзвярэй, на сухое. Вывела, а сама хутчэй у хату, каб не чуць і не бачыць. І дзверы нават у сенцах зачыніла, і сама ў хаце ў запечак пайшла, нейкай работай занялася, каб не думаць пра тое. Ліха яго ведае, кожан раз так: гадуе, гадуе, ведае, што калоць трэба будзе, а як прыйдзе час, дык шкадуе вельмі, душа пачынае балець. А Вася з Толікам, хоць не надта часта і рабілі такую работу, гэтак лоўка дзела абдзелалі, што яна, выйшаўшы ўрэшце з хаты, і вачам не паверыла: парсючок ужо ляжаў на дзвярах ад хлеўчука, знятых з крукоў і пакладзеных на два круглячкі-метроўкі. Калі так, дык і яна марудзіць не будзе. Вярнулася ў хату, дастала з печы і выліла ў вядро гаршчок

гарачай вады, узяла два нажы, анучкі чысценькія, зноў выйшла да сыноў.

— Што, мама, самі будзем ці паклічам каго? — спытаў, курачы цыгарэту, Толя.

— Глядзіце, дзеткі,— адказала яна памяркоўна.— Абсмаліць і выскрабці і самі адужаем, а хіба разабраць клікнуць каго, га?

— А што, самі не разбяром? — запярэчыў Толя.— Падумаеш! Быццам той самы Булыка лепш зробіць!

— Дык жа я нічога, Толічак. Зробіце самі, не забыліся, дык рабіце,— яна змачыла ў вадзе анучку, спаласнула нож.— Ніхто ж нас не асудзіць, для сябе робім, як зробім, так і добра.

— Калі так, дык і пачнём,— узяў Вася ў рукі лямпу.— Канчай, Толя, курыць!

Хлопцы на змену тупалі вакол парсючка з лямпай, а яна, Стэпачка, завіхалася з нажом і анучкай. Парсючок відочна мяняўся, рабіўся жоўценькі, як велікоднае яечка. Беленькі быў парсючок, чысценькі, дык досыць раз-другі прайсціся па ім сінім гудлівым полымем і вострым нажом-скраблом, от ён і гатовы. Яна, Стэпачка, бачачы тое, прасіла ўжо хлопцаў, каб не вельмі і падсмажвалі, не перапякалі скурку, бо трэскацца будзе.

— Вы адхіліцеся, дзеткі, адсапніцеся, а я абмыю яго добранька, і калі дзе што трэба падправіць, дык там яшчэ разок пройдзецеся.

Вымыла Стэпачка парсючка, выскрабла-вычысціла ўсе чатыры капыткі, вушы, лыч, збегала ў хату, прынесла яшчэ паўвядра гарачай вады і анучку чысцейшую. Яшчэ раз, ужо начыста, змыла-спаласнула парсючка і дзверы, на якіх ён ляжаў, пасля паставіла побач, у снег, бляшаную балею, каб кішкі і трыбух выпусціць, і вышараваную лаву, каб сала класці.

Разбіраць заманіўся быў Вася, затупаў вакол, ды нешта ўсё не рашаўся, дзе падступіцца з нажом да парсючка. Толя не стрываў, забраў у яго нож і не надта ахайна, але рашуча разануў па шыі — яна ледзьве паспела тазік падставіць, каб кроў спаймаць. Галаву Толік сяк-так адрэзаў-скруціў, а далей і ён, як перад тым Вася, затупаў вакол, бы не ведаючы, што рабіць, з чаго пачынаць. Дык яна, Стэпачка, доўга не думаючы, як зазлаваўшыся на іх, сама ўзялася. Ногі ў коленцах паадрэзвала, грудзінку зняла, жывот ўздоўж успарола і, адклаўшы нож, пачала вантробы выварочваць, ловячы жоўць, каб не выпусціць незнарок і не запаскудзіць сала. Хлопцы, зважаючы на гэта, ужо і не парываліся за нож брацца, адно памагалі маці патрымаць што ды аднесці.

Яна пасля і сама з сябе здзіўлялася, што здолела разабраць парсючка і зрабіць усё дарэчы, хоць раней і не даводзілася ёй таго рабіць. Бачыць-то бачым шмат разоў, як той жа Іван Булыка разбіраў, от і сама, не паспадзяваўшыся на сыноў, разабрала і рада была.

Увесь той дзянёк, усю тую нядзельку, аж да позняй ночы, яна, мусіць, ці прысела. Вечарам хлопцаў спаць пагнала, бо меліся заўтра раненька ехаць, каб на работу паспець, зачыніла за імі дзверы ў другую палавіну хаты, а сама ўсё тупала і кешкалася: сала парадкавала, паляндвічкі, рэбры, па кавалачку ўсяго дзецям перадачы-гасцінцы паскладвала, усім пароўну, каб без крыўды. Пад канец наважылася спячы наліванак, бо падумала, калі хто яшчэ даўмеецца прыехаць, а кроў доўга, хоць і зіма, трымаць не будзеш, ды і кішкі, як свежыя, лацвей і пачысціць, і наліць іх, спячы. А яшчэ ж і тое падганяла, што, ведала, усе яе дзеці, пачынаючы з Сонькі і канчаючы Косцікам, надта ж наліванкі любяць. Яны, бывала, раней яшчэ, як малыя былі, калі ў іх калолі парсючка ці свінку, найперш прасілі, каб яна, маці, наліванак нарабіла. У абед яна выцягне з печы гаршчок, а з яго — пах на ўсю хату. Яна ж спачатку налітыя кішкі на патэльні абсмажыць, каб яны акрэплі, каб сама кішачка пасля на зубах хрумсцела, а пасля ўжо іх у гаршчок зложыць, тлушчам зальё ды ў печ напаленую. Дык яны так ужо ўпрэюць-усмажацца, што і праўда аб'ядзенне, за каўнер не адцягнеш. Дзеці наядуцца, пасля да вечара толькі ваду п'юць... От яна і цяпер наважылася — недаспіць, а наліванак наробіць-напячэ.

Лягла яна пад раніцу, лічы. Ды і то — як там лягла! Нават не распраналася. Адно буркі з чунямі з ног скінула ды безрукаўку з плячэй. А так, як была, скруцілася абаранкам на канапцы пры перагародцы, акрылася ватоўкаю і падрамала трошкі перад тым, як пабудзіць Васю і Толіка. А можа, і не паспела падрамаць, мо проста так, змружыўшы вочы, паляжала — не памятае. Іншае засталося ў галаве. На ўсё жыццё засталося. І цяпер во стаіць перад вачамі, як толькі заплюшчыць іх ды ўспомніць...

Але, але, не залежалася яна, не заспала той ранічкаю. І хлопцаў парою разбудзіла. Яны таксама не разлежваліся, адразу ж падхапіліся. Пакуль апраналіся ды вочы прамочвалі, яна кінула на прыпек трэсачак, распаліла іх, падсунула да агню скавародку, накрышыўшы-нарэзаўшы ў яе сала, пячонкі, цыбулькі — на скорую руку сняданак. Прыселі Вася і Толя да стала, паторгаліся трошкі ў тую скавародку відэльцамі — так, дзеля прыліку, каб адно не крыўдзіць яе, матку, бо не хацелі есці, учора, перад сном, здаволіліся свежынай, і пайшлі на двор, да машыны.

Яна, ладуючы гасцінцы, з хаты чула трошкі прыглушана, як яны там гаманілі між сабою, дзверцамі ляпалі ці яшчэ чым. Потым Вася ў хату зайшоў, папытаў:

— Мама, забыўся сказаць учора, каб ты вады ў печ паставіла. Не здагадалася?

— Ёсцека, сынок, ёсцека! — памкнулася яна да печы.— Я заўсёды нанач у цёплую печ стаўлю гаршчок. Ці карове, ці свінчаці...

— Дык дастань, мама.

Дастала яна яму з печы гаршчок вады, пераліла ў вядро. Вася за тое вядро і на двор. Зноў яны ўдвух там доўга нешта гаманілі і калупаліся. Так доўга, што яна затурбавалася ўжо, накінула на плечы ватоўку, выйшла на ганак, на камень-круглей, што ледзь вытыркаўся з-пад снегу.

— Што ў вас, дзеткі? Не заводзіцца? — спыталася.

— Завядзецца,— памяркоўна адгукнуўся Вася.— Застыла на марозе.

— Мо Булыкавай лямпай падагрэць? — азваўся Толік.

— А ты не занёс?

— Не, стаіць у сенцах.

— То што ж ты маўчаў? — як папракнуў яго Вася.

Распалілі яны тую лямпу і, як загуло сіняе полымя, палезлі з ёю да машыны. Яна, Стэпачка, не ведае, што яны там грэлі, у той машыне. Паглядзеўшы на тое, яна зноў вярнулася ў хату. І ў хаце пачула ўжо, што машына завялася — матор спачатку затахкаў-зачмыхаў, а пасля загудзеў моцна, ажно завыў на двары.

Зайшоў у хату Толя, сказаў:

— Ну, усё ў парадку, можна ехаць... Вазьмі, мама, кубак ды палі мне на рукі. І мыла дай.

Паліла яна Толіку на рукі. Выцер ён іх хвастачом, што вісеў пад чалеснікам, зашпіліў паддзёўку, зноў пайшоў з хаты, сказаўшы:

— Што ён яшчэ там робіць? Казаў жа — усё!

Толькі, здаецца, бразнуў Толік дзвярамі сенечнымі, толькі, здаецца, сказаў нешта да Васі — гучна сказаў, яна пачула ў хаце, як неўспадзеўкі шаснула нешта на двары — от усё роўна быццам вецер пасцілкай матлянуў, павешанай на плот, а пасля як маланка бліснула, жыхнула па акне, і ў хаце відна зрабілася. А божачкі, а што ж гэта?!

Кінулася яна ў сенцы, піхнула дзверы ў двор — а там хоць іголкі збірай. У яе ўваччу пацямнела — машына Васева, «козлік», як ён яе зваў, полымем палае, а непадалёк, пад плотам, хлопцы, сплёўшыся, у снезе качаюцца, храпуць, мацюкаюцца. Сэрца ў яе абарвалася, закрычала яна нема, да дзяцей матлянулася.

— А Васечка, а Толічак, а што ж гэта? А дзетачкі!

Малыя былі дзеці, дык ведала яна, што рабіць, не думала, не вагалася, кідалася, як птушка кідаецца, дзяцей баронячы ці ратуючы. А тут разгубілася, рукі ломіць, галосіць, бачачы, што гарыць, куродыміцца адзежа і на Васю і на Толіку, у аднаго твар чорны, і ў другога бровы і валасы абсмылелі...

Не ведае, колькі яны там, утраіх, важдаліся-тузаліся, пакуль людзі набеглі. Набегчы то набеглі, але ўратаваць машыну ўжо не маглі — пыхнула яна свечкай, верх брызентавы ўмэнт згарэў, і сядзенні скураныя, і колы рызінавыя. Адны рэбры засталіся, і яны доўга яшчэ смылелі і куродымілі, хоць іх і вадою палівалі, і снегам закідвалі, і мокрымі рызаўкамі і ходнікам акрывалі. Адно людзі добрае зрабілі, што хату ўратавалі, не далі ёй заняцца і пайсці дымам...

Пасля толькі, як разышліся ўсе, як ужо з хаты і Таська-фельчарка пайшла, пазмазваўшы і пазабінтоўваўшы Васевы і Толікавы рукі і галовы, уведала яна, што здарылася.

Толік у хату пайшоў рукі памыць, а Вася парашыў бензіну ў бак даліць, бо, падумаў, не хопіць даехаць да горада. Дастаў з-за задняга сядзення каністру поўненькую, адкруціў накрыўку з бака і пачаў даліваць бензіну. Ну, ведама, як ні асцярожна ліў, а ўсё ж разліў, асабліва спачатку, казаў, пакуль злаўчыўся ўлавіць струменьчык і пацэліць ім у гарлавінку бака.

А тут выйшаў з хаты Толік і, не бачачы яго за машынай, спытаў:

— Дзе ты там? Казаў жа — усё ўжо?

І, ідучы да машыны, на хаду закурыў. І ці то запалкай пстрыкнуў, ці то з цыгарэтай блізка паткнуўся, а толькі — бліс і ўспыхнула. Вася каністру з рук выпусціў, бензін ім абодвум на калашыны, на паддзёўкі. Толік, добра, не разгубіўся, штурхануў Васю пад плот, далей ад машыны, у снег глыбейшы, і сам на яго ўзваліўся, каб агонь збіць і з яго, і з сябе.

Вася на Толіка сердаваў, нават біцца кідаўся, але ж хіба ён вінаваты, хіба знарок з той цыгарэтай паткнуўся? Каб знаццё, дык бы патрываў. Яна, Стэпачка, мірыла іх, не давала злосці разрасціся, як на малых прыкрыкнула, нават наказала і Ані Васевай не гаварыць, што Толік прычыніўся да пажару, навошта, каб і яна пачала думаць лішняе, каб яшчэ было і сямейнае варагаванне? Ніхто ж таго не хацеў. Гэта ўжо доля такая, не інакш. Так усё добранька было. І прыехалі во, як браты, удвух, памагчы матцы, і зрабілі ўсё добранька, і гарэлкі той у рот не бралі надта — Вася, як за рулём, зусім адмовіўся за вячэрай, нават і не панюхаў, і Толік так, для апетыту паўнанарстка і выпіў усяго.

І на табе!

Цяпер, як дваццаць гадоў мінулася, яна ўспамінае пра тое спакойна ўжо. Ну, было, ведама, было, але даўно, і сама пасля таго гараджанкай задзелалася, і нават перахрысцілася на цётку Стэфу. А па першым часе? Думала, што не перажыве. Як усё роўна ў галаве нешта парушылася. Яна ж добра і не памятае, што рабіла, што крычала, аб чым людзей прасіла, як людзі збегліся. Рабіла, ведама, нешта, бегала, туды-сюды кідалася, нешта з хаты выносіла, людзям падавала, а ў самой уваччу полымя тое шугае і трашчыць. І не так, мусіць, трашчыць, як пішчыць, быццам сквярэцца. І Вася з Толікам апаленыя, з чорнымі тварамі, бязбровыя і нават без веек, ад чаго вочы парабіліся ў іх такія зіркатыя, як голыя ўсё роўна. Яна ж бы нікому не паверыла, што жалеззе можа гарэць гэтак, такім смярдзючым і чорным дымам сыходзіць, што ўся хата, уся сцяна, каторая ў двор выходзіла, счарнела. Гэта ж шчасце яшчэ, што хата не занялася — машына блізка стаяла, мусіць, як з каромыслам прайсці, мо далей. Снег людзі кідалі, дык ад яго, здаецца, яшчэ лепш гарыць бензін той. І вада не памагала. Полымя збілі адно пасцілкамі мокрымі. Але што ўжо ад той машыны засталося, як збілі? Як ад казла таго, што — рожкі ды ножкі. Драбы абгарэлыя.

Вася пасля, праз тыдзень, пэўна, прыехаў з людзьмі забіраць тыя драбы. На дзвюх машынах прыехалі, з кранам. Адна вялікая такая машына, у кузаў не ўзлезці — так высока. Падняў кран тыя драбы, у кузаў апусціў — дык і схаваўся спалены Васеў «козлік», як быццам там яго і няма. Яна, Стэпачка, знізу і не бачыла ўжо тых чорных драбаў.

Ну, а Вася не выдумляў нічога, як было, так і расказаў на рабоце. Казаў пасля, там нейкую камісію стварылі, ацэньвалі таго «козліка», на якім ён рабіў і які спаліў, і прысудзілі аплаціць яго. Папраўдзе, дык не прысудзілі, бо суда не было. Каб ён самаволам паехаў у Альхоўку, дык мо і судзілі б. А ён папрасіўся з'ездзіць да маткі, яму дазволілі на тым «козліку» з'ездзіць, то і не судзілі, адно — абавязалі аплаціць. Лёгка сказаць — аплаціць. А чым? Усё з сябе спусці. Што надта было тады ў Васі? Жаніўся перад тым гады чатыры назад, Леначка, дзіцятка, паявілася, хату ж толькі-толькі займеў, у той хаце пуста яшчэ было, адно ложак, каб спаць, ды стол, каб паесці. І тут на табе — яшчэ бяда такая. Яны думалі-думалі — што рабіць? Сонька казала, усім скінуцца, хто колькі можа, па-брацку. Яно, ведама, каб тое зараз, цяперашняй парой, то чаму б і не? А тады — што мог Міша скінуць ці Толік з Косцікам? Яшчэ беднавата тады жылі. Неяк не ўмелі жыць, ці не было з чаго, а толькі ж, памятае, ні ў кога запасу не было. У яе ў самой — ні капейкі за душой. І яшчэ ж і другое. Брат ці сястра,

ведама, не пашкадавалі б, а — братавая, а муж сястрын? Вася на тое Соньцы — дзякуй, сястра, але — не трэба, неяк выкручуся. А як выкруціцца?

От і дадумалася яна прадаць хату, хляўчук, кароўку. Хопіць і доўг аддаць, і сякую-такую капейчыну на смерць сабе пакіне. І прадала. І вясною тою, шэсцьдзесят чацвёртага года, яна ўжо не сеялася ў Альхоўцы. Сёй-той казаў, што дарма, што магла б і засеяць соткі, ніхто яе за гэта не папракнуў бы, але яна адмовілася, не захацела. Не! Калі ўжо няма тут яе хаты, няма тут яе самой, дык не будзе яна апастыляцца, не будзе нічога рабіць. Нават і грады не пасадзіць. Адно — калі ацалее якая ягадзіна ці яблык, дык пад'едзе, збярэ, гэта не сорамна будзе, бо яе рукамі пасаджана, а калі не яе, дык Раманковымі. Прадала, а сама перабралася ў Мінск, да сына, перабралася во роўна дваццаць гадочкаў назад, аказваецца.

Вася не пагаджаўся, каб яна хату прадавала. На карову — згаджаўся, а на хату — не. А што з каровы той? Гэта цяпер, людзі кажуць, кароўка цягне і на восемсот, і нават на тысячу, калі добрая і маладая. А тады? Смешна казаць: трыста восемдзесят рублёў яна за сваю ўзяла. Староватая ўжо была, дзевятым целем хадзіла, і з выгляду не надта каб, як іншыя каровы — і вымя таго між ног няма, і ў крыжы вузкая, і віхору на лобе няма — значыць, малако не тлустае, вадзяністае. А яшчэ пасля зімы Красуля яе зусім на Красулю не падобна — худая, поўсць паклычаная, лепяхамі вісіць. От трыста восемдзесят і даў чалавек з Родзевіч. Прыйшоў, паглядзеў, сказаў цану, дык яна і не пярэчыла.

А хату Вася не хацеў, каб прадавала. Дык яна ўжо тады сама як заўпарцілася. Пачала ўжо і на яго: ці ж я ўжо столькі месца займу ў цябе, сынок? Што, мне ўжо ў цябе з Аняй і кутка не знойдзецца? А ці ж заўсёды я здаровая буду? Шэсцьдзесят ужо. Што, мне і акалець тут некалі давядзецца адной? Вася аж пакрыўдзіўся. «Мама, я адно кажу, а ты — другое. Я і сам хацеў табе сказаць, каб да нас з Аняй перабіралася, але каб і хата наша тут стаяла, а ты...» Ай, сынок, запярэчыла яна яму, хата будзе стаяць, калі жывуць у ёй, а без прыгляду, без гаспадара доўга не пастаіць. А ў цябе во бяда, дык хай яна апошнюю добрую службу нам саслужыць. Лічы, не я табе памагаю, а бацька, які ставіў гэтую хату, ставіў, каб і самому жыць, і каб дзецям, хоць катораму з дзяцей, дасталася. От выпала так, што табе яна, Васечка, і дасталася, і ты на бацьку не крыўдуй, прымі, як яго дарунак табе.

Гаварыла так сыну, а сама чакала, спадзявалася, што ўпрэцца Вася, не прыме такога падарунка, адгаворыць яе, не дазволіць рашаць іхняга дворышча ў Альхоўцы. І гэта не цяперашняя яе выдумка.

І тады яна вельмі хацела таго, жадала, каб адгаварыў яе Вася прадаваць хату. Дык жа — не адгаварыў. Хутка пагадзіўся. Сказаў: «Ну, як ведаеш, мама. Куток табе заўсёды ў мяне знойдзецца, а тут — рашай сама, каб пасля не крыўдавала, каб не думала, што я цябе сваёй бядою ці дурноццем падбіў на тое...» Што ж ёй пасля гэтага заставалася? Назад ужо адступаць не было куды. Апавясціла людзей, што прадае хату, а разам з ёю і пуньку, і хляўчук. Зноў жа, насуперак парадам пакінуць што-небудзь на сядзібе, не спяшацца, каб адразу ўсё падчыстую. Калі рашаць, дык ужо ўсё. Дзеці сюды не вернуцца, не падобна, не паказвае на гэта, значыць, і ёй не грэх заплюшчыць тут на ўсё вочы. Ну, год, другі, трэці пасядзіць яна тут адна, як сава ў дупле, а — тады? Хто тады вады падасць, хто грубку прапаліць, хто рукі, урэшце, сашчэміць на грудзях, як аледзянеюць? Паедзе і яна да дзяцей. Услед за дзецьмі. Мо ўжо і праўда такі век надышоў, што не пакідае на месцы нікога, круціць, шматае і гоніць кудысьці ўсіх, як асенні вецер-узвей апалае лісце?

Дваццаць гадоў мінулася. Шмат, здаецца, а прабеглі — ці згледзела? Як адзін дзянёк быццам. Калі па сабе мераць. Адно — унукі неўпрыкмет падрасталі. Яны найперш і станавіліся для яе вешкамі, што пазначалі пражытыя ёю ў горадзе гады. Гэта ж ужо даўно яна не толькі бабка, але і прабабка. Пацыўкае яшчэ, дык праўнучка, Соньчына ўнучка, зробіць яе немаведама якой бабкай, што ўжо і не вымавіць. А як на сваё жыццё азірнецца, дык быццам і не было гэтых дваццаці гадоў. Хуценька прабеглі. Пэўна, таму, што ўсё-ткі ў горадзе, не ў сяле. Лягчэй, лацвей у горадзе жыць. Але ў сяле затое — цікавей. У сяле гады чалавек лічыць, а ў горадзе — дні, бо ўсе тыя дні — як адзін. Бягуць чарадою, як вагоны — надта ж аднолькавыя ўсе. У сяле чалавек зіму перачэквае, вясну, летца і восень працуе, потам абліваецца, от і лічыць жыццё сваё і суседскае на гады: от і яшчэ гадок прайшоў, а там перазімуем і зноў вясенька надыдзе, а вясною грэх паміраць, вясною і муха жыве, і жаба спявае, а не толькі салавей...

Ай-яй-яй, маладых папікала, а ў самой во не галава, а рэшата, спахапілася нечакана Стэпачка. Тэлевізар каторы час робіць, а яна, як пані, ляжыць сабе і не шманае.

Паднялася, тузанула штэпсель з разеткі ці не злаcнавата, бо на экране не то бегалі, не то скакалі, а яна глядзець не можа на той спорт. Яна ўжо, каб умела, даўно б напісала на тое тэлебачанне, каб не круцілі штодня столькі спорту. Чаго яго круціць, каб хто спытаў? Калі каму хочацца, дык хай ідзе на стадыён ды скача, бегае ці на галаве стаіць. А па тэлевізары лепш кіно хай пакажуць ці пастаноўку,

папяюць хай ці раскажуць што, як вунь пра звяроў чалавек расказвае...

Выключыла тэлевізар, а рабіць усё адно няма чаго. Пастаяла Стэпачка, падумала, пайшла ў ванну, анучку ўзяла, прынялася пыл выціраць, якога няма, бо па пяць разоў усюды з анучкай за дзень пройдзецца. Выцірае і зноў пра тое ж думае і думае. Хочацца ёй даўмецца нарэшце, што больш за ўсё шкрабянула яе ў Альхоўцы і ў Ганаровічах, ад чаго гэта яна быццам занядужала. Лічы, ужо два дні, як зноў у горадзе, а ўсё ачомацца не можа, усё нешта грызе яе і грызе, спакою не дае. Можа, ад таго ўсё, што мацерына і татава магілкі не дагледжаны? Ведама, забалела ў яе душа, як убачыла, што магілкі тыя амаль з зямлёю зраўняліся. Цяпер жа вунь якія помнікі і агародкі ставяць людцы! Але ж тады, як сабраліся яе тата і мама, не было такой завядзёнкі. Сціпла хавалі. І труны ніхто, пэўна, не абіваў і не фарбаваў, і агародку калі ставілі, дык хіба драўляную, штыкетнікавую, і помнікаў каменных не было на могілках. Здаўна крыж на магіле ставіўся. Дзіцятка памірала, дык маленькі крыжык, а як сталы чалавек аддаваў богу душу, дык і крыж, адпаведна, большы ставіўся, сёй-той, хто мог, і вялікі, у два росты чалавечыя, доўгі і тоўсты, як падняць, дубовы крыж ставіў — каб не на год-другі, а надоўга, на дзесяткі гадоў. І яна пахавала тату і маму па той яшчэ людской завядзёнцы, і, пэўна ж, не ў крыўдзе былі на яе за тое яны. І таму, ведама, не праз гэта другі дзень блага ёй, адзінока і журботна. А чаго ж тады?

Не дадало ёй весялосці, ведама, і тое, што пабачыла ў Альхоўцы. Што ж хацець, час і там не стаяў на месцы. Вечнага нічога і нікога няма. Усё, што нараджаецца на зямлі, што ўзнікае на ёй, усё, прыждаўшы свайго часу, памірае, разбураецца. Горка ёй было хадзіць зарослымі сцежкамі і не пазнаваць таго, што калісьці ведала да драбніц і без чаго не ўяўляла жыцця свайго, але ж, зноў-такі, не гэта асела ў галаве і не гэта меле там, пытлюе ў цяжкіх жорнах думкі-зерні.

Урэшце, і не ад таго ж Стэпачцы журботна, што не доўга і ёй, як яе альхоўскім таварышкам, засталося быць тут, на гэтым свеце. Думала яна пра гэта ўжо неаднойчы і неаднойчы заікалася перад Толікам, каб не хаваў яе на гарадскіх могілках, а завёз у Альхоўку, да людзей, з якімі жыццё зжыла. Наадварот, здавалася б! Выбрала яна там месцейка, наказала Зосі, каб не забылася, падказала дзецям, дзе яна хацела б легчы пад крыж ці пад камень,— як паставіла апошнюю вешку на сваім жыццёвым шляху. Павінна была б яна супакоіцца, а то, бач, растрывожылася.

А можа, гэта яна, Стэпачка, здзяцінілася ўжо? Можа, проста, як малое дзіця, гуляе ў хованкі сама з сабою? Яна ж добра ведае, што

смокча, што гняце яе пасля паездкі ў Альхоўку. Усё ўваччу стаіць той прагал, дзе некалі была ў вёсцы, у шэрагу іншых хат, іхняя з Раманком хата. Яна тады ішла ад Зосі раніцаю, пазірала па абодва бакі ад вуліцы і міжволі адзначала сама сабе, ці ўсе хаты на месцы. Яна ўзіралася ў іх, як у людзей, і бачыла не так хаты, як тых, што калісьці, за яе часам, тут жылі ў іх, і ёй было горка бачыць, што вунь тая хата і гэтая зглухлі, аслеплі, памерлі. Калісьці Банукова хата глядзела на вуліцу адкрытымі, добрымі, гасціннымі вачамі-вокнамі — гэтак жа, як глядзела на свет і на людзей старая Банучыха, яе гаспадыня, а хата Анюты Гэрцавай, наадварот, пазірала на вуліцу праз навісь вішанніку ваўкавата, злосна, нібы цікавала за кожным, хто праходзіў паўз яе,— акурат як сама Анюта.

Найбольш балюча было ёй бачыць прагалы на месцы колішніх альхоўскіх хат. Памятае, за той жа апусцелай, па-нежыламу паніклай Анюцінай хатай адчула яна раптам, што вочы яе не знаходзяць нейкага апірышча, глядзяць, бы ў пустэчу. А яна ж памятала, праз усе гады памятала, што тут пагляд заўсёды ўпіраўся... Ну, ведама! Упіраўся ў Юлікаву хату, якая выпхнулася адным, не надта і лупатым, вокамакном на самую вуліцу, так што, хоцькі-няхоцькі, ты вымушаны быў павярнуць галаву і зазірнуць хоць бы на кароткае імгненне ў тое акно. А тады, ідучы ад Зосі, яна раптам спатыкнулася аб пустэчу. Не адразу і зразумела, што з ёю, чаго гэта яна спатыкнулася. Толькі потым дайшло: гэта ж няма Юлікавай хаты. У яе чамусьці аж сэрца забалела. Хай, хай і праўда недарэчна стаяла хата — каторая машына, едучы вуліцаю, ледзь кузавам па сцяне не торгала. Але ж - стаяла, і жылі ў ёй людзі, Юлік той самы са сваёю Гэлькаю і дзецьмі, а цяпер во пуста, як і не было на свеце ні Юліка, ні ягонай хаты, у якой акрамя ўсяго добрых дзесяць пасляваенных гадоў была калгасная кантора і якая заўсёды, з саменькай раніцы да позняй начы, поўнілася людзьмі, гаманою і з якой улетку праз расчыненае акно на вуліцу выходзіў такі густы тытунёвы дым, бы, не раўнуючы, з Каралёвай лазні, калі яе грэў стары Кароль.

А пасля яна дайшла да сваёй хаты. Не да хаты, а — да прагалу. І тут яна ўжо зусім раскісла, разлезлася, як старая апенька. Вусцішна чамусьці зрабілася ёй. І Раманок адразу ж згадаўся. Ці думаў ён, ці гадаў калі, ставячы хату на бацькавым котлішчы, што напаткае яе такі лёс, што будзе яна прададзена нейкаму чорту лысаму з Пуцілава і што тут, у Альхоўцы, след яго, Раманка, знікне начыста? Пэўна ж, не думаў. Думаў ён зусім пра іншае. Яна ж, Стэпачка, ведае. Раманок думаў, што і сам будзе жыць у ёй доўга і шчасна і што пасля сын, хутчэй за ўсё Косцік як малодшанькі будзе тут гаспадарыць, гадаваць

сваіх дзяцей, а пасля Косцікаў сын... А як жа інакш! Тым і жыве чалавек. Тым і падтрымлівае сябе на гэтым свеце. Што не будзе зводу ягонаму роду, што калі сам і памрэ, як усе людзі паміраюць, дык семя яго прарасце і дасць узыход і пастаўленая ім, бацькам, хата дасць прытулак таму новаму ўзыходу, няхай сабе і на кароткі час, але ўсё ж такі дасць.

І вось няма тут ні Раманка — няма нават там, на могілках, няма ні хаты, пастаўленай ім для дзяцей і ўнукаў, няма, само сабою, і тых самых дзяцей, і тых самых унукаў. Ёсць толькі вось ён, прагал! Адзін прагал між хатамі. Зеўрае, як вырваны зуб у чалавека ў роце. Дык жа чалавек не надта і выстаўляе тую сваю зеўрыну, за губамі трымае. А тут — чым і хто прыхавае? Крычыць на ўсё сяло, на ўвесь свет белы гэты прагал. Маўкліва крычыць, але чуе ягоны крык яе, Стэпаччына, сэрца. Як учула той раніцаю, так і не моўкне ў ім той крык.

І вінавата толькі яна сама, Стэпачка. Аніхто больш. І віна гэтая, адчувае, ведае ўжо, нязбытная. Ад таго яшчэ больш балюча сціскаецца ў старэчых грудзях стомленае сэрца. Яна ўжо ў такім веку, што анічога не паправіць. Не паставіць яна ўжо новай хаты, каб прапаў, не зеўраў на вуліцы той прагал. Не верне з таго свету ў тую хату Раманка свайго, каб разам з ім прыдумаць нейкую радачку. Калі б нават і была на свеце тая казачная жывая вада ды памагла ёй ажывіць Раманка, дык усё роўна яны ўжо і разам нічога не направяць.

Вярнуць гады назад не можа нават і жывая вада. Час — незваротны. Кожнаму стручку лопацца ў сваю пару...

Уплятае ўнучка за абедзве шчакі не полудзень і не вячэру, а хутчэй за ўсё — падвячорак па часе, а не па сытнасці, а яна, Стэпачка,— насупраць яе, па другі бок беленькага кухоннага століка. Сядзіць, падпёршы рукамі падбароддзе, і глядзіць на ўнучачку, і так ёй усцешна, што Людачка і разумніца, і здаровенькая, і прыгожанькая, нібы тая лялечка купленая з бялюсенькімі расчасанымі валосікамі і даўгенькімі густымі вейкамі. Усцешна, а на душы ўсё тое самае скрабецца, і таму, пэўна, не надта радасна глядзяць яе старыя вочы. Людачка заўважае гэта і, ледзьве варочаючы языком у паўнюткім роце, кажа-шапялявіць:

— Чаго, бабуля, невясёлая?

Яна, Стэпачка, не разбіраючы, перапытвае:

— Што кажаш, кнігаўка?

— Кажу — чаго невясёлая, дык не чуеш, а чаго хандрыш — не разумееш. Як з табой і гаварыць тады, бабуля, га?

— Ах ты, блазнотка! Ужо і здзекуешся...

Людачка, адсунуўшы пустую талерку і прымаючыся за кубачак малака і булку, ужо сур'ёзна кажа:

— Я і ўчора бачыла, што ты нечага занурылася. Але не пыталася, бо — перадыхнуць не мела часу. А ўжо сёння, будзь ласка, раскажы мне пра ўсё.

Стэпачка ківае галавой:

— Хіба ж я не бачыла! Учора цябе чапаць няможна было... А нявесела мне, унучачка, пасля паездкі.

— Чаму? Ты ж хацела.

— Хацела, ведама. Ці цеперся была! А з'ездзіла, дык і так выйшла, што адзін камень скінула з грудзей, а другі ўзваліла. Як угледзела ў Альхоўцы той прагал...

— Які прагал, бабуля?

— А на тым месцы, унучачка, дзе хата мая стаяла. Наша з Раманком хата.

Людачка перастае жаваць булку, глядзіць на бабулю, здзіўляецца:

— Хіба толькі цяпер убачыла?

Стэпачка апускае галаву, уздыхае:

— От і выходзіць, што цяпер. Раней у вочы не кідалася. А цяпер кінулася. Прагал. Пустка. Як і не было. Ніколі. Не па-людску гэта. Кепска гэта, унучачка.

Людачка колькі часу маўчыць, кусае булку і запівае яе малаком. Страсянуўшы сваімі бялюткімі, як вытрапаны і выбелены лён, валасамі, кажа:

— Сантыменты, бабуля! Ну, я не кажу, веру, што вясёлага ў гэтым мала, але — перажывём, бабуля! Сама колькі разоў казала мне, што карані свае ты там абсекла. Чаго ж плакаць па шапцы, галаву страціўшы?

— Не ведаю, кнігаўка, а от плачу. Не хачу, а плачу. Заплюшчу вочы, убачу — і сэрца заходзіцца. Не то ад жалю, не то ад крыўды. А на каго — дык і не ведаю.

Унучка, дапіўшы малако і спаласнуўшы посуд, кажа:

— Цяпер я, бабуля, кладуся на тахту, выпростваю ногі і ляжу, не варушачыся, хоць бы тры з паловай тысячы секунд — хай параўнуецца спруцянелая спіна, хай адпачнуць клубы, вызваленыя з джынсаў, хай адыдуць ногі ад красовак. Ляжу і расказваю табе нешта, і ты забудзешся на свой прагал, не будзеш вешаць галавы і думаць ліха яго ведае пра што. Пайшлі, бабуля!

І вось яны абедзве ляжаць. Яна, Стэпачка, на сваёй тахце, на баку, абапёршыся на локаць і падпіраючы далонню галаву, а Людачка

— расцягнуўшыся на ўвесь рост, на спіне, паклаўшы галаву не на ясік і не па качалку-падгалоўнік, а на матрац. Не відаць Стэпачцы, ці глядзіць Людачка ў столь, ці вочы ў яе заплюшчаны. Адно бачыць — Людаччыны вусны. Яны варушацца. І чуецца ўнуччын голас:

— Не аб тым плачаш, бабуля. Там, у Альхоўцы, на тваім прагале нехта паставіць хату, і яго не будзе, прагал знікне. А як запоўніць прагал у маёй душы?

Няўдаліцамі мы выраслі, бабуля. Сляпымі, глухімі, нямымі. Ходзім па зямлі, як прышэльцы з іншай планеты. Якую траву топчам — не ведаем, якія кветкі рвём — не ведаем, якія дрэвы ламаем — таксама не ведаем, якіх птушачак слухаем — зноў жа, бабуля, не ведаем. З усіх кветак, лугавых і палявых, на нашу долю застаўся адзін дзьмухавец, з усіх птушак — вераб'і ды галубы, з усіх насякомых — паласатыя восы. Ды гэта яшчэ што? А якія песні мы пяём? А якія танцы танцуем? А якой моваю між сабою гаворым? Ах, бабуля, якія прагалы ў нашых душах, якія прагалы!

Раней я дурная была. Смяялася, калі гаварылі пра душу. А душа, аказваецца, ёсць! І што не памірае яна — таксама праўда. Не памірае, а пераходзіць ад дзеда да бацькі, ад бацькі да сына, ад сына да ўнука і гэтак далей. Бясконца. І ў кожным новым пакаленні чалавек усё багацейшы і багацейшы, бо душа яго, як эстафета, пераймае душэўны набытак усіх, хто жыў да яго. І не выбарачна трымае душа гэты набытак усіх, хто жыў да яго. Не можа яна нешта адкінуць, а нешта прыняць. У ёй хапае месца ўсяму. Яна неабдымная, і чым больш прыняла, тым багацейшы чалавек. Душэўны набытак не можа быць дробязным альбо важным. Мер вагі, даўжыні, аб'ёму для яго не існуе, і адно ў душэўным набытку нельга замяніць іншым. Гэта — як талент. Альбо ён ёсць, альбо няма. У чалавека можа быць у хаце шмат дарагіх рэчаў, а душа — пустой. І наадварот. Разумееш ты гэта, бабуля? Ды што я пытаюся! Ты ў мяне ўсё разумееш.

Тое, што ў чалавека ёсць душа, я зразумела дзякуючы і табе. Назапашванне душэўных багаццяў ідзе з пакалення ў пакаленне. Таму і бессмяротны чалавек. І калі гэтая эстафета раптам парушаецца, абрываецца, гэта абарочваецца катастрофай — для чалавека. Усякаеш, бабуля?

Вось ты. Пахавала ты сваіх тату і маму. Але яны не зніклі бясследна. Усё, што яны ведалі і ўмелі, яны перадалі табе. І з гэтым іхнім скарбам табе жылося лягчэй. Ты пераняла ад іх разуменне таго, што аснова чалавечага быцця на зямлі — праца, і ў цябе ніколі не ўзнікала сумнення ў тым, што чалавек можа жыць і не працаваць, ты пераняла ад бацькоў разуменне таго, што з людзьмі трэба жыць па-люд-

ску, што, каб паважалі цябе, ты павінна паважаць іншых. Ты навучылася ад іх разумець прыгожае і агіднае, добрае і благое, чыстае і бруднае, сумленнае і подлае, пошлае і высакароднае. І ты, валодаючы гэтым скарбам, нават не ведала, не ўсведамляла, што ён перайшоў да цябе ад бацькоў, як калісьці ім — ад іхніх бацькоў. Табе здавалася, што ўсё гэта прыйшло да цябе само па сабе, што яно было з табой з самага пачатку, з дня нараджэння, з таго часу, як ты ўсвядоміла, што ты — гэта ты. Пераняўшы ўсё тое ад бацькоў, ты зразумела, можа быць, самае галоўнае: што ты жывеш не дзе-небудзь, а менавіта тут, на гэтай зямлі, сярод гэтых рэчак, пагоркаў, лясоў і балот, сярод гэтых, тутэйшых людзей, што тут твая радзіма, твой пачатак і канец, твой сённяшні і заўтрашні дзень, будучыня тваіх дзяцей і ўнукаў. І ты думала, што так будзе заўсёды. А тут раптам гэты адвечны ланцужок вазьмі ды парвіся. І парванае звяно — гэта твае дзеці, бабуля. Мой тата. Мая мама. Сталася так, што яны, мо і не жадаючы таго, адмовіліся, адкінулі прэч многае з душэўнага набытку бацькоў. Можа, іх змусілі да гэтага. Адгаварылі. Ты ж таксама, памятаеш, казала сваім дзецям: на мяне не зважайце, дзеткі, я ўжо як-небудзь тут, а вы ідзіце, вам, пэўна, суджана іншае, чым нам, не крыўдуйце на нас, што мы вас падштурхоўваем, але — ідзіце, хай вам будзе лепей, чым было нам, ніхто нас за гэта не асудзіць, мы хочам толькі аднаго, каб вы былі шчаслівейшыя, а гэта спракавечнае жаданне і хаценне кожнага бацькі і кожнай маткі... Ты ж на будзеш адмаўляцца, бабуля, што казала так? Не будзеш, канечне. Ну, а ці сталі яны шчаслівейшыя? Ты ўпэўнена ў гэтым, бабуля? Скажы, упэўнена? Маўчыш. Бо не ведаеш. Бо не ўпэўнена. Мо нават ведаеш, што не сталі шчаслівейшымі.

Вось так, бабуля. Паразумеліся мы з табой, што твае дзеці, разляцеўшыся з роднага гнязда, выракшыся яго, забыўшыся на яго, не сталі шчаслівейшымі. Але самыя няшчасныя — мы, дзеці тваіх дзяцей. У іх хоць былі вы і вашы бацькі, іхнія дзяды, былі вытаптаныя вамі і дзядамі сцежкі, збудаваныя вамі і дзядамі хаты, выкапаныя вамі і дзядамі калодзежы, адшуканыя вамі і дзядамі крыніцы, сходжаныя ўздоўж і ўпоперак вамі і дзядамі лясы, балоты, палеткі, былі выпакутаваныя вамі і дзядамі, разам з далёкімі і блізкімі продкамі, песні, казкі, легенды, звычаі, святы... А ў нас? А ў нас — прагал. Прагал, бабуля.

Душа павінна мець прывязку. Каб яна не мітусілася, каб жыла цікава, напоўнена, змястоўна, душа павінна быць прывязана да пэўнага месца, павінна прыкіпець, прыжыцца на тым месцы. А мы? Месца нашага з'яўлення на свет — усяго толькі запіс у метрыках ці, пасля, у пашпарце. Месца нашага жыхарства, з аднаго боку,— стан-

дартная кватэра ў стандартным доме, з другога боку — уся планета, а там, дзе ў вашых душах былі прапісаны рэчкі з прыгожымі назвамі, лясы і пералескі, пагоркі і лагчынкі, дубы і бярозы, якія ішлі за вамі праз усё жыццё, у нашых душах — прагал. Чые мы дзеці, бабуля? Маўчыць прагал. Не адказвае. Не адзываецца. Прагал — пустэча. А пустэча ўмее толькі маўчаць. На тое яна і пустэча...

Ты спрабавала, бабуля, запаўняць яго ў душы сваёй унучкі. Дзякуй табе за гэта! Дзякуй за тое, што не дала мне заснуць, што збудзіла маю душу. Цяпер, я спадзяюся, яна ўжо не засне. Ты чуеш, бабуля? Галоўнае — зразумець гэта. І тады ўсё будзе добра. Усё можна паправіць. Паэт даўно сказаў: душа абавязана працаваць. Чуеш, бабуля? Працаваць! А ты плачаш над прагалам у Альхоўцы. Ах, бабуля, бабуля! Паплач лепш над сваёй кнігаўкай. Ты паплач, а яна — паспіць. Падрэмле. Трошачкі. Бо ў яе стамілася не толькі цела, але і душа...

Яна, Стэпачка, не надта што і зразумела з таго, што нагаварыла ўнучка. Але, здаецца, зразумела галоўнае. Што, мусіць, і праўда не трэба залішне думаць пра той альхоўскі прагал. Можа, як кажа Людачка, знойдзецца чалавек і зрубіць сабе хату на іхнім котлішчы, і будзе жыць шчаслівa, як калісь яна жыла са сваім Раманком і дзецьмі, і лёс таго чалавека будзе там шчаслівейшы, чым яе, Стэпаччын, і дзеці яго, можа, не разбягуцца, не выракуцца роднай хаты. Хай будзе так!

Зразумела, здаецца, і пра які прагал у сваёй душы гаварыла ўнучка. І паверыла, што і яго з гадамі не будзе. Бо калі пачала працаваць душа, дык ужо не перапыніцца гэтая праца. Пасля душа ўжо сама сябе падганяе. Калі і ёсць на свеце вечны рухавік, дык гэта — душа! Хай сабе Людачка і не казала такіх слоў, але ж — хацела сказаць гэта.

Ну, а калі так, дык ёй, Стэпачцы, не трэба нудзіцца. Значыць, усё-такі не марна жыла яна на свеце. Не памрэ яе душа разам з ёю. Нештачка з яе знойдзе сабе куточак у Людаччынай душы.

А што хаты яе не засталося на гэтай зямлі, на гэтым белым свеце — такой бяды. Хата ўсё роўна не вечная. Прыйдзе час — і на яе старым падмурку, на яе камянях-падвалінах трэба рубіць новы зруб, ставіць новыя стромыя кроквы, узнімаць новы сонечны дах. Нішто на свеце не вечнае. Адна душа — несмяротная! Адна душа...

І разгладзіліся маршчыны ў Стэпачкі на твары, палягчэла на сэрцы ў цёткі Стэфы.

# КІМ І ВАЛЕРЫЯ.

## ВЕРАСЕНЬ 1959 ГОДА

Пра Валерыю Кім упершыню пачуў ад маці...

Прыйшоў неяк з работы, сеў вячэраць, а маці вазьмі дый скажы:

— Бачыла ж настаўніцу новую. У краме напаткала...

Ён і вокам не міргнуў. Што яму да той настаўніцы — хоць новай, хоць старой? Каб тады, як атэстат у вячэрняй «зарабляў», дык мо і не прайшло б міма яго гэтае нецярплівае мацерына паведамленне. А цяпер? Настаўніцы шафёрамі не цікавяцца, ну, а шафёры — настаўніцамі. Вось так! Як еў, так і еў, не папярхнуўся — прамаўчаў.

Толькі ж маці быццам усё роўна, блізка прыняў ён яе словы ці краем вуха спаймаў. Ёй пагаварыць ахвота. У хаце ёй няма больш каму слова сказаць, цэлы дзень усё маўчком ды маўчком, хіба толькі ка ката раз-другі апсікне. А ўжо ж і сцямнела, хай не летні, але яшчэ і не кароткі дзень дагарэў — ці ж не намаўчалася? А тут сын дахаты прыйшоў, вячэраць сеў — чаму ж ёй нарэшце язык свой не пасушыць?

— Гэта ж соль скончылася. Накрышыла бульбы ў гаршчочак, хацела ў печ паставіць, каб табе тушаніна была, лап на пяколку ў ступку, а там — пуста, ні драбінкі. Забылася, што ўжо раніцай ледзь нашкрабала лыжкай на днішчы, каб табе блін пасаліц. От і пайшла ў краму. А там і яна, настаўніца новая...

Кіўнуў ён нарэшце галавою — чую, маўляў, хоць яму тое да лямпачкі, і сам сабе, цішком, хмыкнуў, пабачыўшы, што гэткім сваім кіўком адно падахвоціў маці.

— Дык я і кажу, Кімачка, маладзенькая новенькая. Пэўна, толькі-толькі навуку сваю прайшла. Дробненькая, танюсенькая ўся, як школьніца. Зусім падлетка! Ці ж будуць хаця слухацца яе ў школе?.. А з тварыку каб надта прыгожанькая, дык і не. Мо і зусім нават. І рот вялікаваты; і вочы лупаватыя, і лоб, як для дзеўкі, дык высокі нейкі. Але ж затое рухавая, жвавая — каб ты ведаў! Жыўчык! На месцы не ўстаіць...

Ён маўчаў. Добра ўжо і тое, што маці не ўпадабала новую настаўніцу. Значыць, можна спакойна вячэраць. Да гаворкі пра тое, што пара яму, Кіму, жаніцца, не дойдзе. А ўсё іншае — можна слухаць. Слухаць і ківаць галавою — пагаджацца.

— І надта ж да людзей прыёмная. Каторы ўсяго дзень у нас, а быццам наша, чырванаборская дзеўка. Да ўсіх загаворвае, на ўсё

азываецца, не бянтэжыцца — шчабеча і шчабеча, як ластавачка. А як усміхнецца, дык дзе тое і бярэцца — ажно прыгажэе, што ні ёсць красуняй робіцца, так бы і глядзеў на яе, так бы і глядзеў. Тварык у яе, сынок, такі чысты і добры, каб ты ведаў. Свеціцца дабратой, здаецца. Няйначай і душа ў яе добрая, даверлівая і спагадлівая. Гэта ж відаць у чалавеку адразу, Кімачка! Бывае, чалавек каторы прыкідваецца добрым, а нешта — вочы там ці рот — выдае: ніякі ты не добры, а зласлівец і зануда. Так і дабрыня — каб і хацеў схаваць, не схаваеш. Хаця — навошта ж яе хаваць, каб хто спытаў?.. Ага, дык пра што я? А пра тое, сынок, што некаму дзеўка будзе добраю жонкаю. І настаўніца акрамя таго. Не тое што ні зрабіць, ні сказаць... Дык я і думаю: а ці ж ты ў мяне зломак? Га, Кімачка?

Так і ёсць, маці свайго ўсё ж дамаглася: папярхнуўся ён!

Абяззброіла, праспала ягоную насцярожлівасць, выклікала ягоную даверлівасць, а тады знячэўку і сцебанула. Трэба ж умець!

Папярхнуўся ён, закашляўся, засмаркаўся ажно — так, што слёзы з вачэй пакаціліся. Скончылася тым, што падхапіўся з-за стала, не даеў, не дапіў, матлянуўся за дзверы. Дзякуй, мамачка!

Абрыдлі яму мацерыны гаворкі пра жаніцьбу. Пра што б ні пачала гаварыць, абавязкова звядзе да гэтага: маўляў, чаго марудзіш, сынок, чаму не хочаш, каб я мела шчасце ўнукаў паняньчыць? Ён спачатку жартачкамі адбываўся, пасля абяцанкамі-цацанкамі, а ўрэшце і злаваць пачаў. Што ўжо маці так рупіцца? Ці ж ён такі ўжо лысы кавалер, як за даўнім часам? Дваццаць пяць усяго. Ну, дваццаць шосты, калі ўжо на тое пайшло. Дык што — спазніўся, ужо не зможа ачалавечыцца? Убіла сабе маці ў галаву!

На каго ўжо толькі не намякала яму! І ўсіх чырванаборскіх дзевак перабрала — і каторыя дома пазаставаліся, і каторыя ў горадзе, і з суседніх сёл. І выходзіць па ёй, што ўсе такія ўжо добрыя і фацэтныя, што да любой тут жа бяжы ў сваты, бо перабягуць дарогу іншыя жаніхі, перахопяць. А на іх як не глядзеў ніхто, так і не глядзіць!

А цяпер во — настаўніцу новую ўгледзела. У краме пабачыла, ці паназірала за ёю і пяць мінут, а ўжо — і красуня, хоць з твару і не надта каб, і душа добрая, спагадлівая... Адным словам, бяжы, Кімачка, не пазніся, як пабяжыш, дык можаш адхапіць сабе жонку-настаўніцу, бо хоць ты і шафёр, але не зломак!.. Хоць бы павячэраць дала спакойна...

Выскачыў з хаты, выйшаў на вуліцу, пабрыў абы-куды. І як прайшоўся з канца ў канец вёскі, дык і супакоіўся, і ўжо ці не насуперак сабе нядаўняму нечакана падумаў, што, нягледзячы на ўсё, варта

было б усё-такі паглядзець, якая яна, гэтая новая настаўніца, і чым яна кінулася маці ў вочы...

А Валерыі пра яго, Кіма, гаспадыня сказала.

Новую настаўніцу ўзяла на кватэру Люба Міхалкава. Усе ў Чырвоным Бары лічылі яе, і, пэўна, не без падстаў, бабай звяглівай, зайздроснай і зласлівай. Яе не кармі, а дай каго абгаварыць ды абняславіць. Таму ўсе ў вёсцы і шкадавалі прысланую дзеўку, і дакаралі таго дурнога жартаўніка, які нараіў ёй такую гаспадыню.

А шкадавалі і дакаралі, як неўзабаве высветлілася, дарэмна. Новая настаўніца была, па ўсім відаць, цалкам задаволена сваім кватараваннем і не выказвала аніякага жадання мяняць свой чырванаборскі адрас. Чырванаборцы паздзіўляліся трошкі ды і перасталі. І правільна зрабілі, бо новая настаўніца здзіўляла іх пасля неаднойчы.

Ну, але гэта пасля. А напачатку, ці не ў першыя дні, дні знаёмства і папярэдняй прыціркі, нават яшчэ не прыціркі, а ўзаемнага прыглядвання адна да аднае, Люба Міхалкава, уводзячы сваю пастаялку ў чырванаборскае асяроддзе, сказала некалькі слоў і пра Кіма. Не сказаць каб пахваліла, але і не зганіла. Ён, як пачуў пасля, не паверыў нават, што Люба Міхалкава, пры яе вясковай рэпутацыі, магла сказаць пра яго такое.

Аднойчы вечарам, не халодным, але ўжо і не цёплым вераснёўскім вечарам, запаліла Люба Міхалкава ў грубцы, і калі дровы ўгарэліся, калі з расчыненых дзверцаў паплыло на хату ласкавае і зваблівае цяпло, яны ўселіся перад полымем абедзве — гаспадыня і пастаялка. І сядзець ім, пэўна, было добра, бо пры агні добра сядзець усім і ўсюды, і з гэтае прычыны нават у Любы Міхалкавай няйначай пацяплела душа, і загаварыла яна да прыезджай дзяўчыны прыкладна так:

— Сумна табе, Віктараўна, будзе ў нас. Во так, ля грубкі, і праседзіш зіму. Маладому ж, кажуць, маладое ў галаве. А дзе яно ў нас, тое маладое? Калі там, у горадзе, не займела хлопца, дык тут... На ўвесь Чырвоны Бор адзін Кім Курловічаў. Хлопец не дурны і не брыдкі, і здаровы, не ў прыклад матцы-здыхлі, але ж — шафёр мурзаты. Табе не пара. Як у песні, што мама-нябожчыца некалі пела — пра вутачку вольную, чыстапёрую і пра селезня збродлівага, надворнага...

Пастаялка на тое, разамлелая ад пяшчотнага цяпла і ад ласкавейшага, чым звычайна, нават ці не заклапочанага голасу гаспадыні, пацягнулася, як перад сном, няпэўна сказала:

— Ой, цётка Люба, перад грубачкай так добра, што можна не адну, а ўсе пяць зім праседзець!

— Не, Віктараўна! Лепш смерць ужо! — жорстка абарвала яе гаспадыня.

— Ой, цётка Люба, вы што? — схамянулася, скінула з сябе разамлеласць настаўніца.

— А што чуеш! Я во — ці не ўвесь свет зненавідзела! А ўсё праз тое, што адна вякую. Чымся адной, дык ужо лепей...— І не дагаварыла гаспадыня, махнула безнадзейна рукой.

Настаўніца паглядзела на гаспадыню вялікімі, не то здзіўленымі, не то задуменнымі вачамі, памаўчала, уздыхнула, быццам нешта падумала сама сабе, няпэўна сказала:

— Не ведаю... Мне, акрамя маіх вучняў, ніхто не патрэбны. Ні гарадскі, ні ваш чырванаборскі... Як вы сказалі? Кім Курловіч?

— Ага, Курловічавых Кім. Добры хлапец. І рукі не зломка мае. Але ты, Віктараўна, не па ім ягадка. Твайго каралевіча тут няма.

— Калі не тут, цётка Люба, дык недзе, а павінен быць. Я спадзяюся, веру — адгукнецца,— вочы ў пастаялкі ўжо смяяліся.— Бо інакш — не дарую, сама яго знайду. Хоць за трыдзевяць зямель!

— Маладым і нам так думалася,— сказала, бы пагадзілася з ёй, гаспадыня.— Чакаеш-жджэш свайго каралевіча, а пасля азірнешся — ужо і таго самага Кіма Курловічавага няма, даўно дзецьмі абсыпаўся.

Пастаялка падхапілася з зэдліка, узмахнула рукамі, крутанулася па хаце, бы ў вальсе, праспявала:

— Не адпявайце мяне, цётка Люба, не адпявайце! Пра мяне ў дзетдоме яшчэ казалі, што я — адпетая! Мне ваш Кім такой свінні не падкладзе! Ён мурзаты шафёр? Дык я зраблю з яго каралевіча! Зраблю, цётка Люба! Як са сваіх вучняў раблю паэтаў і мастакоў, інжынераў і ўрачоў, так і з яго зраблю сабе каралевіча... Калі толькі ён хоць на што здатны, ваш Курловіч,— дадала для пераканаўчасці.

Гаспадыня засмяялася, заківала галавой:

— Ты, Віктараўна, зробіш! Хто-хто, а ты зробіш! Іш ты яе — адпетая...

Вось так яны ўпершыню пачулі адно пра аднаго. Не ўсур'ёз, а жартам. І маці Кімава, кажучы яму пра новую настаўніцу, не спадзявалася, вядома, што сын пачне падбіваць кліны пад яе. І Люба Міхалкава, згадаўшы тым вечарам Кіма, і ў думках не мела што-небудзь такое — проста ён і папраўдзе быў адзіным хлапцом на Чырвоны Бор. Сапраўдным хлапцом. Не засмэркам і не прыдуркам.

Але і жартаў тых хапіла, каб ён запомніў яе, а яна — яго. На тое яны і маладыя. Калі гаворыцца маладым пра маладое, дык любое слоўка, жартоўнае ці памяркоўнае, можа стаць і прынадай, і звадай. Акрамя таго, у кожным жарце, як вядома, ёсць і доля праўды, хоць

макавінка. І тут шмат што залежыць ад таго, у якую глебу трапіць гэтая самая макавінка. Трапіць у сухі пясок — ссохне і сатлее. А калі ва ўробленую, шчодра сагрэтую сонейкам глебу? Буйным кветам расцвіце тады тая невідучая воку макавінка.

Такой прыдатнай глебай былі яго душа і яе душа. Даўно саспелі яны для кахання і гатовы былі прыняць у сябе ягонае зерне, буйное і плоднае. Але, але, яны прагнулі менавіта такога насення — буйнога, моцнага, імклівага. Даўно, калі і ён і яна былі яшчэ зялепухамі, ім падалося, што яны знайшлі такое зерне. Але тады іх падманулі. Хоць, можа, не так іх, як яны самі падмануліся.

Пасля сямі класаў ён пайшоў у восьмы — маці, нягледзячы на сваё слабое сэрца, наважылася вучыць яго далей, каб з гадамі ўбачыць сына студэнтам. Восьмы клас ён скончыў, паслухаўся, а ў дзевяты не пайшоў. Плакаў разам з маці, а — не пайшоў. Бо нечакана неяк адчуў сябе дарослым: убачыў, што маці б'ецца з апошніх сіл. Сам: ён і далей не зважаў бы на тое, што ходзіць у школу ў суконных бурачках і ў сцёганай ватоўцы — нібы не ў школу, а ў лес па дровы, але знаходзіліся ўжо і тады такія, што пасміхваліся і нават здзекаваліся. А ў дадатак штогод трэба было плаціць за вучобу сто пяцьдзесят рублёў. І аднойчы ён выпадкова падслухаў, як маці прасіла ў аднаго чалавека пазычыць ёй тых сто пяцьдзесят рублёў. Яму стала вельмі шкада маці і адначасова чамусьці брыдка за яе, і ён тады ці не ўпершыню так востра адчуў, як гэта нядобра — падслухоўваць. І тады ж сказаў сабе, што ў дзевяты не пойдзе, а пойдзе ў калгас. Хоць бы напарнікам да трактарыста. Плугаром спачатку. Так і зрабіў, і пакуль ісці ў армію, меў правы не толькі трактарыста, але і шафёра. Тыя тры даармейскія гады былі ў яго нялёгкія. Працаваў ён як з нейкай зацятасцю. Маці ўжо спрабавала ашчаджаць яго ад работы, сяды-тады нагадвала яму пра кіно ці вечарынку ў клубе — сам ён забываўся на тое. Ці не з-за гэтай зацятасці ў рабоце і на дзяўчат не глядзеў. Ні разу, пэўна, як іншыя яго аднагодкі, не пратырчаў з дзеўкай дзе-небудзь ля плота ці на лаўцы пасля вечарынкі да самага ранку, ажно да той пары, калі пастухі ў поле займаюць. Такім ціхамірным і ў армію пайшоў і толькі там закахаўся. Укляпаўся па самыя вушы. І не ў каго-небудзь, а ў палкоўніцкую дачку. На другім годзе службы собіла яму вазіць камандзіра палка. Амаль штодня даводзілася забіраць яго з дому і адвозіць дадому. Было, што вазіў і палкоўніцкую жонку. А часам не толькі жонку, але і дачку, і сына. Сын быў малы, у пяты, пэўна, клас хадзіў, а дачка — студэнтка ўжо, хоць і першакурсніца. І такая прыгажуня, якой свет не бачыў. Ну, калі не свет, дык ён, прынамсі, не толькі не бачыў, але і не ўяўляў, што такія могуць быць. Кожны

раз, сядаючы за руль, Кім і радаваўся і пакутаваў адначасова. Ён нават і не ведаў, дзе канчалася радасць і пачыналася пакута, ці наадварот, дзе канчалася пакута і пачыналася радасць. Бачыў яе — радаваўся, трымцеў увесь і бянтэжыўся, каб хоць нічым не выдаць сябе перад ёю, а найперш перад яе бацькам. А іншы раз убачыць, зірне — і так тужліва яму зробіцца, так заные сэрца ад безнадзейнасці, што лепш бы не ведаць і не бачыць. За паўгода, а мо і за ўвесь год, як ён вазіў яе бацьку, ён так і не рашыўся не тое што заікнуцца пра нешта такое, а нават загаварыць з ёю. А яна? Ці думала хоць калі-небудзь пра яго, ці здагадвалася, седзячы ў машыне, што наскрозь працінае яго сваімі падфарбаванымі вачамі? Хто яго ведае. Наўрад! А вось бацька, напэўна, здагадаўся, бо не было ніякай другой прычыны знянацку браць сабе іншага шафёра, а яго адправіць у роту. Больш ён палкоўніцкай дачкі не бачыў і паступова забыўся на яе, хоць яна доўга яшчэ, ужо калі і дома быў, прыходзіла да яго ў сны, прыбягала і ў думкі ў хвіліны мройлівай летуценнасці, але ўжо толькі як нешта нерэальнае, што было некалі і не было, як даўняя і забытая казка.

Пасля арміі ён застаўся ў Чырвоным Бары, застаўся насуперак усеагульнаму імкненню ў горад, а найперш — дзеля маці, здароўе якой за тры гады яго адсутнасці яшчэ больш пагорала. Зноў стаў рабіць у калгасе — шафёрам. Адно — паслухаў маці, пайшоў у дзявяты клас у вячэрнюю. Маці казала: «Пакуль не завёў сям'і, сынок, і пакуль я жывая — вучыся. Не ведаю чаму, і табе мо смешна, сынок, гэта слухаць, але здаецца мне — у вучобе твой лёс. Яно і ў сям'і прыдасца, Кімачка. Будзеш вучыцца, дык, глядзіш, і дзеўка лепшая знойдзецца, ужо і сам абы да каго не пахінешся...» Лёс не лёс, а паслухаў, і вось ужо скончыў, сёлета атрымаў атэстат аб сярэдняй адукацыі. Маці падганяла адразу ж паступаць куды далей, калі не ў інстытут, дык у тэхнікум, ён ужо і завагаўся быў, думаў — мо і праўда паспрабаваць, падаць дакументы ў той жа інстытут механізацыі, але і бянтэжыўся ад такога, як самому здавалася, нахабства, бо разумеў, усведамляў, што вучоба ў вячэрняй дала яму няшмат, цягнулі там яго за вушы бязбоязна, дапісвалі за яго і дарошвалі, і калі б не рабілі гэтага, дык ці ляжаў бы ў яго ў шуфлядцы той самы атэстат. Вагаўся, але так і не паслаў дакументы. Парашыў пачакаць нейкага лепшага часу. Прынамсі, маці так сказаў. А дзяўчыны як да вучобы не знаходзілася, так і пасля вучобы. Той, вядома, да якой бы пахінуўся. Былі, каторыя, заўважаў, пахінуліся б і самі да яго, абы не адварочваўся, ды толькі ні ўсур'ёз, ні жартам не міргаў ім. Здаўна, сам не ведае калі, адклалася ў душы ўсведамленне, што чалавек ёсць чалавек, а быдла ёсць быдла і што, можа, найбольш гэтая розніца выяўляецца недзе тут, ва ўзае-

маадносінах яе і яго, і што, каб цябе паважалі, трэба найперш паважаць сябе. Гэта ці не адзіны, так сказаць, участак жыцця-быцця чалавечага, дзе ягоная душа ад раздваення і растраення не набывае, а страчвае, паступова зусім спустошваючыся. У гэтым ён быў непарушны, і хлапечыя ці мужчынскія жартачкі, усялякія выхвалянні выклікалі ў яго адну брыдкасць. А маці, між тым, яго адмову падацца куды на вучобу зразумела і трошкі інакш. Маўляў, не хочаш вучыцца, дык тады, сынку, пара жаніцца. Маўляў, тады мо жонка паўплывае на цябе мацней, чым маці, яе мо паслухаешся хутчэй і хоць завочна, а будзеш вучыцца. Вось так. Не кіем, дык палкай. І няўтомна пачала перабіраць чырванаборскіх і нечырванаборскіх дзевак. І дайшла во, не спатыкнулася, да новай настаўніцы, хоць нават не ведае, як і зваць яе. Пэўна ж, не ведае! Так і не назвала па імені. Усё новенькая настаўніца ды новенькая настаўніца...

А яна закахалася ў дзесятым класе. З дзетдома нямногія пайшлі ў восьмы клас. Дзяўчынкі рассыпаліся хто куды, а хлопчыкі амаль усе ў школы фэзээн. У дзесяты ў гарадскую школу хадзіла ці не адна яна. І якраз той парою ў дзетдом прыслалі новага выхавальніка. Міхаіла Аляксандравіча. Маладога, прыгожага. Працаваць ён, мусіць, не любіў і не ўмеў, стараўся як мага больш спіхнуць на іншых. І часцей за ўсё — на яе. Але хіба тады яна разумела гэта? Яна па дзетдомаўскай завядзёнцы апекавала малых. Свае ўрокі паробіць і — да іх: гуляе з імі, сочыць і памагае, каб урокі зрабілі, работу розную з імі робіць. От новы выхавальнік і знайшоў сякеру пад лавай. Усё просіць ці даручае ёй то гэта зрабіць, то тое. А яна, дурненькая, і радая. Абы лішні раз яго пабачыць, пачуць. Здаецца, са скуры вылузалася б, каб толькі дагадзіць, каб спадабацца яму. І штоночы ў падушку плача: ні разу і ніколі ён не паглядзеў на яе так, як яна на яго, ні разу не заўважыў, што яна балеткі свае кожны вечар зубным парашком беліць і спаднічку чорненькую, у складачкі прасуе. Ні аб чым іншым яна ж і не думала — каб толькі ён хоць разок убачыў яе, усміхнуўся шчыра, а не дзяжурнай усмешкай старэйшага чалавека, настаўніка,— яна б і ад гэтага была на сёмым небе. Раней яна любіла дырэктара дзетдома Івана Васільевіча, настаўніка-матэматыка Антона Антонавіча, старшыню сельсавета Зарэцкага і інспектара райана Стрыжака. З паяўленнем Міхаіла Аляксандравіча ўсе яны ў яе вачах пашарэлі, страцілі ўсялякі глянец. І апранаюцца не так, і гавораць не так, і ходзяць не так, як Міхаіл Аляксандравіч. Калі і ёсць хто на свеце, каго можна любіць, дык гэта Міхаіл Аляксандравіч. І дарма, што яна начамі мочыць слязамі падушку. Усё роўна яна самы шчаслівы чалавек. Бо мае магчымасць бачыць яго, чуць яго, нават гаварыць з ім кожны, амаль

кожны, калі папраўдзе, дзень. І больш ёй нічога не трэба. Анічагусенькі! Хай толькі Міхаілу Аляксандравічу будзе добра тут. Сытна, цёпла, спакойна. Пра тое, што ў яго ёсць ці можа быць жонка, не думала. Не магла думаць. Па той простай прычыне, што ў яго не можа быць ніякай жонкі. Сёння няма і заўтра не будзе. І паслязаўтра таксама. Некалі, няскора, можа быць, вядома, дык — тады тое і будзе. І не разумела нейкі час, як яе сэрца ад крыўды не разарвалася, калі аднойчы да Міхаіла Аляксандравіча прыехала жонка, і не адна, а з дачушкай. Сэрца ўсё ж неяк вытрывала, не разарвалася, затое ўвесь глянец з Міхаіла Аляксандравіча таксама сышоў. У той жа дзень і незваротна, бо — які ж ён малады і прыгожы, калі ў яго ёсць жонка і дзіця?

У інстытуце, у Мінску, хадзіла трошкі з адным хлопцам, з гістфака, але несур'ёзна. Выпадкова, на сумесным вечары адпачынку, пазнаёміліся. Схадзіўшы разы тры ў кіно, перасталі страчацца, не шкадуючы ні аб чым. Прынамсі, яна не шкадавала. Душа ў яе не страпянулася. А калі так, дык лепш — бывай, таварыш! А пасля было цаліннае лета і цяжкая сесія, потым піянерскае лагернае лета і «бульбяная» восень, і зноў цяжкія сесіі, дыпломная — хлопцы прайшлі міма. Ці яна міма іх, ці яны міма яе. І вось яна ў Чырвоным Бары. Пачула назву — і абрадавалася. Бо — прыгожая назва. Чырвоны Бор. Значыць, меднастволы, звонкі, пявучы, пчаліны і баравіковы бор. А засмуцілася, бо школка, хоць і сярэдняя, невялікая, месціцца ў трох звычайных вясковых будынінах-хатах. Ды тут жа і абрадавалася: завуч Карней Васільевіч, жонка дырэктара Марыя Міхайлаўна, якія сустрэлі яе, аказаліся людзьмі прыемнымі, разумнымі, душэўнымі. І цётку Любу ўпадабала. Мусіць, дарма на яе ў вёсцы нагаворваюць. Яна ж сама, лічы, гадавалася ў вёсцы, іхні дзіцячы дом — вясковы дом, і яна ведае, што ў кожным сяле ёсць адзін ці некалькі чалавек, што ходзяць у казлах адпушчэння. Невядома, з якой прычыны неўспадзеўкі пагаджаюцца ўсе, што той ці іншы чалавек павінен несці крыж няўдачніка, гультая, балбатуна, плеткара, і — усё тут, усім у вушы ўведзена, раз і назаўсёды завязана. А чалавек, між тым, і не надта адпавядае пушчанай яму ўслед характарыстыцы: і не такі ён пляткар, як здаецца, і не такі гультай, як думаецца. Нейкую такую людскую несправядлівасць угледзела яна і ў дачыненні да сваёй гаспадыні. Не такая ўжо і зласліўка цётка Люба. Вось гаротніца — гэта праўда. Дзеўка-векавуха. Адсюль і ўвесь гамон. Непрыязь да іх даўняя. Са старасвеччыны яшчэ. Калі была яна лішняй у сям'і. Калі глядзелі на яе скоса і бацька з маткаю, і брат з братавою, і дзеці іхнія. І шчасце ёй усміхалася зрэдзь часу тады, калі ў каго здаралася бяда.

Памірала ў чалавека, скажам, жонка. От тады той чалавек і мог кінуць вокам на дзеўку-векавуху, і тады ішла яна на чужых дзяцей. Якое гэта было шчасце, ведала лепш за ўсіх толькі сама... От і на Любу Міхалкаву ўпаў, няйначай, водсвет той даўнейшай людской несправядлівасці. Прынамсі, яна, новая чырванаборская настаўніца, не адчула на сабе ні Любінай зласцівасці, ні яе зайздрослівасці, ні скваплівасці. Хіба — наадварот. Яна пасля ўсяго свайго ранейшага жыцця ці не адаграваецца і ці не ад'ядаецца ў цёткі Любы. Гаспадыня ж во нават і хлапца ёй ужо нагледзела. Ну, калі не нагледзела, дык усё ж падказала. Глядзі, запамінай, ёсць такі ў Чырвоным Бары. Хоць адзін, ды ёсць. Мурзаты шафёр, але — і добры, і разумны, і працавіты. Што больш дзеўцы, якой дваццаць трэці год, трэба? Ай, цётка Люба, цётка Люба! З выгляду — сама прастата, а хітрасці вунь колькі! Хай мне той Кім Курловічаў і анігадкі, як палешукі кажуць, але ж усё адно — я яго запомніла ўжо...

Вось яна, тая макавінка, што жартам, але ўсё ж была закінута і ў яе душу, і ў ягоную. Самая што ні ёсць макавінка. Як на цвярозае вока, дык і невідочная. Але калі дзяўчыне дваццаць два, а хлапцу — дваццаць пяць, пра цвярозасць пагляду можна гаварыць толькі ўмоўна, і таму макавінку тую ўгледзелі абое, угледзелі і запрыкмецілі. Маўляў, хай ляжыць. Ёсць яна ці няма — сёння ўсё роўна, а заўтра... А заўтра тое і будзе.

Як бы там ні было, а сталася так, што праз гэтую самую макавінку яны, можна сказаць, аказаліся падрыхтаванымі да сустрэчы. Яны — гэта Кім і Валерыя. Шафёр і настаўніца. Зрэшты, лепш будзе сказаць, адразу ж назваць яе яшчэ і па бацьку — Валерыя Віктараўна. Бо ў вёсцы такое поўнагалоссе замацавался найперш за настаўнікамі і настаўніцамі. Любога іншага можна назваць проста Максімам ці Марыляй, дзядзькам Пётрам ці цёткай Любай, а вось настаўніка — толькі Пятром Іванавічам, бо інакш і ўцяміць цяжка, пра якога гэта Пётру ідзе гаворка: ці пра Пётру Івана Варэйкі сына, ці пра Таранавага Пётру, ці мо, урэшце, пра Пётру Гарэліка. А пра настаўніка ніхто і не падумае, бо проста Пётрам ён быць не можа, ён — Пётр Іванавіч ці Пётр Сідаравіч.

Дык вось, Валерыя Віктараўна і Кім да сустрэчы былі гатовы...

## ТОЙ ЖА ВЕРАСЕНЬ ТАГО Ж ГОДА

Сустрэліся яны тым жа вераснем таго ж тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят дзевятага года. У нядзельку. У раённым цэнтры, за дзесяць кіламетраў ад Чырвонага Бору. Сустрэліся не ў сэнсе спаткаліся, па-

бачылі адно аднаго. Бачыліся яны, пэўна, і раней. У Чырвоным Бары. Але безадносна адно да аднаго. Кім неяк бачыў яе, праўда, здалёк, калі яна выходзіла з двара цёткі Любы, выпраўляючыся няйначай у школу, бо, нягледзячы на цёплы, сонечны, зусім летні дзень, была ў цёмным, зашпіленым на ўсе гузікі касцюмчыку. І яна аднаго разу, здаецца, бачыла яго, але таксама мелькам і здалёк, прытым ён сядзеў у кабіне; яна адно па машыне — новым «газоне» — здагадалася, што гэта ён, Кім Курловіч. А тут, у райцэнтры, яны не проста сустрэліся, а — пазнаёміліся.

Яна перахапіла ў цёткі Любы ажно трыста рублёў — пад першую зарплату — і апынулася ў райцэнтры з надзеяй сёе-тое купіць да восеньскай слаты на ногі ці на плечы. А ён трапіў туды, можна сказаць, без дай прычыны. Зранку ездзіў у Мінск — вазіў авёс на нарыхтоўку, і пашанцавала, управіўся рана, абедам быў ужо дома. Больш ехаць куды-небудзь не меркавалася, таму загнаў машыну на калгасны двор, забег дадому, перакусіў, пераапрануўся і высунуўся на вуліцу — нядзеля ўсё ж. А тут едзе Пецька Яскевіч, таксама з іхняга калгаса шафёр, толькі не чырванаборскі — з Селішча. Прыпыніўся, сказаў, што ляціць у раён да швагра, туды і назад, адна нага тут, другая там. Ліха яго ведае, чаго ён сеў да Пецькі ў кабіну. Як хлапчанё, якому пакатацца захацелася. А ў райцэнтры па-дурному правароніў Пецьку. Той паджгаў да швагра, а ён выскачыў ля чайной — мо піва ўдасца пакаштаваць. Дамаўляліся, што тут жа, ля чайной, Пецька і падбярэ яго па дарозе назад праз хвілін дваццаць. А мінула гадзіна, другая, а ні машыны, ні Пецькі. Вось ён і пайшоў у канец райцэнтра, на чырванаборскую паваротку, каб там — так дурню і трэба! — паспрабаваць сесці на якую-небудзь машыну ды пад'ехаць дадому. Прыйшоў, а там дзяўчына плот падпірае. Так сабе дзяўчына. У летнім квятастым плацейку. Рукі, ногі, усё іншае — як след, дарэчнае. І з тварыку — шмаргануў вачамі — таксама ў норме, а мо і вышэй. Валасы быццам і коратка абстрыжаны, не па-вясковаму, але не псуюць галавы, наадварот — аздабляюць. Ля ног, пад плотам, авоська ляжыць, у ёй нейкія папяровыя скрутачкі. Ага, значыць, таксама машыны чакае. Куды ж? Бліжэй Чырвонага Бору ці далей?

Не памаўза ён, вядома, не бабнік, але ж — салдатам быў, сорам дзевак баяцца. Не марудзячы лішне, запытаўся:

— Даўно чакаем?

— Ды ўжо,— азвалася дзяўчына.

— А куды, калі не сакрэт?

— Не сакрэт. Да Чырвонага Бору.

Тут ён і прыкусіў язык. Да Чырвонага Бору? Значыцца, гэта і ёсць яна, новая настаўніца? Непадобная, здаецца. Як ён бачыў, дык — і вышэйшая была, і быццам ямчэйшая постаццю, не такая кволая, што — перашчыкнуць можна. А можа, і яна? Тады ж касцюм на ёй быў, а тут во... Не, не яна. Маці ж казала, нейкая лупаватая, вялікаротая быццам, а ў гэтай, здаецца, усё ў самы раз...

А дзяўчына, не даўшы яму дадумаць, сама папытала:

— А вам куды?

— Туды ж, куды і вам,— буркнуў ён.

Яна ўсміхнулася, і ён са здзіўленнем заўважыў, што ўсмешка ёй да твару, што ёй трэба часцей усміхацца. Усміхнулася дзяўчына, прамовіла, як праспявала:

— Так ужо і туды ж?

Ён хацеў усміхнуцца таксама, але яе ўсмешка збіла яго з тропу. Ён зноў успомніў матчыны словы пра тое, што новая настаўніца як засмяецца, дык робіцца прыгажэйшай. Успомніў і падумаў, што ўсё-такі гэта, мусіць, яна, хутчэй за ўсё — яна. І таму пацвердзіў сур'ёзна:

— Калі вам у Чырвоны Бор, то і мне туды ж.

Яна таксама сагнала з твару ўсмешку, стрэліла па ім вачамі і, сумеўшыся, сказала запытальна:

— А вы не Кім Курловіч?

Ён здзівіўся страшэнна: адкуль яна ведае? І разгубіўся, адказаў са спазненнем:

— Ён самы.

Яна, пэўна, заўважыла, што ён здзівіўся ці разгубіўся, і паспяшалася растлумачыць:

— Вы не здзіўляйцеся. Мне пра вас цётка Люба гаварыла. Мая гаспадыня. Казала, што на новым «газоне» ездзіць Кім Курловіч, адзіны на ўвесь Чырвоны Бор хлопец. Дык я і падумала...

Ён маўчаў, не ведаючы, як яму паводзіць сябе з ёй. Дзяўчына-то яна дзяўчына, але ж акрамя таго настаўніца. Ён, вядома, не школьнік, аднак жа і... не раўня.

Яна ж зразумела яго маўчанне па-свойму і, зрабіўшы крок да яго, падала руку:

— Будзем знаёмы. Мяне ў школу да вас прыслалі. Звяць — Валерыя Віктараўна. Ой, даруйце, проста — Валерыя. Гэта ў школе ўсе Віктараўна і Віктараўна...

Ён узяў яе руку ў сваю і зноў збянтэжыўся, што яна такая дзіцячая, тонкая і мяккая, мармытнуў:

— Я ведаю... Мне мама казала...

— Мама? Што казала? — цяпер ужо здзівілася яна.

— Што да нас прыехала новая настаўніца. Яна вас у краме бачыла аднойчы...

Яна ўсміхнулася і як страсянулася ўся, сказала:

— А я... А мне аж горача стала... Што, думаю, ваша мама сказаць магла? Хто мяне ўжо тут ведае?

Нейкі час яны маўчалі, робячы выгляд, што ўглядаюцца ўдалеч, адкуль магла паказацца чаканая машына. Зрэшты, пра што яшчэ маглі яны гаварыць? Пакуль што іх звяла толькі дарога. І гаворка неўзабаве вярнулася зноў да дарогі.

— Ці даедзем мы на чым-небудзь? Даўнавата стаю, а — ніводная машына не праехала,— азвалася яна.

— Не даедзем, дык дойдзем,— сказаў ён.

— А колькі тут ісці? Дзесяць кіламетраў?

— З добрым гакам,— пацвердзіў ён.

— То, можа, пойдзем, пакуль відна? Па дарозе галасаваць будзем,— прапанавала яна.

— Пойдзем. Наўрад ці што выстаім сёння ўсё роўна. Нядзеля, машын мала,— пагадзіўся ён.

Яна падняла з травы авоську і ступіла на вуліцу. Ён ступіў услед за ёю.

Дзень хіліўся к вечару. Сонца, і днём не надта зыркае, хоць яшчэ амаль па-летняму спякотнае, цяпер было і зусім бы ў тумане, але ўсё яшчэ грэла. Вецер не варушыў нават ліста на пабурэлым, ужо крыху абабітым дажджамі і вятрамі вішанніку за платамі абапал вуліцы. Было ціха, цёпла і трошкі маркотна наўкол. У паветры вісеў не то дым, не то пыл і пахла цёплай гаркотаю. Гаркота адчувалася нават на языку.

Яны моўчкі прайшлі вуліцаю і выйшлі ў поле, на дарогу. Пад нагамі не шапацеў, а мякка пыхкаў з-пад падэшваў лёгкі шэры пыл, тоўсты пласт пылу ляжаў на траве ўздоўж абочын, на прыдарожных лазняках і альшэўніку. Шлэпаць па гэтым мяккім і, пэўна ж, цёплым, як на нядаўна згаслым вогнішчы, прысаку было не надта прыступна, але яны не сыходзілі на сцежку, што вілася на ўзбочыне. Сцежка была вузкаю, ісці там трэба было б адно за адным, а ні ён, ні яна не хацелі ісці паперадзе. Хай сабе пыл, хай непрыступна, надакучліва, але затое побач, а не цугам. Яны ішлі і маўчалі.

Неўпрыкмет падняліся на пагорак, спусціліся ўніз, зноў пагрэбліся ўгору. Маўчанне прыгнятала. Кім ужо ці не пачынаў злаваць. Чаго, каб хто спытаў, падахвочвалася тады ісці? Трэба было падпіраць там плот і маўчаць. Ён жа не ведае, пра што з ёю гаварыць. Каб абсмяяла? А можа, яна ўхапілася за яго толькі як за праважатага, каб

не боязна было, калі раптам ацямнее ў дарозе? Вядома ж! А ён, дурань, злуе! Але ж ён, хай і не раўня ёй, чалавек усё ж. Ён жа не набіваецца ва ўхажоры! Дык чаго губы надзьмула, закапрызіла?

Злаваў Кім і не ведаў, што нічога такога ў Валерыі Віктараўны і ў паміне не было. Ёй проста хораша было ісці вось так, моўчкі, у гэтай цішыні і цеплыні, слухаць мяккі шоргат сваіх і яго крокаў і пад гэтае мернае шапаценне думаць пра сябе, пра Чырвоны Бор, пра сваіх дзяцей-вучняў, якіх, здаецца, паспела палюбіць ужо. а заадно трошкі і пра гэтага самага Кіма Курловіча, які, апусціўшы галаву, унурыўшыся, валюхаецца побач і не падае голасу, як вады ў рот набраўшы. А пасля спахапілася, падумала пра тое, што маўчанне яго зразумелае, бо яна ж — настаўніца, а ён — шафёр, і ўсміхнулася ў душы з гэтага дурноцця, і захацелася ёй паназаляцца, паздзекавацца з гэтага нехлямяжага і, пэўна ж, добрага хлопца, але пасля схамянулася, што гэта будзе брыдка, непрыстойна, што яна павінна быць вышэй гэтага. І яна трасянула валасамі, бо адкідваючы іх назад, адкрываючы высокі і чысты лоб, зірнула збоку на спадарожніка і сказала:

— Даруйце, Кім, я маўчу, задумалася, сяброўак сваіх успомніла, і вы маўчыце... Раскажыце што-небудзь!

— А што расказваць? — неахвотна азваўся ён.

— Што-небудзь... Пра Чырвоны Бор, пра людзей вашых, пра мясціны навакольныя...

— Што пра гэта расказваць? Вёска як вёска, і людзі як людзі, як усюды,— ахвоты гаварыць у яго не паяўлялася.

Яна запярэчыла:

— Не, не скажыце! Гэта вам толькі так здаецца, бо ўсё гэта ваша, даўно знаёмае, звычнае, а на самой справе... Недарэмна ж кажуць: што ні край, то і звычай. Мясціны ў вас прыгожыя! Лясы, пагоркі, рэчкі — сама Швейцарыя!

— Я чуў, быццам нейкі вучоны ці, можа, паэт гэтак і назваў наш куток: беларускай Швейцарыяй,— нечакана падтрымаў ён гаворку.

Яна як абрадавалася, падхапіла:

— Вось бачыце! Я ж і кажу: Швейцарыя! Вунь, зірніце ўдаль, якая прыгажосць! Дарога з пагорка на пагорак, з лагчыны ў лагчыну — і не скажаш, што Беларусь, якую ўсе ўспрымаюць як краіну раўнінную, балоцістую...

— А вы адкуль? — спытаў ён.— У вас там не так? Роўна?

Валерыя махнула рукой:

— Не так і далёка адсюль. Па той бок Мінска я расла. Недалёка, але ў нас там ужо роўна. Такіх гор няма.

— Гэтае месца, дзе мы цяпер ідзём, называецца Сілінка,— нечакана сказаў ён.

— Сілінка? — перапытала яна.— Сілінка... Цікавая назва. Не ведаеце, чаму так пазвалі гэтае месца?

Ён паціснуў плячамі:

— Не...

— Цікавая назва. Можа, тут хто засіліўся некалі? Не чулі?

— Як гэта — засіліўся?

— Ну, рукі на сябе налаясыў, павесіўся...

— А-а-а... Не чуў... А во там, за той гарой, будзе Лісіны Лог,— пахваліўся ён.

— Лісіны Лог? Ну, тут загадкі няма — Лісіны Лог і ёсць Лісіны Лог,— паўтарыла яна. І запыталася трошкі гарэзліва, бы прапануючы яму слоўную гульню: — А далей? Які там лог будзе?

— Далей не лог, а гара. Называецца Зубава,— падтрымаў гульню і ён.

— Што, вострая гара? Тырчыць, як зуб?

— Ага, высокая! Ледзь узбярэшся... А далей будзе Лагазінка.

— Гэта што? Гара, лагчына?

— Не, рачулка.

— Рачулка Лагазінка? Харошая, пэўна, рачулка, бо назва харошая. Нейкая тоненькая, гнуткая, звонкая. Лага-зін-ка... І не здагадаешся адразу, ад якога слова паходзіць,— паціснула яна плечукамі.

— Там, за ляском, вёска ёсць — Лагаза,— падказаў ён.

Яна ажывілася:

— Ага, значыць, ад Лагазы. Ну, а сама Лагаза? Ад лагчыны? Ці мо ад прозвішча чалавека? Ад якога-небудзь Лагозы? Га? Як думаеце, Кім?

Ён сумеўся, сцепануўся:

— Вы ўжо думайце, што мне...

Яна запярэчыла:

— Не, вы таксама думайце. Найперш вы. Гэта ж вашы мясціны. Вы павінны былі даўно пацікавіцца, чаму так названа, а не інакш.

Ён буркнуў:

— Нічога я не павінен.

Яна зірнула на яго і, як на вучня, паківала пальцам:

— Не, павінны! Як жа так? Гэта ж паэзія нашай зямлі. Вы толькі ўслухайцеся ва ўсе гэтыя назвы рачулак, балотцаў, пагоркаў, лясоў, пералескаў, лагчын... Гэта ж музыка! Недзе ёсць славутае возера Рыца. На ўвесь свет славутае. Ах, возера Рыца, возера Рыца! А ў вас во

тут — рэчачка Лагазінка! І скажыце, Кім, калі ласка, што гучыць больш паэтычна: возера Рыца ці рэчачка Лагазінка? Ну, скажыце!

— Што мне да таго возера Рыца! — ён крутнуў галавой.

— Вось іменна! Што вам да возера Рыца! А да рачулкі Лагазінкі? А на яе імя ваша душа адгукаецца. Вы адразу ж бачыце яе пакручастае рэчышча, атуленае лазою і вольхаю, чуеце, як звініць яна, пераліваючыся цераз перакінутае калісь даўно з берага на бераг бярвенца...

Ён хацеў кіўнуць галавой, сказаць, што, мусіць, яно і сапраўды так, але прамаўчаў. Нечакана падумаў пра тое, што не трэба яму і думкі дапускаць аб тым, каб спадзявацца на нешта, маючы на ўвазе гэтую Валерыю Віктараўну, што наўрад ці пераступіць ён калі-небудзь бар'ер, які падзяляе іх, настаўніцу і яго, простага вясковага хлопца. І разам з тым нейкая цёплая хваля замілаванасці і пяшчоты падкацілася да ягоных грудзей. Колькі гэта ён і прайшоў поплеч з ёю, а і за такі кароткі час паспеў пераканацца, што гэтая танклявая, кволая дзеўчынёха жыве ў нейкім іншым, адрозным ад яго свеце і гэты свет цікавейшы, багацейшы, нейкі чысцейшы, святлейшы, чым звычны для яго. А яшчэ, падалося, і звабны, бо — хочацца далучыцца да яго, увайсці ў яго і яму, Кіму, каб вось так, без падказкі, без чыёй-небудзь дапамогі самому бачыць, і адчуваць, і думаць, і гаварыць, і здзіўляцца, і каб... Пакуль шукаў канец думкі, згубіўся пачатак, і ён канчаткова заблытаўся, і замест таго, каб нешта сказаць пра тую самую Лагазінку, Кім працягнуў руку, і не зусім далікатна забраў з дзявочай рукі авоську, і зарадаваўся, што Валерыя Віктараўна не запярэчыла, а спакойна, нібы між іншым, пагадзілася, што так і павінна было быць, ціха сказаўшы:

— Дзякуй.

Нейкі час ішлі моўчкі, і ён першы парушыў маўчанне, запытаўшы:

— А вы што выкладаеце? Літаратуру?

— Ага, літаратуру.

— Я так і думаў.

— Чаму вы так думалі? Ну, скажыце, чаму?

Ён хацеў сказаць, што падумаў так адразу, як яна загаварыла пра назвы, пра ўсю гэтую паэзію і музыку роднай зямлі, але пабаяўся, што заблытаецца, саб'ецца, і замест гэтага сказаў:

— Так... Гэты прадмет заўсёды жанчыны выкладаюць.

Яна засмяялася:

— Ну і дыпламат вы! Жанчыны выкладаюць і фізіку, і геаметрыю... А вось наконт чаго хочацца запярэчыць, дык гэта наконт таго,

што літаратура — прадмет. Які ж гэта прадмет, калі гэта — жыццё і чалавек? Не, лепш будзе так: чалавек і жыццё? Які ж прадмет — Андрэй Лятун, Ванька Разанскі? А дзядзька Антось з яго клёцкамі? А Лабановіч з Ядвіськай? А Кандрат Назарэўскі? А Гусляр? А Рыбка Алесь? Усё гэта жывыя людзі, хоць і жывуць яны ўсяго толькі на старонках кніг. Які ж гэта прадмет?

Ён маўчаў. Ён не хацеў яе пакрыўдзіць. Усе ж так гавораць. Школьныя прадметы... Аказваецца, літаратура — не прадмет. Літаратура — гэта чалавек і жыццё... А як падумаеш, дык і праўда. Ён жа таксама помніць і Кандрата Назарэўскага, і Лабановіча, і Андрэя Летуна, усіх, пра каго чытаў. Вядома ж, чалавек і жыццё. Ён жа, калі чытае кніжку, забываецца, што ўсё гэта не наяве адбываецца. Як чытае, дык, здаецца, і сам ён у тым сяле ці ў горадзе, пра якія ў кніжцы гаворыцца, сярод тых людзей, якія там, у тым сяле ці ў горадзе, жывуць, і хочацца яму аднаму чалавеку падказаць, каб ён не верыў таму бандыту, а другому ў морду даць, каб больш не рабіў так... З прадметам ён, вядома, апраставалосіўся, яна, чаго добрага, і ўсердавала...

— А вы любіце чытаць?

Ён схамянуўся ад гэтага яе пытання, але адказаў спакойна, шчыра:

— Люблю.

Чытаць ён сапраўды любіць. У яго ў машыне заўсёды ёсць кніжка. А як жа! Мала дзе чакаць даводзіцца, дык што тады рабіць? Храпака задаваць, як некаторыя? Не, ён лепш кніжку пачытае. У клубнай бібліятэцы ці не ўсё цікавае перачытаў. Як прыходзіць туды, дык Ніна Капацэвіч, бібліятэкарка, ужо і не ведае, што яму даваць.

— А што вы любіце чытаць?

— Усё... Цікавае...

Ён зноў ці не пачынаў злаваць. Ну, што яна пытаецца ўсё? Хіба на гэта адным словам адкажаш? Любіць ён чытаць раманы. Ну, яшчэ — аповесці. Любіць тоўстыя кнігі. Каб доўга чытаць. Каб зжыцца з тымі людзьмі, сачыць за імі, думаць разам з імі, перажываць за іх. А тонкія яму не надта даспадобы. Толькі захопішся, а ўжо і канец. Цяпер, праўда, меней чытае, бо восенню, як і летам, работы шмат. А прыйдзе зіма, зноў возьмецца.

Яна, пэўна, угледзела на яго твары цень крыўды ці засмучэння, бо сказала:

— Вы не крыўдуйце, калі ласка. Я, можа, і праўда па-школьнаму вас распытваю... Як на ўроку... Ведаеце, надта ж хочацца паказаць, што я настаўніца! — сказала і засмяялася.

Ён таксама засмяяўся. І ад таго, што смяялася яна, і ад нясмелай згадкі, што яна ўсё ж спачатку дзяўчына, а пасля ўжо — настаўніца.

Ішлі яны няспешна. Каб хто збоку паглядзеў на іх, то мог бы нават падумаць, што яны не ідуць куды-небудзь, а проста прагульваюцца, шпацыруюць. Зрэшты, яны і шпацыравалі, калі папраўдзе. З самага пачатку, як выходзілі з райцэнтра, яны пайшлі памалу, са слабай, але ўсё ж надзеяй, што іх дагоніць якая-небудзь машына. А пасля ўсчалася гаворка, якая яшчэ больш, пэўна, запаволіла іх хаду. Але ні ён, ні яна не зважалі на гэта, недзе адразу пагадзіўшыся з тым, што скора ці не скора, а дома яны будуць.

Пасмяяўшыся, яна прапанавала чытаць вершы.

— Давайце, Кім, чытаць вершы. У дарозе гэта найлепшы занятак. Вы любіце вершы?

Ён аднекваўся:

— Не люблю... Не надта...

Яна горача спрачалася:

— Не веру! Няма такіх людзей, якія б не любілі вершаў. Паэзіі. А калі ёсць, дык — бедныя гэта людзі! Так што вы на сябе не нагаворвайце. Прызнайцеся, любіце?

Ён маўчаў. І тады яна дакорліва паківала яму пальцам:

— Ага, аказваецца, любіце. Маўчанне — знак згоды. Вось і чытайце. Тое, што памятаеце.

Ён ліхаманкава прыкідваў, успамінаў, што ён і калі чытаў, на памяць нічога не прыходзіла, ён ведаў, што калі б нешта і ўспомніў, дык усё роўна прачытаць не зможа, хоць і праўда любіў асобныя вершы. Любіў «Новую зямлю» Якуба Коласа — мог чытаць раздзелы з паэмы па некалькі разоў, асабліва «Раніцу ў нядзельку». Любіў верш Пушкіна пра засохлую кветку сярод старонак кнігі — некалі выпадкова прачытаў яго і запомніў. Трывожыў яго, хоць і не разумеў чаму, верш Максіма Багдановіча «Не кувай ты, шэрая зязюля...» і доўгі верш Лермантава «В полдневный жар в долине Дагестана...». Расчульваўся да слёз, калі чытаў «Баладу пра чатырох заложнікаў» Аркадзя Куляшова...

А яна падганяла, нібы школьніка:

— Ну, калі ласка. Што ўспомнілі? Якога паэта? Ці мо вы саромеецеся?

— Не памятаю... Ды і саромеюся,— прызнаўся ён.

Яна хітнула галавой, сказала:

— Дарэмна. Шкада. Я люблю слухаць вершы. І чытаць люблю, але больш — слухаць. Паэзія нараджалася вусна і доўгі час успрыма-

лася вусна. Паэзія — гэта музыка. А яе лепш слухаць... Тады я вам пачытаю, добра?

Ён кіўнуў:

— Калі ласка.

— А што? Каго б вы хацелі паслухаць? Якога паэта?

— Усё роўна.

Ёй гэта не спадабалася, яна запярэчыла:

— Не, так нельга. Усё роўна не можа быць. Тады наогул не трэба. Вы падумайце. Падумайце! Вось цяпер вечар. Сядае за гарой сонца. Ціха. На зямлю апускаецца змрок. Трошкі самотна ад усяго гэтага на душы... Ну, каго?

Яму зноў прыгадалася чамусьці багдановічаўская шэрая зязюля, і ён сказаў:

— Ну, Багдановіча...

Твар яе заззяў, яна нават прыпынілася па хвіліну, перапытала:

— Багдановіча? Вам падабаецца Багдановіч? Цудоўна! Гэта мой любімы паэт! Я ўвесь ягоны «Вянок» ведаю на намяць. Што ж вам пачытаць? «Страціма-лебедзя»? «Вераніку»? Ці, можа, «Перапісчыка»? Не, пачну з хрэстаматыйнай «Зоркі Венеры»...

І яна пачала чытаць. Па памяці. Спачатку — Максіма Багдановіча. Пасля — Янку Купалу. Потым Пушкіна, Куляшова, Твардоўскага, Сіманава. І чым больш чытала, тым больш здзіўляўся Кім. Ён час ад часу пазіраў на яе і не мог зразумець, як магло ўсё гэта ўмясціцца ў яе дзявочай галаве. Зусім невялікай. Нават, калі папраўдзе, маленькай... Ён нават не стрымаўся, сказаў здзіўлена, калі яна скончыла чытаць чарговы верш:

— Як вы запомнілі столькі вершаў? Гэта ж у галаве каша ад іх...

Яна засмяялася гучна, ад душы:

— Які вы дзівак, Кім! Як дзіця — каша... Я ўдвая, утрая больш ведаю!

— А як вы завучылі іх?

Яна зноў засмяялася:

— Я іх не завучвала. Ну, спецыяльна не завучвала. Проста — запомніла. Як музыку. Яе ж таксама не завучваюць. Яна сама запамінаецца. Тая, што падабаецца. Што трывожыць, хвалюе цябе.

І яна зноў чытала — «Пять страниц» Сіманава і «Зодчих» Кедрына, «Возвращение на родину» Ясеніна і санеты Шэкспіра...

Да Чырвонага Бору яны падыходзілі позна. Ужо зусім сцямнела, на небе загарэліся зоркі. Сам для сябе Кім адзначыў, што мог бы дома быць і добрую гадзіну назад, аднак не шкадаваў, што так запазніўся. Ён адчуваў, што нешта з ім здарылася. Што пэўна — не мог бы рас-

тлумачыць. Ні сабе, ні каму іншаму. Аднак ясна разумеў, што цяпер ён не той, якім быў нейкія тры-чатыры гадзіны назад, калі сядаў бяздумна ў кабіну да Пецькі Яскевіча. Нешта ўсярэдзіне ў яго як здрыганулася, сарвалася са звычнага, заўсёднага месца, і ён ужо ніколі не будзе тым, ранейшым. З ёй, з гэтай Валерыяй Віктараўнай, больш правільна — праз яе ўвайшло ў яго душу нешта такое, што з сённяшняга дня не дасць яму спакою, што будзе хваляваць, тармасіць яго, будзе загадваць яму жыць інакш, чым ён жыў дагэтуль.

Гэта было не каханне. За доўгую няспешную дарогу ён нават як след яе і не разгледзеў — спачатку не адважваўся, бянтэжыўся, а пасля як забыўся. Тое, што прыйшло да яго,— усведамленне нечага высокага і недасяжнага,— яшчэ больш аддаліла яго ад яе. Яна зноў ператварылася ў настаўніцу — прытым, не проста ў настаўніцу, а ў яго, Кімаву, настаўніцу: нібыта ён ніколі і не быў дарослым, дужым хлопцам, а ўсё яшчэ кволы, зялёны хлапчук — і гэта ён, той хлапчук, зараз ідзе пабач з ёю і, захоплены, ловіць вушамі і ротам кожнае яе слова...

Ля хаты Любы Міхалкавай яна забрала ў яго з рукі авоську, сказала:

— Дзякуй вам, Кім. Не ведаю, як вы, а я дык і не стамілася. Правільна зрабілі, што не чакалі машыны. Машын так і не было... Дабранач!

— Усяго добрага,— сказаў і ён.

Здаецца, яны нікога не напаткалі на чырванаборскай вуліцы, нікога не абагналі і ні з кім не размінуліся, тым не менш назаўтра — літаральна назаўтра! — увесь Чырвоны Бор ведаў, што Кім Курловіч праводзіў новую настаўніцу. Да самай хаты Любы Міхалкавай давёў. І авоську паднёс. І яна яшчэ сказала яму «дзякуй» і «дабранач». І ён, як культурны, даў ёй «усяго добрага»...

## МАЙ 1960 ГОДА

Пажаніліся яны вясною наступнага, тысяча дзевяцьсот шасцідзесятага года. На Першага мая ў хаце Курловічаў грымела вяселле. Хата старая, яшчэ даваенная, малаватая, дык і цеснавата было, хоць Кім разбіў і выкінуў перагародку, што затуляла грубку і ложкі. Сватам быў дырэктар школы Іван Фёдаравіч, але вяла рэй у застоллі, як рабіла гэта і ў школе, жонка яго Марыя Міхайлаўна. Яна была больш спраўная на язык, больш прыемная да людзей і не дурнейшая, а мо нават і разумнейшая. Ён, Іван Фёдаравіч, мусіць, разумеў гэта і сам і таму беспярэчна саступаў жонцы не толькі дома, але і на рабоце. Бо ведаў, што так будзе лепей. Так яно і было. І вяселле, якім па ўсім

зразумелым праве кіравала Марыя Міхайлаўна, прайшло ад пачатку да канца як след, як мае быць. Без крыўды і звягі, без папрокаў і дакораў, а наадварот — весела, з песнямі і скокамі, з выкраданнем нявесты і дзяльбой каравая. Адно што Кацярыне Курловічысе, матцы Кімавай, зрабілася блага. У самы разгар вяселля. Калі госці пасля доўгага сядзення падняліся праветрыцца і паскакаць трохі. Тады і вылезла з-за стала нявестачка, Валерачка, як яе ахрысціла Курловічыха, вылезла і патрапіла ў абдымкі да свякрухі. А свякруха тая вазьмі ды звянь у яе абдымках. Ледзьве ўслед і нявестачка не абвяла і не абсунулася на падлогу. Ну, але тое мала хто і згледзеў. Побач быў Кім, падхапіў маці, пасадзіў на ложак, падаў кропель, і яна ачуняла, зноў глянула на хату і на гармідар у ёй жывымі вачамі. І не проста жывымі, а вясёлымі, бо споўнілася яе самае вялікае жаданне — ажаніць, пакуль жывая, сына і прыдбаць у нявесткі не абы-каго, а менавіта новую настаўніцу, Валерачку.

Вяселле скончылася, госці разышліся, нават і тыя, што заседжваюцца больш, чым трэба, хоць і былі запрошаны не як самыя дарагія, і засталіся яны ў хаце ўтраіх — Валерыя Віктараўна, Кім і маці. Засталіся ўпершыню ў новай для ўсіх якасці — жонкі, мужа, свякрухі. І з гэтае прычыны ўсе трое былі як бы збянтэжаныя, сарамлівыя і нерашучыя — крышачку падобныя на ацверазелага чалавека, што шчыра абяцаўся не піць, ды вось, як на тое ліха, не стрымаўся. Што рабіць, што гаварыць, як павесці сябе — каб жа знаццё! Бо — раптам не так, раптам не тое?

Як і належыць, першай падала голас маці:

— Ну што, хоць і позна, а трэба варушыцца, хоць збольшага са сталоў прыбраць... А вы, дзеткі, каб не заміналі, пагуляйце. Усё адно, пакуль я тут таўчыся буду, не заснеце...

Але дзеці дружна адмовіліся і ўзяліся памагаць маці. Утраіх яны досыць хутка пазносілі ў першую хату недаедкі са сталоў, паскідалі ў тазы і ў балею брудны посуд, павыносілі на падворак пазычаныя ў суседзяў сталы і лавы. Потым Валерыя Віктараўна падмяла падлогу, а маці дастала з шафы, адсунутай да грубкі, прасціны, падушкі і коўдру і паслала пасцель.

— Усё, дзеткі,— сказала на адыход.— На сёння хопіць. Лягайце, бо і так як на нагах трымаецеся. Ад аднаго тлуму можна ачмурэць. Зачыняйцеся і лягайце. А я пайду, пагляджу, што там на двары, ці ўсё назачынана-пазакрывана, а тады ўжо і сама прылягу...

І сапраўды пайшла на двор. Пахадзіла па падворку, тузанула за дзверцы, ці зачынены склеп — там жа яшчэ нямала яды ўсякай, каб жа каты часам не ўлезлі, падышла да хлява, паслухала, як дыхае

кароўка, прайшлася па сцежцы між град пад пуню, пастаяла там, паслухала веснавую ноч — за рэчкаю, на аселіцы, ужо, падалося, цёхкаў салавей, хоць і нясмела пакуль. У хату вяртацца не спяшалася. Не ішлося ёй у хату. Не патрэбна яна там. Хай дзеці пабудуць адны. Зусім адны. А яна насядзіць во тут, на парожыку расчыненай варыўні. Пасядзіць, падумае, а мо і падрэмле. І з яе хопіць. Колькі ёй, старой, трэба таго сну! Як зайцу. На адно вока. А яны хай паспяць. Яна сваю работу зрабіла, здаецца. Як умела, як змагла, так і зрабіла. І калі што не так, дык ні перад кім ёй не сорамна. Адно — перад самой сабой. Бо няма ў яе нікога. Ні бацькі з маткаю, ні брата з сястрыцаю, ні мужыка. Адна яна на свеце. Яна і сын. А цяпер во, дзякаваць богу, і нявестачка...

А работу яна мае на ўвазе не сённяшнюю і не ўчарашнюю. Усё жыцейка сваё мае на ўвазе. За яго ёй, Кацярыне Курловічавай, не сорамна. Змалку працавала. Мала гуляла, мала вучылася, усё больш рабіла і рабіла. У таты з мамай, у калгасе, а пасля ў свякрухі са свёкрам. Добрыя былі людзі, хай ім зямля пухам. І Вінцук іхні, чалавек яе, добры быў. Спакойны такі, ласкавы, ніколі яе інакш не зваў, як Кацюня. Усё Кацюня ды Кацюня. І дома, і пры людзях. Да вайны яе і ўсе пачалі былі зваць Кацюняй, а пасля, як загінуў Вінцук, забылася тое імя, Кацярынай стала, як і мае быць.

А Вінцук мог бы жыць ды жыць. Гэта ж яму цяпер было б усяго пяцьдзесят. Але, пяцьдзесят. Ён жа на чатыры гады за яе старэйшы. Па-дурному загінуў Вінцук, ні за што ні пра што. Ехаў на жарабку па сена, сядзеў сабе спакойна ў драбінах, ногі звесіўшы. А пры дарозе газеціна распластаная ляжала. І трэба ж было, каб вецер тую газеціну падхапіў. А жарабок пудлівы быў. Як ірвануўся, як панёс — утрыму не было, калёсы разнёс, і Вінцуку ці то колам, ці воссю па галаве. Пажыў яшчэ два дні, падыхаў, але да памяці так і не прыйшоў, памёр. Перад самай вайной, за тыдзень нейкі. Кіму сем гадкоў якраз споўнілася. Разумеў ужо, што татка памёр, абнімаў яго ў труне, плакаў, бедненькі. Думала, будзе памятаць бацьку. Але неяк спыталася колькі гадоў назад, дык — цьмяна, кажа, быццам помніць, а быццам і не.

А ў вайну і бацька з маткай галовы злажылі, і свёкар са свякрухаю. У адну і тую ж блакаду. А яна з Кімачкам уратавалася. Яна як прадчувала што, не пайшла тады разам з усімі ў сяло, засталася на балоце з маладзейшымі, з хлопцамі і дзеўкамі. І тыя, што пайшлі, усе на кулю нарваліся, а яны ў балоце адседзеліся. Праўда, ёй так не абышлося, балота тое адгукнулася ёй. Праз колькі гадоў косці ёй пачало круціць і сэрца балець. Дактары пасля вайны прызналі раматус і

парок сэрца. Лячыцца казалі і адпачываць, есці смачней, сытней. Як у насмешку якую казалі. Да лячэння ёй было і да адпачывання, калі засталася з дзіцем, у чым былі.

Але дарма. Цяпер во дык і пра ўсё тое можна сказаць, як Кім кажа: быццам было, а быццам і не было. Ды толькі ж — як гэта, быццам не было? Не! Было! Усё было. І тое нават, што і не думалася, што будзе. І рыдлёўкамі поле ўскопвалі, і кароўкамі аралі, і на сабе плуг цягалі, і дроўцы на плячах з лесу насілі, і ў жорнах да пацямнення ў вачах малолі. І босыя хадзілі, голыя, абдзёртыя. І ад каросты не маглі ўратавацца, ад клапоў і вошай тых... Ого, не было! Усяго было...

Памятае, прадала парасят і купіла Кіму касцюмік картовы. Ён тады ўжо ў шостую групу бегаў. Дык жа не вучыла, а сам даўмеўся — толькі ў школку адзяваў. Са школкі прыбяжыць, яго здыме, а зрэбныя штанцы і кашульку ўсчэпіць і бегае. Гэтак шкадаваў. А яна ж і не вучыла. Сам бачыў, што няма адкуль узяць.

А вучыла яна, каб работы не цураўся. Каб разумеў, што чалавек без работы — не чалавек. Няма такога чалавека. Каб людзей паважаў. І каб верыў, што заўсёды добрых людзей больш, чым благіх. Заўсёды і ўсюды. Што свет на добрых людзях трымаецца. І тады, калі бяда ці гора, і тады, калі радасць у хаце. Што з благім чалавекам свет пройдзеш, а назад не вернешся. І чэснасці вучыла. Што хлеб чэсны — не прэсны. Што чэсны чалавек спіць спакойна і што душа ў яго надзейная, не мітуслівая.

А яшчэ наказвала вучыцца. Сама яна скончыла сваёю пароюпяць класаў. Далей бацька не пусціў. Сказаў, досыць дзеўцы і такой грамаці. А яна ж вельмі хацела вучыцца. Плакала, прасіла, ужо і матка на яе бок стала, ды бацьку не ўламалі. Упёрся — не і не. Хлопца пускаць у навуку — куды ні ішло, а з дзеўкі ніякага толку не будзе, адно сапсуеш, пасля сама рада не будзе. Тое хаценне яе, прага да вучобы засталіся з ёю на ўсё жыццё. І калі ўжо ёй не ўдалося, парашыла, што сына вывучыць. На інжынера, настаўніка, доктара — на каго захоча. А Кім узяў ды пасля восьмага класа пайшоў рабіць. І ўпрошвала, і біць спрабавала — не пайшоў у дзевяты. Адно паабяцаў, што дзесяць класаў скончыць, не цяпер, дык пазней, а, сказаў, атэстат атрымае і далей пойдзе вучыцца.

Цяпер-то яна ведае, чаго ён тады сарваўся з вучобы. А тым часам даўмецца не магла. І крыўдна ёй было, што не расказаць нікому. Гэта ж крыжам клалася, каб хаця сын вучыўся, а ён такога коніка выкінуў! Але змірылася. Робіць, у чарку не глядзіць, нават і папяросай не цмыгае — то што ж хацець? Тры гадкі праляцелі — як адзін. А там і ў армію яго забралі. Гэтыя, армейскія яго тры гады ёй ужо доўгімі

падаліся. Усё адна і адна — чаму ж не здоўжацца? А прыйшоў з арміі, дык паглядзела — мужчына зусім, якая ўжо яму вучоба. І не напамінала. Пэўна, доля такая. А ён перазімаваў, вясну і лета перабыў, а восенню — у вячэрнюю. Дык у яе з радасці так сэрца затахкала, што, думала, з грудзей вырвецца. Паменела ў яе радасці, як пабачыла, што надта ж цяжка яму. Вядома, работа шафёрская — не салодкая. Паедзе раненька, а прыедзе позненька, а часта і абначоўвае ў дарозе. І ў далёкай, і ў блізкай, калі што-небудзь зломіцца ў машыне. Тады кукуе, бедны, на дарозе, пакуль помач якую знойдзе. Дзе ўжо тут, здавалася б, да школы? А ён не кідае, не! Падручнікі з сабою заўсёды ў кабіне вазіў. У школу няма як дапяць, дык у дарозе наганяе. Ну і, не будзе грашыць, настаўнікі памагалі. Яна ж ведае, не сляпая і не глухая была. От так, то бокам, то скокам, як кажуць, а скончыў. Яна думала, што адразу ў інстытут пойдзе. А чаму б і не? Што дваццаць пяць мінула, такой бяды. У студэнты і ў трыццаць бяруць. Жыць стала лягчэй, за вучобу не тое што плаціць не трэба, як раней, а яшчэ і стыпендыю плацяць,— чаму ж не вучыцца? А ён — не пайшоў. Прызнаўся неяк, што збаяўся. Здрэйфіў, сказаў. Гадок-другі падрыхтавацца трэба, сказаў, а тады завочна будзе вучыцца. Як сказаў так, яна і паверыла. Хай, людзі ж і завочна вучацца. Але тады — жаніцца трэба. І не абы з кім. Калі ўжо ў яго планы такія, то трэба жонку з прыцэлам браць. Яна баба вясковая, але петрыць, як яно лепей зрабіць. Возьме невучоную, дык і сама не гам, і яму не дам. А пашчасціць ухапіць настаўніцу ці хоць бы фельчарку, тая сама падштурхне: ідзі, мужанёк, вучыся! От яна і запрыкмеціла Валерачку.

Спачатку, вядома, мала на што яна спадзявалася, хоць настаўніца новенькая ёй спадабалася. Гэта яна знарок сказала, што і лупаватая, і вялікаротая, і сякая-такая. Ім жа скажы адно, дык зробяць другое. Асабліва калі да дзеўкі гаворка зойдзе. От яна і кінула прыпаду: і не надта каб, і бяжы, Кімачка, бо перахопяць! А ён і папаўся, галубок. Як сказала першы раз пра новую настаўніцу, дык з хаты ўцёк. А як пачалі гаварыць, што праводзіў яе і сетачку падносіў, дык яна вазьмі і спытайся, ці праўда тое. Ён, бы дзеўка, пачырванеў, але не выскачыў ужо з хаты, так, нібы нічога такога, сказаў, што ніхто нікога не праводзіў, а з раёна разам ішлі. Балбочуць людзі абы-што, сказаў.

А яна падумала: то і добра, што балбочуць. Гэта ж і да яе, галубкі, дойдзе, і ёй на душу лішні раз капне, што ёсць у Чырвоным Бары Кім Курловічаў. А кропля, кажуць, і камень дзяўбе. От хай тыя кроплі і капаюць.

І ўсё ж, руку на сэрца паклаўшы, не спадзявалася яна на такі зыход. Не спадзявалася найперш таму, што нехлямяжы дужа яе Кім.

Надта ўжо спакойны, памяркоўны, разважлівы, а то і сарамлівы. Дзеўкам такія не падабаюцца. Ім трэба, каб хлопец калі і нораў свой паказаў. Баба, хоць і вучоная, ёсць баба. Таго, хто ходзіць услед заўсёды паслухмяным, глядзі што і неўзлюбіць. Ёй, дай веры, захочацца, каб гэты паслухмяны і сарамлівы, калі ніхто не бачыць, і да плота яе прыціснуў, праводзячы. А як жа! А яе Кім наўрад ці адважыцца на такое. Пабаіцца. Ён вунь які мацак, а яна — саломінка. От і пабаіцца дакрануцца, каб знячэўку не зламаць.

Зрэшты, пра тое яна ўвогуле дарэмна думала, бо ён доўгі час і ў той бок не глядзеў. Чыста баяўся яе, і ўсё тут! А думаць дык думаў пра яе. Яна, матка, здагадвалася. Бо яго кожная драбязінка выдавала. Яна знарок абы-што скажа пра Валерыю Віктараўну — быццам бабы на сяле гаварылі, а ён адразу наструніцца, вушы натапырыць, хоць і не павернецца, не перапытае. Дык яна па-сміхнецца сама сабе цішком і галавой пакруціць: папаўся, бедненькі, улюбіўся. Пэўна ж улюбіўся. Улюбіцца-то ўлюбіўся, але кніжак не цураецца, кожную вольную хвіліну чытае. І піша штосьці, і задачкі рашае. Аднойчы ж у школу сабраўся. Яна, быццам проста так, папытала, чаго, па якой патрэбе. На кансультацыю, сказаў. Праз нейкі час — зноў туды ж, на кансультацыю. А назаўтра пайшла яна вады прынесці і ля калодзежа сустракае Надзю Тарыку, а тая і кажа: «Чаму ж і ты не прыходзіла ўчора ў школу? Там жа вечар быў. Дзеці вершы чыталі. Конкурс Валерыя Віктараўна праводзіла, хто лепш за ўсіх верш прачытае. І каб самі бацькі ацэньвалі. Дык там не толькі бацькі, а ўсе, хто хацеў, папрыходзілі. І Кім твой быў... Гэтая Віктараўна — агонь-дзеўка! Ніколі ж такога ў школе не рабілася...» От, значыць, якая кансультацыя, здагадалася яна. І зарадавалася: то і добра!

А неўзабаве і Новы год надышоў. У клубе Валерачка надумала правесці навагодні баль. Такога ў Чырвоным Бары таксама яшчэ ніколі не было. Дзеці канцэрт зрабілі. Потым танцы пачаліся, а ў перапынках паміж скокамі гульні розныя. І мужчыны, бабы ў тыя гульні, бы дзеці, гулялі. А пад канец, перад тым як разысціся Новы год сустракаць, усе пачалі ў шарыкі з дзіцячага наганчыка страляць. Кім панавешваў пад столлю надзьмутых шарыкаў ну штук трыццаць, калі не больш. І от хто ў шарык пацэліць, шарык пшыкне-лопне, а з яго паперка долу падае. На паперцы нумар напісаны. Па тым нумары Валерачка выйгрыш выдае, а выйгрышы такія, што ўсе за жываты хапаюцца. Адзін выйграе шаўковую стужачку, другі — дзіцячую соску, трэці — пеўніка-свістульку, чацвёрты — шпульку нітак, пяты — расчоску, шосты — збанок двухлітровы... Рогату было — клуб тросся.

Да дванаццаці ўсе ў клубе таўкліся. А пасля хто ў якую кампанію разбрыліся. Кім яе трапіў у кампанію да настаўнікаў. Валерачка, яшчэ адна настаўніца, Ніна Аляксандраўна, таксама маладая, але ўжо замужняя, аграном яе ўзяў колькі гадоў назад, ладзілі тыя гульні ў клубе. Яны і папрасілі Кіма ў памагатыя, бо тыя самыя шарыкі пад столлю самі не маглі ж павесіць. От пасля ўсяго яны і забралі Кіма з сабою, у сваю кампанію. Там, казаў пасля, і старшыня калгаса з жонкаю быў, і старшыня сельсавета, і фельчарка. Гулялі яны ў школе, у складчыну. Жанчыны папрыносілі хто што з закусі, а мужчыны — па бутэльцы,— такая ўжо завядзёнка была, хоць і благая.

Яна не ведае, ці позна яны там вячэралі, ці на скорую руку. Яна як пайшла з клуба, дык неўзабаве і спаць лягла. І не чула, калі Кім прыйшоў. Ведае толькі, што ў клубе зноў танцы былі, і позна, ці не да трэціх пеўняў. І здагадваецца, хоць сын нічога такога і не расказваў, што ці не той ноччу, пасля ўсяго ўжо, быў Кім з Валерачкай. Мусіць, быў. Бо, заўважыла, іменна пасля тае начы навагодняй перастаў ён баяцца Валерыі Віктараўны, не абыходзіў яе за тры вярсты, а нават быццам пару разоў заходзіў у хату да Любы Міхалкавай браць у яе пастаялкі нейкія кніжкі.

Але каб што нейкае пачалося між імі пасля Новага года, дык не сказала б. От проста пазнаёміліся бліжэй ды трошкі паабвыклі адно да аднаго. Як аднавяскоўцы. У сяле ж іначай і няможна. Усё адно, хоцькі-няхоцькі, а ўсе адзін пра аднаго ведаюць. Так і яны. Бо каб што такое, дык у сяле б заўважылі і на язык узялі б. А пра іх, Валерачку і Кіма, не надта пляткарылі.

Так, у няпэўнасці, студзень мінуўся, а пасля і люты. А ў сакавіку недзе Кім павёз дзяцей у Мінск на экскурсію. У кузаве лаўкі спецыяльныя зрабілі, і больш чым дваццаць вучняў на іх расселася. А ў кабіне разам з Кімам — Валерачка, вядома, бо хто б яшчэ, каб спыталі, мог бы дадумацца да той экскурсіі! І вось ужо з Мінска Кім яе вярнуўся не такім, якім паехаў. Радасны вярнуўся. Нешта між імі там адбылося. Ці што зрабіла, ці сказала, а толькі ж зразумеў ён, што і ён, Кім, для яе не пустое месца. Хіба ж яна не бачыла? Якая гэта матка не заўважыць таго, што ў сына з дзеўкай на лад ідзе? Кожная заўважыць!

Ды ён усё роўна цямця-лямця быў, яе Кім. Ужо і сустракацца пачалі, ужо зноў па сяле гаворкі пайшлі, што Кім з Валерыяй Віктараўнай раман піша, а ён, мусіць, ні словам, ні рукам волі не даваў. Пэўна ж не даваў! Бо скончылася ж тым, што не ён ёй, а яна яму прызналася, што любіць яго. От гэта дзеўка! Яна ж адразу запрыкмеціла, тады яшчэ, як пабачыла ўпершыню Валерыю ў краме на па-

чатку леташняй восені, што новая настаўніца дужа прыемная дзяўчына, на язык скорая, здатная з любым чалавекам пагаварыць, з кожным паразумецца. Дык яна і з Кімам яе не валэндалася. Ён жа ўсё яе на «вы» называў. Як што калі трэба, дык: Валерыя Віктараўна, ці можна вас папрасіць... ці зможаце вы... мо ў вас ёсць... Дык, гледзячы на такое, і яна да яго выкае. Праўда, Вікенцевічам не звала, проста Кімам, але — вы і вы. А як пачало пакрысе адтаваць яе сэрца, як пачала душа яе мякчэць, бачачы Кіма, пачала Валерачка да яго на «ты». Раз сказала, другі. А ён — быццам не чуе, усё роўна да яе: Валерыя Віктараўна, ці ёсць у вас... Нейкія кніжкі ўсё ў яе пытаў. Дык яна тады сама ўзяла лейцы ў рукі. Кім ёй, маці, не ўсё расказваў, вядома, так, збольшага, як тое адбылося, але ёй досыць было і таго, што казаў, каб разумець, што да чаго.

Яны тады ў кіно хадзілі. Кім ужо не таіўся, сказаў на адыходзе, што пойдуць у кіно. Дамовіліся, маўляў. Фільм цікавы, даўно хацелі паглядзець, дык сходзяць. Ідзі, сынок, ідзі, сказала яму моўчкі ўслед. Ці ж яна яго не пускаць будзе? Ды ці ж ён і прасіўся ў яе? Гэта ж сказаў ёй ад радасці. З душы прасіліся тыя словы самі: от, мама, ведай і ты, з ёй у кіно іду, не адзін, а з ёй! Пайшоў, а яна, дай веры, знячэўку падумала, што мо гэта і блага — так хацець гэтую самую Валерачку за нявестку, як яна хоча. Як падумае ды ўспомніць, дык усё ва ўсіх быццам наадварот было. Каго ні возьме, дык матка якраз была супраць нявесткі настроена. Дальбог жа! Нашто ж далёка хадзіць, калі і яе самую свякруха стрэла няласкава. Выгляду не падавала, пры людзях, пры Вінцуку нічым сябе не выдавала, лагоднічала нават, але ж яна, Кацярына, памятае, што неаднойчы лавіла на сабе яе злосны — калі не сказаць горш — позірк. Гэта пасля ўжо, праз год, як нарадзіўся Кімка, свякруха перамянілася, і вочы яе падабрэлі, і голас паласкавеў. А яна ж во, дай веры, сама хоча дзяўчыну ў нявесткі. Любіць яе. З першага разу ўпадабала. За што, дык, пэўна, і не скажа. Яно і паспрабуй скажы! Пра карову ці пра ката — і то не заўсёды скажаш, чым добрая ці добры. А ў іх жа служба адна. Шмат малака дае — значыць, добрая кароўка. Старанна мышэй ловіць — таксама, бясспрэчна, добры кот. А чалавек? З твару прыгожы, а душа подлая,— от і скажы, добры ён ці дрэнны? А то, бывае, і з твару ўдаўся, і душа — хоць да раны прыкладзі, а гультай несусветны — які чалавек, што пра яго скажаш? Але ўсё-такі ёсць нешта ў чалавеку такое, што адразу выдае, чаго ён варты. Ці то па вачах відаць, ці па голасе, ці па тым, як ён да другога чалавека падступаецца, як размаўляе з ім. А то і па тым, як ходзіць, як паводзіць сябе. Карацей кажучы, Валерыя Віктараўна прыйшлася ёй да душы. І вочы, хай сабе трошкі і зіркаватыя,

добрыя, не мітуслівыя, на цябе глядзяць, а не міма. І твар не злы, не кіслы, а шчыры, адкрыты, даверлівы. І сама ўся рухавая, жывая, але не пудлівая, не знерваваная. І паходка не ганарлівая, але і не шалдабалда, не валюханне качынае. Па ўсім відаць, што чалавек добры, чэсны, надзейны. Ну, а што не дурны, дык і з аднаго слова відаць. Гэта ж каторай ці катораму досыць проста рот разявіць, каб пабачыць, што дурань. А Валерачка гаворыць, як песеньку пяе. Быццам і па-нашаму, па-вясковаму, усе слоўкі знаёмыя, родныя, а складзены і вымаўлены так, што быццам ужо і не нашы, простыя і свойскія, а кніжныя, вучоныя, прыгожыя. Слухала б, здаецца, яе і слухала б...

Расчулілася яна тады, тым вечарам. Ажно ў яе сэрца заныла. Ціхенька так, быццам і не балюча, але ўсё роўна непрыемна так, тужліва. Падумала была, хоць не на бяду гэтая яе любоў. Мо досыць было б, каб хоць сын любіў? А пасля плюнула ў злосці і расцерла. Каб яна яшчэ праз глупства нервавалася? Гэта ж, можа, наадварот, ёй шчасце вялікае пасвеціць у вочы, калі Кім яе пабярэцца з Валерачкай. Гэта ж не будзе ў яе розніцы, ці яна, ці ён: абое любімыя, абое дарагія, абое родныя. А яна, дурная, расквалілася, растузалася...

Ён тады позна прыйшоў з кіно. Але яна не спала. Нават і не лягала. Нейкі касмыль воўны валяўся, даўнейшай, ужо трохі і злямчанай, парашыла спрасці — мо прыдасца нітка на што-небудзь. Якраз дапрала, прасніцу прыбірала і калаўрот, каб не тырчалі навідавоку, а ён прыйшоў. Распрануўся і на другую палавіну пайшоў. Ну, пайшоў, то і добра, позна ўжо ж, хай кладзецца, бо заўтра ж, пэўна, зноў куды-небудзь паедзе. Яна адно на ўсякі выпадак спытала, мо перакусіць што. А ён на яе словы вярнуўся зноў у першую хату і галавой пакруціў: не, мама, не хачу анічога, сказаў. Не хочаш, дык і добра, яна на ўсякі выпадак пакінула на стале, пад абрусам, скрылёк сала і кубачак кісялю яблычнага, куплёнага. Ён зноў галавой пакруціў: дзякую, мама, не хачу, сказаў. А потым раптам засмяяўся і папытаў, як дурненькі: ці ведаеш ты, мама, чым сёння кіно скончылася? У яго быў нейкі такі твар, што, зірнуўшы на яго, яна таксама ўсміхнулася. Адкуль жа ёй ведаць, сказала, яна ж у клубе не была. Дык ведай, мама, гукнуў ён, ведай, што Лера згадзілася выйсці за мяне замуж! І крутануўся па хаце на адной назе. Падышла яна да яго, нагнула галаву, пацалавала ў лоб, сказала: рада за цябе, сынок. І папрасіла: ты ж раскажы, як гэта здарылася, як вы дамовіліся, матцы ж ведаць трэба... А ён абняў яе, крутануў лёгенька, праспяваў: матцы адно трэба ведаць, што вяселле будзе на Мая...

Так нічога і не сказаў. Тым разам. А пазней трошкі расказаў. Адзін раз адным-двума словамі прагаварыўся, другі. Яна хутчэй здагадалася, чым зразумела, што паразумеліся яны прыкладна так.

Пэўна, пасля кіно прыпыніліся ці ля варотцаў Любы Міхалкавай, ці мо ў сенцы зайшлі, каб вецер не так працінаў. І, мусіць, Кім, як заўсёды, моўчкі стаяў, церабіўся, як васьмікласнік. І тады яна, відаць, не стрывала і прыстала да яго з роспытамі: ці любіць ён яе? Яна пытаецца, а ён маўчыць, яна пытаецца, а ён маўчыць, носам сапе. Дык яна тады — рашуча: апошні раз пытаюся, любіш ці не? Куды ж яму было дзецца! Узяў ды выціснуў з сябе: люблю. Вельмі любіш? Яна не адступаецца. Вельмі, прашаптаў. Ну, дык тады яна і сказала так проста: і цябе я люблю, і таму бяры мяне замуж... От такая дзеўка!

Ён прагаворваўся, што разгубіўся — страшэнна. Казаў, ледзь не самлеў. А яна сама ледзь не самлела, слухаючы яго. Аж сэрца зайшлося, ад радасці, вядома, што сын у яе такі. Што нават у такія гады дзеліцца з маткаю такім сваім сакрэтам. Яна спаймала сябе на гэтай думцы і перакінулася на Валерачку: гэта ж і ёй будзе добра за Кімам, гэта ж і яна будзе мець шчасце грэцца ля яго шчырай і адкрытай душы.

Калі ўжо сама дзеўка прапанавала — бяры мяне замуж, дык грэх было не ўзяць. От і ўзяў. І вяселле згулялі. І перайшла Валерачка ад Любы Міхалкавай да яе ў хату. Перайшла яшчэ напярэдадні. Са сваім небагатым скарбам. Кніжак больш, чым усяго астатняга. Людзі, вядома, прыкмецілі гэта. Сёй-той здзівіўся. Надзя Тарыка, суседка, не прамінула і сказаць: Кацярына, пасаг у тваёй нявесткі такі, што і пераймаць быццам няёмка... Яна адно Надзі сказала: а ты не на пасаг глядзі, ты на пасажніцу!.. Добра і так, што выкачалася дзеўка, вырасла, вывучылася без бацькі ды без маткі. А пасаг нажыве. Надзя ж ведае, што ў дзетдоме гадавалася яе нявестка, але от... Калі язык свярбіць, трэба ж нешта ляпнуць...

Спяць, пэўна, яе дзеці. Вядома, спяць. А яна во і да світання на парожыку прасядзела. Добра, што ватоўку здагадалася на плечы накінуць, а то б акалела. Яшчэ ўсё-такі ночы крамяныя. Ад зямлі цягне не парнасцю, а сцюдзёнасцю, бо яна яшчэ не прагрэлася як след, зямля. Вунь сонца ўстае, дык на траве — бы шэрань зіхціць...

Паднялася маці, шчыльней ахінула плечы ватоўкай, адной нагою патрапала, другою, бо адзеравянелі, адседжаныя. Трэба ж ісці ў хату, узяць даёнку, кароўку падаіць і за работу брацца. Толькі ж ціхенька, каб, не дай бог, не забразгатаць чым-небудзь — хай паспяць дзеці. На золку ж, кажуць, самы салодкі сон...

## ЛЮТЫ 1961 ГОДА

Ці не тыдні тры стаяла ціхае марознае надвор'е. Уначы неба зырылася зоркамі, снег пад нагамі рыпеў гулка і смачна, а днём ярка свяціла сонца і ў зацішку пад сцяною было цёпла. Прыкладзеш даланю да бервяна, а яно — бы тое паленне, што кладзецца ў яшчэ не астылую печ, каб падсохла да вечара, каб лепш гарэла ў грубцы. Дастаеш яго надвячоркам з печы, а яно цёплае-цёплае, бы над вогнішчам патрыманае.

А тут раптам аб адным дні ўсё на скрут пайшло. Спачатку сонца як туманам ці нейкім мройвам ахуталася, а пасля і зусім зблякла і прапала. Потым ветрык павеяў, і ўсё нейк быццам знізу, снежны пылок метучы і закручваючы. А затым неўспадзеўкі пайшоў снег, і к вечару ўжо сапраўдная завіруха-мяцеліца паглынула спачатку прырэчныя кусты на аселіцы, потым яблыні за пуняй, а пасля і самую пуню.

Маці глядзела ў акно і бедавала, як жа заўтра Кім дабярэцца ў райцэнтр. Пэўна, замяце так, што ніякая машына не праб'ецца. Каб знаццё, дык можна ж было б учора паехаць ці хоць бы сёння зранку. А то ж во, дачакаўся — свету белага не відаць. Не стрывала, адчыніла дзверы ў другую палову хаты, сказала:

— Ці бачыш хаця, што на вуліцы робіцца? Як з хаты выберашся, завочнічак? І чаму лямпы не запальваеце?

— А мы нічога не робім. Лера прылягла, а я сяджу, гаворым. Што, ты кажаш, на вуліцы?

— Мяцеліца, сынок! Ды такая, што за ноч па вокны памяце.

Кім падняўся з ускрайку ложка, падышоў да акна, працёр пальцам шыбіну і нейкі час паўзіраўся ў гэтую працёртую — цямнейшую — плямку. Выпростваючыся, сказаў заклапочана:

— Сапраўды замяце. Давядзецца пяшэчкам тупаць.

— Тупаць! Не надта і патупаеш! Плесціся, сынок, давядзецца, а дзе і паўзці. Помніш, як у пяцьдзесят шостым, недзе такой жа парою?

— Ты ўжо другі ці трэці раз кажаш мне, мама, пра пяцьдзесят шосты… Я ж тады ў арміі быў!

— А хай яго! Але тады, недзе такою парою, так намяло, што сёйтой з хаты раніцаю не мог вылезці. Назаўтра дзеці з Зосінай хаты на санках каталіся. Проста са страхі. Туды, на Юлікаў бок. Зося ганяла, баялася, каб салому не садралі. У яе ж ці не ў апошняй хата пад саламянай страхой стаяла,— гаварыла, так і не пераступіўшы парога, маці.

З кутка, з ложка, цяжка азвалася Валерыя:

— Я казала, каб сёння ехаў. Як прадчувала. Прыехаў бы загадзя, уладкаваўся б без спешкі... А заўтра пакуль, як мама кажа, дапляцешся, дапаўзеш да раёна, дык у Мінск да вечара ці дабярэшся.

Кім супакоіў і маці, і жонку:

— Ды неяк будзе, не бядуйце вы. Маленькі, згіну ў дарозе?!

— Як Бядулевы дрывасекі! — у тон яму прадоўжыла Валерыя.

— Ага! Скручуся абаранкам і засну пад спеў мяцеліцы,— падхапіў Кім.

Маці прысароміла іх:

— От і дагаварыліся! Як дзеці, дальбог. Хіба ж можна пра такое? Ці ж гэта жартачкі? Я ж помню пра тых дрывасекаў. Яны ж замерзлі, загінулі. Я ж плакала, памятаю, як Кім чытаў пра іх...

— Мы пажартавалі,— падала голас Валерыя.

— Мы пажартавалі, мамачка,— дадаў Кім.

Маці махнула на іх рукой:

— Ат! Я ж і кажу — дзеці!

І прычыніла за сабою дзверы.

Кім пайшоў да грубкі, узяў на гзымсе карабок запалак, каб засвяціць лямпу, але яго ціхенька паклікала Валерыя:

— Кім, хутчэй сюды!

Ён падбег да ложка, схіліўся над ёй, спалохана прашаптаў:

— Што?

Яна пырснула смехам:

— Не бойся! Я хацела, каб паслухаў! Так біўся, што, думала, выскачыць! Во, зноў! Пакладзі руку сюды! — Яна намацала яго руку, прыклала да жывата.— Чуеш? Ну, чуеш?

Ён нічога не адчуў, але, не хочучы яе крыўдзіць, прашаптаў:

— Ага, чую. Штурх, штурх...

— А чаго ты шэпчаш? — пырснула жонка зноў.— Ты думаеш, ён пачуе?

— Ты ж таксама шэпчаш,— знайшоўся ён.

— Чаму ты мяне не пацалуеш?

— А за што?

— Як гэта — за што? Я ж табе сына нараджу! Сына!

— Гэта яшчэ як сказаць! А можа, дачку.

— Сына! Чуеш, як таўчэ матку пад бок?

— Я мяркую, што так і дзеўкі таўкуцца.

— Кім! Цалуй хутчэй, бо перадумаю і нараджу дачку!

— Здаюся!

Ён прыпаў да яе пульхных, як набрынялых, вуснаў і пацалаваў доўга, але мякка. А калі пасля дакрануўся вуснамі да яе вока, адчуў цёплую саланаватасць і здзівіўся:

— Ты чаго, Лера?

Яна павярнула галаву набок і сказала ў падушку:

— Як ты можаш ехаць, калі я не сёння-заўтра магу радзіць?

Перад тым як маці адчыніла дзверы да іх, яны гаварылі якраз пра гэта. Гаварылі таму, што ён засумняваўся, ці ехаць яму: маўляў, ліха з ім, з інстытутам, калі яна ў такім стане... Яна не дала яму дагаварыць, заціснула далонькай рот: маўчы, са мной мама, а ты едзь і ні аб чым не думай. І вось — на табе! Нават слёзы...

На хвіліну ён разгубіўся, але тут жа ўзяў сябе ў рукі:

— А хто табе сказаў, што я еду? Хто гэта ўзвёў на мяне такі паклёп?

Яна маўчала, цяжкавата дыхаючы. Потым прыпаднялася, ашчарэпіла яго за шыю, зашаптала проста ў вуха, аглушаючы яго:

— Кімачка, я дурная баба, не слухай мяне. На гэты раз не слухай! Я сама раскісла, і мазгі ў мяне раскіслі. І ты мяне такую не любі. А цябе я ўсё роўна люблю! І зраблю з цябе каралевіча!

— Слухай, Валерыя Віктараўна, па-мойму, я ўжо каралевіч!

Яна захліпнулася:

— Ты робіш велізарныя поспехі! Ты абганяеш мае самыя смелыя спадзяванні! Ідзі запальвай агонь, Праметэй!

Ён пайшоў да стала, запаліў кнот. Хацеў надзець шкло-комінак, ды пабачыў, што яно закуродыміла — пайшоў у першую хату ўзяць ручнік і выцерці альбо і памыць. Яна, лежачы на спіне, глядзела яму ўслед — ён выглядаў дзіўна вялікім пры цьмяным святле, высокім і шыракаплечым, сапраўдным асілкам-волатам, і ад прыліву цеплыні яна задыхала неглыбока і часта. І ад гэтага цеплыня захліснула не толькі яе грудзі, пакацілася прыемнай хваляй вышэй, да галавы. І тады яна як бы нырнула пад гэтую хвалю, апынуўшыся ў яе цёплых і лёгкіх сховах, памяць імгненна высвеціла ўсе паўтара года, пражытыя ёю ў Чырвоным Бары. Убачыла той жнівеньскі дзень, калі ўпершыню ішла вёскаю, што ўжо стала для яе блізкай і нават роднай. Убачыла свой першы ўрок тут, у Чырванаборскай школе — урок у восьмым класе, на якім прысутнічаў завуч Карней Васільевіч, і пачула, як ён сказаў пасля, што яму было прыемна і цікава сядзець у класе. Убачыла той вечар, калі сядзела з цёткаю Любаю ля грубкі і калі ўпершыню пачула пра шафёра Кіма Курловіча, з якога паабяцала гаспадыні ці мо сабе самой зрабіць каралевіча, жартам, вядома, паабяцала. Убачыла і бясконцую, пыльную дарогу з райцэнтра да Чырвонага Бору, на якой яна

ішла з Кімам Курловічам, і трошачкі засаромелася ад той згадкі, бо паводзіла сябе тады яна зялепухай, выпіналася з усіх сіл ашарашыць хлопца, знішчыць яго сваёй начытанасцю і веданнем на памяць некалькіх тысяч вершаваных радкоў. Убачыла і тую паездку ў Мінск на экскурсію, калі яна канчаткова пераканалася, што ён шчыры, добры хлопец, спагадлівы да чужой бяды; (за сялом спыніў машыну, папрасіў дзяцей злезці, а сам нацягаў у кузаў некалькі ахапкаў саломы, і дзеці ў той саломе грэлі па дарозе ў Мінск ногі, а па дарозе дадому і самі спаўзлі з лавак і пазашываліся ў яе), і пагарнулася да яго, як да блізкай, роднаснай душы. Убачыла той дзень, калі ўпершыню выступала на педсавеце, выступала запальчыва, крыкліва, папракаючы ці не ўсіх агулам у апатыі, абыякавасці, шаблоннасці, адсутнасці ініцыятывы і пошукаў, і тое, як усе паапускалі галовы і аціхлі, а яна не здагадвалася, што аціхлі яны не толькі ад пачуцця віны, але і ад сораму за яе, саманадзейную зялепуху, якая, ці бачыце, адна здолела, змагла ўгледзець іхнія грахі і паспрабаваць паставіць іх на сапраўдны шлях і згадала, як Марыя Міхайлаўна спакойна, памяркоўна падзякавала ёй за шчырае, усхваляванае выступленне, пагадзіўшыся, што мо і праўда яны трошкі ўсе зашаблоніліся і што энергія і запал іх маладой каляжанкі Валерыі Віктараўны добра паспрыяюць ажыўленню дзейнасці іхняга калектыву па навучанні і выхаванні падрастаючага пакалення.

Але найперш, вядома,— мо таму, што ён даў штуршок гэтай рабоце памяці — убачыла тыя дні і моманты, якія пазначаны яе дачыненнямі да Кіма.

Убачыла той дзень, правільней, ціхі зімовы світанак, які яны сустрэлі на нагах пасля навагодняга свята. Яны тады позна былі ў клубе — ці не да гадзін пяці. Пасля крыху пастаялі ля варот Любы Міхалкавай. Датуль, пакуль у яе не акалелі ногі. Тады яна папрасіла яго пачакаць, а сама пабегла і пераабулася ў цёткілюбіныя валёнкі. І потым моўчкі, амаль што моўчкі, хадзілі да світання па атуленай прысадамі дарозе між Чырвоным Борам і Селішчам. Ёй тады хацелася, каб ён абняў і пацалаваў яе, але і сама пасміхвалася з гэтага свайго жадання, разумеючы, што ён і ў думках не дапускае нічога падобнага. Смешна! Ён не дакрануўся да яе ажно да таго вечара, калі яна сама вымусіла яго сказаць, што ён любіць яе. Яна, вядома, і без таго бачыла, ведала гэта, але ёй, як, мусіць, і любой дзяўчыне, хацелася пачуць словы прызнання. Што зробіш, такая ўжо, мусіць, у іх, жанчын, натура. Ім мала адчуваць, бачыць і ведаць, ім трэба яшчэ, каб ім бясконца, штодня напаміналі, гаварылі, што іх любяць, кахаюць...

Убачыла яго і сябе тым днём, калі яны ўпершыню сталі блізкімі,— на другі дзень пасля вяселля. Кімава маці, якую яна пачала зваць мамай з таго дня, як яны разам прыйшлі да іх у хату, пасля вяселля, калі разышліся госці і яны збольшага прывялі да ладу хату, пакінула іх адных. Яна здагадалася, што свякруха зрабіла гэта знарок — каб не замінаць ім, каб не бянтэжыць іх. А яны... Яна папрасіла Кіма патушыць лямпу. Ён паслухмяна дзьмухнуў у комінак. Яна распранулася і лягла, бліжэй да сцяны, вызваляючы яму месца. Ён сядзеў ля стала і маўчаў. Тады яна паклікала яго. Нават не паклікала, а проста сказала, каб ён таксама лягаў спаць. Ён, не марудзячы, распрануўся і лёг. Лёг ціхенька, асцярожна ля яе, на спіну, і сцішыўся. Яна бачыла, што ён перажывае, адчувала па ягоным дыханні, што ён хвалюецца, і нечакана сама затрымцела ўся ў чаканні. Але ён маўчаў і не варушыўся. І тады ёй прыбегла думка, што любая дзяўчына заўсёды сталейшая за хлопца і што, значыць, слова ці ўчынак тут за ёю. Яна памкнулася да яго, хуценька пацалавала, шапнула: спі! І ён заснуў. Яна неўзабаве са здзіўленнем зразумела, што ён сапраўды заснуў. Яе хапіла на тое, каб супакоіцца і ўрэшце таксама заснуць... А іхняй была наступная ноч. І пасля тых хвілін уцехі ў яе засталося радаснае ўсведамленне таго, што ён — толькі яе, а яна — толькі яго і што ад гэтага часу так будзе заўсёды. І раніцаю, выходзячы ў першую хату, яна, вітаючыся з маці, пацалавала яе шчыра, моцна — за сына...

Убачыла яго тымі восеньскімі днямі, калі ён уцепліваў хату. Ён ужо ведаў, што яна зацяжарала, і сам, без матчынай падказкі, даўмеўся, што старую і таму халодную хату трэба ўцяпліць. З-пад гатара прывёз машыну пілавіння і засыпаў ім прызбу кругом хаты, з усіх бакоў. З Мінска прывёз некалькі трубак толю і абабіў знутры сцены, а пасля разам з ёю паклеіў іх шпалерамі. І ёй прыемна і лёгка было памагаць яму, бо ведала, што ён робіць гэта дзеля яе. Наогул, вядома, дзеля ўсіх, дзеля іх траіх, але найперш — дзеля яе і дзеля таго ці той, што некалі паявіцца на свет у гэтай хаце. Ён абіваў маленечкімі цвічкамі сцены толлю, а яна глядзела на яго твар, і ёй было суцешна бачыць гэты твар, які дыхаў ціхамірнасцю і лагодаю...

Убачыла яго ў, настаўніцкай кампаніі падчас сустрэчы другога яе Новага года тут, у Чырвоным Бары, і зноў адчула колішняе задавальненне ад таго, што ён трымаўся і паводзіў сябе зусім не так, як год назад, калі ён быў толькі яе і Ніны Аляксандраўны памагатым,— цяпер ён быў сапраўды яе мужам, у меру сціплым, у меру дасціпным, у меру сур'ёзным і ў меру жартаўлівым. Яна, вядома, адчувала і свой уплыў, але радавалася і яго прыроднай тактоўнасці, і яго здольнасці вучыцца, схопліваць якраз тое, што трэба, і так, як трэба...

Кволае святло малюсенькага, ледзь бачнага з рашоткі язычка полымя свяціла яму ў спіну, калі ён выходзіў у першую палову хаты чысціць камінок, і цень ягоны заняў амаль усю сцяну, пацягнуўся па падлозе і столі, быццам цень ад нейкага асілка-велікана. І яна, лежачы ў ложку, амаль асязальна адчула пад сабою яго цёплыя і дужыя рукі, якія колькі часу назад лёгенька, бы пушынку, паднялі яе і асцярожна паклалі сюды, на падушкі. Ён часта браў яе на рукі. Улетку, калі яму выпадала вольная хвіліна, яны бегалі за тры кіламетры ў Селішча на возера. І калі выходзілі за вёску, ён падхопліваў яе на рукі і нёс. Яна вырывалася, сарамаціла яго, палохала, што раптам хтонебудзь паявіцца нечакана з-за павароткі, выйдзе з кустоў на дарогу, а ён не зважаў і яшчэ, дурэючы, блазнуючы, кідаўся бегчы з ёю на руках, і яна паддавалася яго блюзнерству і гразілася ніколі не злезці з яго рук. Цяпер жа яна цяжкая, як бомба, а ён усё адно возьме яе і паносіць па хаце ці вось, як сёння, на ложак пакладзе. Адпачывай, маўляў, а то, як той казаў, рассыплешся без пары...

Ён вярнуўся нарэшце да стала, уставіў у рашотку камінок і падкруціў кнот. У хаце павіднела.

— Ну што, пачытаем да вячэры? — павярнуўся да яе.

Яна кіўнула галавой, толькі папрасіла:

— Але ўжо ты сам, мне нешта сёння цяжкавата.

З таго дня, як яна пайшла ў дэкрэт, яны амаль кожны вечар перад сном чыталі. Уголас. Напераменку. Часам слухала і маці. Сядзела, пакуль не пачынала кляваць носам. Адчуўшы, што дрэмле, яна ціхенька падымалася і ішла ў першую палавіну хаты — пасля іхняга вяселля яна перабралася спаць туды, лягала на палацях пры печы. Яны пярэчылі, але яна настаяла на сваім, абгрунтаваўшы гэта тым, што старыя плечы любяць грэцца на печы.

Заўчора ці пазаўчора яны пачалі чытаць «Братоў Карамазавых». Кім зняў з этажэркі кнігу, знайшоў закладзеную старонку і прысеў да стала:

— Ну, слухай...

Прачытаў ён старонак пяць, не болей і раптам спыніўся — нечага як быццам яму не ставала. У незразумелай пакуль трывозе зірнуў на Леру. Яна спала. Ён пасядзеў, паківаў галавой, потым асцярожна загарнуў кнігу, паклаў яе зноў на этажэрку, прыкруціў кнот у лямпе і выйшаў у першую хату.

Маці тупала ля стала. Убачыўшы яго, спытала:

— Вячэраць, сынок, будзем?

— Хіба з табой, мама, бо Лера задрамала. Паслухала некалькі старонак і заснула,— адказаў ён.

— Ну, то сядай ты адзін і вячэрай, а мы пасля,— сказала маці.— Сядай, еш.— Яна падсунула да яго талерку, сама села з другога краю стала.— Баюся, сынок, што прыйшла пара. Валерачка даходжвае. А ты паедзеш...

— То ж трэба, мама. Першая сесія, прапускаць няёмка,— спахмурнеў ён.

— Не, дык я не пра тое. З ёй жа я тут буду. Калі што, дык... Ты ўжо там лішне не бяры да галавы. Здавай свае экзамены і не думай ні аб чым.

Кім адмахнуўся:

— Што са мной зробіцца! Усяго ж дзесяць дзён!

Маці кіўнула галавой, бы пагадзілася, спытала пра іншае:

— Табе ж сабрацца трэба. Каб заўтра не поркацца.

— Кніжкі, сшыткі я паклаў. Лера сарочкі сабрала, ручнік. А што яшчэ?

— Грошы ж не забудзься. І як жа гэта — што яшчэ? Што, ты ні скварчыны, ні чаго іншага не возьмеш?

— Ну збяры што-небудзь. Толькі трохі, мама, павячэраць калі, там жа сталоўка ёсць і буфет робіць...

Лера так і не паднялася вячэраць, хоць і прачнулася неўзабаве. Сказала, што не хоча. Кім, зладаваўшы чамадан, таксама лёг. Лёг раней, зважаючы на тое, што падняцца заўтра трэба будзе таксама раней. Пра машыну ён дамаўляўся, Сяргей Ягоравіч, старшыня калгаса, сказаў, што Селівончык, на бартавой, паедзе ў Мінск, а Кахновіч на самазвале — у раён, дык ці на той, ці на другой пад'едзе, куды захоча: ці да раёна, да аўтобуса, ці адразу да Мінска. Ну, яно так, вядома, але ўсё роўна ранічкаю трэба папярэдне падбегчы ў гараж, дамовіцца ці з Кахновічам, ці з Селівончыкам, каб прыпыніўся ля хаты, папіпікаў. А то ж, можа, ні той, ні другі не паедзе, як замяце. Але ці тое, ці іншае лепш будзе, як ён раней ляжа.

Лёг, ды не спалася нешта. Чуў, што Лера таксама не спіць. І не проста не спіць, а штосьці нэндзіцца, варочаецца, ціхенька, каб не турбаваць яго, стогне.

Ён падняў галаву, спытаў:

— Табе блага, Лера?

— Ага,— азвалася яна.— Старалася не трывожыць цябе, каб паспаў трошкі, а — не магу.

— Можа, маму паклікаць?

— Не, не трэба. От каб легчы неяк зручней, каб не так цяжка было... А ты не зважай, адвярніся і пастарайся заснуць. Добра?

— Добра, добра...

Ён адвярнуўся, паклаў пад шчаку руку і... заснуў.

Снілася яму, што ён прадзіраецца праз нейкі гушчарнік. Кусты спляліся так густа, што рукамі не разарваць. Дзе гэта ён апынуўся і куды ён так упарта пхнецца — дапяць не мог. Нешта як клікала яго кудысьці, і ён ішоў уперад, рассоўваючы галіны, адхінаючы іх ад твару, ад вачэй. Нечакана дзесьці ззаду, у сябе за спіной, нешта застагнала. Ён крутнуўся, азірнуўся назад і... прачнуўся.

Стагнала жонка. Сон зляцеў з вачэй. Ён кулём скаціўся з ложка, хітнуўся да стала, запаліў лямпу.

— Што, Лера? Пачынаецца?

— Мусіць...

Кім кінуўся ў першую хату. Маці пачула ўжо іх, спускалася з палацяў долу.

— Я ж казала, сынок,— шапнула.— Апранайся, а я пайду, гляну, як яна.

Ён ужо надзяваў паліто, калі маці выйшла да яго ў першую палавіну хаты.

— Ну, што, мама? — спытаў трывожна.

— Тое самае, сынок,— адказала маці спакойна.— Мусіць, пара прыйшла. Колькі цяпер? Пачатак першай? Да раніцы чакаць боязна. Калі ўжо апрануўся, ідзі, сынок, бяры машыну — трэба везці.

— Сваю браць?

Маці памарудзіла, затым сказала:

— Хто ж яго ведае. Можа, Селівончыка папрасі? Як усё добра будзе, дык з раёна ты і паедзеш, дамоў вяртацца не будзеш.

— Мо і праўда...

Мароз адваліўся, снег не ішоў, але дзьмуў парывісты, пранізлівы вецер. Вуліца была чыстая, толькі сям-там, у зацішных кутках, наўскос яе ляглі неглыбокія сумёты.

Селівончык прахапіўся хутка. Што да чаго, зразумеў з паўслова. Толькі спытаўся:

— Што матка сказала, скора?

— Сказала, што да раніцы чакаць боязна,— не схлусіў Кім.

— А-а, то добра,— расслабіўся Селівончык.— Ты прысядзь, а я схаджу на двор, а пасля кубачак чаго вып'ю. Хуценька, без нічога, каб не нашчаком быць, язва, халера на яе. Чай у мяне ў грубцы стаіць, так што я скора...

Праз хвілін сорак ён пад'ехаў з Селівончыкам да хаты. Маці і Лера былі гатовы. Кім вынес жонку з хаты, пасадзіў у кабіну, пагладзіў па руцэ, шапнуў:

— Усё будзе добра, ты не бойся.

Пасля ўкінуў у кузаў чамадан, памог узлезці маці і ўскочыў сам.

Даехалі, можна сказаць, добра. Трошкі пабуксавалі толькі на выездзе з вёскі і ў Сілінцы. У Сілінцы давялося памахаць і рыдлёўкаю, адкідваючы снег, але не доўга — выбраліся. І маці, зноў акрываючы сынавы і свае плечы кажухом, уздыхнула з палёгкаю:

— Ёсць яшчэ бог на свеце, сынок. Я ж думала — замяце, як у пяцьдзесят шостым...

У бальніцы адчыніла ім заспаная, у гадах ужо сястра. Моўчкі адчыніла, моўчкі ўзяла Валерыю пад руку і павяла з прыёмнага пакоя ў другія дзверы. Павяла так нечакана, што ні Кім, ні маці не паспелі ёй і слова сказаць. І Валерыя нічога не сказала. Толькі ў дзвярах азірнулася, паглядзела на іх, і Кім паспеў згледзець, што твар у яе бледны і разгублены быццам.

Неўзабаве сястра вярнулася і, падаючы маці нявестчыны апраткі — паліто, кофту, спадніцу, валёнкі, усё, што было на Валерыі, сказала:

— У пару прывезлі. Скора на стол возьмуць.

— На які стол? — перапытаў Кім.

Сястра, зірнуўшы на яго, нібы ўсміхнулася:

— А-а, першы раз... Жонка скажа, на які стол...

— Трэба чакаць, сынок,— шапнула маці. І спытала ў сястры: — Як вы мяркуеце, колькі чакаць давядзецца?

— А гэта ўжо ад яе залежыць,— коратка адказала жанчына.— Калі яна ў вас спрытная, дык скора.

Маці пасклада адзенне ў хустку, звязала ражкі і села была на лаўку побач з ванзэлкам, але тут жа паднялася:

— Трэба ж схадзіць, сынок, папрасіць Селівончыка, хай пажджэ, не палянуецца... Можа ж, нядоўга будзе мэнчыцца. Схваткі ж ужо дома былі... Дык дачакацца толькі... Я ж бы тады і дахаты з ім. А заўтра пад'еду ўжо з гасцінцам якім...

Яны выйшлі да Селівончыка разам. Ён сядзеў у кабіне і курыў.

— Во таму і чай піў, каб гэтую суслу не смактаць нашча,— сказаў да Кіма.

— Я ведаю, дзядзька,— кіўнуў той.— Ноч у цябе ўжо ўсё роўна вераб'іная, пачакай трошкі, мама тады з табой паедзе, а то...

Селівончык, выпускаючы дым з рота, сказаў:

— Што ты, Кім, як апраўдваешся? Трэба дык трэба!

— Ну, то дзякую, Рыгор,— сказала маці.

— Еш з маслам,— ашчэрыў ён зубы ва ўсмешцы.

Абрадзілася Валерыя ў пяць сорак раніцы. Хоць — якой раніцы? Калі б улетку, дык, вядома, была б раніца. А то — пачатак лютага. Ноч

яшчэ, самая што ні ёсць ноч. Абрадзілася дачкою. Вагою тры кіло сто пяцьдзесят грамаў і ростам сорак сем сантыметраў.

Гэтыя лічбы абыякавым, сонным голасам паведаміла ім сястра, пяты ці мо шосты раз па іх просьбе падымаючыся і выходзячы з прыёмнага пакоя кудысьці туды, у глыбіню бальніцы, дзе кідалася недзе ў схватках Валерыя, прытым не ў цёплым мяккім ложку, а на нейкім... бр... стале! І пачуўшы нарэшце гэтыя лічбы, зразумеўшы, што тое, чаго яны чакалі, адбылося, Кім неяк нават і не адразу паверыў у гэта. Ага, думаў ён, значыць, дачка, як ён і казаў. Яшчэ сказалі, што важыць яна тры кіло сто пяцьдзесят грамаў і росту яна сорак сем сантыметраў. Усяго сорак сем? Во столечкі? Ён, прымерваючыся, звёў рукі. А Лера? Чаму пра яе нічога не сказала гэтая маўклівая, сонная сястра?

— А што з Лерай? — паўтарыў ён уголас.— Чаму пра яе нічога...

— Пра жонку пытаешся? — здагадалася жанчына.— А што пра яе казаць? Нармальна. Спіць, пэўна. Яны спяць пасля гэтага...

Патаптаўшыся яшчэ колькі хвілін у прыёмным пакойчыку, быццам не ведаючы, ёсць ім тут што рабіць яшчэ ці няма, яны пайшлі на вуліцу, да машыны. Селівончык, зачыніўшыся, драмаў, прыкрыўшы твар шапкай. Кім пстрыкнуў пальцамі па шкле, гукнуў:

— Усё, дзядзька! Дачка ў мяне!

Селівончык быццам і не драмаў, паправіў шапку на галаве, адчыніў дзверцы:

— Дачакаліся? Ну і што?

— Я ж кажу, дзядзька: дачка ў мяне! — паўтарыў Кім.

— Партач! Не мог змайстраваць хлапца! Але на радзіны ўсё роўна паклічаш, нідзе не дзенешся... Ну што, Кацярына, паехалі? Ці пачакаем, пакуль чайная адчыніцца? — Селівончык зноў паказаў жоўтыя пракураныя зубы.

— А бадай цябе, Рыгор! Лепш ужо дома чаю таго знойдзем! — засмяялася маці.

— То сядай. Ванзэлак можаш у кузаў укінуць. А не — пад ногі пакладзі.

Пакуль маці ўмошчвалася ў кабіне, Кім скокнуў на кола, перагнуўся цераз борт і ўхапіў свой чамадан. Маці, перш чым ляпнуць дзверцамі, яшчэ раз сказала:

— Не перажывай і не марнуйся, сам ужо глядзі там... А я і заўтра над'еду, і паслязаўтра...

Машына, стрэльнуўшы белым клубком дыму, скранулася з месца, зарыпеўшы скатамі па свежым снезе, і пакацілася. Кім пастаяў, паглядзеў ёй услед, пакуль былі відаць чырвоныя агеньчыкі, а пасля

вярнуўся ў прыёмны пакой. Сястра падняла ад стала галаву, пагледзела на яго запытальна.

— Можна, я ў вас пасяджу, пакуль ноч?

— Сядзі...

Потым, раніцаю, пакінуўшы тут, пад лаўкай, чамадан, Кім збегаў у магазін, купіў слоік кампоту з яблык і чарнасліву, пячэння, цукерак. У пакунак, які папрасіў перадаць Курловіч Валерыі Віктараўне,— у прыёмным пакоі сядзела ўжо новая сястра,— паклаў пісульку. Хацеў папісаць шмат, але напісаў урэшце толькі тры кароценькія слоўцы: «Я люблю цябе...»

## КАСТРЫЧНІК 1964 ГОДА

Яна ніколі не звярталася да вучняў са словам «рабяты». Не падабалася ёй гэтае штучнае, незразумелае слова. Чаму — рабяты? Адкуль яны ўзяліся, гэтыя рабяты? Ад якога кораня паходзяць? Адказу яна не знаходзіла. А тут яшчэ пры слове «рабяты» ёй адразу ж чулася рыфма — «жарабяты». Ці — «жабяняты». І язык не паварочваўся вымаўляць яго.

Да малодшых яна звярталася проста — дзеці, а старэйшых называла таварышамі. Яны, васьмікласнікі, дзевяцікласнікі і дзесяцікласнікі, ужо не дзеці. Яны разумеюць, што вучоба — гэта іхняя работа. У школу яны прыходзяць на работу. Яна, настаўніца, таксама прыходзіць на работу. Значыць, яны таварышы. Таварышы па рабоце, таварышы па адным клопаце і па адной турботе. Урэшце, слова «таварыш» і абавязвае. Цябе, таварыш, лічаць дарослым, сталым чалавекам, дык, будзь ласкавы, адказвай за даручаны ўчастак агульнай работы — за сваю вучобу, за свае поспехі ў вучобе. Гэтую работу ніхто за цябе рабіць не будзе, ты абавязаны рабіць яе сам.

На жаль, яны толькі ростам наблізіліся да дарослых. А яшчэ ім хочацца быць дарослымі. На самой жа справе яны дзеці. Рослыя, роўныя з ёю і нават вышэйшыя, з дарослымі прычоскамі і ў дарослых строях дзеці. І клопату з імі больш, чым з вучнямі малодшых класаў, сапраўднымі дзецьмі.

Яна ўзіралася ў іхнія тварыкі, у іхнія разумныя, дасціпныя ваچаняты і бачыла процьму добрых, харошых якасцей. Здавалася, дастаткова толькі паклікаць іх, падахвоціць, пахваліць, падтрымаць, і яны ператворацца ў дружны калектыў старанных, выхаваных хлопчыкаў і дзяўчынак, стануць радасцю настаўніка і ўцехаю бацькоў. І яны ўмелі быць такімі. Многія ўмелі. Але маглі быць і іншымі. Хітрымі, злымі, зайздроснымі. Маглі адзін аднаго пакрыўдзіць, зняважыць,

давесці да слёз. Маглі пабіцца, і досыць жорстка, часам да крыві з носа. Многія не выконвалі хатніх заданняў, дэманстратыўна не працавалі на ўроках. І яна думала і думае, пакутліва шукала і шукае адказу на тое, чаму яны такія, дзе прычыны такіх іхніх паводзін і дзе адшукаць залаты ключык, які адмыкаў бы іхнія душы насустрач добраму, чыстаму, светламу.

Яна выкладае ў школе літаратуру і адзін з такіх ключыкаў справядліва бачыць у ёй, у літаратуры. Яна лічыць злачынствам патрабаваць на ўроках літаратуры фармальнага завучвання. Бяздумнае завучванне фактаў і з'яў толькі адштурхоўвае вучняў ад самой літаратуры — незаменнага падручніка жыцця. Перадаць дзецям сваю любоў да літаратуры — важнейшы і галоўнейшы абавязак настаўніка. Важна падрыхтаваць глебу, а тады парастак цікавасці, захаплення незвычайным цудам, якім з'яўляецца кніга, мастацтва слова, сам пойдзе ў рост...

— Добры дзень, таварышы! — сказала яна, зайшоўшы ў свой дзевяты клас і паклаўшы на стол класны журнал,— Як вы памятаеце, на мінулым уроку мы дамаўляліся, што пяць першых мінут...

У гэты час расчыніліся дзверы і ў клас зайшоў Іван Фёдаравіч.

— Даруйце, Валерыя Віктараўна, калі не пярэчыце, дык я пасяджу ў вас,— сказаў ён пасля таго, як дзевяцікласнікі, падхапіўшыся яму насустрач, зноў селі.

Яна падумала — чаго раптам, не казаў жа нічога, але спакойна сказала:

— Калі ласка, Іван Фёдаравіч.

Ён прайшоў у канец класа і сеў за заднюю парту, разлажыў перад сабою ўсім добра знаёмы, ужо зашмальцаваны вялізны і тоўсты блакнот.

Яна пастукала ціхенька тупым канцом алоўка па стале:

— Увага, таварышы! — І прадоўжыла: — Дык вось, на мінулым уроку мы дамаўляліся, што першых пяць мінут будзем чытаць вершы. Кожны, хто выкажа жаданне. Вершы, прачытаныя вамі ў кнігах, часопісах, газетах. Тыя вершы, якімі вам захацелася б падзяліцца з сябрамі. Хто першы?

Паднялося, яна адразу іх убачыла, тры рукі. Гэта няшмат, але больш яна і не чакала. Усё правільна. Толькі на іх — на Колю Гудовіча, Машу Малей і Веру Кашанскую — яна і магла спадзявацца найперш.

— Першымі хочуць быць трое. Напамінаю, што можна чытаць па памяці і з кнігі ці з часопіса. Ага, яшчэ адна рука паднялася? Добра. Папросім Гудовіча. Што ты хочаш нам прачытаць?

— Я прачытаю верш Пімена Панчанкі «Паэма майго лесу»,— сказаў хлопец і пачаў чытаць:

На цябе, мой лес,
Як па цуд, гляджу —
Ад сасновых карон
Да блакітных красак.
Палянка дыміцца
Пасля дажджу.
Як зялёная коўдра
Пасля гарачага праса.
Ювеліршчына
Тут мігам абясцэніцца:
Гэтае зіхценне рос —
Без цэн.
Нават звонкая
Птушыная бяссэнсіца
Набывае ў лесе
Першародны сэнс...

У класе паступіла нязвыклая цішыня. Вядома, уплывала і прысутнасць Івана Фёдаравіча, але і верш захапіў усіх. Яна, Валерыя Віктараўна, сама слухала з захапленнем, баючыся прапусціць хоць адно слова. Яна яшчэ не паспела прачытаць той нумар «Полымя», дзе быў надрукаваны гэты верш, і ці не з зайздрасцю пазірала на Гудовіча, які, да ўсяго, чытаў выразна, эмацыянальна, без запінкі — няйначай прачытаў «Паэму майго лесу» сам сабе не адзін раз.

Лес мой!
Цуд мой!
Акіян мой зялёны і сіні,
Захавальнік магіл, і прысяг,
І роздумаў добрых людскіх,
Я перадам нашу дружбу
Дачушцы і сыну,
Каб іх рукі ніколі
Галін не ламалі тваіх.
Сінім вераснем ці лістападам
Я спынюся ў цябе
На апошні начлег.
І мы зноў пашумім,
А пасля
Паразмаўляем без слоў:
Пра надзеі загінуўшых хлопцаў,

Пра зорныя спадарожнікі,
Пра чырвоныя журавіны і белы снег,
Пра журботны голас зязюлі
І трывожны блёкат буслоў,
Пра каханне і смутак
І пра шчасце,
Якое
Так цяжка ўладкаваць на зямлі.

Калі Гудовіч скончыў, яна запляскала ў далоні, і ўслед за ёю запляскалі ўсе.

— Сядай, Гудовіч! Дзякую! — сказала ўзрушана.— Апладысменты на ўроку мо і лішнія, але цяжка было стрымацца. Праўда, таварышы? Гудовіч падараваў нам сапраўднае свята. Твор гэты незвычайнай сілы ўздзеяння. Я шчыра рада за Гудовіча і за ўсіх вас. Я бачыла, з якой увагай вы ўсе слухалі, і зразумела, што слова паэта ўсхвалявала вас. І таму не будзем шкадаваць, што мы патрацілі на гэта не пяць мінут, як дамаўляліся, а ўтрая больш... Пяройдзем непасрэдна да ўрока. Папрашу да дошкі...

Рэшту ўрока яна правяла на адным дыханні. Ёй удавалася ўсё. Ёй проста шанцавала. Яна быццам знарок выклікала да дошкі самага слабога вучня, Лёню Драгуна, але і той, на здзіўленне, сёе-тое ведаў. Ёй заставалася вельмі мала часу на вытлумачэнне новага матэрыялу, аднак і тут яна змагла падаць яго сцісла, але досыць поўна і ўражліва.

Пасля, як празвінеў званок, яна, перш чым адпусціць усіх, сказала:

— А пра «Паэму майго лесу» мы яшчэ пагаворым. Я думаю, што ёсць такая патрэба. Ёсць, таварышы?

І клас дружна адказаў:

— Ёсць, Валерыя Віктараўна!

Іван Фёдаравіч, ідучы разам з ёю ў настаўніцкую, не сказаў нічога. Прамаўчаў і пасля. Увесь перапынак. А потым, як празвінеў званок на наступны ўрок, паклікаў яе да сябе ў кабінет.

Калі яна зайшла і села насупраць яго, па другі бок стала, ён пачаў спакойна і як завучана:

— Колькі вы ўжо ў нас працуеце? Шосты год?

— Ужо шосты, Іван Фёдаравіч.

— Дык вось, Валерыя Віктараўна, мы паспелі прывыкнуць ужо да вашых...

— Выбрыкаў?

— Ну, навошта так? Да эксперыментаў, Валерыя Віктараўна, эксперыментаў. У добрым сэнсе гэтага слова. Мы памятаем вашы агу-

льнашкольныя конкурсы на лепшае выразнае чытанне вершаў, ведаем, якім поспехам яны карыстаюцца і ў вучняў, і ў бацькоў... Ведаем мы і ваш літаратурны гурток з насценнай літаратурнай газетай. Ён жа прагрымеў на ўвесь раён! Раённая газета надрукавала вершы і казкі вашых гурткоўцаў...

— Нашых, Іван Фёдаравіч, нашых гурткоўцаў. І прагрымеў на ўвесь раён не гурток, а наша школа,— яна старалася гаварыць як мага спакойна, аднак усё адно атрымлівалася здзекліва.

— Я гэта і меў на ўвазе, Валерыя Віктараўна. Хіба хто казаў ці кажа, што гэта было блага? І калі я казаў «вашых» і «ваш», дык толькі для таго, каб падкрэсліць, што ў тым была менавіта ваша заслуга, і нічыя больш.

Іван Фёдаравіч памаўчаў, пакруціў у пальцах тоненькую драўляную ручку з выслізганым металічным дзяржальнам, потым зноў падняў вочы на субяседніцу.

— Паверце, дарагая Валерыя Віктараўна, ніхто з нас не асуджае гэтых вашых эксперыментаў. Мы рады былі, што ў нашу школу прыйшоў такі ініцыятыўны, энергічны, падрыхтаваны спецыяліст, педагог. Паверце, усе мы вас любім і нават захапляемся...

— Хто гэта — усе мы, Іван Фёдаравіч? — яна ўсё ж не стрымалася, каб не падкалоць.

— Ну, усе мы, вашы калегі, калектыў школы. А што, хіба не так? Хіба вам ставіў хто-небудзь палкі ў колы, калі вы задавалі дзецям пісаць сачыненні пра тое, ці паважаюць яны Міхала Тварыцкага альбо ці з'яўляецца нашым сучаснікам Гарлахвацкі?.. Мы разумеем, што гэта рабілася з мэтаю абудзіць вучнёўскую думку, навучыць іх мысліць самастойна, але ж, пагадзіцеся, гэта было і рызыкоўна...

— Для каго, Іван Фёдаравіч? Калі і рызыкавала, дык толькі я,— зноў не стрывала яна.

Ён пакруціў галавой, запярэчыў:

— Не, Валерыя Віктараўна, не і яшчэ раз не! Вы нічым не рызыкавалі. Наадварот! Наадварот! Вы якраз былі б на вышыні: настаўніца шукае, эксперыментуе... А пагарэць магло б кіраўніцтву школы — завучу, дырэктару. Навошта, маўляў, развялі такую самадзейнасць? Хіба для вас не існуе агульнапрынятых методык, распрацовак і рэкамендацый?

Ён зноў круціў у пальцах жоўценькую драўляную ручку, а на твары ў яго было відочна напісана, што гаварыць яму пра ўсё гэта вельмі непрыемна, нават, можа, пакутліва, але і не гаварыць ён не можа.

— І вось сёння — зноў... Я не аспрэчваю, мо гэта і арыгінальная прыдумка — пачынаць урок літаратуры з вершаў. Можа, і так, Валерыя Віктараўна. Яно і праўда — эфектна: пяць мінут на паэзію! Дапускаю, што ў вас могуць з'явіцца і пераймальнікі... Але ці спрыяе гэта ўроку? Ці не разбурае гэта сам урок, у яго класічным, адпрацаваным выглядзе? Вы пра гэта падумалі, Валерыя Віктараўна?

Яна страсянула галавой, адказала, не задумваючыся:

— Уявіце сабе, думала! І нямала. І прыйшла да высновы, што гэта пойдзе толькі на карысць самому ўроку... Іван Фёдаравіч, вы ж і самі пераканаліся, што Коля Гудовіч сваім чытаннем стварыў у класе атмасферу ўзрушанасці, зацікаўленасці, якая хараша паўплывала на далейшы ход урока...

— Які быў скамечаны, перакручаны, сціснуты да мінімуму, бо час быў патрачаны на нешта іншае,— перахапіў ён.

— Ну чаму ж на нешта іншае, Іван Фёдаравіч? Час быў патрачаны якраз на галоўнае — на літаратуру. А ў мяне ж і быў урок літаратуры. Хіба не так?

— Так, так, Валерыя Віктараўна, усё так,— сказаў ён і ўздыхнуў.— Мне здаецца, што вы знарок не разумееце, пра што я кажу.

— Чаму ж не разумею, Іван Фёдаравіч? Усё разумею,— яна паранейшаму старалася заставацца спакойнай.— Я іншага не разумею. Няўжо лепш, калі выкладчык літаратуры нічога не бачыць, акрамя школьнага падручніка? Няўжо лепш, калі, завучыўшы за пяць ці дзесяць гадоў гэты падручнік на памяць, настаўнік з году ў год паўтарае адно і тое ж, як цацярук? Няўжо гэта лепш, Іван Фёдаравіч?

Ён ухмыльнуўся, развёў рукамі, і ў пальцах правай рукі была ўсё тая ж жоўценькая ручка:

— Ваша праўда, не лепш, бадай. Але, з другога боку, нават самага строгага інспектара такі настаўнік задаволіць. А вось пра вашы эксперыменты гэтага, на жаль, не скажаш.

Да яе парэшце дайшло, што ён меўся сказаць ёй, але не рашаўся гаварыць адкрыта.

— Іван Фёдаравіч, дык вы, можа, шуму баіцеся? Так?

Ён падаўся грудзямі да стала, кіўнуў:

— Але, шуму. Толькі, Валерыя Віктараўна, не баюся, а — не хачу... Я даўно хацеў з вамі пра гэта пагаварыць. Разумееце, чаго вы самі лезеце на ражон? Няўжо нельга працаваць спакойна, звычна, як таго патрабуюць правілы, агульнапрынятыя ўстаноўкі, рэкамендацыі? Я вам шчыра скажу. Пакуль вас не было ў нашай школе, мы жылі спакойна. У передавіках не хадзілі, але нас і не скланялі. А цяпер? Скажыце, Валерыя Віктараўна, ці быў год, каб да нас не ездзілі камі-

сіі, правяраючыя, разбіраючыя, вывучаючыя і гэтак далей? Мы стаміліся ад усяго гэтага, Валерыя Віктараўна!

Яна хацела абурыцца, хацела закрычаць, што ганебна так думаць, гаварыць, што з такімі меркаваннямі няможна працаваць у школе, але стрымалася. Навошта крычаць, навошта сварыцца? Яна яму нічога не дакажа. Не першы год ведае. Яму б — абы ціха. Гэтакая ягоная жыццёвая ўстаноўка. І яна многіх задавальняла. І ў райана, і тут, у школе. Настаўнікі, у большасці сваёй, працуюць тут падоўгу, сяму-таму ўжо і да пенсіі недалёка. Напачатку, магчыма, хто-небудзь і спрабаваў працаваць творча, але, сутыкнуўшыся з такой дырэктарскай пазіцыяй і з адпаведнай школьнай атмасферай, змірваўся і аціхаў.

— Я, Валерыя Віктараўна, хачу вам толькі дабра. І кажу гэта не як дырэктар, а як старэйшы таварыш. Усе мы людзі, у кожнага з нас ёсць свой гонар, свае амбіцыі, сваё разуменне рэчаў. І калі нехта вельмі выпінаецца, выстаўляе сябе, ставіць сябе над усімі, маўляў, вось што магу я, а вы ўсе нікчэмнасці...

— Іван Фёдаравіч, вы перабіраеце меру,— абарвала яна яго.— Я слухала вас цярпліва, пакуль вы гаварылі нешта, што хоць неяк тычылася маёй работы. А пра што загаварылі зараз? Хто выстаўляецца, хто ставіць сябе над астатнімі?

Ён выставіў да яе рукі з ручкай у пальцах, закруціў галавой:

— Пры чым тут вы, Валерыя Віктараўна? Хіба ж гэта пра вас? Я проста разважаў, абстрактна! Я ж вам у самым пачатку сказаў, што ўсе мы вас любім і паважаем. Пры чым тут вы? Я хацеў сказаць толькі, што нехта можа і пазайздросціць, і пакрыўдзіцца, і пасміхнуцца... Усе ж мы жывыя людзі, Валерыя Віктараўна!.. І вы дарэмна падумалі, што... Я паклікаў вас толькі дзеля таго, каб сказаць, што я не люблю шуму. Толькі дзеля таго. А вы бог ведае што падумалі!..

Яна маўчала. Што яна магла сказаць? Ён будзе сядзець тут да пенсіі. Сядзіць ён тут надзейна. Школа на добрым рахунку. У ёй не здаралася ні скандалаў, ні правалаў. Ва ўсім гэтым заслуга дырэктара. І яна, каб і хацела, нічога не дакажа. Паспрабуй скажы яна што-небудзь. У адказ пачуе: эмоцыі, Валерыя Віктараўна, усё эмоцыі. А Іван Фёдаравіч дваццаць, лічыце, гадоў кіруе калектывам, сабраў, выгадаваў, выпеставаў і згуртаваў гэты калектыў. І ўсё будзе нібыта правільна. Афіцыйна ён, Іван Фёдаравіч, не перашкаджаў ёй? Затое і не падтрымліваў! Што вы маеце на ўвазе, Валерыя Віктараўна? Не знайшоў сродкаў, скажам, каб адзначыць хоць якімі-небудзь прызамі пераможцаў агульнашкольнага конкурсу? Такіх сродкаў і няма, Валерыя Віктараўна, гэта, зноў жа, толькі эмоцыі... А пляснуць на стол

заяву і пайсці прэч яна не можа, другой школы ў Чырвоным Бары няма. А без школы яна не можа. Значыць, трэба рабіць сваю справу так, як умееш і як, лічыш, яе трэба рабіць, не зважаючы на абставіны...

— Дзякую за папярэджанне, Іван Фёдаравіч...

— Вось вы зноў! Ні аб чым я вас не папярэджваў. Я па-сяброўску падзяліўся з вамі некаторымі меркаваннямі наконт таго, каб усе мы жылі гэтак жа дружна і мірна, як дагэтуль...

— Дзякую і за гэта, Іван Фёдаравіч! Паверце, што на гэты раз я вас зразумела. Толькі ўсё ж хачу сказаць, што пяць першых мінут на ўроку літаратуры буду аддаваць паэзіі. Вы ж, Іван Фёдаравіч, таксама настаўнік і адчуваеце, што гэта не шкодзіць уроку.

Ён зноў развёў рукі, прытворна ўздыхнуў:

— Мо і адчуваю. Ды толькі адчуванні ў папку не падшыеш. А з вас будуць патрабаваць не паэзіі, а вучнёўскіх ведаў, Валерыя Віктараўна. Я так разумею.

— І я так разумею, Іван Фёдаравіч.

— То і добра. То і будзем лічыць, што мы пагаварылі з карысцю.

Сапсаваўся ў яе настрой, вядома, хоць і не ў навіну былі ёй такія гаворкі з Іванам Фёдаравічам. Самае прыкрае ў тым, што чалавек ён сам па сабе зусім неблагі. Сардэчны, шчыры, памяркоўны. Ніколі і ні разу ён не сарваўся на крык, нікога не пакрыўдзіў знявагай. А вось сядзіць дзесьці ў ягонай душы палахлівы заяц, і гэты нікчэмны баязлівец дыктуе Івану Фёдаравічу манеру паводзін і ўчынкаў. Зрэшты, мо ніякага зайца і няма. Мо проста такая ўжо натура ў чалавека, ціхамірная і непатрабавальная. Прыземленая натура, без прагі ўзлёту. Ёсць жа, пэўна, і такія людзі. І, можа, гэта не іх віна, а бяда? Можа, і так. Яна, Валерыя Віктараўна, з першых дзён свайго прыезду ў Чырвоны Бор пасябравала з жонкай Івана Фёдаравіча Марыяй Міхайлаўнай, таксама настаўніцай, яна выкладае біялогію. Дык у хвіліны шчырай даверлівасці Марыя Міхайлаўна не раз прызнавалася: не арол яе Іван Фёдаравіч! Расказвала, як аднойчы, даўно ўжо, былі яны на вяселлі. Тут, у Чырвоным Бары. Вучаніца іхняя, былая, вядома, выходзіла замуж і запрасіла іх. І ў перапынку, калі госці вылезлі з-за сталоў трошкі перадыхнуць ад пітва і пачастункаў, у двары да Івана Фёдаравіча прычапіўся нейкі хлопец. П'яны, вядома. Не чырванаборскі, а прышлы ці і зусім прыезджы. Чаго ён прычапіўся, яны так і не ўразумелі. Мо абазнаўся, палічыў, што Іван Фёдаравіч нехта іншы? І так разышоўся, што ўхапіў якісьці прэнт ці дзеравяку і на Івана Фёдаравіча. Дык дайце веры, Валерыя Віктараўна, гаварыла Марыя Міхайлаўна, Іван Фёдаравіч схаваўся за яе, жончыну, спіну. Яе той выпадак вельмі ўразіў. Збянтэжыў нават. Прызнавалася, што паду-

мала ажно, ці за таго замуж выйшла. І так і сказала: не арол яе Іван Фёдаравіч! Зрэшты, кажуць жа, не ўсім быць арламі. Некаму трэба быць і вераб'ём. Адно кепска, што верабей гэты — твой дырэктар школы. Ды, як той казаў, няма ліха без дабра. Верабей не надта дазволіць, але і не надта забароніць, як і не пакрычыць. Так што — жыць можна. А настрой можна і паправіць. Вось прыйдзе дадому, і Юлька ўраз ёй настрой падыме.

Юлька, дачушка іхняя з Кімам, была ў тым узросце, калі першапачатковы клопат бацькоўскі змяняўся вялікай уцехаю,— ёй ішоў чацвёрты гадок. Ды ўцехаю яна была хутчэй бацьку, а ёй, матцы, часам хоць плач: не дасць ні планаў напісаць, ні сшыткаў праверыць. А сшыткаў тых штовечар — добрая кучка, ажно партфель пузаты робіцца. Як Кіма няма, як затрымаецца ў дарозе, ёй, Валерыі, нявыкрутка: толькі тады за сшыткі свае бярэцца, як нарэшце Юльку спаць укладзе. Ну, але сёлета ўжо тое рэдка здараецца. Кім жа на пятым курсе, шафёрыць перастаў, інжынерам ужо ў калгасе. Так што з Юлькай вечарамі яны ўжо часцей удваіх змагаюцца, даючы бабцы адпачынак...

Прыйшла дадому, а тая бабка з парога, як абухам па галаве:

— Валерачка, захварэла пястушка наша! Тэмпература падскочыла, уся гарыць... Па Насцю трэба бегчы, а яе адну не пакінеш...

Не распранаючыся, зайшла ў другую палавіну, зірнула на дачушку — ляжыць тая снапком, шчочкі палаюць, а вочкі невясёленькія, сонныя. Адразу відаць, што хворае дзіцянё. Вярнулася назад, да маці, спытала:

— Не кажа, што баліць?

— Горлачка, Валерачка! Я ж пыталася: як глытаеш, Юлечка, не баліць? Баліць, кажа!

— Ангіна, пэўна. Схаджу да Насці. А вы, мама, градуснік пастаўце...

Вярнулася яна з Насцяй, чырванаборскай фельчаркай. Яе ў вёсцы і любяць, і паважаюць. Гадоў, пэўна, дзесяць, а мо і больш, як прыехала сюды Насця, вось так, як і яна, Валерыя, выйшла замуж за чырванаборскага хлопца, толькі за трактарыста, не шафёра, і асела тут. За гэтыя гады і вопыту набралася, уколы тыя самыя рабіць налаўчылася і банькі ставіць. А то ж спачатку, казалі, поркалася з уколамі, быццам першы раз шпрыц у руках трымае. А цяпер чырванаборцы давяраюць Насці, як самім сабе. Колькі было, што цяжка хварэлі людзі, прыедзе каторага забіраць «хуткая» з раёна, і ніколі Насця не памылілася з дыягназам і лячыла правільна. Надзейна лячыла. Не выдумляла, не выпісвала хутчэй антыбіётыкаў тых, а наказвала даваць

прасцейшыя, здаўна вядомыя лекі, найчасцей, пры ангінах і прастудах розных, свае, хатнія.

Вось і цяпер паглядзела, паслухала яна Юлечку і сказала:

— Ангіна, Віктараўна. Нечага халоднага хлебтанула ці на вуліцы ветру сырога нахапалася. Паўтаблетачкі аспірынчыку дайце, піццё цёпленькае, ну, яшчэ кампрэсік на шыйку зрабіце... А больш нічога такога і не трэба. Хай цёпленькае п'е. Чай малінавы, ліпавы, мёд... Я зайду заўтра, пагляджу...

— Дзякую, Насця!

— Хай папраўляецца, Віктараўна!

Ужо яны святло ўключылі (электрыка паявілася ў Чырвоным Бары летась, к маю якраз загарэлася), калі прыйшоў Кім. Прыйшоў, трэба ж такое, таксама не ў настроі.

Чэпэ здарылася: трактарыст Уладзімір Жаўнер разам з трактарам паляцеў у адхон. Упустую, без прычэпа, ехаў — вяртаўся на машынны двор — і собіла кульнуцца. Паломка, праўда, нязначная, і сам адрабіўся драпінамі ды сінякамі,— трактар неяк споўз у адхон, а пасля ўжо, бы нехаця, кульнуўся і лёг бокам. Аднак жа — чэпэ. І галоўнае — не кульнуўся б, каб цвярозы Жаўнер быў. Дык жа — п'яны. Сам прызнаўся, што бутэльку чарніла выжлукціў. А па ўсім відаць, што, мусіць, і ўсе дзве. Вось і разбіраліся з малайцом. На добры лад, пад суд бы аддаць!

Ён, Кім, і раней ведаў, што выпіваюць механізатары. Асабліва трактарысты. Шафёры, дык тыя не ведаюць, куды паедуць. А раптам далёка куды, у Мінск ці далей? Дык асцерагаліся. А трактарысты каторыя рассабачыліся. Сноўдаюцца па калгасе, ад вёскі да вёскі, па полі, ля фермаў, за кожным не ўсочыш. От і прысмакталіся. Але тады, як сам шафёрыў, неяк не вельмі тое ў вочы яму кідалася. Сам не піў, у кампаніі таксама рэдка трапляў, а галоўнае — не задумваўся. Маўляў, што там такое, калі хто і ўзяў чарку, галавы ж не адпіў. А цяпер, як стаў начальствам, давялося задумацца. Трэба з п'янствам канчаць. Не ведае, як і што рабіць, але — трэба канчаць. П'яны за рулём не павінен быць. І сам смяротнік, і іншых можа загубіць. Сёння гэты самы Жаўнер — цудам ацалеў. Каб трапіў пад трактар, дык аддаў бы канцы. Аказваецца, не першы раз. Людзі казалі, што і раней бачылі, што сядаў за руль, ледзь на нагах стоячы. Не, такога — толькі пад суд!

З такім одумам ішоў дадому. А тут, аказваецца, Юлька захварэла. Як заўсёды, не распранаючыся, памкнуўся да Валерыі — прыхінуць ды пацалаваць, а яна замест таго, каб чмокнуць яго, сказала:

— Юлька ангіну схапіла. Насця была, глядзела. Кажа, ангіна. А мама не можа даўмецца, дзе ўмудрылася: і не піла нічога халоднага, і ва вуліцы, кажа, не ўпарылася, не надта і гойсала.

— А колькі такому шпачаняці трэба?

Распрануўся, пайшоў да малой.

— Ну што, дабегалася? — спытаў, нахіліўшыся.

— Дабегалася,— сказала, а сама смяецца. Аспірын падзейнічаў, тэмпература адпала, ужо яна і здаровая.— Цяпер во ляжу і не кратаюся. Як лялька.

— Хто гэта табе сказаў так?

— Бабка.

— А-а, я думаў, ты сама ў нас такая разумная.

— І Юлька разумная.

— А гэта хто сказаў?

— Юлька.

— Гм, то і праўда, разумная!

Валерыя, пасміхнуўшыся з іхняй гаворкі, падышла да тэлевізара, пстрыкнула ўключальнікам. Кім, азірнуўшыся на пстрыканне, запытаў:

— Што цяпер будзе?

— Не ведаю,— адказала жонка.— Кіно павінна нейкае быць,— яна прысела на ложак, насупраць тэлевізара.

Ён падышоў, сеў побач, абняў за плечы, сказаў збоку, як не ў вуха:

— І тэлевізар трэба глядзець, раз купілі, але і чытання шкада. Мы ж абяцалі, што заўсёды будзем чытаць.

— Дык жа і чытаем.

— Усё радзей і радзей.

— Лялька ж паявілася,— кіўнула Валерыя на Юльку.

— Яно б і яшчэ не зашкодзіла,— шапнуў ён.

— А хто быў супраць?

— Дык я ж студэнт, куды студэнту!

— Тады не пачынай гаворкі.

— Скончу вучобу і пачну.

Засвяціўся экран, але толькі з рамкай наводкі.

— Рана яшчэ, аказваецца,— Валерыя паднялася і выключыла тэлевізар. Вярнуўшыся да Кіма і сядаючы побач, спытала: — Што на рабоце было, што цябе на жарты пацягнула?

— Якія жарты! На рабоце якраз не да жартаў. Чэпэ! Жаўнер Валодзя, трактарыст, кульнуўся.

— П'яны?

— Няўжо ж!
— Як ты ў мяне не спіўся, розуму не дабяру!
— Ты мяне ўратавала.
— Трэба іншых ратаваць. Напраўду трэба нешта рабіць, Кім. Шмат пачалі піць. Пайду ў клуб, будзем думаць, якую шукаць раду.
— Хіба табе ў школе не дастаецца?
— Дастаецца, Кімачка. І самае крыўднае, што не знаходжу паразумеласці.
— Іван Фёдаравіч? Усё — як бы чаго не выйшла?
— Сёння спецыяльна паклікаў у кабінет і паведаміў, што ён не любіць шуму.
— А ты не зважай. Рабі тое, што лічыш патрэбным. Ты ж ведаеш, ён афіцыйна не забароніць.
— Гэта я ведаю. Але ведаю і тое, што ён можа і свінню падкласці. Калі што-небудзь закране і яго самога.
— Не асмеліцца.
— Асмеліцца, Кімачка. Калі чалавек хаваўся за жончыну спіну, ад яго можна чакаць любога свінства. Ну, скажы, ты б схаваўся?
— Я ўсё думаю, як цябе схаваць, каб ніхто не ўбачыў і не звёў...
— Дурненькі ты мой,— праспявала яна.— Куды мне ўжо зводзіцца?! Ну куды, скажы?
— Не скажу,— праспяваў і ён, а затым абняў яе і пачаў цалаваць, і яна таксама абвіла яго рукамі і падалася да яго.
Юлька, лежачы, глядзела на іх, не краталася, а пасля голасна, з той чыстасардэчнай зацікаўленасцю, якая можа быць толькі ў дзяцей, запытала:
— А чаго вы так буськаецеся? У вас таксама салодкія буські?
Яны імгненна ацверазелі, адхіснуліся адно ад аднаго, пачырванелі, як падлеткі, а пасля засмяяліся нястрымна, весела і шчасліва.

## ЛІСТАПАД 1965 ГОДА

Тым годам ён скончыў інстытут...
І тым годам у яго памерла маці...
Тады, калі паступаў, думалася, што дзень атрымання дыплома будзе для яго самым шчаслівым днём. Хлопчыкі вунь становяцца студэнтамі зусім юнымі. А ён трапіў у студэнцкую аўдыторыю ў дваццаць шэсць. Што ж, тым больш ён ганарыцца гэтым. Ён усё ж дамогся свайго, споўніў абяцанне, дадзенае калісьці маці. І дамогся сам. Без чыёй-небудзь дапамогі. Лера толькі памагла яму напісаць некалькі сачыненняў. Сяргей Ягоравіч, старшыня калгаса, пачуўшы, што ён

будзе паступаць у інстытут, прапанаваў пасланць калгасным стыпендыятам. Але ён адмовіўся. Куды яму на стацыянар, калі займеў жонку! А яшчэ — хацеў паступіць без аніякіх накіраванняў і льгот. І паступіў. І вучыўся не горш, а лепш за многіх сваіх аднакурснікаў. Як ні цяжка было, а ні разу не спазніўся з кантрольнымі і ні разу не прапусціў ніводнага дня ў час сесій. Нават той, першай, калі ў яго нарадзілася Юлька.

І вось атрымаў дыплом. Стаў дыпламаваным інжынерам. Бо інжынерам без дыплома, па пасадзе, ён ужо быў. Увечары яны ўсім курсам схадзілі ў рэстаран, запрасіўшы і сяго-таго з выкладчыкаў — каго ўдалося адшукаць у інстытуцкіх сценах у той дзень і хто згадзіўся пайсці з імі, потым апошні раз пераначавалі ў інстытуцкім інтэрнаце, а назаўтра раз'ехаліся па хатах. Паехаў дахаты і ён. Дыплом ляжаў у кішэні, але асаблівай радасці ён не адчуваў. Як не адчуваў яе і ўчора, калі яму ўручалі гэтыя вялікаватыя — на ўсю кішэню — цвёрдыя вокладкі.

Чаму? З якой прычыны? Было ў душы адчуванне споўненага абавязку, нават нейкай быццам павагі да сябе — адолеў, дайшоў да фінішу. А той радасці, якая мроілася, калі даведаўся, што залічаны студэнтам, не было. Доўга шукаў адказу на пытанне, чаму ж так, ажно пакуль у аўтобусе, па дарозе дахаты, не звярнуў увагі на вясёлую, бесклапотную, мо занадта шумлівую купку маладых хлопцаў і дзяўчат з рукзакамі, з гітарамі. Па ўсіх адзнаках яны былі студэнтамі. І вось тады нечакана падумаў пра тое, што ён усё ж сапраўдным студэнтам не быў. Быў завочнікам, а — не студэнтам. Завочнік — гэта чалавек, які завочна атрымлівае вышэйшую адукацыю, а не студэнт. Студэнт — гэта маладосць, бесклапотнасць, гэта інтэрнат, танцы, тэатры, кіно. Гэта, у дадатак, і светлая галава, учэпістыя і задзірыстыя мазгі. А яны ўсе былі заклапочаныя, стомленыя, тугаватыя на слова і на думку, іх не хапала і не магло хапаць на тыя ж тэатры, музеі і кіно, на доўгія гадзіны ў бібліятэках, на ўсяночныя бязладныя гамонкі і жарты, якія таксама прыносяць сваю карысць — пераконваўся ў тым неаднойчы, сутыкаючыся ў інтэрнатах са стацыянарнікамі.

Дома, аднак, ён не падаў выгляду, што радасць ягоная чымсьці азмрочана. Наадварот. І сам радаваўся, і падтрымліваў радасць дамашніх, найперш матчыну радасць. Ён нават горача пагадзіўся з тым, што з такой нагоды варта і трэба клікнуць гасцей, і госці — ад старшыні калгаса да суседзяў — да позняй начы весяліліся ў іхняй старой цеснаватай хаце: амаль гэтак жа, як і падчас іхняга, яго з Валерыяй, вяселля.

І Валерыя была рада. Але не так, як маці. Яе радасць была ягонай радасцю. Можа, не радасцю нават, а гонарам — муж яе ўмее трымаць слова, ён чалавек надзейны. Ёй падабалася тое, што ён, па ўсім відаць, зразумеў: не дыплом важны сам па сабе, а тое, што за дыпломам, што ў яго хапіла розуму перажыць, узвысіцца над цялячай радасцю сяго-таго са сваіх аднакурснікаў, тых, для каго ромбік на лацкане пінжака быў адзнакай вышэйшасці, адзнакай яго службовай і чалавечай годнасці.

У яго гэтага не было. Можа быць, не было б і без Леры. А з ёй — тым больш. Пачуццё кахання не прыглушыла, не прынізіла ягонага захаплення ёю, ягонай павагі да яе. Мо нават наадварот. З гадамі, чым больш пазнаваў яе, тым больш паважаў і абагаўляў яе. Тады, як ішоў з ёю з райцэнтра ў Чырвоны Бор, увайшло ў яго душу адчуванне таго, што гэтая новая настаўніца, гэтая тоненькая і зграбная, з пухлымі вуснамі і вялікімі шэрымі вачамі Валерыя Віктараўна — не такая, як іншыя, як ён сам, Кім Курловіч, як усе тыя, каго ён дасюль ведаў і сустракаў. Усе яны былі людзі звычайныя. Звычайныя па гаворцы, па хадзе, па адзенні, па паводзінах. А яна была незвычайная. Раней не чуў ён ад каго-небудзь, што назва іхняга сяла Чырвоны Бор чымсьці адметная, прыгожая, нават паэтычная. Людзі, у тым ліку і ён сам, нараджаліся, жылі тут гадамі, рабілі і паміралі і не здагадваліся аб тым, што ім пашанцавала нарадзіцца і жыць у такім слаўным месцы. А яна толькі што прыехала, пажыла тут літаральна некалькі дзён, пару тыдняў, а — адчула, убачыла, скінула з наваколля, з вёскі, з яе назвы прасціradла звычайнасці, будзённасці і ўгледзела прыгажосць, паэтычнасць. А як яна гаварыла пра ўсё гэта?! Ён, слухаючы, і сам пачынаў глядзець на ўсё нібы іншымі вачамі, здзіўленымі і шчаслівымі вачамі. У яе гаворцы не было ніводнага брыдкага слова, якое б рэзала вуха, абражала слых. А як яна паводзіла сябе з ім, са звычайным вясковым хлопцам, які ўмеў толькі адно — круціць баранку? Яна не ўніжала яго, не паказвала ні словам, ні жэстам, ні рухам, што ён нікчэмнасць, нішто ў параўнанні з ёю,— яна гаварыла з ім, як з раўнёю, выклікала яго на спрэчку, каб даказаць сваю праўду, каб пераканаць яго, што ён памыляецца. І яму было лёгка з ёю, ён адчуваў, вядома, дыстанцыю між ёю і сабой, але не прыгнечанасць. Ды што казаць! Усё ў ёй было незвычайнае. Нават сукенка, звычайная квяцістая сукенка, сядзела на ёй незвычайна, здавалася, што ні на кім іншым яна гэтак сядзець не будзе...

І вось яны сталі мужам і жонкай, у іх расце дачушка Юлька, ёй ужо чатыры гадкі з хвосцікам, а ён, Кім Курловіч, шчаслівы, што не

растрацію тое сваё колішняе пачуццё, што пры ўсёй сваёй блізкасці і роднасці ягоная Лера застаецца па-ранейшаму незвычайнай.

Яму пашчасціла ў жыцці. Спачатку пашчасціла на маці. Маці, вядома, ніхто не выбірае, і таму іх не бывае добрых і благіх. Маці ёсць маці. Гэта ён разумее. І тым не менш з пэўнай пары, калі пачаў думаць, што такое ён, Кім, у гэтым свеце, з чаго і дзеля чаго прыйшоў ён у жыццё, усё больш і пераконваўся, што лёс да яго паставіўся спагадна. Найперш тым, што падараваў яму такую маці. Такую ласкавую, добрую, пяшчотную, спагадную. Для яго гэта не пустыя словы. Цяпер ён ведае, што да канца дзён сваіх зберажэ ў душы мяккі матчын голас, цеплыню яе рук, пяшчоту вуснаў на сваім ілбе. Зберажэ тое даўняе і салодкае адчуванне ўтульнасці, цеплыні і абароненасці ад усялякага ліха і бяды, якое ён зведваў у хвіліны, калі маці туліла яго да сябе, абдымала яго, малога, рукамі і ўсім сваім цёплым, мяккім, вялікім целам. Ад маці, а не ад каго-небудзь, навучыўся ён усяму, што ўмее і ведае. Калі і не ўсяму, дык, прынамсі, вельмі і вельмі многаму. Яна перадала яму ўсе свае веды і ўмельства, уяўленні і разуменні і тым самым стварыла грунт, на якім яму было лацвей і лягчэй браць веды і ўмельства ад іншых людзей, лацвей і лягчэй ісці па жыцці. Ягоная маці, меўшы за плячамі толькі пяць класаў адукацыі, была надзелена высокай прагай духоўнасці. У яе ў душы заўсёды жыла мара аб лепшым, прыгажэйшым жыцці, жыла здагадка аб тым, што чалавек павінен узвышацца над будзённымі клопатамі, што ягонае прызначэнне на зямлі больш высокае, чым можа падацца, калі зыходзіць з яго нялёгкага пакуль што жыцця-быцця. Маці наўрад ці магла б сказаць пра ўсё гэта цвяроза і выразна, але што такое адчуванне і разуменне жыло ў ёй праз усё жыццё, ён, яе сын, не сумняваецца. Бо, не ўмеючы сказаць, яна ўсё ж змагла і яму перадаць гэтае душэўнае парыванне, сваю неспатольную прагу духоўнасці. І гэта не выхвалянне. Яму заўсёды хацелася нечага незвычайнага, таго, што ўзвышалася б над будзённым, што было б непадобнае на паўсядзённае, звычайнае, множымае. Смешна казаць, але, яшчэ будучы хлапчанём, ён рабіў сабе цацкі не такія, якія былі ў ягоных сябрукоў. Яго аўтамат быў не кавалкам сяк-так абчасанай дошкі, а адмыслова выразаны, абгабляваны і адшліфаваны, старанна выштукаваны і апалены, каб быў чорненькі, з мушкай, з курком і затворам, з бляшкамі для рэменя, з выгляду амаль як самы сапраўдны, і ў дадатак да яго была прымацавана драўляная трашчотка, пры дапамозе якой ён страляўстракатаў аглушальна. І рагатка ў яго была не звычайным рагачыкам з дзвюма гумкамі і скурацікам, а хутчэй арбалетам з прыкладам, прыцэльнай мушкай і спускавым кручком. Нават звычайная вярбовая

свісцёлка, якія яны, хлапчукамі, рабілі вясною, калі ў дрэвах абуджаўся сок, у яго была адметная — аздоблена інкрустацыяй, выпальваннем, а затычка была выразана ў выглядзе птушынай галоўкі з разяўленай дзюбкай...

А пасля яму пашчасціла на жонку. Валерыя Віктараўна (нейкі час, нават пасля вяселля, ён у думках працягваў зваць яе менавіта так) сталася бы працягам маці. Але, але. Прынамсі, у ягонай улюбёнасці ў Леру было трошачкі нечага і такога, чым вызначалася ягонае пачуццё да маці. Мо ўдзячнасці? А мо адчуванне таго, што яна як бы сталейшая за яго? Не ведае. А толькі ён з радасцю і лёгкасцю пахінуўся пад яе крыло, як калісьці хінуўся пад матчына. І Лера прыняла гэтае яго памкненне гэтак жа натуральна, нязмушана і тактоўна, як маці, нічым не крыўдзячы, нічым не выстаўляючы свайго апекавання над ім, нічым не прыніжаючы яго хлапечай, мужчынскай годнасці і разам з тым незаўважна, непрыкметна выкіроўваючы яго, калі трэба было, на правільны шлях, асцярожна, між іншым папраўляючы яго, калі ён памыляўся, падтрымліваючы ў слабасці і супакойваючы ў запальчывасці. Ён разумеў і разумее гэта і лічыў бы неразумнасцю, калі б было іначай. Яму лёгка несці гэты свой крыж, бо дарогу яму паказвае не хто іншы, а ягоная Лера, бо ён верыць, што яна ведае гэтую дарогу лепш за яго. Бо яна падхапіла той факел, тую паходню, якую несла перад ім маці.

Гэта ён адчуў асабліва, калі маці раптам — страшэнна, недарэчна раптам! — не стала...

Стаяў гарачы жнівеньскі дзень. У самым разгары было жніво. Той парою ён выходзіў з дому адразу пасля шасці — як пачынала гаварыць радыё. Пачатак рабочага дня на час уборкі быў перанесены на дзве гадзіны раней — на сем, але ён выходзіў з дому загадзя. Клопату хапала. Трэба было, каб тэхніка, у першую чаргу камбайны і аўтамабілі, была на хаду.

У гаражы і на машынным двары ён затрымліваўся яшчэ на нейкі час і пасля нараду — чакаў, пакуль механізатары раз'едуцца на работу. Тады ішоў у кантору. Звычайна ненадоўга — падпісаць, афарміць, разабрацца з паперамі. А пасля сядаў у машыну і ехаў у раён, у «сельгастэхніку», ці ў поле, да камбайнаў. Абедаў калі дома, а калі ці ў сталоўцы, ці проста ў полі, куды падвозілі абеды.

Тым днём ён таксама не змог заскочыць дадому, абедаў у полі. Пасля абеду прыселі ў цяню камбайна адпачыць хвіліну, перакурыць. Неўзабаве пад'ехаў Пецька Яскевіч. Выйшаў з машыны, падышоў да іх. Сказаў да яго досыць спакойна:

— Вікенцьевіч, Віктараўна твая прасіла, каб заехаў.

— Добра. З'езджу зараз на Падлужжа, там Хвясюк дажынае, і назад едучы.

— Не, Вікенцьевіч, прасіла, каб адразу ж.

— А што?

— Не сказала.

Ён, бадай, і не ўстрывожыўся. Недаўменне трошкі ўзяло, Лера без прычыны наказваць не будзе, але каб падумаў пра што-небудзь благое, дык не. Не было падстаў думаць пра благое. Зранку выходзіў з хаты, дык усё было добра. Лера з Юлькай спалі, а ён падняўся і маці. Маці яйка яму спякла, малака кубачак наліла, хлеба лусту адрэзала, вялікую лусту, наўкруг буханкі. Ён яе ледзьве з'еў. Не хочучы з'еў. Па даўняй, яшчэ дзіцячай звычцы. Маці навучыла, каб адрэзаны хлеб з'ядаў, не пакідаў чорту лысаму сваю сілу.

Падняўся, пайшоў да машыны, да свайго «козліка», сеў і паехаў напрасткі, на ржышчы.

Ля хаты спыніўся, як заўсёды, ля самага плота, у цяню ліпы, саскочыў на зямлю, ляпнуў дзверцамі і пайшоў у двор. З хаты паспешна выйшла Лера. Ён зірнуў на яе і запаволіў крок. Жонка відочна была чымсьці ўстрывожана. Нават заплаканая? З Юлькай што-небудзь? Дзе яна? Чаму не відаць?

— Лера, што здарылася?

Яна зрабіла да яго тры ці чатыры крокі, не абняла, а цяжка прыпала да грудзей, зарыдала:

— Кімачка, родненькі, даруй мне, даруй, Кімачка...

Ён, памятае, закрычаў:

— Што?! Лера, што?! Юлька? Што з ёй? Дзе яна?

— Не, Кім, не! Юлечка тут, са мной... Мама...

Пра самае горшае ён і тады яшчэ не думаў. З малых гадоў ведаў, што маці часта хапалася за сэрца, жалілася, што баліць, не дае спакою, але — ці палохала яна яго калі-небудзь? Пап'е валяр'янкі, яшчэ нейкіх кропель, таблетку возьме пад язык, і зноў яна рухавая, вясёлая. Засмяецца і пажартуе: ай, сынок, рыпучае дрэва доўга рыпіць, зносу няма... Вось іменна! Доўга. А маці ж яшчэ маладая. Летась толькі пяцьдзесят адзначыла. Самае страшнае ёй яшчэ не пагражае.

Наўрад ці думаў ён пра гэта ў тыя хвіліны. Проста на нейкае імгненне адлягло ў яго ад сэрца, калі, пачуў, што з Юлькай, з дачушкай, усё ў парадку, спытаў ужо цішэй:

— А з мамай што? Сэрца хапіла зноў? І моцна?

Лера, не адымаючы галавы ад ягоных грудзей, закруціла ёю:

— Не, Кімачка, не... Няма ўжо мамы нашай, няма...

Абліло яго варам, ногі мяккія зрабіліся, бы ватовыя, каб не Лера, дык ці ўстаяў бы, ці ўтрымаўся б.

— Што ты кажаш, Лера?! Што ты кажаш!

Яна маўчала, плачучы ў яго на грудзях.

Ён скрануўся нарэшце з месца, памкнуўся да ганка, каб пайсці ў хату. Жонка прытрымала яго.

— Не трэба туды, Кімачка. Не трэба... Там жанчыны... Хадзі сюды, пабудзь тут, са мной...

Яна правяла яго, як малога, па надворку за хату, пад паветку за істопкай, пасадзіла на калоду, на якой ён калоў дровы, сама села на козлы.

— Пасядзі тут, Кім...

Ён спытаў:

— Калі, Лера?

— Гадзіны дзве назад...

— Пры табе? Ты бачыла?

Яна заплакала зноў:

— Пры мне, Кімачка... Лепш бы... Я думала, што сама зайдуся... Кропель накапала, падала, яе на ложак, на падушкі, паклала... Ёй быццам палягчэла. Я кажу: пабягу па Насцю, а яна вачамі міргнула, паказала на нешта ці сказала нешта. А я не зразумела: бегчы сказала ці не бегчы...

Ён паклаў сваю руку на яе руку, пагладзіў моўчкі. Яна падхапілася са свайго седала, узлегла жыватом, локцямі яму на калені, галавою ўткнулася яму ў грудзі, загаварыла хуценька, усхліпваючы:

— Прыбеглі мы з Насцяй, Насця маму за руку — пульс шукае, паслухала хвілінку, апусціла руку на ложак, за шпрыц ды ўкол... Мама вочы расплюшчыла, на нас паглядзела. Насця абрадавалася, кажа: от і добра, цётка Каця, паміраць вам рана яшчэ, унучку яшчэ трэба замуж аддаць... А мамачка гэтак рукою на грудзі паказвае, на свае, і вачамі гэтак сюд-тут павадзіла — памаленьку так, бы ёй цяжка-цяжка... Маўляў, не ўжо, Насцечка, усё ўжо...

Яна замоўкла, ён таксама маўчаў, ціхенька гладзячы яе сваёю праваю рукою па плячах.

— Насця зноў пульс у мамы знайшла, паслухала яе, яшчэ адзін укол зрабіла. Кажа: павінна адпусціць... А мама раптам напружылася ўся, нібы хацела падняцца, сесці на ложку, рот прыадкрыла, каб сказаць нешта, і ўся абвяла... Я гляджу, стараючыся ў вочы ёй глядзець, каб хоць па вачах зразумець яе, а вочы ў яе...

— Што — вочы?

— Не маміны ўжо, Кімачка,— загаласіла Лера.— Нерухомыя, невідушчыя... Не бачаць ужо нічога вочы яе... Я такое першы раз бачыла. Каб ты ведаў, Кімачка... Страшна мне зрабілася... Насця, кажу, Насця, што ж гэта?..

— Ціха, Лера, ціха, родная. Не трэба... Ты памаўчы, памаўчы...

Яна падняла галаву, паглядзела на яго, заківала:

— Ага, ага...

Яны пажылі ў старой матчынай хаце крышку больш чым два месяцы. Без маці хата зрабілася няўтульнай і пустой. У Леры пачалася школа, і не было на каго пакінуць Юльку — даводзілася папераменна, то яму, то ёй, браць дачку з сабой на работу. Шмат нязнанага раней клопату прыносіла гаспадарка, найперш жыўнасць, а сярод яе ў першую чаргу — карова. Усё гэта трэба было накарміць, напаіць, выгнаць на пашу, сустрэць з пашы, падаіць, што раней рабіла, нібы між іншым, маці. А да ўсяго яны абое адчувалі сябе ў хаце не так, як раней. Быццам вусцішна стала ім у яе сценах. Ён разумеў, што гэта дзіцячыя страхі, што яму, сталаму чалавеку, прытым роднаму сыну, грэшна і думаць пра нешта такое,— разумеў, але, тым не менш, заходзячы ў хату, калі там было цёмна, усё ж сцінаўся, угінаў плечы. Бачыў, што нешта падобнае адчувае і Лера. І калі напярэдадні Кастрычніка ў калгасе здавалі васьмікватэрны двухпавярховы дом, ён, Кім, пагаварыў з Сяргеем Ягоравічам наконт кватэры ў тым доме. Абгрунтоўваў сваю просьбу, вядома, не гэтымі страхамі, а тым, што хата старая, струпехлая, рамантаваць яе — лепш ставіць новую, а яшчэ тым, што цяпер, без маці, ім наўрад ці давядзецца трымаць карову, вагаюцца нават наконт свінчаці, так што ім вельмі дарэчы была б кватэра накшталт гарадской, прытым менавіта ў гэтым доме, бо ён стаіць побач са школай, і Лера будзе мець магчымасць нават на перапынку збегаць і паглядзець, што робіць малая.

Просьбу гэтую ўважылі, і на Кастрычніцкія святы яны справілі наваселле...

А пасля, недзе праз тыдзень, ён раскідваў матчыну хату. Хату, у якой нарадзіўся і вырас.

Перад тым як раскідваць, схадзіў на могілкі, пасядзеў ля матчынага грудка. Ён ужо не выглядаў свежым. Дзёран, якім абклаў магілку праз некалькі дзён пасля пахавання, прыняўся, утравеў. Драўляны слупок з дошчачкай абсівераў на ветры, дажджы і сонцы. Кім з сумам і маркотаю глядзеў на ўсё гэта, у думках гаворачы з маці, просячы ў яе прабачэння, што ён так скора наважыўся рушыць яе і сваё гняздо.

Асаблівай згрызоты ён не адчуваў, бо маці і сама колькі разоў загаворвала аб тым, што ім, маладым, трэба думаць пра новую хату —

альбо ставіць тут, на сваім котлішчы, альбо прасіць у калгасе кватэру, балазе іх пачалі будаваць. І ўсё ж на душы было горка. Зноў, каторы раз, падумаў пра тое, што апошнім часам ён, мусіць, і не пагаварыў з маці як след, як гаварыў калісь, ужо і хлопцам, што і той раніцай, снедаючы з матчыных рук апошні раз, сэрца не падказала яму ні сказаць маці што-небудзь цёплае, ні абняць. А от жа Леру ён ні разу не забываўся перад адыходам абняць і пацалаваць.

Горка было і ад гэтай турботы, якая прывяла яго сюды, да маці. Хай бы стаяла, пакуль стаіць, іхняя хата! Але ж, з другога боку, колькі і навошта будзе яна стаяць? Быць, пакуль абваліцца дах і абсунуцца сцены, прыстанкам мышэй, пацукоў і тхароў? Каб людзі гаварылі? А тут прыйшоў да яго, Кіма, сусед, Якуб Маўчан, і, бянтэжачыся, топчучыся ў парозе, хоць ён ледзь не сілком цягнуў яго прайсці і сесці, папрасіў:

— Калі ты, Вікенцьевіч, туды, на сваё котлішча, вяртацца не думаеш, то мо не будзеш пярэчыць, калі мы пачнём там ставіць хату Пецю майму? Ты ж, Вікенцьевіч, ведаеш, адслужыў ён. І во, не як іншыя, у горад не хоча. Дык мы з бабай падумалі, што хай бы побач з намі будаваўся? Ён жа, Вікенцьевіч, ужо і дзеўку сабе нагледзеў. Яшчэ ж да арміі з ёй круціўся. Мо ведаеш, у Селішчы... Не ў самім Селішчы, а на пасёлку. Там жа толькі тры хаты ацалелі... Дык от Рыбака таго, што пад самым лесам сядзіць, дзеўку вынюхаў... Няхай! Што нам да таго з бабаю? Упадабаў, то і добра... Дык як ты, Вікенцьевіч? Не будзеш пярэчыць?

Чаго ж ён будзе пярэчыць? Хай будуецца яго Пеця. Месца неблагое. Не высокае і не нізкае. Зацішнае. Хай будуецца!

А сваю старую хату ён, Кім, раскідае і зложыць з яе лазеньку. Не хопіць хаты, дык дадасць якое цалейшае бярвенца з хлява і гумна. Гэта ж Якуб, сам таго не ведаючы, падказаў яму, што рабіць з бацькоўскай спадчынай. Новыя суседзі, радуючыся і выхваляючыся адно перад адным амаль гарадскімі сваімі харомамі, неяк загаварылі пра тое, што мецць у хаце балею з гарачаю вадою вельмі добра, вядома, аднак жа яны ўсе, вясковыя людзі, прывыкшы найперш да лазні. Лазня ў калгасе ёсць, але стаіць далекавата, на другім канцы Чырвонага Бору, ля рэчкі. Дык от добра было б ім, тром-чатыром суседзям, скідаць непадалёк сваю лазеньку — невялічкую, хоць бы сабе тры на чатыры, з маленькай печкай і бочачкай, каб, калі захочацца, бярэмцам дроў нагрэць яе і папарыць плечы. Тады ён, Кім, не даўмеўся да таго, каб сказаць: дык чаго ж тут думаць, вунь стаіць мая старэчына, жыць у ёй не выпадае, а добрай справе якраз мо і паслужыць. Прыйшло яму гэта ў галаву, калі слухаў Якуба...

І вось ён з суседам справа — трактарыстам Андрэем: Дубоўскім і суседам злева — настаўнікам Феліксам Сямёнавічам халоднай ліста-падаўскай, але сухой нядзеляю раскідвае матчыну хату. Прыйшлі яны ўтрох на падворак, пастаялі, паглядзелі, пастукалі абухам сякеры па бёрнах, пакурылі другі ці трэці раз, а пачаць дык і не рашаюцца. Фелікс Сямёнавіч пацепваецца, з нагі на нагу пераступае, пазяхае, быццам паказваючы ўсім сваім выглядам: лапнеце, дык памагу, а не, дык мне тое не надта і трэба. Дзядзька Андрэй, хоць і быў старэйшы ў кампаніі, чакаў, што скажа, калі дасць каманду Кім. А той быццам забыўся, чаго прыйшоў, што рабіць наважыўся. Неяк вусцішна было яму на родным дворышчы. Не адразу і ў хату зайшоў. Спачатку ў хлеў зазірнуў, у гумно. Пасля ўжо зняў замочак з прабойчыка, што зачыняў дзверы ў хату. Усё тут было гэтак жа, як і пакідаў, калі перабіраліся ў мураванку. У запечку на падлозе стаяў стары, часткаю дзіравы, часткаю пабіты посуд, у качарэжніку, прыкрытыя знізу венікам-дзеркачом, тырчалі вілачнікі і чапяла, на пасуднай палічцы цямнеў аплецены гліняны гляк, на печы і на грубцы ў другой палове хаты валяліся розныя старыя неданоскі-транты, пры сцяне, там, дзе і заўсёды, тырчала на трох нагах — чацвёртая падламалася даўно, Кім хадзіў тады ці не ў пяты клас — сплеценая з лазовых дубцоў этажэрка, пад столлю, над грубачкай, на алюмініевых петлях вісеў шасток, на ім маці заўсёды вешала цыбулю — доўгія залацістыя вянкі, якія, абшчыпленыя, вясною, перад вялікаднем, клаліся ў гаршчок з яйкамі ўперамешку — маці хоць і не верыла ў бога, а яйкі перад вялікаднем фарбавала... Ён і сам не ведаў, чаго заходзіў у хату. Паглядзеў на ўсё, пастаяў там хвіліну, а пасля выйшаў на падворак, да дзядзькі Андрэя і Фелікса Сямёнавіча, сказаў:

— З чаго пачынаць, дык і не ведаю.

Дубоўскаму, пэўна, надакучыла чакаць, бо ён адгукнуўся адразу ж:

— Ну, Вікенцьевіч, раскідаць — не складаць, навукі той не трэба. Пачынаць трэба з таго, чым тыя, што ставілі, канчалі. На страху трэба лезці.

Фелікс Сямёнавіч заўважыў:

— Мусіць жа, трэба сцены пазначыць.

— Само сабой, Сямёнавіч,— падхапіў Дубоўскі.— От ты, як пісар, гэтым і займіся. А я на канёк палезу. Драбіна ёсць, Вікенцьевіч?

Драбіна знайшлася, і неўзабаве са страхі пасыпаліся долу, на яшчэ не зарослы, нібыта зусім жылы падворак, струпехлыя гонты з вострымі, тонкімі, іржавымі цвічкамі — гонты клаліся чамусьці так, што цвічкі тырчалі ўгору, быццам спакушваючы падэшвы наступаць

на іх. І Кіму зноў зрабілася непамысна, прыгадаліся іншыя цвікі — таўсцейшыя, чым гэтыя, і не ржавыя, а бліскучыя, цвікі, якімі забівалі матчыну труну. Яму падалося тады, што дзядзька Якуб неяк не так забівае ў галавах цвік, што цвік той праб'е дошку наскрозь і ўвап'ецца ў мацерыну галаву, і ён увесь сцяўся, і ўздыхнуў з палёгкаю, калі ўгледзеў, што кончык цвіка вышчарбіўся з ніжняй: дошкі з гэтага боку труны...

— Вікенцьевіч, дык жа і электрыка да хаты ідзе, правады не абрэзаны! — гукнуў са страхі Дубоўскі.

Ён схамянуўся. Пэўна ж, не абрэзаны. Хто ж іх абразаў! Пробкі выкруціў са шчытка, а правады абрэзаць так і не абрэзаў.

Дубоўскі між тым гаварыў з канька даху:

— Вазьмі, Вікенцьевіч, у Якуба сучкарэз. У яго ёсць, я браў некалі. Прывяжы да жэрдкі і паспрабуй перакусіць... Бо дзе ты будзеш цяпер шукаць манцёра? Паспрабуй, можа, і перакусіш!

Правады ён сапраўды перакусіў. А пасля Дубоўскі даў зноў яму работу — уздзіраць падлогу. І пакуль ён поркаўся з падлогай, напалову згніўшай, Дубоўскі на пару з Феліксам Сямёнавічам узарвалі не толькі гонты, але і латы, зашчыткі, нават разабралі і спусцілі ўніз комін. Калі ён выйшаў з хаты на падворак, ступаючы па хрусткіх кучках гонты, дык убачыў, што над хатай тырчаць голыя кроквы — усяго пяць, тры пасярэдзіне і дзве па краях, ля вуглоў.

Чагосьці і яму захацелася ўзлезці туды, да мужчын, на колішняе гарышча.

Там валялася некалькі матавілаў, паламаны, без шпулькі калаўрот, габляваныя, з выступіўшым інеем солі дошчачкі — калісьці яны былі скрыняй, у якой маці трымала сала, халявы ад старых ботаў, некалькі пар зношаных да дзірак валёнак. У куце, пад мяліннем, штосьці бялелася. Ён нагнуўся, працягнуў руку, грабянуў. Гэта быў нятоўсты пачак газет. Ён падняў, асцярожна разгарнуў крохкія, зжаўцелыя ўшчэнт старонкі. То былі старонкі «Правды». Пяць нумароў. Усе пазначаны лютым трыццаць чацвёртага года. Года, калі ён, Кім, нарадзіўся. Яму яшчэ ніколі не даводзілася трымаць у руках такіх старых газет, і ён уткнуўся ў выцвілую старонку і захапіўся — усё ўспрымалася далёкай, даўняй, зусім невядомай гісторыяй.

Нечакана вочы знайшлі радкі, ад якіх ажно сцепануўся,— пра нешта такое толькі што думаў: «Не всегда чувствуешь долговечность страниц и строк, которые пишешь. Но сегодня — о, да! Сегодня пишется для истории. И сегодня не требуется для этого ни тонких утверждений, ни блистательных красот языка. Надо быть лишь хроникером, простым рассказчиком того, что видишь и слышишь. Прочти,

будущий человек, тот, кто, может быть, через сто лет заглянет сюда, в потемневшие листы старой «Правды» времен второй пятилетки. Прочти и перепиши для своего труда, для своей истории построения бесклассовой жизни...»

Што гэта? Пра каго гэта?

«Несколько минут прошло — негромко заиграл оркестр, и сквозь неподвижное море людей, знамен, венков прошла небольшая группа с маленькими урнами в руках... Прах трех молодых людей, молодых и отважных исследователей неизведанного мирового пространства. Еще три дня назад имена троих знали только в тесной товарищеской среде. Позавчера эти имена узнал весь мир. Узнал в блеске потрясающего триумфа, как смелых победителей стратосферы, как отважных счастливцев, прорвавшихся от земной поверхности на небывалую в истории нашей планеты высоту...»

Кім ужо здагадаўся, пра каго гэта. Адразу ж усплылі ў памяці прозвішчы Федасеенкі, Насенкі і Усыскіна, якія на стратастаце «Асавіяхім-1» дасягнулі вышыні 22 тысячы метраў. І вось ён цяпер, праз трыццаць з гакам гадоў, чытае ў «Правде», як Масква развітвалася з героямі, як хавала іх на Краснай плошчы, ля Крамлёўскай сцяны.

«У Алексея Толстого, в его фантастическом романе «Аэлита», красноармеец Гусев летит на Марс и там воюет за Советскую республику. Десять лет прошло со времени появления красивой сказки Толстого, и миллионы советских радиослушателей услышали не в сказке, а наяву звонкий голос красного командира Федосеенко, рапортовавшего партийному съезду из холодных хрустальных космических высот: «Штурмуем двадцатый километр!» Еще день прошел, и в безоблачную радость победы ворвался трагизм. Миллионные толпы, празднуя триумф трех летчиков, скорбят об их гибели. Славная победа, славная, почетная смерть...»

Успомніў, як упершыню, школьнікам, чытаў пра подзвіг трох герояў, як яму было шкада іх, маладых і прыгожых хлопцаў — ён, здаецца, ці не плакаў тады. І цяпер у яго таксама быццам падкаціўся пад горла нейкі камяк, і было сумна, горка, тужліва — як нядаўна на могілках, ля матчынага грудка.

Потым, зусім знячэўку, прыбегла думка аб тым, што неаднойчы чытаў, як вось так, разбураючы старыя котлішчы, людзі знаходзілі скарбы, розныя дакументы. Вось і ён знайшоў. Пяць нумароў газеты. Якім стольки ж гадоў, колькі і яму. Пэўна, чытаў іх бацька. Бацька і дзед. Трымалі ў руках вось гэтак, як цяпер трымае іх ён, чыталі, пэўна, уголас, каб іх маглі чуць і ўсе іншыя хаціндцы, абгаворваючы, пераказваючы тыя ці іншыя заметкі, здзіўляліся, абураліся, смяяліся... А

потым нейкім чынам яны трапілі на гарышча. Якім жа? Калі? Мо ў вайну? Калі ў вайну, то чаму? Маці ж казала, што хавалі ўсё савецкае. Кніжкі — таксама. Дык мо і газеты? Бацькі ў вайну ўжо не было, значыць, хутчэй за ўсё, схавала маці. Праз дваццаць гадоў пасля вайны знайшоў іх ён. А ў яго ёсць дачушка Юлька. Яна падрасце, і ён пакажа ёй гэтыя газеты і раскажа, як і дзе ён іх знайшоў і хто іх чытаў да яго. Так выстрайваецца цэлая лесвічка — ад прадзеда да праўнучкі. Сямейная эстафета праз гады. І думае ён пра ўсё гэта дзякуючы вось гэтым пажоўклым, крохкім, амаль сатлелым газетным старонкам, якія зберагла яго старая, родная хата. А ён яе раскідвае. Сам. Сваімі ўласнымі рукамі...

Ад невясёлага одуму яго адарваў Селівончык. Пад'ехаў і гукнуў, высунуўшыся з кабіны:

— Вікенцьевіч! У кантору клічуць!

Схамянуўся ён, зірнуў на сваіх памочнікаў-хаўруснікаў. Фелікс Сямёнавіч прамаўчаў, а Дубоўскі кіўнуў:

— Едзь, Вікенцьевіч. Мы столь падымем і вокны выставім. Дык і без цябе адужаем. А там усё адно трэба каня. Каб раскідаць і перавозіць. Пакідаць гнілле пад дождж няможна... Так што едзь, калі клічуць.

Кім піхнуў газеты за пазуху, скочыў долу і пайшоў да машыны...

## КРАСАВІК 1969 ГОДА

Журналіст быў малады хлопец. Зрэшты, як высветлілася пасля, яшчэ і не зусім журналіст, а студэнт. Вучыўся яшчэ на журналіста і праходзіў у газеце практыку. Вось яго, зялёнага практыканта, і прыслалі ў Чырвоны Бор разабрацца са скаргай, што паступіла ў рэдакцыю. Скарга была ананімная. Гаварылася ў ёй, што ў калгасе не клапоцяцца аб маладой змене механізатараў, нічога не робяць для таго, каб маладыя хлопцы заставаліся ў роднай гаспадарцы, сцвярджалася, што маладым не давяраюць новай тэхнікі, прымушаюць працаваць на дабітых трактарах і тым самым адбіваюць у моладзі ўсялякую ахвоту атабарвацца пасля арміі ў вёсцы.

Журналіста-практыканта Кім выпадкова напаткаў у канторы. Надвячоркам зайшоў туды, а там у калідоры да яго нясмела, нерашуча памкнуўся незнаёмы, не чырванаборскі хлопец у кароткім і тонкім палітончыку і ў капелюшы і запытаў:

— Даруйце, не вы будзеце Сяргей Ягоравіч?

— Не, я не Сяргей Ягоравіч,— адказаў Кім.

— А не ведаеце, дзе мне яго пабачыць? — зноў запытаў хлопец.

Кім запыніўся, загаварыў з хлопцам. Той і расказаў, хто ён і чаго прыехаў. Кім ніколі раней не сутыкаўся з журналістамі акрамя як з раённай газеты і крыху не то збянтэжыўся, не то разгубіўся. Гэта ж ён, Кім, як калгасны інжынер, і ёсць, выходзіць, той, хто не дае ходу маладым у Чырвоным Бары, не давярае ім новай тэхнікі. Хто ж гэта, цікава, такое папісаў ажно ў сталічную газету, у Мінск?

— Дык вам і не трэба, мусіць, чакаць Сяргея Ягоравіча,— сказаў Кім, выслухаўшы хлопца.— Нам з вамі, пэўна, давядзецца разбірацца, ці праўда гэта, ці мана. Пісьмо ў вас? Можна паглядзець? Ой, выбачайце, я не назваўся — я інжынер, Кім Вікенцьевіч Курловіч.

Хлопец абрадаваўся, палез у кішэню і дастаў складзены ў некалькі столак лісток. Падаючы яго, сказаў быццам з нейкім жалем у голасе:

— Пісьмо не падпісана. Але рэдактар сказаў: з'ездзі, гэта недалёка, паглядзі па месцы, а раптам праўду піша чалавек, дык і праблемны матэрыял зробіш...

Кім прабег кароценькае, без даты, подпісу і зваротнага адраса пісьмо, перасмыкнуў плячамі ў недаўменні. Калгас названы іхні, чырванаборскі, але акрамя гэтага ніякай, як кажуць, канкрэтыкі, ні фактаў, ні прозвішчаў, ні лічбаў.

Ён не стрымаўся, прамовіў:

— Па-мойму, пустое пісьмо. Праўды тут — ніякай. І каб хоць падпісана было... У рэдакцыі звяртаюць увагу і на такія?

Хлопец няўпэўнена адказаў:

— Не ведаю. Я ж вам гаварыў: рэдактар сказаў пад'ехаць, а раптам...

— Ніякага раптам,— перапыніў яго Кім.— Заўтра пойдзем з вамі на машынны двор, пагаворыце з механізатарамі — і з маладымі, і са старымі. Самі пераканаецеся. Хлусня ўсё.

Ён вярнуў хлопцу ліст і пайшоў быў да дзвярэй, забыўшыся на тое, чаго ішоў сюды. Але потым, нібы што ўспомніўшы, вярнуўся назад, да хлопца. Кіму кінуліся ў вочы чаравікі на нагах у гэтага зялёнага журналіста — старыя, няйначай дзіравыя, наскрозь прамоклыя.

— Вы з раёна пешшу ішлі? — спытаў.

— Пешшу,— адказаў хлопец і таксама спытаў: — А што?

— Нічога,— ухіліўся Кім і як загадаў: — Пойдземце да мяне. Абсушыцеся, павячэраем разам. Там і пагаворым.

Хлопец не ўпарціўся, пайшоў услед за ім.

Была ўжо вясна. Ранняя, але вясна. Днём добра-такі прыпякала сонца, снег увачавідкі асядаў, рабіўся дзіравым. У глыбокіх каляінах

ад саней беглі раўчукі, дарога размякла, ногі слізгаліся і правальваліся ў набрынялы вадою, яшчэ нядаўна цвёрды наст.

Кім ішоў поруч з хлопцам, саступаючы яму вышэйшую, сушэйшую сцежку, зважаючы на яго чаравікі-паўбацінкі, а сам смела шлэпаў у сваіх гумовіках. Шлэпаў і думаў пра хлопца. Думаў пра тое, ці была ўжо такая пільная патрэба пасылаць гэтага ціхмянага — а журналісты ж, кажуць, на хаду падмёткі адрываюць! — хлопца з Мінска ў іхнія няблізкія мясціны такой парою ў такой апратцы і абутцы. Наўрад ці была! Аднак жа штосьці і спыняла яго ад таго, каб вось так, адным махам, пакрыўдзіць і гэтага хлопца, і ягонага рэдактара. Мусіць, ёсць нейкая праўда і на іхнім баку. Паехаў жа ён не на прагулянку, не ў тралейбусе па праспекце ад вакзала да Камароўкі. Паехаў з намерам ці жаданнем памагчы аўтару гэтага ананімнага пісьма. Паехаў, бо і рэдактар, і ён сам, гэтае хлапчанё, думалі: а мо і праўда там крыўдзяць каго-небудзь, робяць нешта не так. Ужо за адно гэта яны варты павагі, гэтыя журналісты і рэдактары. Ён, услед за распаўсюджанай думкай, часта пасміхваўся з іх пісаніны, найперш у сваёй, раённай газетцы. Пісаніна гэтая частавата не выклікала даверу. Прачытае замалёўку пра іхняга ж, чырванаборскага, трактарыста ці, скажам, даярку і ловіць сябе на думцы, што не так расказана пра чалавека, што чалавек гэты на самой справе не такі — нібыта горшы, чым пра яго напісана. Зрэшты, мо і не горшы, але не такі святы. У газетнай заметцы трактарыст той — анёл, дый годзе, толькі і думае дзень і ноч навылёт, як лепш узараць ці пасеяць. А на самой справе таму трактарысту ён, Кім, не адзін раз учыняў разнос, што і трактар не беражэ, што і гультаяваты, не надта перадасць на калгаснай рабоце… А цяпер вось нечакана падумаў пра тое, што, пэўна, так і трэба. Яны тут, у вёсцы, кожнага чалавека ведаюць, як кажуць, з вантробамі, а газетку тую выпускаюць не для адной іхняй вёскі, яе ва ўсім раёне чытаюць, і, мусіць, тое і добра, што яго чырванаборскі трактарыст у людскіх вачах убачыцца лепшым, чым ён ёсць на самой справе. Навошта ж тады пра яго наогул расказваць у газеце, калі ён не лепшы? Людзям трэба прыклад, узор, вось вам, калі ласка, і ўзор. Не надта высокі, не надта зіхоткі, але ўсё ж — узор. І самому трактарысту прачытаць тыя нібы надта ж хвалебныя радкі таксама карысна. Ад адной-дзвюх заметак чалавек не заганарыцца. А вось думка пра тое, што працаваць яму трэба лепш, што наогул яму трэба быць лепшым, каб апраўдаць неяк дадзены яму аванс, якраз і прыбяжыць. Так што не варта бурчэць і папракаць газетчыкаў, а варта, наадварот, зразумець іх і падтрымаць, пахваліць…

Дома ён прымусіў хлопца разуцца і абуць яго, Кімавы, валёнкі, пасадзіў, пакуль Лера збірала вячэру, да расчыненай грубкі. Хлопец сароме́ўся, бянтэжыўся, маўчаў. Ажывіўся ён трохі за вячэрай, асабліва пасля чаркі гарэлкі, якую хоць і аднекваўся, але ўсё ж выпіў. Потым выпіў і другую і разгаварыўся. Пра пісьмо, па якім прыехаў, не ўспамінаў. Гаварыў больш з Лерай, чым з Кімам. Расказваў ёй пра навіны кіно, тэатраў, пра новыя кнігі. Найбольш асвойтаўся, калі яны ўсе пасля вячэры выйшлі з кухні ў залу, да тэлевізара. Але неўзабаве тэлевізар адышоў на другі план. Лера тым часам жыла сваім новым клопатам — надумалася зрабіць у школе музей ці хоць бы куток баявой і працоўнай славы. Набліжалася дваццаць пятая гадавіна з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і яна разам з дзецьмі завітала ў кожны дом, у кожную сям'ю, у якой хоць хтонебудзь быў на фронце ці ў партызанах, сабрала не адзін дзесятак франтавых пісьмаў, больш за сотню фотаздымкаў жывых і загінуўшых чырванаборцаў. Здымкі тыя былі раскладзены на стале — Лера якраз парадкавала, разбірала іх, падклейвала на спецыяльна выразаныя кардонкі. От гэтыя пісьмы і фотаздымкі і ўбачыў іх неспадзяваны сталічны госць і забыўся на ананімнае пісьмо, праз якое прыехаў сюды, у Чырвоны Бор.

— Валерыя Віктараўна, і вы самі ўсё гэта сабралі? — здзіўляўся ён.— У кожнай хаце пабылі?

— Чаму ж сама? — бачачы гэтую ягоную ўсхваляванасць, бянтэжылася і Лера.— Разам з вучнямі. Тут, у Чырвоным Бары, сама, можна сказаць, усіх абышла, а ў другіх вёсках калгаса — дзеці мае. Абышлі ўсе хаты і папрасілі даць пісьмы, фотакарткі, іншыя дакументы і рэчы для музея.

— І людзі адгукнуліся? Во як дружна адгукнуліся, Валерыя Віктараўна! Трэба берагчы памяць. Без памяці чалавек нішто! Мы і так вельмі шмат не зберaглі, па-дурному змарнавалі! Праўда ж, Валерыя Віктараўна? — распаляўся ён.

Лера слухала яго памяркоўна, трошачкі мо нават паблажліва, як вучня, што непамерна, знарочыста актыўнічае, спадзеючыся тым самым падмануць настаўніцу і вымусіць яе паверыць, што ён хатняе заданне зрабіў. Аднак жа ёй было і прыемна. Бо напачатку, калі яна прапанавала зрабіць у школе музей ці куток, падтрымку яна не надта знайшла. Нават Карней Васільевіч моршчыўся. Маўляў, у іх цесна і без таго, і на ўсё гэта трэба сродкі — парабіць стэнды, перафатаграфаваць здымкі, аформіць, намаляваць, падпісаць, маўляў, гэта хутчэй клопат клубных работнікаў і калгаса, а не школы і настаўнікаў. Але яе падтрымала Марыя Міхайлаўна, разумна і талкова адкінуўшы прэч

сумненні і лагічна сцвердзіўшы неабходнасць такога музея. Не магчымасць, сказала, а неабходнасць. Бо дзеці пад суровым паглядам сваіх загінуўшых і жывых дзядоў і прадзедаў, партрэты якіх будуць тут, у школьных сценах, несумненна, будуць і лепш вучыцца, і лепш сябе паводзіць. І вось цяпер пра гэта ж самае гаворыць гэты хлопчык-журналіст.

— Не, Валерыя Віктараўна, вы проста не ўяўляеце, якую карысную і вялікую справу вы задумалі! — гаварыў ён, перабіраючы пажоўклыя, цьмяныя, малюпасенькія, як для дакументаў, і трошкі большыя, але таксама невялікія, часцей за ўсё аматарскія фотаздымкі, узіраючыся ў іх пільна-пільна, бы на іх адбіліся аблічча ягоных сваякоў ці знаёмых.— Я пра вас напішу! Праўда, праўда, напішу! Грэх будзе, калі не зраблю гэтага. Які ж з мяне, трасца ў бок, журналіст, калі ўсё гэта пройдзе міма мяне? Ніякі не журналіст! Не, я напішу! Заўтра пайду разам з вамі ў школу, пагавару з дзецьмі, з настаўнікамі, абыду, як і вы, усе хаты ў Чырвоным Бары і напішу...

Ён і сапраўды пабыў у школе, пасядзеў на ўроку ў Лоры, пагутарыў з Іванам Фёдаравічам, пахадзіў і па чырванаборскіх хатах. Быў ён і на машынным двары. Прыйшоў і папрасіў Кіма сабраць усіх на колькі хвілін. Калі механізатары сабраліся ў цесным пакойчыку чырвонага кутка, ён прачытаў ім пісьмо і спытаў:

— Скажыце мне, калі ласка, хто гэта папісаў?

Усе маўчалі.

— Значыць, з вас ніхто не пісаў? Тады ж хто?

На гэты раз адусюль загулі:

— Адкуль мы ведаем! Не мы!

Хлопец павярнуў пытанне іншым бокам:

— Добра, вы не пісалі. Ну, а скажыце, тут праўда напісана?

— Лухта тут напісана! Некаму не было чаго рабіць!

— А калі лухта, дык — навошта? Пісалася і пасылалася навошта?

— Спытайцеся ў таго, хто пісаў!

— Хацеў бы,— спакойна адказаў хлопец.— Ды, зрэшты, гэта не так і важна. Галоўнае мы высветлілі. Высветлілі, што пісьмо не адпавядае сапраўднасці.— Ён злажыў лісток і, перад тым як пакласці яго ў кішэню, сказаў: — Па почырку можна было б лёгка пазнаць аўтара. Тым больш, што ён, мне здаецца, сярод вас. Не з суседняга ж калгаса яго паслалі!

— Ану, пускай па руках! — падхапіўся Пецька Яскевіч.

— Давай! Жыва пазнаем! — падтрымалі яго многія.

Кім, які стаяў тут жа, зірнуў на практыканта-журналіста запытальна: што ён зробіць? Хлопец спакойна злажыў лісток і паклаў у кішэню:

— Мусіць, не варта. Мы не следчыя. А таварышу вашаму хай будзе сорамна ўсё ж. У рэдакцыі да кожнага пісьма ставяцца з даверам. Бо могуць быць і сур'ёзныя прычыны, па якіх чалавек не можа падпісацца пад пісьмом...

Журналіст і другую ноч начаваў у іх, у Кіма з Лераю. Яны, трое, вячэралі, калі ў хату зайшоў Сяргей Бурлак з Селішча. Ад парога папрасіў:

— Вікенцьевіч, на два словы — можна?

Яны выйшлі ў сенечкі.

— Ну, што ў цябе, Бурлак? — спытаў Кім, бачачы, што хлопец не рашаецца гаварыць, чаго прыйшоў.

— Гэта я, Вікенцьевіч...

— Што — ты?

— Ну, ананімшчык... Крыўдна было... От пад гарачую руку і накрэмзаў...

Кім ад нечаканасці толькі крэкнуў. А Бурлак паспешліва дадаў:

— Па-дурному, Вікенцьевіч! Даруйце... І не кажыце нікому. Добра?

— Па карку б табе з'ездзіць харашэнька, Бурлак! — адказаў Кім і павярнуўся да дзвярэй у хату.

— Не скажаце, Вікенцьевіч? Я прашу...

— Ідзі ты!

Калі Кім вярнуўся да стала, Лера спытала:

— Чаго ты ўсміхаешся?

Ён адказаў не ёй, а журналісту:

— Ананімшчык твой прыходзіў. Сорамна стала...

Вочы ў хлопца загарэліся:

— І што сказаў?

— А што ён скажа? Пад гарачую руку, крыўдна было... А чаго крыўдаваць? На каго крыўдаваць? На сябе трэба было б крыўдаваць! Даў яму новенькі «Беларус». Папярэдзіў: беражы, як свой матацыкл! Дык першы-другі тыдзень трымаў дысцыпліну. А пасля раз трактар ля хаты пакінуў, другі. Я папярэдзіў, каб заганяў на машынны двор. Зноў — тыдзень-другі ўсё было нармальна. А пасля зноў за сваё. І не проста заначоўваў. Аднойчы ноччу вазіў сваім селішчанцам дровы з Горнага рова. На прычэпе. Пад прычэп падбіўся ці то пень, ці то корч-выварацень. Дык паленаваўся скінуць алешнік, а пачаў ірваць

гружаны прычэп. Ну, і цягу парваў, ледзь трактар не ўгробіў... От я і ссадзіў малайца з новага «Беларуса» і перасадзіў на стары гусенічны. Дык крыўда ўзяла...

Журналіст, выслухаўшы гэта, усклікнуў:

— І пра гэта напішу! Абавязкова напішу! Скажу я вам, мае добрыя слаўныя людзі, што мне здорава пашанцавала! Першая мая камандзіроўка будзе не пустой! Не пустой!

Ліха яго ведае чаму, але ён, Кім, быў рады за гэтага жаўтаротага студэнта-журналіста. Пра тое, што ён гразіцца напісаць пра іх — і пра Леру, і пра яго, адразу пра дваіх, не думалася. Не надта і верылася, што гэта хлапчанё напіша нешта слушнае, а калі і напіша, дык наўрад ці надрукуе той самы рэдактар ягоныя крэмзы. Рады быў, канечне, па другой прычыне. Яму падабалася бачыць, быць побач з тымі людзьмі, якія былі не раўнадушныя да таго, што рабілі. За гэта, пэўна, прыйшоўся да душы і студэнт. Неабыякавы ён быў да ўсяго, што бачыў і чуў у Чырвоным Бары. Якая ні нікчэмная прычына прывяла яго сюды, але і да яе ён паставіўся сур'ёзна, дакапаўшыся, няхай сабе і выпадкова, да канца. От за гэта і падабаўся яму гэты гарачлівы, увесь быццам узвінчаны, а мо і проста ўзбуджаны ад празмернага хвалявання малады хлопец, з якога, трэба спадзявацца, з цягам часу сапраўды выйдзе журналіст.

Калі яны ішлі спаць наверх, дзе былі іхняя спальня і Юльчын пакой, пакідаючы госця, як і ўчора, тут, у зале, на першым паверсе, ён раптам запытаў:

— Ці мне падалося ўчора, але вы, даруйце, нешта чыталі перад сном?

— Вам чуваць было? — перапытала Лера.

— І чуваць, і не чуваць. Падалося, быццам нехта чытае ўголас. Дык я падумаў быў — ці вы, ці суседзі мо,— хлопец, здаецца, адчуваў сябе ніякавата і не рады быў, што запытаўся.

Лера ўсміхнулася:

— Не, не суседзі. Гэта мы. Перад сном прывыклі трошкі пачытаць.

— Прывыклі? Значыць, даўно чытаеце?— хлопец зноў як загарэўся.

— Даўно,— адказаў замест Леры Кім.— З таго часу, як пажаніліся.

— І што чытаеце?

— Найперш класіку. Рускую, замежную, савецкую. І сёе-тое з сучаснага, пра што пачынаюць гаварыць,— зноў адказала Лера.

— А ўчора што чыталі? — не здаваўся хлопец.

— Гогаля, «Мёртвыя душы».

— І сёння будзеце?

— Мы кожны вечар чытаем. Амаль кожны.

— Кожны вечар? З таго часу, як пажаніліся? — здзіўляўся хлопец.— І ніколі не забываліся? Ніводнага вечара не прапусцілі?

— Ну чаму ж! — усміхнулася Лера.— Былі вечары, вядома, што не чыталі. Але стараемся не прапускаць. Нават і цяпер, калі паявіўся ў хаце тэлевізар, які вельмі адвучвае людзей ад чытання.

— І чыя была ініцыятыва? Хто падказаў такую думку? — хлопец усё ж быў настырны, мо і лішне.

Лера пацiснула плячамі.

— Разам дадумаліся. Парашылі, што будзем кожны раз перад сном чытаць. Тады яшчэ ў нас не было тэлевізара,— дадала.

— Выбачайце, мо я і занадта цікаўны, але ўсё ж скажыце — хто першы прапанаваў чытаць штовечар уголас?

Кім адказаў ці не зласнавата:

— Валерыя Віктараўна. Ініцыятыва была яе.

Хлопец не заўважыў, пэўна, гэтай ноткі злосці ў голасе гаспадара, сказаў летуценна:

— Хацеў, бы я, каб і ў мяне была такая жонка, Кім Вікенцьевіч!

Кім абарваў яго ўжо зусім грубавата:

— Рана табе яшчэ думаць пра жонку!

Хлопец і з гэтым пагадзіўся памяркоўна:

— Рана, вядома. Гэта я так, к слову... Спакойнай ночы вам!

Падняўшыся наверх і лёгшы ў пасцель, яны, як і ўчора, прыняліся чытаць пра тое, што было далей, як усё ж знайшоў паразуменне Чычыкаў з Плюшкіным. Чытала Лера. А Кім неўзабаве злавіў сябе на думцы, што не слухае. Нечым усё ж сапраўды раззлаваў яго гэты наіўны, аднак жа крыху бесцырымонны практыкант-журналіст. Ужо ён, пераначаваўшы ў іх раз, і запанібрата з імі. Ужо ён лезе табе слепнем у вочы, толькі скажы яму, хто першы падаў думку чытаць перад сном. І бач, абрадаваўся, пачуўшы, што яна, гэтая думка, належыць Валерыі Віктараўне. Нават, смаркач, і сабе зажадаў такой жонкі. Але, але, такой жонкі...

Ён, Кім, ужо не раз чуў нешта падобнае. Хто толькі ўжо не зайздросціў яму. І ў вочы, і за вочы казалі. Маўляў, ах, як Курловічу пашанцавала з жонкай! Гэта ж не тое, што нашы дурныя лахудры! Адно ўмеюць — горла драць і мужа папракаць у яўных і выдуманых грахах. Ці ты позна прыйшоў, ці рана, ці цвярозы, ці на падпітку, ці грошы ўсе прынёс, ці па дарозе згубіў якую-небудзь траячку ці пяцёрку — усё адно не дагодзіш, знойдзе, да чаго прыдрацца! Грошы прынёс —

добра, але чаму ты сечкі не парэзаў, як гаспадар, чаму я адна павінна жылы рваць? Рана прыйшоў — добра, але ж ці табе засляпіла, куды лезеш з ботамі, хіба не бачыш, што цэлы ранак грызла, мыла, вытрасала?! А Курловічу — лафа! Ён жа таксама не анёл, а — ніколі табе ні сваркі, ні лаянкі, ні кляцьбы, што на тры падворкі чуваць. Усё ціха, культурна, па-чалавечы. Гэ, хіба не чулі! Кімачка, хоць ты і стаміўся, але збегай, прынясі вады... Я забылася, не схадзіла ў краму, дык ты не палянуйся, падскоч на веласіпедзе — цукру няма, і хлеба заадно паглядзі... Калі б нашы бабы так, дык і мы — на адной назе і туды, і сюды...

Чуў ён такое. Неаднойчы чуў. І спачатку прыемна было тое слухаць. А чаму ж не прыемна? Жонку хваляць, гэта значыць і цябе таксама хваляць. Бо не хто-небудзь гэтую самую жонку мае, не чорт лысы, а ты, бо твая гэта жонка, а не чыя іншая. А калі твая, дык, значыць, і ты нечага варты і, пэўна ж, нечым трошкі лепшы за тых, што вось такім чынам, жонку тваю нахвальваючы, на свой лёс наракаюць.

Ён адно пасміхваўся, калі яму гаварылі пра гэта. Пасміхваўся, жартаваў: трэба было лепш выбіраць, падумаць спачатку, а пасля ўжо жаніцца... Пажартуе так, а ў самога на душы цёпла так зробіцца — ужо ад аднае згадкі пра яе, пра жонку сваю, пра Валерыю Віктараўну. Пашанцавала яму, вядома, з ёй. Не гадаў і не думаў. Мо толькі ў сне калі прыходзіла да яго, што будзе мець такую жонку. Але ж, з другога боку...

Добра, вядома, што ёсць у яго Валерыя Віктараўна. Пры ёй і сам ён чуецца неяк больш надзейна, упэўнена. Нешта яго быццам падтрымлівае, не дае расслабляцца, распускаць нервы, і язык, і рукі, няўрокам кажучы. Пры ёй і ён не колішні Кім Курловіч, з якім кожны запанібрата і кожны роўня. Хай сабе ён цяпер не шафёр, а інжынер, і Вікенцьевічам яго ўсё адно клікалі б, але, як добра падумаць, дык і не ўсё адно. Вікенцьевіч Вікенцьевічу — розніца. Поруч з ёй ён Вікенцьевіч ужо і без інжынера таго. Яна — Валерыя Віктараўна, а ён — Кім Вікенцьевіч. Бо — муж Валерыі Віктараўны, настаўніцы.

Ды гэта дробязь, вядома. Хіба ж гэта важна? Важна тое, што пры Валерыі ён зразумеў, адчуў нешта больш істотнае. Куды больш важнае. Ну, скажам, хоць бы тое, што можна, аказваецца, жыць інакш, чым жылі і жывуць ці не ўсе яго аднавяскоўцы, чырванаборцы. Жыць не толькі сняданкамі, абедамі ды вячэрамі. Не толькі работай. Жыць і адчуваць не толькі стому фізічную. Поруч з работай мышцаў прымушаць працаваць і душу. А што гэта значыць? А тое, што трэба на сябе трошачкі больш браць, чым іншыя. Хоць трошачкі менш думаць пра сябе, а як мага больш пра іншых. Не зважаць, не

засяроджвацца на дробязях, а думаць, дбаць найперш пра галоўнае. Здаецца, што і лёгка гэта, а на самой справе — вунь як нялёгка! Ён па сабе ведае, што — нялёгка! І калі б не Лера, дык наўрад ці ён не то што стараўся б рабіць так, але ці і дадумаўся б да гэтага наогул. Але, але, калі ён сёння разважае так і хоць сёе-тое робіць у адпаведнасці з гэтымі развагамі, дык заслуга таксама найперш яе. І тут мужчыны, зайздросцячы яму, праўду гавораць. Мець такую жонку — шчасце. Але ж, з другога боку...

Ён, Кім, разумее, што ўсё гэта дробязі, нікчэмнасці, якія не павінны былі б уплываць ні на што, а тым не менш... Чалавек, аказваецца, слабая ўсё ж істота. Як яго ні падымаюць, ні ўзвышаюць, а ён, бы тая свіння да лужыны, усё ўніз, у балота. Рукамі, здаецца, узмахнуў бы і паляцеў, а азадак, халера на яго, цяжкі, не пускае. Груз дробязнасці ого які цяжкі! Ён не хацеў бы прызнавацца нават і самому сабе, але ж — навошта грахі ўтойваць, было, было і ў яго, калі так і падмывала сарвацца, грымнуць кулаком насуперак яе, Лерынай, выхаванасці, інтэлігентнасці, культурнасці, што надта іншым у вочы кідаецца і праз што, маўляў, яму, Кіму, буйна пашанцавала. Ён, вядома, таксама навучыўся, здаецца, стрымліваць свае эмоцыі, не псаваць попусту свае і яе нервы, аднак жа, аднак жа...

Не ўсё так і цудоўна, дружа, у нас, як табе здаецца, хацелася яму сказаць у адказ на кампліменты ў адрас Леры. Не ўсё так і цудоўна... Твая, як ты кажаш, крыклівая лахудра хоць і накрычыць, і намацюкаецца часам на тры падворкі, але вячэру заўсёды згатуе і кашулю чыстую, калі спатрэбіцца, знойдзе і падасць. А мая вучоная і выхаваная колькі разоў страчала мяне ўвечары пяшчотнай усмешкай ды пустым сталом? Маўляў, Кімачка, засядзелася ў школе, выпускалі новы літальманах, і не паспела што-небудзь прыгатаваць, мы з Юлькай малака папілі, а ты, калі вельмі прагаладаўся, вазьмі пару яек ускінь на скавародку... Альбо: ой, Кімачка, табе ж сёння на сесію ў сельсавет, а сарочкі чыстай няма, усё рукі не дайшлі, надзень во гэтую, у палоску, яна не надта зацяганая, не відаць будзе, а заўтра, калі камісія не зваліцца на галаву, абавязкова перамыю ўсе, каб у запасе былі...

Глупства, вядома, ён не надаваў і не надае гэтаму значэння. Ён разумее, што гэта дробязі быту, якія не павінны аніяк уплываць на нешта больш істотнае, што звязвае іх, яго і Леру. Ён разумее, акрамя ўсяго, што калі нешта такое і здаралася, дык яе віны ў тым не было, яна сапраўды была занята іншым клопатам, важнейшым, чым яго вячэра ці сарочка. Аднак жа — слабак-чалавек! — у хвіліны, калі чуў на ўласныя вушы ці з пераказу іншых, што нехта зайздросціў яму,

Курловічу,— ну, што яму пашанцавала з жонкай,— у яго ўсё ж сядытады ўсплывала з небыцця тая самая сарочка ў палоску, якую ён вымушаны быў апранаць нямытай. Ён не засяроджваўся на гэтым, вядома, і гэтая цьмяная думка як усплывала, так і патанала ў тым жа небыцці. Ды вось жа, аказваецца, што небыццё гэтае — не такое ўжо і небыццё. Аказваецца, тлее там, дзесьці ў сховах душы, іскарка ягонай чыста мужчынскай незадаволенасці. І досыць было гэтаму іхняму нехлямяжаму госцю выткнуцца са сваімі дзіцячымі захлёбамі ў адрас Леры, досыць яму было ляпнуць тыя словы, што і яму б такую жонку, як іскарка тая паднялася з дна, каб патрапіць на подых ветру і даць пачатак новым, многім іскрам...

— Я даўно кідаю краем вока на цябе, і, здаецца, ты не слухаеш, не чуеш таго, што я чытаю,— сказала Лера.

Ён схамянуўся ад думак, пачырванеў ад нейкай унутранай, дзіцячай няёмкасці ці то вінаватасці перад ёю, сказаў:

— А мусіць, і праўда слухаю брухам.— І, каб схаваць гэтую сваю збянтэжанасць, загаварыў пра нешта тут жа прыдуманае: — Ведаеш, ляжаў, слухаў, а думка знячэўку пабегла некуды зусім не туды і прапала, а на яе месца прыбегла зусім іншая, нават не думка, а нешта мройлівае, неўразумелае, як трызненне, я ўсё намагаўся ўлавіць яго, дайсці да сэнсу і ніяк не мог, і гэта доўжылася, доўжылася, я быццам гайдаўся ці то ў лодцы, ці то на арэлях, усё цішэй і цішэй, ажно пакуль, здаецца, і не задрамаў, і страпянуўся ўвесь, калі ты спыталася, ці слухаю я...

Лера згарнула кніжку, схілілася над ім:

— І ў мяне так бывае. Калі стамлюся ці перахвалююся. Тады таксама нешта мяне быццам калыша і калыша і я засыпаю і не засыпаю, гайдаюся недзе на мяжы сну і свядомасці... Ты стаміўся, пэўна. Спі!

І, пацалаваўшы яго лёгка, бы гэта быў не ён, а Юлька, яна адвярнулася, скруцілася, як кацянё, і неўзабаве заснула. Заснула, яму падалося, хутка і лёгка, як тое ж кацянё. І яму, спаймаў сябе, сёння чамусьці і гэта не спадабалася. Зрэшты, мо і не тое што не спадабалася. Мо проста падумаў пра гэта, што яна заснула вось так лёгка і хутка, і пры гэтым не дадаў у думках, што звычайна так засынаюць добрыя, чэсныя людзі, душу якіх не трывожаць, не гнятуць сумненні і згрызоты.

І зноў яму зрабілася непамысна. І, каб загладзіць гэтую сваю віну перад ёю ці мо, хутчэй, прагнаць гэтую мімалётную думку прэч і супакоіцца, прыпадняўся і асцярожна дакрануўся вуснамі да яе шчакі. Ад ягонага дотыку яна не прачнулася, але ўсё ж зрэагавала — па яе вуснах прабегла лёгкая, ледзь прыкметная ўсмешка. Хто-небудзь ін-

шы наўрад ці ўлавіў бы гэты цень, водбліск усмешкі, а ён — улавіў, і да грудзей яго, пад самае падбароддзе, падкацілася лёгкая гарачая хваля, і яму зрабілася добра і хораша, і ён, пстрыкаючы кнопачкай-выключальлікам, адчуў, як яго лёгкая галава пацяжэла і важка аблеглася на мяккай пуховай падушцы, і напаследак падумаў, што зараз і сам ён засне хутка і лёгка...

## ВЕРАСЕНЬ 1973 ГОДА

Па дарозе дахаты ён памятаў, што трэба зайсці да Селівончыка і наказаць, каб заўтра не пазней сямі быў у раёне, на плошчы, ля райкома. Там будзе фарміравацца аўтакалона з аўтобусаў і грузавікоў, і адтуль усе разам, а не паасобку, як меркавалася, паедуць у Мінск па студэнтаў. Ішоў і памятаў. А прыйшоўшы дахаты, загуляўся з Юркам, памог рашыць задачу Юльцы і начыста забыўся. Даўно павячэралі, паглядзеў праграму «Время» і толькі тады спахапіўся, што не зайшоў да Селівончыка. Не хацелася апранацца і абувацца, а вымушаны быў. Усунуў ногі ў боты, накінуў на плечы куртку і выйшаў з хаты.

Было цёмна. Не так, калі кажуць — хоць пальцам у вока, але цёмна — за нейкіх дзесяць крокаў наўрад ці пазнаеш каго, не ўгадаеш, бадай, мужчына ці кабета ідзе папераздзе. Па кроках, па гуку хутчэй здагадаешся. Тым не менш ён не пайшоў вуліцаю, а звярнуў у вулачку і выйшаў за загуменне,— сюдой да Селівончыка было нашмат бліжэй. Выйшаў і здзівіўся, што тут, аказваецца, куды святлей, чым на вуліцы. На вуліцы падаюць з вокнаў светлыя плямы, і, пэўна, ад іх там выдае цямней, чым на самой справе.

Дыбаў ён хутка, шырокімі крокамі, не надта баючыся спатыкнуцца — гэтую загуменную дарожку ведаў добра. І неўзабаве пачуў, што папераздзе хтосьці едзе — у той канец, дзе і Селівончык, куды і ён цяпер ідзе. Ён здзівіўся, бо для язды было пазнавата. Падумаў, што няйначай дабрадзейны Міхаіл Іванавіч кагосьці выручае — некаму звозіць з поля бульбу. Той нехта спадзяваўся звезці раней, але пакуль знайшоў гэтага самага Міхаіла Іванавіча ды пагрузіў, вось і ацямнеў. Зрэшты, Міхаілу Іванавічу рупіцца няма куды... От, дальбог, і ён ужо ўслед за ўсімі — Міхаіл Іванавіч ды Міхаіл Іванавіч. А ён жа ніякі не Іванавіч і ніякі не Міхаіл, а — Міхаліна, калі ўжо цалкам, дык Міхаліна Максімаўна. Змалку была дзеўка-казак, змалку да коней прывучылася, і во, лічы, усё жыццё з коньмі і прарабіла. Як казаком была, так і засталася казаком, састарэла, на пенсію хутка, а ні чалавека не мела, ні дзяцей. З цягам часу з Міхаліны ў Міхаіла Іванавіча перарабілася. Нейкі гарэза ці насмешнік назваў — і як прыліпла. Зрэшты, а чаму і

не Міхаіл, калі бабскага, можна сказаць, ані знаку, акрамя спадніцы? І мацюкнуцца можа, калі патрэба такая ўзнікае, і чарку кульнуць пры нагодзе не адмовіцца. А рабіць — дык з мужчынамі нароўні, яшчэ каторага і абскочыць. Дык чаму і не Міхаіл? Вядома, Міхаіл. А Іванавіч адкуль? Іванавіч сам па сабе прычапіўся, бо — які ж яшчэ можа быць Міхаіл, калі не Іванавіч?

Ага, дык, пэўна, вязе некаму Міхаіл Іванавіч бульбу. Каму ж, цікава? Хто гэта ўлагодзіў яе і ў каго сёння перападзе ёй чарка? Калёсы зарыпелі і звярнулі з дарожкі. Калі ён падышоў бліжэй, дык убачыў, што завярнулі яны ў вароты на Даўнаровым гумне. Даўнар — брыгадзір чырванаборскі і, у дадатак, нейкі далёкі сваяк яго, Кімаў. Ці то брат траюрадны, ці яшчэ далейшы. Не лічыліся з гэтым ні адзін, ні другі. Ведалі, што нібыта нейкія сваякі, але быццам і не сваякі зусім. Прынамсі, не было завядзёнкі, калі ў каго госці, зваць адно да аднаго. Зваць не звалі, але і не сварыліся. Бо — сваякі ўсё ж. Ён, Кім, недалюбліваў Аліка Даўнара. Малады яшчэ хлопец, а — ваўкаваты нейкі. Па бацьку пайшоў. Той таксама быў Лявонам Бушмаром — так Лера сказала б, калі б ведала яго. Але яна ўжо не заспела старога Даўнара. А ён, Кім, памятае. Злы быў, помслівы. І ўсё каб сабе і пад сябе. Памёр недзе праз гадоў дзесяць пасля вайны, а хтосьці казаў, нібы да самага апошняга дня шкадаваў, што калісьці не пайшоў на пасёлак, на хутар, значыць. Алік, вядома, аб хутары не шкадуе, але таксама ад сябе не адкіне. І жонка яго такая ж. Даяркай робіць. Дык няма таго дня, каб з фермы хоць што-небудзь не несла. Няможна прыгаршчы мукі, дык хоць тры бульбіны, няможна бульбін узяць, дык хоць бурачок у кішэню ўкіне. Людзі спачатку смяяліся, а пасля і смяяцца перасталі. Выгнаць таксама шкада: робіць — за дзвюх. Як мурашка. Тая ферма ці не на ёй, на Даўнаровічысе, і трымаецца. Людзі кажуць, мо гэта ад бядоты колішняй, пасляваеннай. Даўнаровічыха гадавалася надта ж у беднай сям'і. Дзяцей было шмат — сямёра, а бацькі не было, карнікі забілі, як ён пайшоў з лесу ў сяло, каб карову прывесці, бо дзецям есці не было чаго. Яна ж тады і не Даўнаровічыхай была — Аняй Рагаткай з Селішча. Матка яе білася з семярыма як рыба аб лёд. Кожнай бульбіне была рада. І дзеці тыя, расказвалі, адно перад адным, як мурашкі, у хату ўсё валакуць, што пад руку трапіцца. Можа, ад тае пары і засталася ў Ані звычка гэтая, калі і Даўнаровічыхай стала? Хоць, кажуць, нібыта Алік яе прымушае памаленьку красці. Маўляў, за бульбіну ці за бурак судзіць не будуць, а прынясеш — як знойдзецца, свінчаці ці карове, глядзі, і прыдасца.

Прайшоў быў Кім міма Даўнаровічавых варот, а потым як штосьці быццам па патыліцы яго стукнула, спыніўся. Бульбу павезла Мі-

халіна? А якую бульбу? Даўнар жа ўвесь свой пляц жытам летась засеяў. Казаў, каб зямлю амаладзіць, бо бульба па бульбе каторы год. А бульбы хопіць тае, што матка пасадзіць на сваіх сотках. Дык што — ад маткі вёз? Чаго ж гэтым загуменнем? Ад маткі сюдой Міхаіл Іванавіч ніяк бы не ехаў. А мо не бульбу? Мо дровы?

Прыслухаўся. Не, не чуваць было, каб скідвалі з воза алешыны. У двары ў Даўнароў нешта згружалі з калёс, але не дровы. Ну і ліха з ім, што яны там згружаюць. Падумаў чорт яго ведае што! Алік жа брыгадзір, не пойдзе на тое, каб красці. Можа, і праўда, бульбу ад маткі вёз, а можа, і што іншае. Мала што спатрэбілася чалавеку.

Пайшоў да Селівончыка. Думаў, скажа і — назад. А Селівончык вазьмі ды не пусці. Не, Вікенцьевіч, калі ты ў мяне ў хаце быў, прысядзь, не крыўдзі, некалі я і з бацькам тваім сябрукаваў, і з маткай не сварыўся, а ты забег і адразу за парог? Не, прысядзь, калі ласка, да стала, не хочаш чаркі, дык хоць так пасядзі, пагамані з намі, хоць на пару хвілін... А як сеў, дык і гадзіну праседзеў і бег назад, ужо вуліцаю, яшчэ шпарчэй, чым сюды, і зусім не ў галаве было тое, што падумалася там, на загуменні, ля Даўнаровых варот.

Лера не спала, хоць і ляжала ўжо. З кніжкай, вядома. Калі ён лёг, яна не стала чытаць, а знячэўку запытала:

— Трэба ж неяк нам выкраіць час ды выбраць бульбу, Кім. Давай памяркуем, калі лепей: у суботу ці ў нядзелю?

Пасля смерці маці адвык ён ужо ад колішніх вялікіх сотак. Наступнай вясной, як пераехалі сюды, у гэты дом, пасадзілі яны пад вокнамі чатыры грады, праўда, даўгаватыя, каб хапіла на цыбулю, агуркі, моркву, буракі, а ў полі далі ім пятнаццаць сотак пад бульбу. Пятнаццаць сотак далі Леры як настаўніцы. А ён мог бы сабе ўзяць і ўсе сорак, але, парахаваўшыся між сабою, яны адмовіліся. Навошта яны, тыя соткі, каб хто спытаў? Каровы ў іх няма, парсюка таксама наўрад ці будуць трымаць, а самім і курам хопіць бульбы і з пятнаццаці — уга! І яны, тыя скупых пятнаццаць, надакучалі. І гною пастарайся туды завязі, і пасадзі, і забарануй, і абгані два-тры разы, і разгані пасля, і выберы... Пры іхняй заўсёднай занятасці і гэтыя соткі здаюцца лішнімі. Каб не грэшна было, дык і іх не садзілі б. Але ж — як гэта? Вясковы чалавек і каб ужо і бульбіны сваёй не было? Каб ужо і бульбу купляць? Лера-то казала: а чаму і не? Каторы год восенню купляем парсюка, дык чаму б і бульбы не прыкупіць? Мо і яе праўда. Але неяк па інерцыі садзілі яны тых пятнаццаць сотак бульбы. Настаўнікі садзяць, дык і яны заадно, каб не быць лысымі, белымі варонамі.

— Лепш, мусіць, у нядзелю,— адказаў ён.— Трэба ж зранку, каб выбраць і ў скляпок ссыпаць. А то ў суботу пачнеш пасля абеду, дык

абначуеш... Во, як Даўнар,— прыгадаў раптам зноў.— Ішоў да Селівончыка, а Міхаіл Іванавіч яму бульбу павезла.

— А гаварылі ж, Даўнар не садзіў сёлета бульбы.

— Дык я і падумаў, нават прыпыніўся і паслухаў. Нібыта бульбу згружалі. Мяхі з калёс насілі.

— Што, крадзеную? — усміхнулася Лера.

— Можа, і крадзеную,— мармытнуў ён.

Лера нечакана сказала сур'ёзна:

— Дзіўна, праўда, мы ўжо як і не верым, што могуць украсці, праўда, Кім? А могуць жа? Як думаеш?

— Мусіць, могуць,— сцепануўся ён.

Лера закінула рукі за галаву, пакінуўшы кніжку на жываце, загаварыла, быццам толькі пра гэта і думала:

— Ведаеш, я часам думаю... Здаецца мне, што мы апошнім часам неяк надта спакойна жывём. Быццам усё вакол добра, ніштo нам не замінае, нічога нас не турбуе. Ты так не думаеш? Табе калі-небудзь не прыходзяць такія думкі?

— Якія?

— А такія! Быццам мы супакоіліся. Пад'еўшы, адзеўшыся, і самі, і дзеткі, нам нічога не баліць, нам не дзьме, нам суха і цёпла, сытна і спакойна, і — адчапіцеся ад нас усе астатнія? Табе не здаецца, што мы супакоіліся?

— А што ты хочаш?

— Што я хачу! Пры чым тут — што я хачу? Я пытаюся, табе такія думкі не прыходзяць? Ці мне гэта проста здаецца?

— Што здаецца, Лера? Што мы чарсцвеем? Гэта?

— І гэта! Але не толькі гэта. Робімся абыякавымі. І да добрага, і да благога. Ты от сказаў, што Даўнар бульбу згружаў. Ну, а калі б і праўда — крадзеную? Калі б ты пэўна ведаў, што крадзеную? Не смейся і скажы мне: ты б сказаў, дзе трэба, што яна, тая бульба, крадзеная? Сказаў бы?

— Не ведаю. Мусіць, сказаў бы. Калі б запыталіся,— адказаў ён.

— Вось бачыш! Калі б запыталіся... А калі б не запыталіся? Сам сказаў бы? — не адступала яна.— Скажы: сказаў бы?

— Ты як малая,— памкнуўся ён да яе.

Яна адхінулася, паўтарыла:

— Сказаў бы ці не?

Ён уздыхнуў, памаўчаў і нечакана для сябе загаварыў усур'ёз:

— Калі шчыра, дык і не ведаю. Пабаяцца не пабаяўся б, аднак... Мы, у вёсцы, усе між сабою не чужыя. Мы тут павязаны часам невідочнымі, але досыць моцнымі ніцямі, парваць якія не так і лёгка.

Зайшоў сёння во да Селівончыка, а ён мне: прысядзь, не спяшайся, я з тваім бацькам сябрукаваў і з маткай не сварыўся... Гэтага ж не адкінеш. Тое сябрукоўства перайшло ў чымсьці і на мяне... Тое ж і Даўнар. Ён, дарэчы, не проста аднавясковец, а яшчэ і далёкі мой сваяк. Сказаць нібыта трэба. Бо — злодзей, як ты кажаш. Злодзей, вядома. Але ж і сказаць... Гэта ж і ён сам, і яго Аня, і іхнія дзеці, і сваякі — усе затояць на цябе крыўду, злосць...

Лера засмяялася:

— Дык і не сказаў бы?

— Чаму — не сказаў бы? — як пакрыўдзіўся ён.— Я не пра гэта. Я тлумачу табе, што гэта не так і проста, як здаецца. Вось табе факт крадзяжу — бяжы і ўдавай. Без ваганняў. А можа, не так і проста ўсё?

— Ах, Вікенцьевіч, Вікенцьевіч! Ты нешта цямніш! Усё не так проста, не так проста... А дзе, скажы, і калі нам было проста? Але ж выбар мы рабілі! А ты, Кімачка, завагаўся. Значыць, мне недарэмна лезуць у галаву падобныя думкі!

Ён запярэчыў:

— Пакуль што мы разважаем абстрактна. А калі б давялося на самой справе сутыкнуцца з такім фактам, я, вядома, сказаў бы.

— А можа, усё ж не сказаў бы?

— Ну, калі табе так хочацца, то, можа, і не сказаў бы! — агрызнуўся ён.

— Вось гэта ўжо больш падобна на праўду, Кім! І таму я пра гэта думаю, і таму гэта мяне трывожыць, непакоіць. Сваяцтва, суседская прывязанасць — усё гэта так, усё гэта вісіць на нас цяжкімі вярыгамі. Але ж быў час, калі мы не сумняваліся і не зважалі на іх, рэзалі праўду-матку ў вочы. А цяпер ужо разважаем, сказалі б мы ці не сказалі... І дапускаем магчымасць існавання, спакойнага існавання з гэтай ганебнай тайнай у душы!

Ён прыпадняўся, зірнуў на яе ці не са здзіўленнем:

— Лера, ты гэта напраўду? Сур'ёзна?

Яна таксама паглядзела на яго і спытала спакайней:

— Што, я захапілася? Перайшла на эмоцыі?

— Па-мойму, аж занадта.

— Даруй. Я не хацела. І павер, што я не так цябе хацела праверыць, як сябе. У цябе я веру. І загаварыла пра тое толькі таму, што быццам у сабе пачала сумнявацца. А я не хацела б гэтага, Кімачка!

Ён прыгарнуў яе да сябе, прашаптаў:

— А на сябе ты проста нагаворваеш. Ты якраз з тых, што...

Яна выслізнула з яго абдымкаў, закруціла галавой:

— Не, не, Кім, я ведаю, ты мяне ідэалізуеш, а — дарма! Я і баба звычайная, як усе, і чалавек звычайны. І таксама, як і іншыя, магу паддацца гэтай цяперашняй напорыстай хвалі мяшчанскай заспакоенасці і абыякавасці. А я не хацела б паддавацца! Не хацела б!

— Ты не паддасіся, не хвалюйся,— сказаў ён і, сам таго не жадаючы, уздыхнуў.

Яна найперш пачула гэта — як ён уздыхнуў, і замоўкла, і маўчала доўга. А пасля сказала зусім іншым, слабым, глухім голасам:

— А ты, аказваецца, ужо мяне і не ідэалізуеш. А я думала...

Ён пачуў гэтыя словы, але зрабіў выгляд, што не разабраў, перапытаў:

— Што ты сказала?

Лера прыпаднялася, паправіла пад сабою падушку, падбіўшы яе вышэй, узяла ў рукі кнігу, сказала:

— Нічога, гэта я так... Пачытаем трохі?

Ён падумаў, што цяпер найлепш было б — пачытаць, чытанне змусіла б і яе, і яго забыцца на гэтае непрыемнае, прыкрае імгненне, на гэтую нечаканую стрэмку, якая раптам ні з таго ні з сяго вымкнула напаверх, але сказаў другое, паклаўшы руку на разгорнутую ёю кнігу:

— Не трэба, Лера. Лепш памаўчым. Мы ж разумелі саміх сябе і моўчкі.

— Разумелі? Разумеем, Кім! Разумеем!

— Даруй. Вядома, разумеем!

Яны, як дзеці, што заракліся першымі прамовіць слова, доўга сапраўды ляжалі моўчкі. Ляжалі моўчкі, але думалі, бадай што, пра адно і тое ж. Пра тое, што хутка бягуць гады — не заўважылі, як мінула трынаццаць гадоў ад таго мая, у які яны згулялі сваё вяселле. Пра тое, што могуць лічыць сябе шчаслівымі — ні пра яе, ні пра яго людзі наўрад ці сказалі калі благое слова, і яе, і яго любяць і паважаюць, як пішуць у характарыстыках, у калектыве. Пра тое, што ўсё ж найбольшае іхняе шчасце соладка спіць за сцяною ў суседнім пакоі — дванаццацігадовая Юлька, ужо маміна памочніца, і паўтарагадовы Юрка — летась у іх знайшоўся, такой жа сцюдзёнай парою, як і Юлька, іхні пазнюрок, іхні дарагі лапатун і шчабятун. І ў думках гэтых, само сабой, радасць і горыч былі перамешаны, і аддзяліць адно ад другога было цяжка, часам немагчыма, і цёплая хваля замілаванасці пры думцы аб дзецях паціху, нячутна змывалася казытліва-халодным прылівам дрыготкай тугі, калі раптам прыбягала думка аб тым, што і ёй, і яму бярэцца пад сорак, а пасля неўпрыкмет адступаў, прападаў гэты дрыготкі халадок, і ўжо грудзі поўніліся шчымлівай радасцю ад таго, што калісьці яны не памыліліся, наважыўшыся разам ісці па жыцці,

што ёй добра адчуваць каля сябе яго, а яму — яе, і яны ці не адначасова павярнулі галовы адно да аднаго, але і тут памаўчалі, быццам усё працягваючы тую дзіцячую гульню ў маўчанку, пакуль ён урэшце не сказаў:

— Няпраўда, Лера. Я люблю цябе!

— Я ведаю,— адказала яна спакойна, упэўнена.

Сон пакінуў іх, і яны зноў ціха гаманілі між сабою, услухоўваючыся ў цішыню начы і чуючы ў гэтай цішыні дыханне сваіх дзяцей за сцяною. Яна расказвала яму пра тое, што не дае ёй спакою не першы год. Яна гаварыла яму пра гэта неаднойчы, але ён нейк быццам прапускаў тое міма вушэй. Пра п'янства бацькоў і пра тое, як шкодна гэта адбіваецца на дзецях. Ён, часцей сутыкаючыся з тымі, хто любіць кульнуць лішнюю чарку, а яна заўсёды лішняя, пачынаючы з першай, трошкі, пэўна, прыцярпеўся, прывык да гэтага. Маўляў, гарэлка — грэх, але ж — як без яе? А яна не магла прывыкнуць. Бо яна бачыла нешта іншае. Яна бачыла, як у сем'ях, дзе п'юць бацькі, да гэтай атруты прывыкаюць дзеці. Першы раз яе скаланула ўсю, калі яна пачула, што васьмікласнік дыхнуў на яе перагарам. Яна думала, што памылілася, што гэта ёй падалося, таму і не стала тузаць хлапчука. Вядома ж, падалося! Але калі праз дзень ці праз два яна зноў пачула ад яго пах гарэлкі, яна ледзь стрымалася, каб не наляцець на яго і не накрычаць, не насварыцца, не адлупцаваць, не адкруціць вушы, не растрэсці, не расшкуматаць яго ўсяго, раз і назаўсёды выбіць з яго гэтую дурноту. Яна пакінула яго пасля ўрокаў і доўга гаварыла з ім. Хлопец плакаў, абяцаў больш не браць у рот ні кроплі, а яна слухала яго і... не верыла, бо ведала, што ён бязвольны, апатычны, нецікаўны, маўклівы, і толькі тады, калі вып'е, паяўляецца ў яго нейкі жывы бляск у вачах, тады ён робіцца энергічны, досыць бойкі, мо нават самаўпэўнены. Яна бачыла, што ён і сам гэта зразумеў, што ўжо ці не свядома цягнецца да чаркі і што цяпер змагацца за яго будзе вельмі і вельмі цяжка. Пасля, расказваючы пра гэтага Косціка Турчыновіча Карнею Васільевічу, яна не стрымалася, расплакалася, і завуч супакойваў яе, як малую. Косцік той сяк-так скончыў школу, пасля яе нікуды не паступаў, вядома, аціраўся дома, сяды-тады выходзіў на работу ў саўгас, а больш часу п'янстваваў, вымагаючы рубля ці траяка ў маці і ў бабулі, пагражаючы ім нажом, сякерай, і яны з палёгкай уздыхнулі, калі яго нарэшце забралі ў армію...

— А заўчора я была дома ў Алёшы Міхальчука. З Рудні ў Чырвоны Бор ходзіць. Бацьку яго пасадзілі летась за бойку, а маці п'е.

— Гэта што на свінарніку робіць?

— Ужо не робіць. Прыбіральшчыцай у сельсавеце. Узялі, каб дзяцей не крыўдзіць. А, думаеш, утрымаецца? Прыйшла я ў хату, а ў хаце — пасля вайны так не было. Жахлівы бруд і запусценне. На ложку коўдра сто гадоў не мытая. Маці не было дома. Пытаюся ў Алёшы, старэйшага, ці зрабіў урокі. Зрабіў, кажа. А што ты еў сёння? Маўчыць. Кажу зноў: абедаў ты, як са школы прыйшоў? Абедаў, кажа. А што ты еў? Капусту, кажа. Якую капусту? Кіслую. Дзе яна? Вунь, на стале, кажа, стаіць. Падышла я да стала, там і праўда стаіць міска недаедзенай капусты і абгрызеныя скарынкі чэрствага хлеба...

— Чаму — кіслую? Адкуль цяпер кіслая капуста?

— Кіслую, сказаў. Можа, скісла, даўно звараная?

— У які ён клас ходзіць, Алёша твой?

— У шосты. А меншы, Пеця, таксама дома быў, ён у трэці ходзіць. Той ні слова не сказаў. Сядзеў і маўчаў, хоць і меншы. Мне аж сэрца забалела, калі тое пабачыла. Гэта каб у наш час так жылі дзеці?

— А што рабіць?

— Трэба афармляць у школу-інтэрнат. Неадкладна!

— Дык і афарміце.

— Думаеш, гэта так проста? Калі б яна, гэта Тома Міхальчукова, была пазбаўлена мацярынскіх правоў, тады б можна было хутка гэта зрабіць. А так...

— А гэта менавіта твой клопат?

— Ну, а чый?

— Не ведаю. Але ж павінны быць нейкія органы — ну, у раёне ці ў вобласці, якія абавязаны гэтым: займацца!

— Ёсць, вядома. Але ж мы гэта бачым. Бачым штодня. І калі мы не парупімся, органы, як ты кажаш, могуць спазніцца, дзіцячая душа можа быць скалечана канчаткова, непапраўна!

— Ну, Лера, ты ўсё-такі, можа, занадта згушчаеш фарбы? — запярэчыў ён.

Яна ажно села ў ложку і загаварыла горача, гучна, забыўшыся, што ўжо ноч, што ўсе вакол, у тым ліку і іхнія дзеці, спяць:

— Як ты можаш так думаць нават? Я згушчаю фарбы! Наадварот! Тут трэба крыкам крычаць, у званы біць, а ты... П'янства — гэта, можа, ці не другое — пасля адсутнасці дысцыпліны і парадку — зло, з якім нам трэба змагацца найперш і наймацней. Глумяцца незлічоныя матэрыяльныя багацці, а галоўнае — глумяцца чалавечыя душы. У тым ліку, Кім, дзіцячыя душы. Найперш — дзіцячыя. Ты хіба не разумееш, што нічога не можа быць больш жахлівага?

— Усё так, Лера, але — цішэй, калі ласка, ты ж не па трыбуне.

Яна абурылася:

— Ах, Кімачка, Кімачка! Што з табой сёння? Ты мне гаворыш пра трыбуну? Ты ж быў чуйны на пошласць! Хіба тут можна жартаваць ды яшчэ так пошла? Хто ж мяне падтрымае, калі нават родны муж робіць выгляд, што не разумее ўсёй сур'ёзнасці праблемы?

Ён склаў рукі на грудзях, бы просячы літасці, прамямліў:

— Даруй, паскамарошнічаў.

— Ты ж і цяпер скамарошнічаеш, а трэба, паўтараю, біць у званы. У вялікія і ў малыя. Даўно ўжо, як толькі, прыехала, я пачала была біць у гэтыя званы. Помніш, правяла ў клубе некалькі вечароў, вусных часопісаў... А хто мяне падтрымаў? Хто сказаў дзякуй? І я, твая благаверная, быццам пакрыўдзілася. Фанабэрыя перасіліла. Ах, калі яны так, дык і я!.. Не, так я не здамся. Хай толькі трошачкі падрасце Юрка, я зноў вазьмуся. Рынуся ў бой. Не дам спуску нікому. Буду ваяваць да канца. І спуску не будзе не толькі п'янтосам. Вам, калгасным кіраўнікам, таксама. І табе, Кімачка! Ты: таксама робішся ўсё больш паблажлівы да алкаголікаў.

— А ты мне выпішы неалкаголікаў.

Яна паглядзела на яго, паківала галавой, ціха апусцілася на падушку, прамовіла:

— Не, з табой сёння гаварыць бескарысна. Спакойнай ночы!..

А праз некалькі дзён у Аліка Даўнара народны кантроль высвятляў, адкуль узялася ў яго варыўні, бульба — амаль дзве тоны. Даўнар сказаў спакойна, самаўпэўнена:

— Купіў.

— У каго, калі не сакрэт?

— Не сакрэт. У Рыгора Анціпенкі з Селішча.

— Па колькі плацілі?

— Па дзяржаўнай цане — па дванаццаць капеек.

— За ўсю?

— Драбнейшую па дзесяць, буйнейшую — па дванаццаць.

Кантралёры тут жа паехалі ў Селішча, завіталі да Рыгора Анціпенкі. Гаворка адбылася такая:

— Прадавалі вы Даўнару бульбу?

Анціпенка, памаўчаўшы, кіўнуў галавой:

— Ну, прадаваў.

— Колькі?

— Што — колькі?

— Колькі бульбы прадалі?

— Дваццаць мяшкоў.

— І па колькі?

Анціпенка запнуўся, паспрабаваў гукнуць жонку, маўляў, папытайце ў яе, яна грошы брала, але жонка, як скумекаўшы нешта, лупянула:

— Не верце вы яму! Ніякай бульбы мы не прадавалі. Нам самім хоць бы хапіла, нешта не ўрадзіла сёлета. Гэта ж Даўнар зайшоў неяк і папрасіў, каб сказалі, калі што, што мы яму прадалі бульбу. Так, наказваў, дык нікому не кажыце, а як хто папытае, дык тады скажаце, што прадалі.

Справу на Даўнара перадалі ў суд.

Валерыя Віктараўна, пачуўшы гэтую навіну, спытала ў Кіма:

— Дык у цябе, аказваецца, невыпадкова тады падазрэнне ўзнікла, помніш?

— Якое падазрэнне?

— Забыўся хіба? Што Даўнару Міхаіл Іванавіч везла крадзеную бульбу.

— А-а... Як да Селівончыка бегаў? Ну, падумаў быў, і бачыш — праўда, хоць прывозіла бульбу не Міхаліна.

— А ты казаў, што Міхаліна.

— Я казаў — можа, Міхаліна, я ж у цемнаце не пазнаў.

— А ўсё ж нехта напісаў у народны кантроль. Пабачыў і напісаў,— сказала яна і дадала: — Не змаўчаў. Хоць ананімна, але усё ж сказаў праўду.

Ён улавіў у яе голасе намёк на нешта і пакрыўдзіўся. Адказаў капрызліва, як дзіця:

— Гэта не я, Валерыя Віктараўна! Чэснае слова, не я!

Яна нічога не сказала, адно — пасміхнулася.

## МАЙ 1978 ГОДА

— Сядайце, Валерыя Віктараўна,— прапанаваў Іван Фёдаравіч.

У кабінеце акрамя яго сядзеў і завуч Карней Васільевіч.

Яна села. Яна здагадвалася, чаго яе паклікаў Іван Фёдаравіч, але зрабіла выгляд, што не ведае. Ён, відочна, дзеля прыліку пакорпаўшыся хвіліну-другую ў паперах, падняў галаву.

— Дык вось, таварышы дарагія,— пачаў Іван Фёдаравіч.— Навучальны год падыходзіць да канца. Неўзабаве атэстацыя, а там і экзамены. Час, як гавораць, адказны і для вучняў, нашых выхаванцаў, і для нас, іхніх выхавацеляў. Вось давайце яшчэ разок параімся, каб ні для кога з нас не было пасля нечаканасцей і, дададзім, непрыемнасцей.

Ён зноў пакорпаўся ў паперах, бавячы час, потым рашуча згарнуў папку, што ляжала перад ім на стале, і прадоўжыў:

— Уласна, пытанне адно. Пра нашых сёлетніх медалістаў. Як вы ведаеце, у гэтым навучальным годзе ў нас, як ніколі раней, ажно трое нашых выпускнікоў ідуць па медалі...

— Трое? — перапытаў Карней Васільевіч.

Іван Фёдаравіч злёгку нахмурыў лоб, але сказаў, як і раней, спакойна:

— Так, трое. Для ўсіх нас гэта не навіна. Усе мы іх даўно ведаем і добра. Гэта Толя Лукашэвіч з Рудні і Валя Забаронька і Юля Курловіч з Чырвонага Бору. Я мяркую, што гэтыя кандыдатуры ні ў кога з нас пярэчанняў не выклікаюць. Ды што я кажу — пярэчанняў! Спадзяюся, што тут і сумненняў быць не можа. Хіба не так?

Валерыя Віктараўна разумела, што яе Іван Фёдаравіч паклікаў толькі таму, што сярод траіх ёсць яе Юлька. Калі б не гэтая акалічнасць, гаворкі гэтай наогул бы не было. Такая гаворка адбылася б на педсавеце, без гэтага папярэдняга абгаварэння. Ведала яна і другую прычыну. Амаль штогод, калі надыходзіла вясна і трэба было канчаткова ставіць пытанне аб медалістах, пытанне гэтае часцей за ўсё ўпіралася ў мову — рускую і беларускую, бо часцей за ўсё медалісты, як і немедалісты, кульгалі менавіта тут. І штогод Іван Фёдаравіч пачынаў абыходжваць яе, Валерыю Віктараўну, моваведа,— каб яна трошачкі была дабрэйшай, больш паблажлівай да тых, каторыя «ідуць на медаль». І штогод натыкаўся на яе рашучае «не». І цяпер ён чакаў не так таго, што скажа Карней Васільевіч, як таго, што скажа яна. І яна сказала:

— Трошачкі не так, Іван Фёдаравіч. Правільна, Толя Лукашэвіч не выклікае ніякіх пярэчанняў. Хлопец варты медаля. Пра сваю Юлю, самі разумееце, гаварыць не мне. А вось што датычыцца Валі Забаронькі, дык тут я з вамі рашуча не згодна.

Іван Фёдаравіч пакруціў галавой, падміргнуў Карнею Васільевічу — маўляў, а што я казаў, перапытаў, быццам удакладняючы:

— Так ужо і рашуча? А калі падумаеце, Валерыя Віктараўна?

Яна развяла рукамі, уздыхнула:

— Не першы раз мы гаворым пра гэта, Іван Фёдаравіч. Таму мо не будзем марна траціць час?

У яго пальцах аказалася ручка. Якая па ліку — Валерыя Віктараўна ўжо не магла сказаць. Мінула шмат гадоў, і шмат было ручак. Напачатку — драўляная, жоўценькая, на змену ёй прыйшла металічная, з двума наканечнікамі, у кожным з якіх было па пёрку, потым пластмасавая аўтаматычная з гумкай для набору чарніла, пасля амаль

такая ж, толькі ўжо з вінтавой помпачкай, потым — кітайская з залатым ці то плацінавым пяром, цяпер жа — звычайная, шарыкавая, за трыццаць пяць капеек, але ўсе яны гэтак жа хуценька пакручваліся ў пальцах сюды-туды, калі Іван Фёдаравіч пачынаў злавацца ці, прынамсі, хвалявацца.

— Валерыя Віктараўна, я ведаю, што мы гаворым пра гэта не першы раз. Аднак сёлета сітуацыя не падобная на сітуацыі мінулых гадоў. Сёлета сярод прэтэндэнтаў і ваша дачка. А гэта, пагадзіцеся, мяняе справу.

— Чаму ж? Калі педсавет палічыць, што Юля не цягне на медаль, я не буду ў прэтэнзіі. Паверце, што...

Ён падняў руку ўгору, перапыніў яе:

— Давайце не будзем, Валерыя Віктараўна, кідацца словамі. Справа не ў вашых прэтэнзіях. Справа ў лёсе нашых вучняў, нашых выхаванцаў.

Яна таксама пачынала нервавацца:

— Менавіта таму я і кажу, што наконт Валі Забаронькі трэба падумаць. Па мове і літаратуры вышэй чацвёркі яна ніяк не цягне. Ніяк, Іван Фёдаравіч! Чацвёрка — і тая з нацяжкай.

Ручка зноў закруцілася ў руках Івана Фёдаравіча — то ў адзін бок, то ў другі. І пакуль яна круцілася, падаў голас Карней Васільевіч:

— Ну, але ж вы, Валерыя Віктараўна, не будзеце адмаўляць, што ўвогуле яна дзяўчынка старанная, ініцыятыўная, выхаваная і па ўсіх іншых паказчыках, па ўсіх іншых прадметах яна варта таго, каб быць сярод лепшых?

— Вядома, варта, Карней Васільевіч! Дзяўчынка вельмі і вельмі харошая. Аднак жа гаворка ідзе пра нешта іншае!

Іван Фёдаравіч уторкнуў ручку ў стол:

— Валерыя Віктараўна, скажыце, калі ласка, ну чаму вы такая?.. Не магу знайсці слова!.. Чаму вы вымагаеце, каб я абавязкова сказаў пра тое, пра што гаварыць не варта, што і без таго зразумела?

Яна ўскінула на яго вочы:

— Што, чаго я вымагаю, Іван Фёдаравіч? Што і без чаго зразумела?

— Ах, Валерыя Віктараўна, Валерыя Віктараўна! Калісьці гэта было вам да твару... Ну, былі маладзенькай, нявопытнай, усё ўспрымалася ў ружовым святле... Усё гэта можна было зразумець. Ну, а цяпер? У вас ужо дачка выпускніца. Вы самі каторы год завучам-арганізатарам. Час зразумець урэшце, што жыццё ёсць жыццё, што ўсе мы жывём не ў пустэчы, а сярод людзей... Ну, што, вы хочаце, каб я сказаў, што Валя Заваронька — дачка старшыні сельсавета, а не абы-

каго і што мы абавязаны паставіцца да яе з асаблівай увагаю, як, дарэчы, і да вашай дачкі? Вы хочаце, каб я гэта сказаў?

Яна паднялася з-за стала, ступіла за крэсла. Узяўшыся за яго спінку і прысоўваючы яго да стала, сказала:

— Я думала, што вы гэтага не скажаце. А калі так, дык я буду рашуча супраць. Рашуча, Іван Фёдаравіч! Вы мяне ведаеце!

Ён усміхнуўся і сказаў чамусьці амаль зычліва:

— Ведаю. Аднак ведаю і другое. Побач з Забаронькай стаіць прозвішча Курловіч.

— Гэта нічога не мяняе. Я не ўводзіла ёй у вушы, што яна медалістка.

Ён уздыхнуў і зноў закруціў у пальцах ручку:

— Добра. Але скажыце, чаго вы даможацеся?

— Не разумею.

— Гм... Вы не разумееце... Можа здарыцца так, што медаля не атрымае і ваша Юля. Вы не думалі пра такі варыянт?

Яна ўсміхнулася амаль гарэзліва:

— Што вы кажаце?! Ну, Іван Фёдаравіч, у такім разе некаму павінна быць сорамна і брыдка!

Ён адкінуў ручку прэч, узвысіў голас:

— А вам не сорамна? Прынцыповасць — гэта добра, але ж павінны быць і нейкія межы. З вамі па-чалавечы, па-сяброўску, каб як лепш... Што мне ад вашай, даруйце, прынцыповасці? А вось калі мы пасварымся з Забаронькам, школе гэта будзе каштаваць дорага. Але — што вам да школы? Вам даражэй ваша наіўная, неразумная прынцыповасць!

Падняў руку, бы школьнік, просячы слова, Карней Васільевіч:

— Не трэба гарачыцца. Трэба, Іван Фёдаравіч, паважаць і прынцыповасць Валерыі Віктараўны, але, Валерыя Віктараўна, трэба прыслухацца і да таго, што кажа Іван Фёдаравіч. Мы, пагадзіцеся, жывём сярод людзей. І часта ад гэтых самых людзей залежым. Пра гэта ўсё ж трэба памятаць. І, памятаючы, шукаць рашэнні, якія б былі прымальныя для ўсіх.

Валерыя Віктараўна любіла і паважала Карнея Васільевіча. Найперш за тое, што ён умеў стрымлівацца, умеў выслухаць іншага, выслухаць і прыслухацца, умеў нейкім чынам суцішыць спрэчкі, што ўзгараліся тут, у кабінеце дырэктара, і ў настаўніцкай, прымірыць нават самых непрымірымых антаганістаў. Яна нават часам думала, што калі б у іхняй школе не было такога чалавека, дык яго трэба было б выпісаць, заказаць — без яго ў гэтых сценах не было б міру.

— Карней Васільевіч, мо вы і падкажаце гэтае рашэнне? — не то сказала, не то запытала яна.— Як можна за месяц дзесяцігадовую чацвёрку перарабіць на пяцёрку?

— А вы пытанне стаўце трошачкі не так, Валерыя Віктараўна, — ласкава ўсміхнуўся Карней Васільевіч.— Як Забаронька вучыцца па астатніх прадметах? На «выдатна». Куды яна збіраецца паступаць? На матфак. Ну, і скажыце, у якой ступені спатрэбіцца ёй там, на матфаку і ў будучым літаратура, мова? Маўчыце? Дык, можа, падумаўшы, і варта пайсці на сякі-такі кампраміс? Га, Валерыя Віктараўна?

Яна, усё гэтак жа трымаючыся рукамі за спінку крэсла, адказала:

— Можна і пайсці, бадай. Толькі ці будзем мы пасля гэтага паважаць адно аднаго?

Карней Васільевіч зірнуў на яе стражэй:

— Ну навошта ж так? Бачыце, Валерыя Віктараўна, калі мы ведаем, як, навошта чалавек пайшоў на невялічкі кампраміс са сваім сумленнем, чаму ж мы перастанем яго паважаць? Мы будзем тады фарысеямі!

— Мы, дарагі Карней Васільевіч, фарысеі ўжо таму, што гаворым пра ўсё гэта!

— Такая ўжо наша работа, Валерыя Віктараўна!

— Наша работа, Карней Васільевіч, якраз і не церпіць фарысейства.

З гэтымі словамі яна пайшла з кабінета дырэктара. Разумела, вядома, што апошняй кропкі на гэтым пытанні не пастаўлена. Іван Фёдаравіч зробіць усё, каб настаяць на сваім. Адзін раз — тым годам «ішла на медаль» дачка лясніча Жданені — яму гэта ўдалося. Ён тады «падаслаў» да яе Марыю Міхайлаўну. Марыя Міхайлаўна не стала яе ўгаворваць вывесці Верачцы Жданені пяцёрку і заплюшчыць вочы тады, калі яна будзе перапісваць на экзамене сачыненне. Яна проста папрасіла Валерыю Віктараўну зрабіць гэта. Адкрыта, па-бабску, як сяброўку. Прыйшла і ледзь не са слязьмі на вачах папрасіла: «Лерачка, ніколі не прасіла, а цяпер прашу — зрабі. Дзеля нашай дружбы. Калі ты мяне хоць трошачкі любіш і паважаеш — зрабі. Хай мне будзе сорамна, не табе...» І яна зрабіла. І пяцёркі за год вывела, і «не бачыла», як Верачка Жданеня перапісала сачыненне. Нават праверыла папярэдне і яе ж ручкай паставіла дзве коскі і выправіла апіску... Зноў на такое Марыя Міхайлаўна, ведала, не пойдзе. Значыць, Іван Фёдаравіч будзе шукаць нейкіх іншых шляхоў, калі, вядома, упрэцца з Забаронькай. Якія гэта будуць шляхі? Пажывём — пабачым, сказала Валерыя Віктараўна сама сабе.

Аказалася, што жыць доўга не трэба было. Сёе-тое высветлілася вечарам таго ж дня.

Яна адразу адчула, што Кім прыйшоў дадому не ў настроі. Але спачатку не выдаваў сябе. І яе абняў, як прыйшоў, і дзяцей пабуськаў — яны заўсёды выбягалі насустрач, як толькі чулі, што ён ідзе. Нават яшчэ ці не пажартаваў. Ага, пажартаваў. Наконт вячэры. Сказаў, што ці не завітаў і ў іхнюю хату прагрэс, бо з кухні пахне нечым надта смачным. Яна, вядома, прыняла гэты прагрэс на свой рахунак — кінуў каменьчык у яе агарод, што, маўляў, за васемнаццаць гадоў яе кухарскае ўмельства не надта прагрэсіравала. Але яна не звярнула ўвагі. Такой бяды. Тым больш што адчувала, ведала — папрок слушны, яна сапраўды кухар неважнецкі. А пра тое загаварыў з ёю пасля вячэры, калі дзеці пайшлі наверх, а яны засталіся на кухні.

Яна пачала мыць посуд, а ён, седзячы на табурэтцы, прываліўшыся спіною да халадзільніка, спытаў быццам так сабе:

— Што ў цябе з Забаронькавай дачкой?

Яна здзівілася: няўжо так скора? Здзівілася і па інерцыі паўтарыла ўслед за ім:

— А што ў мяне з Забаронькавай дачкой?

Ён жа ўспыхнуў адразу:

— Ну чаго ты прыдурваешся, Лера? Што ў цябе там здарылася? Чаго гэта мяне на вуліцы людзі пераймаюць?

Яна выпрасталася над ракавінай, павярнулася да яго:

— Хто цябе пераняў? Іван Фёдаравіч?

— Каб толькі Іван Фёдаравіч, я табе і не гаварыў бы. Наслухаўся пра вашы спрэчкі — во!

— Дык хто ж?

— Хто, хто... Спачатку Іван Фёдаравіч. Я з канторы выйшаў, а ён якраз з магазіна. Убачыў — махнуў рукой: Вікенцьевіч, пачакай! Падышоў, паздароўкаўся, узяў пад руку, і павёў па вуліцы, і пачаў: паўплывай на сваю Валерыю Віктараўну, скажы, хай не лезе на ражон, навошта ёй гэта і навошта гэта табе, мне, значыцца. Забаронька чалавек добры, з ім жыць можна, ці мала што спатрэбіцца, не трэба такімі людзьмі пагарджаць... Адным словам, каб я ўгаварыў цябе не пярэчыць і не перашкаджаць яго дачушцы атрымаць медаль.

— А ты што?

— Быццам ты не ведаеш!

— А ўсё-такі?

— Сказаў яму, што каб Валерыя Віктараўна не пазычыла вам, Іван Фёдаравіч, грошай, дык я мог бы паўздзейнічаць. А ў школьных справах я ёй не дарадчык.

— Правільна сказаў! І ён адчапіўся?

— Адчапіцца-то адчапіўся, але буркнуў нешта такое: маўляў, шкада, што і вы, Кім Вікенцьевіч, ці сяго-таго не разумееце, ці, услед за жонкай, прыкідваецеся, што не разумееце.

Яна трасянула галавой, закідваючы назад, з лоба, валасы:

— Ён і мне гэта гаварыў... Ну, а яшчэ хто пераняў?

— Сама Забароньчыха! То заўсёды ветлівая такая, усмешка — да вушэй, а то злосная і надзьмутая, як сава. Я ўжо ведаў, чаго яна раптам так на мяне наляцела, дык стрымаўся, не нагаварыў абы-чаго.

— І што яна табе гаварыла? Хто і што паспеў ёй перадаць?

Кім пацiснуў плячамі:

— Ну адкуль жа я ведаю, хто ёй перадаў і што? Я не ведаў, як уцячы ад яе. Скажы сваёй бязгрэшнай, крычала, што калі наша Валя застанецца з яе ласкі без медаля, то і ваша Юлька не будзе яго бачыць... Кроў з носа, а я даб'юся, каб і ваша выдатніца ў лужыну села...

— І ўсяго толькі?

— Табе мала? Што б ты яшчэ хацела?

Валерыя Віктараўна зноў нагнулася над ракавінай, Кіму сказала:

— Я ўжо чула гэта, Кім.

Ён нейкі час маўчаў, гледзячы на яе. Ён адчуваў, што праўда па яе баку, што Забароньчыха крычала на вуліцы дарма. І ад таго настрою, з якім ішоў дадому пасля той недарэчнай сустрэчы з Забароньчыхай, цяпер, пасля вячэры, мала што засталося. Пагляд яго пацяплеў ад сузірання тоненькай, як і ў маладосці, жончынай постаці, востранькіх яе локцяў, ямачкі на шыі, якая выглядвала з-пад валасоў. І ўсё ж сёе-тое ад непрыемнай сустрэчы з Забароньчыхай на душы заставалася. І таму сказаў да жонкі памяркоўна, нават лагодна:

— Я цябе разумею, Лера, і ўсё ж ты б неяк інакш сябе паводзіла, ці што... Іншыя ж жывуць нейк мірна. І самі не лезуць на ражон, і другіх не штурхаюць. Можа, ты і праўда занадта прынцыповая?

Яна, абтросшы рукі і выціраючы іх ручніком, сказала:

— А як можна быць трошачкі прынцыповым, а трошачкі непрынцыповым?

Ён крутнуў галавой, махнуў на яе рукой:

— Не лаві мяне на слове! Я пра тое, пра што ўжо казаў табе. Трэба прымаць людзей такімі, якія яны ёсць. Табе ж з імі жыць і працаваць, а не з другімі.

— Прымаць — так! А ці падпарадкоўвацца? Ці слухацца, калі яны цябе штурхаюць на падлог? На злачынства?

— Так ужо і на злачынства?

Ён зноў закруціў галавой, выставіў уперад, да яе, руку:

— Не, Лера, не! Нашто ўжо адразу — злачынства? Я кажу пра тое, што трэба неяк памяркоўвацца з людзьмі. Можа, трэба навучыцца зразаць вострыя вуглы, абыходзіць іх? Мы ўсе тут звязаны адзін з адным. У цябе нешта здарылася, а дзе адгукнулася? Ужо ўцягнуты і я. А заўтра будзе ўцягнута і Юлька... А можа, варта было б ці прамаўчаць, ці хоць, прынамсі, не так рашуча, бескампрамісна пярэчыць? Мо тады б мяне не пераймалі.

— Няўжо ты спалохаўся, Кімачка?

— Ну, вось, ты зноў за сваё — спалохаўся! Як ты не разумееш, што я зусім пра іншае? Пра ўмельства ладзіць з людзьмі!

Яна падышла да яго, узяла ягоную галаву ў свае далоні, прыхінула да сваіх грудзей, сказала:

— Ты ў мяне такі самы. На такой аснове ты таксама не ўмееш ладзіць з людзьмі, Кімачка!

Ён адняў сваімі рукамі яе рукі, адхінуўшыся ад яе:

— От і кепска, што не ўмею. Бязвусага смаркача прысылаюць галоўным інжынерам, а мяне спіхваюць інжынерам па тэхніцы бяспекі. Усім на смех!

— Не трэба, Кім, пра гэта. Ты ж ведаеш, што ў гэтым тваёй віны няма. Гэта бяда твая.

— Якая бяда, Лера? Што ты зноў?

— Бяда ў тым, што ты мяккі, занадта памяркоўны, добры па натуры чалавек, што няма ў цябе настырнасці, зацятай упартасці, нахабства. Бяда ў тым, што на пасадзе галоўнага інжынера чалавек павінен валодаць гэткімі якасцямі, інакш з яго будзе мала карысці... І думаць табе пра паніжэнне не варта. Ты ў мяне, дзякаваць богу, ведаеш, што не месца робіць гонар чалавеку...

— Ты ў мяне мудрая, Лерачка. Аж зайздрасць усіх бярэ, якая ты ў мяне мудрая. Саламон у спадніцы...

— Табе некалі падабаўся гэты Саламон,— яна зноў прыхінула яго галаву да сваіх грудзей.

Ён сказаў глуха, дзесьці спадыспаду:

— Ён і цяпер падабаецца.

Яна адштурхнула яго ад сябе, прыгнулася над ім, прыткнулася носам да яго носа — вочы ў вочы, сказала:

— І дзякуй табе, родны мой!

Вярнуліся яны да гаворкі раніцаю, калі толькі падымаліся самі і не будзілі яшчэ дзяцей. Падняўшыся, яна звычайна спускалася ўніз, на кухню, а ён ішоў падымаць Юрку і прымушаць яго рабіць зарадку.

А сёння ён, пагасіўшы кнопку будзільніка і седзячы на краі ложка, памятаючы, пэўна, учарашнюю гаворку, сказаў:

— Усё ж шкада будзе, калі Юлька застанецца без медаля.

— Зноў успомніў?

— Падумалася раптам.

— Гэта мы яшчэ паглядзім, Кімачка! А калі што, дык я табе гарантую: з яе ведамі па мове і літаратуры Юлька заўсёды стане студэнткай філфака і без медаля.

— Я ведаю, Лера. Будзе ў нас студэнтка. Але, як пісаў Твардоўскі, «все же, все же, все же...».

— Прэч «але», Кімачка! Мы мірныя і чэсныя людзі!.. Будзі дзяцей... Юрку свайго...

Юрку ішоў сёмы год, хлопчык быў рослы і крэпкі (паспрабуюць восенню пусціць у школу), але, пэўна, як усе меншанькія, пястун. Раніцай падняць — праблема, а прымусіць памахаць рукамі і колькі разоў прысесці — і таго горш. У Леры не хапала на гэта цярпення, а яго, Кіма, слухаўся. Пачаў слухацца, як аднойчы, паспрабаваўшы ўсе педагагічныя і непедагагічныя сродкі, пырскануў на яго, соннага, халоднай вадзіцай. Цяпер досыць сказаць, папомніць пра ваду, як адразу ж вылазіць з-пад коўдры, хоць пасля ўсё адно і ложак засцілае, і апранаецца, і мыецца, і есць марудна, быццам некаму на злосць.

Зарадку з сынам яны робяць пад музыку. Пад музыку самаробную. Бацька спявае, а сын рукамі махае. Спявае абы-што. Які матыў уб'ецца ў галаву яшчэ ў пасцелі, такі і выводзіць, «вытылінгвае на ензыку», як пан Быкоўскі казаў. Сёння пачуў ад Леры пра мірных людзей, і прыйшла на памяць песня пра Кахоўку, пра родную вінтоўку і пра паравоз-браняпоезд, што стаіць на запасных пуцях. Усіх куплетаў не памятае, але — такой бяды, досыць і аднаго, які можна паўтараць бясконца, як на пласцінцы, калі яе заядае. Галоўнае, што і самому чамусьці весялей, і Юрку таксама. Глядзіш, за нейкіх пяць — дзесяць хвілін і ўгрэўся пястун, можна весці мыцца.

Юрка першы выходзіць з дому. У сад яму трэба а палове дзевятай, сад блізка, пяць хвілін ходу, але ён выходзіць загадзя, каб хаця не спазніцца. Любіць у сад хадзіць. Ён там большы амаль за ўсіх і амаль над усімі адчувае сябе камандзірам. Правай рукой загадчыцы. Сам сябе так называе. Пасля таго, вядома, як яна, Нэла Сямёнаўна, гэтак яго назвала — пахваліць хацела. Ідзе няспешна, як сталы. Ён, Кім, знарок колькі разоў з акна глядзеў, як яго Юрка ў сад ідзе — ніколі, лайдак, не падбяжыць, як іншыя дзеці, быццам напраўду правая рука загадчыцы.

Праз дзесяць хвілін пасля Юркі выбіраецца з дому Юлька. Дзеўка ўжо. Дай веры — васемнаццаты год! Калі, здаецца, на руках гушкаў, а цяпер во — пагушкай! Ужо раніцай бацьку і маме буську даць — як саромеецца. Ды гэта ён так, між іншым. Юлька дзеўка — што трэба. За дзесяць школьных гадоў яны з Лерай не мелі ніякіх клопатаў з ёю. І ў вучобе, і па паводзінах — іншым прыклад. З восьмага класа рэдактар школьнай насценнай газеты. І ў камітэце камсамола... І прыгожая, быццам і не іхняга роду-заводу, усміхаецца Кім, гледзячы на яе, на тое, як яна перад люстэркам то адным бачком, то другім. На маці, на Леру, вядома, падобна, але і на яго трошкі. А ўвогуле — дык невядома, на каго, быццам і праўда не іхняга роду-заводу, паўтарае свае ж упадабаныя словы. Крутнулася апошні раз, чмокнула маці, бацьку ў шчаку і дзвярамі лясь — ажно рэха па хаце. Колькі ні наказвае не ляпаць так дзвярамі — не даходзіць. Часам нават думае: калі перастане? Няўжо толькі тады, як сваіх дзяцей займее і пакладзе іх спаць?

Праз пяць хвілін выходзяць і яны, Лера і Кім. Яна цераз вуліцу да школы, якая відаць на пагорку, у абсадзе дрэў,— новая школа, цагляная, вялікая, хоць і аднапавярховая, пабудаваная там жа, дзе некалі стаялі тры невялічкія драўляныя будыніны, а ён, Кім, зварочвае ад дому направа і ідзе па вуліцы ўніз, да рэчкі, а там зноў бярэцца на пагорак, дзе будуецца новы машынны двор, майстэрня, запраўка, гатар. Перад тым як разысціся, ён нагінаецца і цалуе яе. Лера спачатку была пратэставала. Казала: людзі абгавораць. Маўляў, ці не сорамна, сталыя людзі, а ўсё як маладзёнкі — на вуліцы, перад тым як разысціся, цалуюцца. А ён, Кім, прысароміў яе. Сказаў, што яму дзіўна чуць гэта ад яе, ад сваёй жонкі-настаўніцы, якая заўсёды была вышэй вулічных бабскіх абгавораў. Ну, калі так, дык яна ўжо не чакала, пакуль ён нагнецца ды пацалуе яе,— сама на дыбачкі прыпадымецца і яго чмокне.

Ідзе Кім вясноваю вуліцаю — вунь ужо як парэчкі ды смуроднік ля платоў зеленеюць! — вытылінгвае сабе пад нос тую ж «Кахоўку» (цяпер яна ўжо, лічы, на ўвесь дзень у галаву ўбілася, калі толькі ўсё добра будзе), і на душы ў яго светла і бясхмарна, як у небе маёвым. Анягож, як той казаў! Яму сорак чатыры гады, ён здаровы і дужы, ёсць у яго разумная і прыгожая жонка, такая ж разумная і прыгожая дачка — амаль студэнтка, расце гультаяваты, але таксама не дурны, самастойны мужчына, сын, ёсць у яго акрамя гэтага і яшчэ шматшмат чаго, дык чаму, скажыце, не будзе ў яго добрага настрою? «И жизнь хороша, и жить хорошо!» Не дурныя людзі, гэтыя паэты. Недарэмна і Лера ўсё каля іх ды каля іх. З кім павядзешся, ад таго і

набярэшся. Правільна людзі кажуць. Абы толькі... «Толькі б ціха на свеце было, толькі б ціха на свеце...» Таксама ж паэт сказаў.

І ўсё ляцела і ляцела кудысьці гарачая куля, і ўсё стаяў і стаяў браняпоезд на запасным пуці...

## ЛІПЕНЬ 1981 ГОДА

Яны збіраліся ўсёй сям'ёй на бераг Нарачы, у дом адпачынку...

Асабліва радавалася Валерыя Віктараўна. І найперш таму, што паедуць не абы-куды, а на славутую Нарач. Столькі чытала пра гэтае беларускае мора, столькі разоў расказвала пра яго вучням, а сама ні разу не была на ягоных берагах. Дзеці быццам аберагалі, ашчаджалі яе гонар, так ні разу і не папытаўшы, ці была яна сама там. Ёй чамусьці было б сорамна прызнацца, што — не была. З малых гадоў занатоўвала ў сэрцы мясціны на Беларусі, дзе з гадамі збіралася абавязкова пабываць. Назбіралася такіх мясцін нямала: Белавежская пушча, Свіцязь і Навагрудак, купалаўскія Вязынка і Акопы, коласаўскія Мікалаеўшчына і Альбуць, вёска Нізок на Уздзеншчыне, Цімкавічы на Капыльшчыпе, Полацк, Брэсцкая крэпасць, Хатынь... Сярод гэтых мясцін была, вядома, і Нарач. Яна лічыла, што кожнаму беларусу трэба пабываць у гэтых мясцінах. Грэшна не пабываць. Сорамна не пабываць. Гэта непавага да самога сябе, да свайго народа і да роднай зямлі. На Нарачы яна ўсё яшчэ не была. І калі ёй упершыню за дваццаць гадоў ледзь не сілком уручылі сямейную пуцёўку ў дом адпачынку, яна абрадавалася найперш таму, што той дом адпачынку на Нарачы.

Яны паедуць туды ўсе, учацвярох. Раз яна так доўга чакала стрэчы з Нараччу, хай гэтая стрэча будзе асаблівая — стрэчаю для ўсіх іх, у тым ліку і для Юлькі, хоць яна ўжо ж была там: ездзіла з аднакурснікамі ці то на экскурсію, ці то на двухдзённы адпачынак на турбазу. Такой бяды! Тады яна бачыла Нарач у кампаніі сяброўак і сяброў, а цяпер пабачыць разам з імі і, пэўна ж, пабачыць крышачку не так, як мінулы раз. Тут ёй будуць памагаць іхнія вочы — татавы, маміны, брацікавы.

Увогуле дык яна не рвалася ехаць куды-небудзь у адпачынак. Яе неяк не закранула ўсеагульная мода — можа, нават не мода, а сверб, пошасць, якая захліствае ўсіх, асабліва апошнім часам — з'ездзіць улетку на поўдзень, да мора. Вядома, калі каму трэба, калі каму тое самае мора і крымскае ці чарнаморскае паветра папravіць здароўе — што ж, мо і трэба з'ездзіць, хоць яна пры гэтым заўсёды са шчымлівым смуткам згадвала хворага юнага Максіма, якога не падняла на

ногі далёкая сіняя бухта, а ўсё роўна як даканала яго. Зусім няшмат сярод летняга паўднёвага патоку хворых — адзінкі, лічы. І афармленымі адпачыванцамі, і дзікунамі едуць пераважна маладыя і здаровыя, а калі пажылыя і старыя, дык таксама, дзякаваць богу ці каму іншаму, здаровыя, крамяныя, нават загарэлыя. А едуць, бо — мода, прэстыж. Ужо і сюды, у вёску, дакацілася гэтая чарговая адзнака надта важнай і ганаровай прэстыжнасці. Яшчэ зусім маладыя таты і мамы ў школьных сачыненнях на тэму «Як ты правёў лета» пісалі аб тым, як пасвілі статак, памагалі калгасу палоць буракі ці сушыць сена, а іхнія дзеці пішуць аб тым, як купаліся ў Чорным моры, як хадзілі з рукзакамі па Каўказе, як збіралі кропелькі бурштыну на Рыжскім узмор'і.

Яе не захліснула гэтая хваля, не закрануў гэты нясцерпны сверб. Яна кожнае лета вадзіла дзяцей туды, дзе, лічыла, ім пабываць куды больш карысна. Пешшу, на веласіпедах, на аўтобусе, на цягніку яна пабывала з дзецьмі амаль ва ўсіх тых мясцінах, якія назапашвала ў сэрцы змалку. У гэтых паездках і паходах яны загартоўвалі не толькі цела. Яны наталялі і душу. І апошняе яна лічыла куды больш важным, чым атупляючае, шашлычнае — з боку на бок — самападсмажванне на чарнаморскім пляжы. З паездак і паходаў яны абавязкова прыносілі ў школу альбом фотаздымкаў і дарожных уражанняў, і гэтыя альбомы ў школьных шафах — як прыступкі росту і сталення вучнёўскіх душ. І яе, разам з вучнёўскімі,— таксама.

Кожную такую паездку, кожны пешаходны ці веласіпедны паход яна памятае да драбніц. Памятае, як захварэла аднойчы ў паходзе Лена Бычкоўская. Яны начавалі ў палатках на беразе лясной рачулкі. Спыніліся заначаваць. І тут высветлілася, што Лена захварэла — падскочыла тэмпература. Яна, настаўніца, на нейкі момант разгубілася. На дварэ ноч, да вёскі — кіламетры тры. Хлопчыкі ж, яе сямікласнікі, не пабаяліся цемнаты, збегалі ў вёску, прывялі фельчарку, а пасля, калі яна паставіла Лене гарчычнікі і пакінула лекі, гэтак жа дружна правялі фельчарку дадому, потым тры дні па-брацку выходжвалі хворую сяброўку.

Яе заўсёды ў паходах здзіўляла, уражвала тое, як сямікласнікі, шасцікласнікі, пазбавіўшыся штохвіліннай апекі дарослых, рабіліся на вачах сталейшымі — разважлівымі, сур'ёзнымі людзьмі. Яны самі, без яе падказкі, рабілі такое, што яна толькі ціха радавалася.

Памятае, ехалі на веласіпедах у Багушэвічавы Кушляны. Халодны, з дажджом вецер лупіў у твар. І хлопчыкі папераменна ўзначальвалі доўжанькі ланцужок веласіпедыстаў, не дазваляючы ні ёй, настаўніцы, ні дзяўчынкам ехаць першымі і прымаць на сябе ўсю сілу

ветру. А з якой дабрынёю, нават з пяшчотаю адносіліся ў паходах большыя, старэйшыя да меншых, малодшых! Яна і па сёння памятае Лёву Кунскага. Ён тады перайшоў у дзевяты. У лесе ім трэба было перайсці нешырокую і неглыбокую рачулку. Парашылі ў ваду не лезці, а перакінуць з берага на бераг сухастоіну. Так і зрабілі. І шчасліва перабраліся на другі бераг, за выключэннем ментуза-пяцікласніка Толіка Гарустовіча. Яму трэба было паслізнуцца і вывіхнуць нагу. І так няўдала, што не мог на яе прыступіць. І Лёва Кунскі добрыя чатыры кіламетры нёс Толіка — ён быў досыць цяжкі, пульхны такі, сапраўдны мянтуз! — на спіне.

Рэдка які паход ці паездка абыходзіліся без прыгод, няхай гэта былі і невялікія прыгоды. У аднаго падарожніка раптам пачыналі прасіць кашы чаравікі, у другога не аказвалася з сабой запасных шкарпэтак, у трэцяга не было лыжкі — згубіў па дарозе ці забыўся на прывале, у чацвёртага на пяце вырастаў мазоль, у пятага ламаўся веласіпед... Прадугледзець усё гэта не было ніякай магчымасці. І калі спачатку яна палохалася, дык пасля навучылася ўспрымаць гэтыя прыкрыя дробязі спакойна: ведала, што яе хлопчыкі і дзяўчынкі з такімі бедамі справяцца.

Аднаго разу давялося перадрыжаць-перакалаціцца страшэнна. Паход быў, па сутнасці, аднадзённы, але з начлегам у палатках. Восенню. У канцы верасня. Увечары яны весела сядзелі на ўзлеску вакол высокага кастра, спявалі песні, чыталі вершы і не думалі ні аб чым благім. І некаму ўзбрыло падсмажыць на вогнішчы на ражончыку сала. Неўзабаве ўжо ўсе, абступіўшы шчыльна вогнішча, стаялі з ражончыкамі. Ёй таксама падалі дубчык і скрылёк сала з лустачкай хлеба. Падсмажанае на полымі сала было надзвычай смачнае. Захапіўшыся, яна не ўгледзела, як сёй-той пачаў падсмажваць і грыбы. Яна спалохалася: якія грыбы? Усе запэўнілі, што падсмажвалі і елі яны апенькі. Але ў яе як закраўся халадок трывогі, так і не праходзіў. Урэшце яна не стрывала і загадала збіраць лагер і спешна ісці дадому. Дзеці ўпарціліся, угаворвалі яе застацца, кляліся, што ім нічога не баліць і не будзе балець, але яна не паддалася, настаяла на сваім. Прыйшлі яны ў Чырвоны Бор недзе апоўначы. І правільна зрабілі, што прыйшлі. Чацвёра хлопчыкаў яшчэ па дарозе пачалі скардзіцца на слабасць і на галавакружэнне. Яна падняла з пасцелі Насцю, расказала, што здарылася. Насця загадала неадкладна везці ўсіх, хто еў грыбы, у бальніцу. Бяды не здарылася, скончылася ўсё добра. Але з той пары яна зразумела, што расслабляцца з дзецьмі няможна.

Яна, вядома, стамлялася ў тых паходах. Адчувала яна сваю віну і перад Кімам, бо ў тыя дні яму даводзілася нялёгка, асабліва пасля

таго, як паявіўся Юрка. Але яна ніколі не шкадавала ні страчанага часу, ні загубленых нервовых клетак. Яна разумела, што паходы давалі дзецям нямала — і ведаў, і эмоцый, і вопыту. Але яшчэ болей, пэўна, яны давалі ёй самой. Акрамя таго, што яна такім неспадзяваным чынам ажыццяўляла сваю дзіцячую і юначую мару — пабываць ва ўсіх слаўных мясцінах краю, яна спазнавала дзяцей. Дні паходаў давалі ёй у гэтым сэнсе куды больш, чым тыдні і нават месяцы будзённай вучобы. Дзеці раскрываліся зусім з іншага боку, нечакана і ўражліва. І часта яна, расчуліўшыся, шаптала малітву свайму педагагічнаму богу, які абраў яе ў свае памочнікі.

Ну, а Кім... Яму, пэўна, не падабалася, што жонка вельмі часта ахвяруе сваім часам дзеля грамадскай работы. Вядома ж, не падабалася. Ці нарадзіўся той мужык, які б радаваўся, што жонка пакідае яго з дзецьмі дома, а сама, ці бачыце, ідзе ў паход з чужымі дзецьмі? Але Кім не паказваў выгляду. Адзінае, што ён дазваляў сабе, гэта паблажлівыя насмешкі з яе, якімі ён, мусіць, і прыхоўваў сваю незадаволенасць. Калі яна вярталася з паходу ці з экскурсіі і лягала спаць у такія дні раней, ён, суцішаючы дзяцей, мог быццам і нязлосна, нават лагодна папікаць яе, кажучы дзецям: ціха, не падымайце гвалту, мама выконвала дзяржаўнае заданне асаблівай важнасці, яна страшэнна стамілася і хоча спаць... І ёй, чуючы гэта, хацелася заплакаць ад крыўды і злосці, бо стамілася яна сапраўды страшэнна, нервы і ўсё цела прасілі спакою і спачыну, і ў горле перасядаў даўкі камяк ад таго, што і ён, яе Кім, не разумее ўсё ж яе да канца, быццам мімаходзь падпускае шпількі. Але яна не давала волі слязам. Наадварот, прымушала сябе ўсміхнуцца з ягоных слоў і заснуць.

Пачуўшы ж пра тое, што яны ўсе разам паедуць на Нарач, Кім таксама не прамінуў падкалоць Валерыю Віктараўну. Звяртаючыся нібы да дзяцей, сказаў:

— Ну, нарэшце дажылі! І мы дачакаліся, што мама павядзе нас у паход! Ура!

Яна дакорліва сказала:

— Кім, навошта ж так? Хоць бы што новае прыдумаў!

Ён як збянтэжыўся:

— А мы нічога, мы рады. Юля, Юрка, мы рады?

— Рады! — закрычаў Юрка.

Зрэшты, і ён, і яна разумелі, што ўсё гэта дробязі, што ён ніколі ўсур'ёз не абураўся тым, што жонка, як маладзён, у якой ні хаты, ні сям'і, гойсае то на колах, то пешшу сюды-туды з дзецьмі, і яна ніколі не ўспрымала яго пасмехі інакш, чым бяскрыўдныя падначкі. Ён ведаў, што яна іначай не можа, што калі б яна так не рабіла, то, зна-

чыць, не была б Валерыяй Віктараўнай, настаўніцай і завучам-арганізатарам, той Валерыяй Віктараўнай, якую і ён упадабаў за тое, што яна была не такой, як усе, што ў ёй сядзіць усярэдзіне нейкі сімпатычны чорцік, які казычыць яе і не дае спакою, і праз гэтага добрага чорціка яна сама глядзіць з усмешкаю жыццю ў вочы і зараджае іншых глядзець на свет весялей, дабрэй, ласкавей. А яна, у сваю чаргу, ведала, што ён кахае яе, і гэта галоўнае, бо калі чалавек кахае, ён ва ўсім, што робіць каханы ім чалавек, бачыць добрае і прыгожае, ну, а калі ён усё ж зрэдзь часу пабурчыць, дык трэба ж зразумець і яго, ён жа мужчына, сутыкаецца з іншымі мужчынамі, а яны, мужчыны, ахвочыя абгаварыць сваіх і чужых жонак не менш, чым жанчыны сваіх і чужых мужыкоў, і таму яму таксама трэба трымаць марку і паказваць, што, нягледзячы на ўсё, ён у сям'і галава, што ён проста церпіць да пары да часу гэтыя жончыны выбрыкі, тым больш, маўляў, што і Карней Васільевіч, і Іван Фёдаравіч асабіста прасілі яго, Кіма, не злавацца на Валерыю Віктараўну, не папракаць яе частымі ўцёкамі з дому, бо ў гэтай справе яна чалавек незаменны, гэта не падлягае сумненню, ён, Кім, разумее гэта, вядома, лепш за іншых, не яму пра гэта гаварыць, і яны, дырэктар з завучам, пачалі гэтую гаворку з ім толькі дзеля таго, каб сказаць ёй, Валерыі Віктараўне, вялікі дзякуй і не менш вялікі дзякуй яму, Кіму, што ён таксама так глыбока разумее іхнія школьныя клопаты і турботы...

Яны збіраліся выправіцца з дому дзесятага ліпеня. Валерыя Віктараўна прапанавала была ехаць на веласіпедах — два веласіпеды ў іх былі, а два можна было б пазычыць у суседзяў. Але рэшта — усе трое — з ходу адмовіліся: яны паедуць, як усе людзі, на аўтобусе, дзе будзе і ў дождж суха, і ў вецер ціха і цёпла. Яна вымушана была пагадзіцца, хоць і сказала, што самая брыдкая, агідная, паскудная, недарэчная, нават варожая прымаўка — жыць, рабіць, думаць, як усе. Кім і Юрка на гэта прамаўчалі, а Юля запярэчыла, падрабляючыся пад той жа тон і інтанацыю, сказала, што, як бы яны ні арыгінальнічалі, усё адно прыдумаць што-небудзь новае не змогуць, бо людзі зараз падарожнічаюць пешкі, на веласіпедах, на аўтамашынах, на байдарках, на конях, на сабаках, на коньках, роліках, седзячы, лежачы, на руках і нават на галаве. Валерыя Віктараўна канчаткова падняла рукі і пагадзілася на аўтобус. Праўда, яна была заікнулася пра самалёт, чула, што на Нарач лятае з Мінска і ў Мінск кукурузнічак, але Юля, якая цяпер ведала больш за астатніх траіх, разам узятых, аўтарытэтна заявіла, што на тым самалёціку лятаюць рэдкія камандзіровачнікі, а яшчэ тыя, хто спяшаецца да хворага, хто імчыцца скласці кампанію добраму другу і напоўніць яго апусцелую кішэню,

хто ляціць на злом галавы выкрыць у здрадзе легкадумна адпушчаную ў дом адпачынку супругу ці наадварот, чуткі аб чым чамусьці заўсёды даходзяць да пакінутага дома супруга раней, чым той (тая) на Нарачы паспела (паспеў) здрадзіць...

Значыць, дзесятага ранічкаю яны першым аўтобусам едуць у Мінск, там хуценька, не затрымліваючыся, на аўтавакзал і недзе к абеду, як абяцае расклад, будуць на Нарачы. Зразумела, што і напярэдадні, дзевятага ліпеня, ва ўсіх чатырох быў ужо дарожны, як кажуць, чамаданны настрой. Зрэшты, не ва ўсіх. Кім Вікенцьевіч яшчэ зранку пайшоў на работу — перад водпускам трэба было падрабіць недаробленае, яшчэ раз прыкінуць на адыход, ці не забыўся на што-небудзь, карацей кажучы, падбіць бабкі. А яны трое былі дома: Валерыя Віктараўна, Юля і Юрка. Жанчыны прасаваліся і пакаваліся, а Юрка... замінаў ім. Урэшце чамадан і сумка былі зладаваны. БліЗіўся час абеду. Каб падышоў, здагадаўся падысці бацька, то было б зусім добра — адным заходам, не трэба было б двойчы падаграваць. Падумала так Валерыя Віктараўна і пачула трэск матацыкла на вуліцы, а пасля гучную гамонку. Вызірнула ў акно. Непадалёк ад іхняга дома, калі глядзець наўскасяк, пад кантору, стаяў матацыкл з каляскай, і некалькі чалавек аб чымсьці ажыўлена гаманілі. Што там здарылася? На матацыкле Грыша Багінскі, заатэхнік, іхні нядаўні выпускнік, калгасны камсорг. Пра нешта расказвае? Пэўна ж, штосьці здарылася...

Валерыя Віктараўна выйшла на вуліцу, падышла да купкі людзей. Грыша, убачыўшы яе, зноў, пэўна, не першы ўжо раз, пачаў расказваць:

— Дык я кажу. Напаткаў Дзюдзю. На веласіпедзе ехаў у магазін. Прыпыніўся, паздароўкаўся. Я кажу, што чуваць. А ён мне адразу: а што чуваць, калі Тамільчык Лёньку свайго сякерай?

— Які Тамільчык, Грыша? — спытала яна.

— Адзін жа Тамільчык у нас у Рудні,— адказаў Багінскі.

Сэрца ў яе абарвалася. Лёню бацька сякерай? Не можа быць!

— Хто табе сказаў, Грыша? Ад каго ты чуў?

— Валерыя Віктараўна, я пяты раз ужо кажу. Хвілін пяць назад напаткаў Дзюдзю, дык ён і сказаў, быццам Тамільчык свайго Лёню сякерай...

— Сына — сякерай?!

— Ай, Віктараўна, не слухайце вы! Мала што Дзюдзя скажа! Набрахаў, пэўна! — супакоіла колішнюю сваю пастаялку Люба Міхалкава, якая ішла з магазіна і таксама прыпынілася паслухаць дзікую навіну.

— Чаму ж ты, Грыша, не распытаў, што там, чаго?

— Не паспеў я. Дзюдзя сеў на веласіпед і паехаў.

— Збрахаў, пэўна.

— А ліха яго ведае! Тамільчык жонку-то біў, гэта точна. От Лёнька, можа, і заступіўся за матку, а тады ён у злосці...

— Біў жонку? — перапытала Валерыя Віктараўна.

— Біў, Віктараўна, біў,— заківала галавой Люба.— І не першы год. Я не ведаю, як яна і церпіць. З-за дзяцей хіба. Помню, бульбу перабіралі на іхнім полі, пад Рудняй, дык яна ўся чыста ў сіняках была...

— За матку, Віктараўна, заступіўся, няйначай, Лёнька...

Слухала яна і не магла супакоіцца. Лёнька Тамільчык — яе радасць і боль. Колькі яна памэнчылася з ім, каб Лёнька стаў сённяшнім Лёнькам. Усе гізунты з настаўнікаў павыцягваў, як Марыя Міхайлаўна кажа. Думалі ўжо, што не дадуць рады, што пойдзе хлопец па дрэннай дарожцы. А яна ўсё-такі здолела яго неяк прыручыць. Першы раз сілком зацягнула, лічы, на заняткі літаратурнага гуртка. У шостым класе ён тады быў. Зацягнула, а пасля і сама не рада была. Некіруемы ён быў, Лёнька Тамільчык. Не ўведаць і не здагадацца, што ён выкіне ў наступную хвіліну. Заняткі ён тады ёй сарваў. Але яна не адступілася — за руку прыводзіла яго ў гурток зноў і зноў. Ён ужо ці не знарок ёй упарціўся, з недзіцячай зацятасцю выцягваючы з яе тыя самыя гізунты. Аднак жа і ў яе збудзілася яшчэ большая зацятасць. У дадатак яе зацятасць падмацоўвалася не злосцю, а цярплівасцю, разуменнем, што на яго трэба ўздзейнічаць дабрынёю, ласкаю. І яна перамагла. У сёмым класе Лёня Тамільчык стаў пераможцам школьнага конкурсу на лепшы верш, прысвечаны Дню Перамогі над фашысцкай Германіяй. Верш быў пра Мікалая Гастэлу. Называўся — «Ён і мяне ўратаваў». Яна і цяпер, праз два з гакам гады, памятае той верш. Стаяць радкі ўваччу:

Мяне на свеце не было,
Калі ішла вайна,
Але страляла і ў мяне
З усіх ствалоў яна.
І той, хто маму ратаваў
На жорсткай той вайне,
І сына ратаваў яе —
Ён ратаваў мяне...

— Грыша, ты не палянуешся пад'ехаць туды?

— Куды, Валерыя Віктараўна?

— У Рудню. Да Тамільчыкаў. Мо і праўда бяда там?

— Магу пад'ехаць, Валерыя Віктараўна. Гэта ж не за свет.

— Тады давай з'ездзім, добра?

— І вы са мною?

— І я з табою. У люльку ж можна? Ці ззаду?

— Валерыя Віктараўна, куды хочаце,— заспяшаўся Грыша Багінскі.— Я даўно хацеў вас пакатаць. Яшчэ ў сёмым класе, як толькі навучыўся на матацыкле ездзіць.

— Вось і пакатаеш...

Яна села ў каляску, і яны паехалі. Люба Міхалкава і ўсе, хто тут быў, бачылі, як матацыкл мінуў ферму і крута ўзяў налева, на руднянскую дарогу, як там Грыша даў газу — з-пад колаў закурыўся хвост пылу...

А праз нейкі час Чырвоны Бор скаланула жахлівая вестка: у аварыі загінула настаўніца Валерыя Віктараўна, а заатэхнік Грыша Багінскі, які вёз яе на матацыкле, не прыходзіць да памяці і таксама ці будзе жыць.

Кім быў у канторы, калі гэтая вестка даляцела і туды. Ён не паверыў. Якая аварыя? Лера дома, збіраецца ў дарогу. Пры чым тут Грыша Багінскі і яго матацыкл? Пэўна, ён вёз некага іншага, а падумалі пра Леру...

Ён выскачыў на ганак і лоб у лоб сутыкнуўся з дачкою. Юля кінулася да яго, закрычала:

— Татачка, ці праўда гэта? Татачка, ці праўда?!

Ён абхапіў дачку за плечы, затармасіў:

— Дзе мама, Юля? Дзе мама? Дома?

Яна ці не магла гаварыць, ці не разумела, што ён у яе пытаецца, трэсла галавой і плакала.

— Мама, кажу, дома? — крыкнуў ён, не помнячы сябе.

Юля здрыганулася, паглядзела на яго, пакруціла галавой:

— Няма. Яна з Грышам паехала. З Багінскім. У Рудню. Мне сказалі. Бачылі, як яна сядала ў каляску...

Кім хапіўся за галаву і асунуўся на ганак. Пасядзеў так хвіліну, другую, а пасля падхапіўся, крутнуўся ў кантору.

— Машыну мне!

Яго ўзяў пад руку Сяргей Ягоравіч, сказаў:

— Табе, Вікенцьевіч, за руль няможна. Сядай у маю, я падвязу.

Яны паехалі туды, на тую руднянскую дарогу, дзе адбылася трагедыя. Там ужо нікога не было. Ні трактара, у які ўрэзаўся Грыша Багінскі на ўсім ляту, ні яго скарэжанага матацыкла. Адно былі відаць плямы крыві.

— Як гэта магло быць? Грыша ж змалку ездзіць на матацыкле!

Сяргей Ягоравіч, ведучы яго да машыны, гаварыў:

— Яны ехалі ў Рудню. Але не па правым баку, а па левым — там дарога лепшая. А злева, з кустоў, выткнуўся на дарогу трактар. Грыша не паспеў...

— Наш трактар?

— Наш.

— Хто быў на трактары? Ладна, не трэба...

Яны селі ў машыну, Сяргей Ягоравіч завёў матор.

— У бальніцу паедзем? — спытаў.

Кім маўчаў. Потым крутнуў галавой, прамовіў:

— Пасля... Не цяпер...

Яе прывезлі ў Чырвоны Бор увечары, ужо ў труне. Кім меркаваў, што яна пераначуе — у труне! — апошнюю ноч дома, суседзі нават вызвалілі месца у зале, на першым паверсе, але яго пераканалі, што лепш будзе паставіць труну ў школе. Маўляў, людзі захочуць развітацца, дык там, у школе, вальней, у хаце нельга будзе павярнуцца — ні зайсці, ні выйсці. Што ж, можа, і праўда. Тым больш што ёй школа была такім жа родным домам. Ён усё яшчэ не ўсведамляў цвяроза, што здарылася, і хадзіў, адказваў на нейкія людскія пытанні бадай што машынальна, як у сне. Зрэшты, людзі не надта і дакучалі яму, зважаючы на ягонае гора. І ён бы, пэўна, няскора адышоў ад здранцвення, калі б не Марыя Міхайлаўна. Яна падышла да труны, села побач з ім, пасядзела колькі хвілін, гледзячы, як і ён, на спакойны, амаль не зменены, калі б не барвовы сіняк на левай скроні, твар Валерыі Віктараўны, а пасля ўзяла яго пад руку, падняла і павяла за сабою. Вывеўшы яго з залы і завёўшы ў пусты суседні клас, яна рашуча страсянула яго за плечы і сказала спакойна, але цвёрда:

— Кім, апамятайся! Лера была мне, як малодшая сястра. Я любіла яе, як сястру. У нас не было тайнаў. Я ведаю, каго страціў ты і каго страцілі мы. Але ты мужчына. У цябе дзеці, Юрка. Усё, што здарылася, жахліва. Але, Кім, Леру не падымеш. А табе, дзецям, нам трэба жыць. Вазьмі сябе ў рукі, чуеш?

Ён бязвольна спытаў:

— Што мне рабіць? Я не магу зразумець. Чаму? Хто вінаваты? Каму гэта трэба было? Мой розум не можа гэтага зразумець! Што мне рабіць, Марыя Міхайлаўна?

— Вазьмі сябе ў рукі. Супакой Юрку. Ён ужо не маленькі, аднак жа — дзіця. Паплач разам з Юлькай. Ёй, дачушцы, асабліва будзе не ставаць маці. Паплач, не саромейся. Людзі зразумеюць,— Марыя Міхайлаўна старалася стрымлівацца і не змагла, нечакана, прываліўшыся да яго, загаласіла па-бабску, па-вясковаму: — Мой жа ты Кімачка,

як ты будзеш без сваёй Валерачкі? А чаго ж гэта нанесла на тую хвіліну таго Дзюдзю дурнога, а чаго ён наплёў раптам, каб хто спытаў, жывы і здаровы яе Лёнік Тамільчык, а яна во ручкі злажыла, а што ж ты нарабіла, мая ж ты Лерачка-Валерачка, гэта ж ні я да цябе, ні ты да мяне больш не забяжыш, не загаворыш, не засмяешся, не скажаш нічога, не раскажаш...

І дзіўна. Яе плач падзейнічаў на яго больш, чым яе словы-ўгаворы — цвярозыя, спакойныя, лагічныя — дагэтуль. Супакойваючы Марыю Міхайлаўну, ёй і сам наўзрыд плакаў разам з ёй і, выплакаўшыся, паспакайнеў.

— Дзякуй вам, Марыя Міхайлаўна,— сказаў ён нарэшце.— Вы паклапаціцеся ўжо, што тут трэба. І сёння, і заўтра. Грошы ў Лерынай сумачцы. І мае, і яе адпускныя... Пайду да дзяцей.

— Ідзі, Кім, ідзі...

Хавалі яе дзесятага — у гэты дзень яна павінна была везці сям'ю на Нарач — пасля абеду. Адразу недзе пасля полудня. Дзянёк быў харошы — цёплы, ціхі, сонечны. Толькі недзе той парою, як ужо пакрылі на могілках труну вечкам, аднекуль наплыла невялічкая хмарка і закапаў рэдзенькі, спакойны дожджык. Хтосьці са старэйшых жанок уздыхнуў-сказаў: «От і добра, што дожджык... Харошая душа была ў настаўніцы...»

Праводзілі яе ўсе чырванаборцы, селішчанцы, руднянцы — ці не ўпершыню чырванаборскія могілкі бачылі столькі народу. І ніколі яшчэ не неслі зараз сюды столькі вянкоў і букетаў кветак. І ніколі яшчэ ні над чыёй магілай не гаварылася столькі прамоў.

Першым гаварыў Іван Фёдаравіч.

— Таварышы, ніколі мне не было так цяжка і так балюча, як учора, калі я пачуў гэтую страшэнную вестку,— пачаў ён,— Мы страцілі нашу дарагую Валерыю Віктараўну. Сапраўдную настаўніцу. Настаўніцу з вялікай літары. Здаецца, што ў ёй было? Невысокая, тоненькая, худзенькая... А якая энергія, якая воля, якая смеласць, які светлы розум жыў у ёй. З ёй было працаваць нялёгка. Мы часта спрачаліся, часам да хрыпаты, часта не мірыліся, часта я крыўдзіў яе незаслужана. А вось цяпер я плачу. Бо ведаю, як мне, як нам усім будзе цяжка без яе...

Іван Фёдаравіч сапраўды заплакаў, і плакаў доўга, і ніхто не перапыняў яго. Ён так і не супакоіўся, махнуў рукой і, саступаючы месца наступнаму прамоўцу, сказаў:

— Адбылася вялікая несправядлівасць, таварышы...

Выступаў інспектар з райана. Пасля — дырэктар суседняй Заазерскай школы. За ім — старшыня калгаса Сяргей Ягоравіч. Потым —

настаўніца Інэса Аркадзьеўна, выкладчыца рускай мовы і літаратуры. А за ёю неспадзявана для ўсіх выпхнулася з натоўпу Вольга Тамільчык — маці Лёні Тамільчыка, папрасіла:

— Можна і мне?

Усе маўчалі, гледзячы на яе. Але яна спакойна вытрымала пагляд людскіх вачэй, ступіла бліжэй да труны.

— Я ведаю, людцы, што вы не хацелі б мяне тут бачыць... Не хацелі б... А я от прыйшла. Бо не магла не прыйсці. Бо праз яе, праз настаўніцу нашу, у мяне сынок ёсць. І будзе... А яе во няма... Не карайце яго, людцы. Яна любіла яго. Бацька родны не любіў, а яна любіла. І ляцела ратаваць яго... Не гневайся ж і ты на яго, любенькая настаўніца! — Волька ўкленчыла ля труны і загаласіла.

І людзі пацягнуліся да хусцінак, і ў людзей адлягло на сэрцы.

— Валерыя Віктараўна вельмі любіла паэзію,— гаварыла вучаніца восьмага класа Зіна Харэцкая,— Хай жа яна апошні раз паслухае вершы свайго любімага паэта. Я прачытаю верш Максіма Багдановіча «Страцім-лебедзь»...

Кім стаяў, абняўшы Юлю і Юрку, і адчуваў, што на яго зноў, як і ўчора, навальваецца няўцямнае, невыказнае здранцвенне і спустошанасць, боль абцугамі сціскаў галаву, невідочны цяжар гнуў да зямлі плечы. Тое, што гаварылі людзі, ён успрымаў і не ўспрымаў. Слых яго з самага пачатку ўлавіў слова «была» і фіксаваў толькі яго: была, была, была... Учора яна проста была з імі, і ўсё тут, а сёння ўжо — толькі была, была і больш нічога... Проста была — толькі была, гэта значыць некалі была, была ўвогуле, была на свеце...

А дзяўчынка ўсё чытала М. Багдановіча:

«Вы ўзляціце хоць на час які,
Выбіваюся з астатніх сіл.
Дайце вы грудзям, гэй, вальней уздыхнуць,
Дайце вы крылам, гэй, шырэй ўзмахнуць!»
Не паслухалі птахі лебедзя.
Пацямнела у яго ў вачах,
Крылы ўрэшце падламаліся,
Галава ў ваду апусцілася.
І пайшоў на дно мора сіняга
Страцім-лебедзь — моцны, горды птах...
Абцугі сціскалі галаву ўсё мацней.

Яго ціхенька падштурхнулі да труны развітацца — перад тым, як накрыць яе векам.

І вось тады якраз з невядома адкуль прыплыўшай хмаркі закапаў дожджык...

## ЖНІВЕНЬ — КАСТРЫЧНІК 1984 ГОДА

Яна паявілася ў Чырвоным Бары за два гады да прыезду Валерыі Віктараўны. Зрэшты, не яна, а яны. Іх было дзве. Старэйшая — ёй было дваццаць два і маладзейшая — гадоў васемнаццаці. Яны скончылі гандлёвы тэхнікум і прыехалі ў Чырвоны Бор працаваць у новым цагляным сельмагу. Старэйшая — загадчыцай, малодшая — прадаўцом. Старэйшую звалі Лізай, а малодшую... Як звалі малодшую, чырванаборцы ўжо забыліся, бо парабіла яна ў іхнім магазіне нядоўга, недзе з паўгода, а пасля нібыта знайшла рэвізія недастачу і вінаватая ў той недастачы была тая, малодшая, прадавец, а не загадчык — праела на цукерках і прагуляла з хлопцамі на гарэлцы. А старэйшая, Ліза, засталася, асела ў Чырвоным Бары назаўсёды. Неўзабаве па прыездзе яе ўзяў Толя Міхнюк за жонку, хоць нібыта і хадзіла пагалоска, што яна ўжо была адзін раз замужам і што мужык вытурыў яе з хаты ці не на трэція суткі, бо ўгледзеў з другім. Але, можа, усё тое было выдумкай. Мо такую брудную плётку пусціла пра Лізу-прадаўшчыцу сястра Адася Чарнякевіча Аля. Адась Чарнякевіч нібы таксама падбіваў кліны пад крамніцу Лізу — дзеўка яна была пaглядная і, як хутка расшалопалі ў Чырвоным Бары, спрытная, выкрутлівая, хітрая і, да ўсяго, рабацяшчая. Адасю яна нібыта адмовіла, пагарнулася да Міхнюка. Вось Аля і пусціла па сяле тую злую чутку пра яе замуства і скрутлівасць. Чырванаборцы і адразу не надта верылі той чутцы. Папершае, не падобна было. Ліза паводзіла сябе строга, з першых жа дзён адбіла ахвоту нешматлікіх у Чырвоным Бары аматараў пажартаваць — ушчыпнуць ці прыціснуць. Па-другое, хіба ж быў бы такі дурны Міхнюк, каб, ведаючы такое, закручваць з ёю ўсур'ёз? Апошнюю кропку паставіў на гэтым сакратар сельсавета Антон Бабіцкі. Ён пакляўся, што пашпарт у Лізы «дзеўсцвенна чысты», бо, каб было інакш, ён бы іх не распісаў, Лізу і Толю Міхнюка.

Толя быў у Чырвоным Бары наездны. З бежанцаў ці пагарэльцаў. У гады вайны матка яго прыблукала сюды з трыма дзецьмі — дзвюма дзяўчынкамі і хлопцам. Аціралася колькі дзён у адных людзей у хаце, колькі дзён — у другіх, пакуль не нараілі ёй займаць пустую стадолу Хаіма Шпільмана. Шпільмана з яго Рохаю і дачушкай Ірай расстралялі яшчэ ў сорак першым, а хата стаяла. Міхнючыха спачатку аднеквалася, палохалася, а пасля рашылася і пасадзіла дзяцей на шырокую і высокую Шпільманаву печ, у якой і на якой ён сушыў і парыў сырамятную скуру — Хаім шыў хамуты і збрую: аброці, набердкі, лейцы, папругі. Пасля вайны думала Міхнючыха варочацца

дадому, у свае Барсукі, якія былі ад Чырвонага Бору за кіламетраў трыццаць, але аказалася, што хата яе згарэла і вяртацца ёй не было куды. Дык як сядзець, так і сядзець. І ўжо сюды, у Чырвоны Бор, вярнуўся да жонкі і дзяцей і сам Міхнюк — Іван.

К таму часу, як у вёску прыехала з тэхнікумаўскім дыпломам прадаўшчыца Ліза, дочкі Міхнюкоў былі ў горадзе, а бацька іхні спаў на могілках вечным сном. Неўзабаве ж пасля сынавага вяселля памерла і маці. І Ліза такім чынам стала паўнаўладнай гаспадыняй вялізнага, але не надта дагледжанага Шпільманавага дома. Вось тут людзі і ўбачылі, як пашанцавала Толю Міхнюку на жонку. На жонку, якая богведама з чаго ўмее рабіць грошы і якая заткне за пояс дзесяцёх мужчын, асабліва такіх, якім быў Толеў бацька Іван Міхнюк: гультаяватых, непаваротлівых. А Ліза аказалася паваротлівая. Ды такая, што пры ёй і Толя закруціўся, бы ўюн. Лізіны грошы і выкрутлівасць плюс Толева сіла і конь — Толя рабіў на ферме падвозчыкам — далі неблагі плён. Літаральна праз гады тры Шпільманавай хаты стала не пазнаць: яна была ашалявана і выфарбавана ў жоўценькі і блакітны колеры, накрыта шыферам, да яе прыбудавана прасторная, скрозь зашклёная веранда. Пад домам і раней быў невялікі пограб — на бульбу і гародніну. Ліза ж прымусіла Толю выкапаць замест яго аграмадны склеп, ці не на ўвесь дом. Колькі зямлі папанасіў Міхнюк разам з жонкаю — хто калі палічыць, затое атрымаўся не пограб і не склеп, а падзямелле, безваконная хароміна, як цяпер бы сказалі — самы сапраўдны цокальны паверх.

Ліза нарадзіла Толю траіх дзяцей — дзвюх дзяўчынак-блізнятак і трэцюю дзяўчынку, амаль пагодку дзвюм першым. Яна рабіла ў краме, ён — на ферме, гадавалі сваю, як казалі, тройню і жылі сабе бадай што прыпяваючы, нават і без бадай — сапраўды прыпяваючы, калі мець на ўвазе дастатак у хаце і ля хаты. Дастатак, ніхто грэх на сябе не возьме хлусіць, быў. І гаспадыня пра гэта дбала, і гаспадар туды ж глядзеў. Што да іх трапляла, з іхніх рук не сплывала. А ў дадатак і сілы сваёй не шкадавалі. Штогод цяля ў зіму пускалі, налета, глядзі, не адна паперка ў руках, а некалькі адразу, і не малых, а вялікіх, зялёненькіх. Свінні ў хляве не зводзіліся, адна за адну заступалі: калі вяпрук душу аддаваў, дык на вахту заступаў другі такі ж, а праз загарадку падавалі голас двое меншых. Трусоў трымалі: усе будыніны ў двары былі аплецены клеткамі. І пчолы былі, даходзіла, што больш за дваццаць вулляў выстройвалася ў садзе. І сад ладны — за тры дзесяткі дрэў. У іх, у Міхнюкоў, ці не ў першых у Чырвоным Бары і дываны завяліся — і на сценах, і на падлозе, і халадзільнік ці не яны

першыя займелі, хоць ён не надта быў і патрэбны пры такім склепе, і радыёла ў дачок была.

Дастатак у хаце быў. А што датычыцца шчасця, дык тут больш складана. Не кожны возьме на сябе сцвярджаць тут нешта пэўнае. Дастатак — што? Ён — навідавоку. Дыван той ці халадзільнік кожнаму відаць. І дамок што цацачка — таксама відаць. А што да шчасця, дык яго не памацаеш і не пакратаеш. Убачыць-то нібыта можна, ды і то суджана тое не кожнаму і не заўсёды. Бо яно球 рознае, шчасце. А галоўнае, кожны яго па-свойму разумее. Аднаму і дыван на сцяне — шчасце, а іншы яго і не ўгледзіць. Ды, як там ні было, чырванаборцы пагаджаліся, што ў хаце ў Міхнюкоў, у дадатак да дастатку, было і шчасце. Прынамсі, Ліза і Толя ніколі не сварыліся і дзяўчынкі іхнія раслі добрымі дзяўчынкамі, стараннымі і паслухмянымі, паканчалі, хоць і не на «выдатна», школу і падаліся ў Мінск, набылі там у гандлёвым вучылішчы, як і маці, дыпломы і ўжо нібыта абагналі матку: адна, казалі, робіць старшым прадаўцом, другая нібыта намесніцай загадчыцы секцыі, а трэцяя, каторая малодшая, выскачыла замуж за афіцэра і паехала з ім за мяжу. Так што Ліза і Толя, застаўшыся ўдваіх у вялізнай колішняй Шпільманавай хаце, павінны былі б адчуваць сябе шчаслівымі.

Ну, а пры чым тут Курловічы? Вясковы чалавек такога пытання, вядома, не задасць. У вёсцы ўсе і ўсё пры чым. Жывучы ў адным сяле, кожны для кожпага не абыякавы, не чужы. Кожны кожнага тут не проста ведае, а часта ведае і тое, што і не трэба было б ведаць. Кожны кожнаму то сусед, то сваяк, то кум, то крэдытор, то даўжнік, то сябра, а то, што грахі ўтойваць, і вораг. Меж, вядома, даўно няма, але ж людзі — ёсць. І, жывучы побач, ці мала за што можна пасварыцца. Курыца суседская ў агарод убілася — вось табе і сварка.

Міхнюкі ж увогуле ў Чырвоным Бары да ўсіх мелі дачыненне. Ліза, вядома, а не Толя. Толя — хто? Толя — падвозчык на ферме. Хто што да яго мае? Хіба калі толькі каня папрасіць — дроў воз прывезці, бульбу абагнаць, гной вывезці. А Ліза? Ліза — крамшчыца. Як цяпер кажуць, прадаўшчыца. У Лізы ўсе амаль кожны дзень. Да Лізы ці радасць, ці гора. Без Лізы, як у той песні, як без вады — і ні туды і ні сюды.

Вось і аказваецца, што і Курловічы — Валерыя Віктараўна-нябожчыца, Кім Вікенцьевіч, Юля і Юрка — таксама мелі дачыненне да Лізы Міхнюк. Да прадаўшчыцы Міхнюк. Толькі як да прадаўшчыцы. Такое ж дачыненне, як і іншыя чырванаборцы.

Ды так было да пары да часу. Пакуль аднойчы...

У тым жа ліпені тысяча дзевяцьсот восемдзесят першага года на чырванаборскіх могілках побач з магілай Валерыі Віктараўны паявілася яшчэ адна магіла: лёг там на спачын Толя Міхнюк. Праўда, ён лёг не так знячэўку, як настаўніца. Ён хварэў, і даўгавата. Пра хваробу яго казалі featureнае. Гаварылі і пра страўнік, і пра печань, і пра падстраўнікавую залозу, і пра што толькі ні гаварылі. Памёр жа ён ад таго, што перасталі працаваць ныркі.

Людзі шчыра спачувалі Лізе. Як хто зойдзе ў магазін, дык і паспачувае, пабядуе разам з ёй, пашкадуе, што мог бы яшчэ і жыць яе Толя, ці ж гэта век — сорак пяць гадоў, гэта ж тая пара, калі чалавек сама ў смак жыцця ўваходзіць... Паспачуваў Лізе і Кім, калі неўзабаве пасля пахавання Толі трапіў у краму. Сказаў таксама прыкладна тыя ж словы, дадаўшы, зважаючы і на сваё гора, што лёс паставіўся да іх, да Лізы і да яго, Кіма, несправядліва.

— І не кажы, Вікенцьевіч,— усхліпнула Ліза.— Каб і хацеў прыдумаць большую несправядлівасць, дык не прыдумаеш. Я ніяк не магу ачуняць. У хату баюся заходзіць. І так вялікая хата была, а цяпер, як адна, дык і не ведаю, ёсць я ў ёй ці няма мяне. Чакаю не дачакаюся пятніцы, калі, можа, каторая дачушка пад'едзе...

— Разумею, Лізавета Макараўна, разумею,— спачуваў Кім.

— Дзіва што разумееш, Вікенцьевіч,— падхапіла Ліза.— Бабе без гаспадара астацца — цяжка, нікому не пажадаю, а мужчыну без гаспадыні — і казаць няма чаго... Бабы во тут збяруцца, дык так уя«о цябе шкадуюць. І як той Вікенцьевіч, кажуць, круціцца...

— Кручуся, Лізавета Макараўна,— адказаў ён, абы адказаць.

На гэтым гаворка іхняя абарвалася, бо ў магазін ішлі людзі.

А пасля, колькі ні заходзіў па самых розных патрэбах у магазін, не ўзнікала між ім і Лізай гаворкі пра тое. Ні разу. У такім горы чалавеку спачуваюць аднойчы, другі, трэці раз не прынята паўтараць спачувальных слоў. Прыйдзе купіць цукру, запалак, іншай якой драбязы, расплоціцца — і пайшоў. І ніколі ніякай думкі пра Лізу не ўзнікала. Пакрысе асвойваўся са сваім новым становішчам удаўца, прывучваючыся з Юркам жыць на новы лад і парадак. Папраўдзе, жылі яны, можна сказаць, па-ранейшаму, адно што іначай даводзілася ім цяпер харчавацца. Юрка цяпер снедаў і абедаў у школе, а ён, Кім, раніцай выпіваў кубак малака (малако, як і раней, прыносіла цётка Настасся), абедаў, калі выпадала, у калгаснай сталоўцы, а ўвечары прыдумвалі ўжо што-небудзь разам з сынам — варылі бульбу, пяклі яечню, падсмажвалі, калі было ў халадзільніку, мяса. Нічога не змянілася, можна сказаць, і ў іншых іхніх клопатах. Пасцель, сарочкі, бялізну здавалі, як і раней, у пральню, у хаце прыбіралі, як рабілі тое

часта і раней, самі, а генеральную ўборку наладжвала, прыязджаючы, Юлька. Пра тое, што нешта можа быць інакш, Кім і не думаў. Інакшага нічога проста не можа быць. Вось так і будуць жыць. З сынам. Па-мужчынску... Няхай сабе трохі і па-спартанску. Вялікай бяды ў тым няма. Год, другі пажывуць, а там можа здарыцца, што і Юлька, атрымаўшы дыплом, дадому вернецца. Усё можа быць. Шукаць і прыводзіць у хату другую жанчыну? Не, нізавошта! Тут жа згадвалася яго Валерыя Віктараўна, яго Лера, і яму рабілася страшэнна сорамна, нават брыдка. Здрадзіць Леры, яе памяці? Такога ён не дапусціць ніколі. Такога ні ён сам сабе не дазволіць, не дазволяць і дзеці. Будзе жыць, як жывецца, і мо не так і блага, як сяму-таму здаецца, тым, каму ўсё карціць што б там ні было ажаніць яго, падшукаць, а то і сасватаць яму жонку, а Юрку новую матку. Хай не стараюцца! Ім з Юркам і так добра. А з кожным годам будзе лепш, бо сын будзе падрастаць, сталець, з цягам часу яны будуць дзяліць усе абавязкі і клопаты пароўну, па-брацку...

І час ішоў. Мінуўся год. Справіў Кім угодкі па Валерыі. Людзей сабралася шмат. Каго прасіў, каб прыйшоў, а хто і сам па сабе завітаў — каб памянуць добрым словам незабыўную Валерыю Віктараўну. І зноў, як і год назад, было сказана пра яе шмат добрых, шчырых слоў. Але пасля, як выпілі нібыта абавязковыя тры чаркі, застолле зашумела ўжо весялей і ўжо менш пачалі гаварыць пра нябожчыцу, а больш пра яго, пра Кіма — пра тое, што трэба берагчы і шанаваць жончыну памяць, але трэба думаць і пра сябе, а заадно і пра сына, якому ўсяго толькі дзесяць гадоў і якому надта ж патрэбна жаночая рука і ласка. І адзін госць пра гэта, і другі, і трэці. Кім слухаў іх і ківаў галавой, быццам пагаджаючыся, а сам думаў гэтак жа, як і думаў — што ніякай другой жанчыны ў хаце не будзе, што Леры ён не здрадзіць.

А праз тры месяцы Юлька, толькі перайшоўшы на пяты курс, неўспадзеўкі выскачыла замуж. Ні слова не гаварыла. Нават калі ад'язджала ў канцы жніўня з дому, словам не абмовілася, што ў яе ёсць хлопец і што ў іх гэта сур'ёзна. І рантам за тыдні два да Кастрычніцкіх святаў заяўляецца дадому з хлопцам і — наце вам: во, тата, мой Гена. Ну, Гена дык Гена, а далей што? Далей яшчэ весялей: 5 лістапада мы распісваемся. Мы — распісваемся, а бацька ні слыхам ні дыхам? Ай, добрая дачушка, ай, малайчына! Не стрымаўся, папікнуў: мамы няма, дык можна і так? Яна да яго прытулілася, заплакала: даруй, тата, ты нічога не бачыў, а мама ведала, што мы з Генкам з другога курса дружым, мама нават і бачыла яго, як прыязджала неяк да мяне ў інтэрнат... Ну, і на тым дзякуй, дачка, супакоіла...

Вяселле гулялі толькі ў Мінску, у хаце Генкавых бацькоў. Не зусім у Мінску, а ў Кунцаўшчыне. І бацька, і маці Генавы, гэта значыць яго, Кімавы, сват і сваццця, працуюць там у навукова-даследчым інстытуце, там жа і кватэру атрымалі. Добрая кватэра, прасторная, на тры вялікія пакоі. Гасцей багата сабралася. Усё больш з яго боку. З боку Юлькі быў ён з Юркам, Марыя Міхайлаўна, Іван Фёдаравіч ды Інэса Аркадзьеўна. Ён, Кім, упершыню быў на гарадскім вяселлі, і многае тут яго здзіўляла і бянтэжыла. Зрэшты, здзіўляла яго ўжо з самага пачатку само вяселле. Ні сват, ні сваццця нават яе прыехалі да яго, каб пагаварыць, парахавацца, што і як. Як быццам ягоная Юлька круглая сірата! І выйшла так, што ён ехаў на даччыно вяселле, як госць. Ехалі яны ўсяго толькі ўпяцёх, і думалася, што і з таго боку збяруцца толькі блізкія сваякі ды сябры Юльчыны ды Генавы. Аказалася ж гасцей поўная хата, сядзелі ўпрытык, локаць у локаць, і, як усё больш пераконваўся Кім, то былі не сваякі, а якіясьці знаёмыя і саслужыўцы свата і сваццці. Тым не менш кожны, хто прыйшоў, прыйшоў не з пустымі рукамі. Хоць — не, рукі то якраз былі пустыя, прынашэнні былі ў кішэнях: канверцікі з грашыма. Госці, заходзячы ў хату, адразу ж тупалі да маладога і маладой, да Гены і Юлькі, уручалі ім рознакаляровыя канверцікі і цмокалі ў шчаку яе і яго. А яны, Гена і Юлька, стаялі ля століка, на якім была крышталёвая ваза з кветкамі, і нібы чакалі, калі да іх падыдзе чарговы госць, і ў гэтым чаканні Кіму пабачылася нешта брыдкае, нешта такое, што вельмі б не спадабалася Леры, і ён не пайшоў, як усе, адразу ж да сына і нявесткі, аддаў свой «падарунак» — тысячу рублёў — Юльцы і Гену пасля, улучыўшы момант, калі яны пайшлі ў другі пакой прывесці сябе ў парадак перад тым, як сесці за стол. Ён думаў, што хоць у Мінску сват ці сваццця пагавораць з ім, скажуць, колькі яны патрацілі на вяселле і які павінен быць яго пай, як Юльчынага бацькі, і ўзяў з сабой тысячу рублёў, якую меў на кніжцы на ўсялякі выпадак. Але ніхто не абмовіўся з ім пра гэта ні словам. Таму ён і аддаў дачцэ і зяцю ўсю тысячу, чым, заўважыў, вельмі здзівіў Гену.

У застоллі на яго амаль не зважалі. На ўсіх іх, чырванаборцаў, не звярталі ўвагі. Іх быццам не заўважалі. Як выпілі напачатку чарку за бацьку маладой, так больш, бадай, і не ўспомніў ніхто, што ён тут ёсць, Юльчын бацька, хоць нявестку ці не ўсе госці хвалілі навыперадкі, гэтак жа, як і Гену. Адно пасля, як усе падаліся ў суседні пакой танцаваць, яго таксама пацягнулі туды, у агульны круг — ляпаць сябе локцямі пад бакі і ў далонькі пляскаць, прыкідвацца «курачкамі», і нейкая, на добрым падпітку, жанчына ўсё махала перад яго носам пальцам з вялізным пярсцёнкам і лапатала аб тым, што сёння трэба

жаніць не толькі Гену, але і ягонага цесця, і рагатала пры гэтым гучна, закідваючы назад галаву і паказваючы повен рот залатых зубоў…

Вярнуўся ён дадому з даччынога вяселля ў горшым настроі, чым ехаў на яго. Зразумеў, што не прыйшоўся да двара свата і сваццi — не іхняга кола ён, калгасны інжынер па тэхніцы бяспекі. Не пагаварылі з ім ні аб чым, як і да вяселля — ні пра тое, дзе будуць жыць маладыя і як, што ім трэба прыдбаць напачатку, чым ён як бацька можа памагчы,— ні аб чым. Узялі дачку, а яго за дзверы, можна сказаць. Што ж, ён не ў крыўдзе. Мусіць, не надта пасля таго і разумныя яны людзі. Разумны чалавек заўсёды просты, шчыры, добры. Лера не памылялася, калі казала так, не памылялася. Ліха з імі. Яны яму гэтак жа патрэбны. Хай толькі Юльцы добра будзе. Юлька казала, што Лера бачыла Гену і ўпадабала яго, то, можа, і ўсё добра будзе ў іх. А яны з Юркам не прападуць.

І зноў ішоў нас. Юлька скончыла універсітэт, атрымала дыплом, неўзабаве пасля дыплома нарадзіла дачку, назвала — у гонар бабулі — Валерыяй. У Чырвоны Бор прыязджала рэдка. Што ж, ён, Кім, не крыўдаваў. Нічога не зробіш. Цяпер у яе сваё жыццё, свой клопат, свае турботы. Так яно і павінна быць. Так і Лера казала. Маўляў, бацькам нічога не вяртаюць дзеці. Тое, што бацькі далі ім, яны аддадуць сваім дзецям, дзеці дзяцей — сваім дзецям і так без канца. І таму, калі разабрацца, калі зірнуць глыбей і пільней, чалавек не памірае, не знікае бясследна, ён паўтараецца бясконца ў сваіх дзецях. Мо і праўда. Вось і Лера паўтараецца. Расце ўнучка, і з гадамі, хто ведае, мо будзе як дзве кропелькі вады падобна на ягоную Леру, на сваю маладую, прыгожую, разумную бабулю…

А яго ўсё жанілі. Адзін раз, другі, трэці, пяты. То каціласся па Чырвоным Бары чутка, што Кім Курловіч бярэ замуж Інэсу Аркадзьеўну — старую дзеву, былую сяброўку Валерыі Віктараўны, і жанчыны ў тым жа магазіне абгаворвалі навіну да стомы ў языках. То раптам на змену ранейшай чутцы прыходзіла другая: нібы бачылі яго надвячоркам з Надзяй Яскевічавай, самай малодшай сястрой Пецькі Яскевіча, якая вярнулася ў бацькаву хату аднекуль здалёку — ці то з БАМа, ці то з Казахстана і што нібыта Надзя бессаромна проста вісела на ім. А потым гаварылі пра дваюрадную пляменніцу Надзі Тарыкі, колішняй Кімавай суседкі. Пляменніца тая сапраўды некалькі разоў прыязджала ў Чырвоны Бор пасля Надзінай смерці, каб прадаць каму-небудзь хату, але, здаецца, так і не прадала, і хата ўрэшце адышла пад калгас. Пляткарылі бабы і наконт Волькі Мяхедкі з Рудні, развядзёнкі, якая рабіла на ферме і жыла ў бацькоў з сынам, ці не аднагодкам Кімавага Юркі. Урэшце дайшла чарга і да Лізы-прадаўшчыцы. Няйна-

чай, недзе нехта сказаў: а чаму б ім і не сысціся, Кіму і Лізе? Сказалася тое, можа быць, проста так, у выглядзе людскога пажадання, можа, нават у выглядзе спачування да яго і яе лёсу. А нехта пачуў і зразумеў па-свойму — што яны, Ліза і Кім, таксама думаюць пра тое ж — чаму, маўляў, ім і не сысціся б, а трэці ўжо ўпэўнена гаварыў, што яны парашылі між сабою пажаніцца. Дайшло да таго, што Кіма нават асмельваліся віншаваць, і ён спачатку абураўся, сварыўся, адбрэхваўся, а пасля і перастаў, бо ўжо і злосці не ставала. І ён ужо, натыкаючыся на пытанне: дык што, Вікенцьевіч, вяселлем пахне? — адказваў: ага, і цябе паклічу, чакай. Больш таго, ён, здаецца, ужо не здзівіўся, калі аднойчы ўвечары — Юрка пайшоў спаць, а ён сядзеў на кухні, збіраючыся парадкаваць брудны посуд,— да яго ў хату зайшла Ліза.

— Не чакаў, Вікенцьевіч? — сказала яна замест таго, каб паздароўкацца. І сама сабе адказала: — Не чакаў, канечне. Ведаю, не чакаў. Але ж і не здзівіўся, Вікенцьевіч?

Апранута яна была па-святочнаму — у дарагой, з кароткімі рукавамі сукенцы, з паяском, які падкрэсліваў яе яшчэ зусім не старую постаць, у басаножках на тоўстай падэшве і з бліскучымі жоўтымі цвічкамі вакол той падэшвы. На руцэ вісела немалая, але і не вялікая сумачка ў тон сукенцы. Валасы таксама былі даведзены да ладу, заколатыя за скронямі моднымі па тым часе чэшскімі заколкамі-шпількамі.

Ліза прайшла да яго на кухню, дастала з сумачкі і паставіла на стол пляшку каньяку і паклала плітку шакаладу «Аўрора», села сама да стала, сказала:

— Пагаворым, Вікенцьевіч?

Ён азваўся не надта ахвотна:

— А ёсць нам аб чым гаварыць, Лізавета Макараўна?

— Ёсць, Вікенцьевіч, ёсць,— сказала яна цвёрда і рашуча.— Дзе ў цябе тут шклянкі ці чаркі якія-небудзь?

Кім падняўся, схадзіў у залу, узяў у серванце і прынёс дзве высокія крышталёвыя чаркі.

— Ну дык вось, Вікенцьевіч,— Ліза спрытна адкаркавала пляшку, наліла ў чаркі.— Слухай спачатку мяне, а пасля я цябе паслухаю. Толькі спачатку давай вып'ем па гэтым напарстку, каб гаворка наша была трошачкі весялейшая.

Яна выпіла першай, адламала ад пліткі шакаладу невялічкі кавалачак, укінула ў рот, падсунула шакалад яму. Ён зрабіў тое ж самае.

— А цяпер слухай, Вікенцьевіч. Я жанчына простая, шчырая, вясковая, уся на віду, без хітрыкаў. І таму і гаварыць буду без хітрыкаў,

як умею... Калі памерла твая Валерыя Віктараўна, я, як і ўсе чырванаборцы, шчыра бедавала. Добрая была і настаўніца, і кабета. Божая пташачка. Нікому вады не замуціла... А неўзабаве палажылі каля яе майго Толю. І грэх прызнавацца, Вікенцьевіч, але прызнаюся: як убачыла я тое суседства, дык і мільганула ў мяне думка пра цябе. Так мільганула, мімаходзь. Але — мільганула, Вікенцьевіч. Падумалася: ім во выпала ляжаць побач, дык мо і нам з табой сысціся, каб побач быць... Не моршчыся, Вікенцьевіч, ведаю, грэшна гэта, я і сама тады ўскідалася таго, каб умела хрысціцца, дык перажагналася б... А як мінуў час і магла ўжо думаць пра ўсё цвяроза, дык і прагнала прэч тую думку. Не пара я табе, Вікенцьевіч. Я жанчына простая, мне фінціфлюшак розных не трэба, мне каб мужык дык мужык, работа дык работа, а твая Валерыя Віктараўна, казала ўжо, пташачка божая была, мусіць жа, думаю, і цябе на свой лад перарабіла... Мы, кабеты, гэта ўмеем, Вікенцьевіч! Мужчыны ўсе ў нас, у баб, пад пятою, хоць каторы і хваліцца, што ганяе сваю, як Марку па пеклу...

Ён сядзеў, унурыўшыся, і слухаў. Слухаў і не абураўся, не працівіўся. Недзе, хоць і не надта ахвотна, пагаджаўся, што гаворыць Ліза досыць разумна, узважана, відаць, што сапраўды шмат разоў перадумала перад тым, як сказаць. І адчуваў, што шчыра гаворыць, не хітрыць. Як ёсць, як было, так і гаворыць. А калі так, то — хай гаворыць, а ён паслухае...

— Але ж недарэмна, Вікенцьевіч, кажуць, што час — найлепшы доктар. Пакрысе пазагойваліся нашы раны. Пазагойваліся, Вікенцьевіч, зарубцаваліся. Павер мне, бабе. От тады я і стала думаць ужо трошкі інакш. Лягу спаць, доўга не магу заснуць і ўсё думаю, думаю. Няўжо ж, думаю, на гэтым і жыццё маё скончыцца так? Ці правільна ж гэта будзе? Як ні пакручу, з якога боку ні пагляджу — няправільна выходзіць. Паўвека бабе няма, баба яшчэ не знасілася, не порхаўка, чаго ж, думаю, ёй сохнуць без пары? Ці, можа, без пары, Вікенцьевіч? А як азірнуся, дык, акрамя цябе, няма наўкол нікога. Вось так я зноў да цябе вярнулася. Думаю: які б ён, ты, значыцца, ні быў, а мужчына ўсё ж, і без бабы табе нясоладка. Чалавек ён, да ўсяго, разумны, з ім, з табой, значыцца, можна калі не па любві, дык па розуме, бо дзе ўжо нам, сіротам, пра любоў думаць! Праўда, Вікенцьевіч? Падабалася мне і тое, што ты посцішся, ні да адной спадніцы не прычапіўся. Як і я, Вікенцьевіч. Я таксама гэтага не люблю. Крадзенае шчасце — не на шчасце. Ці то мужчына, ці то баба крадзе. Вось і наважылася прыйсці і пагаварыць без хітрыкаў. Давай сыдземся, Вікенцьевіч. Не падганяю, падумай, паразваж. Толькі цвяроза разваж. Пра Валерыю сваю не думай. Яна не будзе ў крыўдзе. Калі любіла цябе, дык у крыўдзе не

будзе. Гэта ж ты і сам разумееш. А табе са мной будзе добра. Я не злосная, не звяглівая. Чысціню, парадак люблю. Будзеш ты ў мяне як лялечка хадзіць. І Юрка пры нас хутчэй падрасце, бо таксама ў пару і пад'есць, і зносіць. Не бойся, абяцаю, што не пакрыўджу. Як да цябе, так і да яго... Ну, а тое, што я, пэўна, не такая, якой была твая Валерыя Віктараўна, дык — не ўсім жа быць аднолькавымі. Калі падумаць, Вікенцьевіч, то, можа, гэта і к лепшаму. Малады быў, думалася пра маладое, хацелася вышэй сябе падскочыць, вакол зямлі абляцець, дык і ў дзяўчатах хацелася тое бачыць, з чым сам насіўся. У маладых ва ўсіх крылы вырасталі... А цяпер, Вікенцьевіч, бярэцца нам пад пяцьдзесят. Лятаць мы ўжо не будзем. А хадзіць, і яшчэ без падпоркі, можам. Дык от і давай. Забірай Юрку і пераходзь да мяне. У мяне вальней, чым у гэтых тваіх двухэтажных клетках. І выгоды тыя ж. Я ж, каб ты ведаў, і паравое зрабіла, і ваду ў хату правяла. Ваду ўжо сама, без Толі. Шланг у калодзеж, маторчык невялічкі, а ў хаце кнопачка. Націсні — і праз хвіліну вадзічка цячэ... Яшчэ што скажу. «Жыгулёў» чакаю. Калі не сёлета, дык налета будуць, чарга падыходзіць. Зяцю меркавала, але як ты прыйдзеш — самі будзем катацца, зяць пачакае, невялікі пан... Толькі не думай, Вікенцьевіч, што гэта я купляю цябе. Я хоць і таргую, але мужчыну не купляла і купляць не буду. Гэта к слову...

Доўга яна гаварыла. Канчала нібы гаворку, а пасля зноў да таго ж вярталася, і другі раз, і трэці, усё даводзячы яму, што нічога ім не застаецца, акрамя як сысціся і жыць на пару.

— Добра мы з табой пагаварылі, Вікенцьевіч? То і добра. Зараз я пайду. На адыход давай яшчэ па чарцы вып'ем. Як мужчыны. І гаворым мы з табой так, быццам тут не баба з мужчынам, а два дружкі-таварышы апахмяляюцца. То і вып'ем, як мужчыны...

Яны выпілі, як і першы раз, па напарстку, укінулі ў рот па кавалачку шакаладу. Пражаваўшы, яна паднялася, навесіла па руку ў локці, сумачку.

— Я пайшла, Вікенцьевіч.

Ён таксама падняўся, прайшоў разам з ёю да дзвярэй.

Ліза раптам азірнулася, засмяялася:

— Пацалаваць не рашышся? Ну, то дай я цябе пацалую!

І абняла яго моцна, і ўпілася вуснамі ў яго вусны, і ён адчуў, што вусны яе салодкія пасля шакаладу, і цалавала доўга, не адпускаючы і ўсё шчыльней прыціскаючыся да яго пругкім, моцным, дужым сваім целам. Пасля рашуча адарвалася ад яго, папpавіла на локці сумачку, адчыніла дзверы, ступіла цераз парог. Ужо ці не за парогам сказала:

— Прыходзь, Кім. Я чакаю. Буду чакаць. А не дачакаюся, зноў сама прыйду. І тады ўжо не пайду, як сёння... Чуеш, Кім?!

Ліза прычакала. У пачатку кастрычніка, як заўсёды, настаўнікі і настаўніцы адзначалі свой дзень. Марыя Міхайлаўна паклікала і Кіма. Гулялі яны ў школе, у самым дальнім класе, каб гулянка не надта кідалася людзям у вочы, позна, за поўнач.

Прыйшоў ён дахаты. Юрка, паглядзеў, спаў. Кім паправіў на ім коўдру, шчыльней зачыніў дзверы. Сам не лягаў чамусьці. Апусціўся ў прыхожай на крэсла, прываліўся плячом да сцяны і сядзеў так доўга, ажно пакуль не адзеравянела тое плячо. Тады ён падняўся і, ціха адчыніўшы дзверы, выйшаў на вуліцу.

Неўзабаве быў ён ля колішняй Шпільманавай хаты. Узышоў на ганак. Хацеў пастукаць, але перадумаў, асцярожна пацягнуў дзверы на сябе. Яны расчыніліся. Ён пераступіў цераз парожак і зайшоў на веранду. Дзверы ў хату таксама не былі зашчэплены. Ён, бы злодзей, асцярожна зайшоў у хату і прыпыніўся, каб агледзецца, асвойтацца. І ў гэты міг штосьці цёплае, мяккае абвілося вакол яго.

— Я ведала, ты прыйдзеш! Каторую ноч не зашчэпліваю дзвярэй, усё чакаю! Пайшлі, Кімачка, пайшлі! Сюды, сюды, любы...

Голас быў звабны і загадны адначасова, і ён, Кім, паддаючыся яго звабнасці і загаднасці, пайшоў — кволымі, як у асуджанага, нагамі — у гарачую, задушлівую, палохаючую, нібы бездань, цемень.

## МАЙ 1985 ГОДА

— Сяргей Ягоравіч, можна да вас?

— Заходзь, Кім Вікенцьевіч, заходзь! Сядай. Што цябе прывяло?

Кім прысеў на крэсла за прыстаўным столікам, апусціў галаву.

— Слухаю цябе!

— Не ведаю, як і пачаць, Сяргей Ягоравіч. Брыдка пачынаць, а — трэба,— паёрзаўся Кім па крэсле.

— Ого, гэта ўжо цікава! — Сяргей Ягоравіч утаропіўся ў яго.— У такім разе, кажуць, пачынай з канца.

— Пачатак і канец адзін: трэба мне хата. Кватэрка якая-небудзь, куток,— выпаліў адным духам Кім.

— Стоп, стоп, стоп! Нешта не адразу да мяне...

Кім падняў руку:

— Толькі не пытайцеся нічога, Сяргей Ягоравіч. Зразумейце адно: трэба мне з Юркам куток. Разумееце?

Сяргей Ягоравіч апусціў выпрастаныя далоні на стол, досыць гучна ляснуўшы імі па гладкай стальніцы:

— Разумею... Нажыўся, значыць...

— Не трэба, калі ласка, я прашу...

— Добра, добра,— зноў ляснуў па стале далонямі Сяргей Ягоравіч.— Не буду... Хоць ты, брат, і не дзеўка, каб капрызіць.

— Не капрыз гэта, Сяргей Ягоравіч,— запярэчыў Кім.— Не капрыз. Не магу...

Капрыз... Не да капрызаў яму. Цяжка, брыдка і сорамна. Перад сабой і перад усімі. Нават і перад Лізай. Бо што Ліза? Яна не вінаватая. Яна праўду казала. Жывая баба. Зямная баба. Мо занадта зямная. А ён хлюпік. Думаў, пераломіцца, плюне, махне, забудзецца на ўсё, што было, як жыў, і пачне жыць нанова. Як многія жывуць. Як Ліза жыла. І жыве. А не атрымалася. Не змог. Душа працівіцца. Не падпарадкоўваецца. Не паддаецца. Плача, баліць душа. А разам з ёю і сэрца пачало ныць. Не па ім жытка такая. Не па ім. Ён прывык з пташкай божай, як Ліза сказала. Мо і праўда, пташка божая была яго Валерыя Віктараўна. Мо і праўда, ён пры ёй ніколі так смачна не еў, так мякка не спаў, так выкшталцона не апранаўся. Але затое з работы дахаты ішоў з радасцю. І ўранку з лёгкай душой ішоў на работу. І радаваўся сонцу, дажджу, снегу, ветру. Нават чорту лысаму радаваўся. Бо ведаў, што ніякі лысы чорт яму не страшны, душу ў яго не адбярэ і не купіць. А тут ледзь-ледзь быў не прадаў...

Ліза, калі сядзела ў яго на кухні за сваім каньяком і шакаладам, праўду гаварыла. Нічога не выдумляла. Так, правільна, крылы ў чалавека вырастаюць у маладосці, гэта бясспрэчна. Старасць абапіраецца на кіёк, а не на крылы. Але ж вельмі важна памятаць і ў старасці аб тым, што ў цябе былі калісьці крылы. Памятаць! Гэтая памяць змушае цябе заўсёды, пры любых абставінах і акалічнасцях, заставацца чалавекам. А ў Лізы, пэўна, не было крылаў і ў маладосці. Відаць, і ў маладосці яна больш глядзела ў зямлю, а не ў неба, на зоркі. А калі ўвесь час глядзець толькі ў зямлю, то міжволі з цягам часу пачнеш бачыць не так і не тое. Агуркі на градах — гэта ўжо будзе не духмяная пузырыстая смаката, а рублі і траякі, і ўкормлены вяпрук — гэта найперш хадзячы кашалёк з чырвонцамі. Больш сабраць на кніжцы — ці не гэтым адзіным жаданнем апантана Ліза. Грошы — вось шчасце. Будуць грошы — будзе ўсё. А ён прывык думаць і думае інакш. Няма грошай? Заўтра будуць. Абы было здароўе і работа. Грошай можна і пазычыць, калі сёння ў цябе няма іх. А радасць — не пазычыш. І шчасця не пазычыш. І спакою для душы — не пазычыш. І ўцехі ад таго, што ў цябе добрая паразуметасць з блізкімі табе людзьмі, не пазычыш. А Ліза думае інакш. Што ўсё тое, чаго не пазычыш, выдумка. Блюзнерства. Міраж. Што ўсё яно ўвасабляецца ў грашах. Чым больш

грошай, тым больш і таго — радасці, спакою, паразумеласці, шчасця, уцехі. І пераканаць яе, што яна памыляецца, немагчыма. Памыляюцца, маўляў, яны самі, такія ж сляпыя дзівакі, як ён, Кім, як ягоная пташка божая Валерыя.

Яму хапіла двух-трох тыдняў, каб зразумець, што Ліза шукала сабе не чалавека, з якім ёй было б спакайней, утульней, цяплей, не самотна і не тужліва, а — работніка. Парабка. Каб лягчэй было даглядаць жыўнасць і ўходжваць агарод і соткі. Ужо ці не на другі дзень ён у яе стаў... гультаём. Вядома, пра гэта было сказана ласкава, пяшчотна і быццам жартам, аднак жа абазваны ён быў менавіта гэтым словам — гультаём. А між тым ні маці, ні Лера, ні людзі ніколі яго такім словам не абзывалі — нават і жартам. У злосці ці ў крыўдзе ён улёг у работу. Затхнуўся і перарабіў склеп пад домам пад гараж. Не ўвесь склеп, частку яго, вядома. Дзеля гэтага перавярнуў рыдлёўкаю не адзін кубаметр зямлі — трэба было зрабіць заезд у гараж. Бачыў, адчуваў, што Ліза глядзела на яго ў тыя дні — ласкавей не трэба. Аднак жа знайшлася іншая прычына. Нікому ж не скажаш, у тым ліку і гэтаму Сяргею Ягоравічу, што яна абазвала яго гультаём і ноччу. Маўляў, Кімачка, трэба і гэтую работу рабіць, калі ўпрогся. Маўляў, мужавы абавязкі, Кімачка, трэба выконваць бездакорна... Сама яна не гультаявала ні днём, ні ўначы. І бянтэжыла яго не гэта. Бянтэжыла ці то бессаромнасць, ці то нейкая празмерная дзелавітасць нават у гэтай справе. Лера, памятае, пражыўшы з ім дваццаць гадоў, нейк умудралася заставацца сарамлівай, нават цнатлівай, і гэта было ў яе кранальна і прыгожа. А Ліза... Лёгшы ў пасцель, яна, ціхенька хіхікнуўшы, казала: я гатова, Кімачка... Маўляў, выконвай, мужанёк, свае абавязкі...

Вось і раскажы каму пра ўсё гэта. Няма каму расказаць. Ні сыну не раскажаш, ні дачцэ, ні каму-небудзь іншаму. Усё гэта толькі ў ім і з ім.

А хіба ж гэта галоўнае? Галоўнае, што адчуваў: спусташаецца душа. Робіцца ўсё больш падобная на апусцелы, амаль апусцелы капшук — вісіць такая зморшчаная, лёгкая, перавязаная матузком машоначка. Робіць, бывала, што, а сам думае, думае... І ўспомніць раптам, як калісьці чыталі яны ўтраіх, а пасля і ўчатырох перад сном, як Лера, вярнуўшыся з блізкага ці з далёкага паходу, расказвае ім пра розныя прыгоды, што здараліся ў дарозе,— і знячэўку зарагоча, як дурны,— голасна і невыразна, нярадасна. Ліза колькі разоў чула гэты рогат і тады нейкі час сачыла за ім, як баючыся чагосьці...

А Юрку не крыўдзіла. Сказаць што благое пра гэта ў яго язык не павернецца. І не дамагалася, каб мамай зваў. Цётка Ліза і цётка Ліза

— большага яна не патрабавала. І сама з сынком да яго не лезла. Юрка, ідзі абедаць! Юрка, пара спаць! Юрка, ці мыў ногі перад сном? Гэта — было. За гэтым яна сачыла. А да таго, як вучыцца, не датыкалася. Што прынёс са школы, што там рабіў — пра гэта не пыталася. Ёсць, маўляў, бацька, гэта яго клопат. А мо таксама яе праўда была. Канечне ж, бацькаў гэта клопат.

Увогуле, ён яе не абгаворвае і не асуджае. У яе было сваё жыццё, і яна хацела, каб і ён жыў так, як павінен, па яе разуменні, і жыць чалавек. Хацела, каб было як найлепш. Шчыра хацела. Ліза Макараўна ўвогуле чалавек шчыры, хоць і не без хітрасці, як казала. Без хітрасці не змагла б яна столькі гадоў рабіць у краме. А то ж робіць, і прытым з выгодаю для сябе. Ён жа бачыў. Не напрасліну ўзводзіць. Мела, хоць і невялікі, прыварак з усяго. З бутэлек, якія то прымала, то не прымала. З кардонных і фанерных скрынак, якія то спісвала, то прадавала. А найбольш — з дробнага недавесу цукру, цукерак, круп, вермішэлі, макаронаў. Усё гэта яна ўмела недаважыць пакрысе, так, што ніводная душа не заўважыць і не прыдзярэцца, а, тым не менш, наварчык ідзе. У яе свята на душы, як у магазін прывозяць муку і камбікорм. Тут ужо можна недаважыць і па-сапраўднаму, бо лік ідзе не на грамы, як пры цукерках, скажам, а на дзесяткі, на сотні кілаграмаў. А яшчэ ж — аблічвае. Амаль кожнага, і старога, і малога, калі не на дваццаць капеек, дык на тры, на пяць, на капейку, а — аблічыць.

Яго ўсё гэта абурала, а яна, расказваючы і нават паказваючы яму, як гэта робіць, радавалася, бы дзіця. Ліза, бачыў, любіць сваю работу. Само па сабе гэта, вядома, няблага. Чалавек павінен любіць работу, якую робіць. Але аднойчы ён зразумеў, што яна ўсё ж любіць не работу, а пасаду. Сваю пасаду прадаўшчыцы. Аднаго разу яна гаварыла яму, і твар яе быў шчаслівы, і голас зрываўся ад радасці: маўляў, яна была не дурная, калі даўно, у маладыя гады, падалася ў гандлёвы тэхнікум; тады з яе ўсе смяяліся, яе не разумела нават матка, сварылася, казала — куды палезла, хочаш у турму сесці, хлопцы ёю пагарджалі; але яна не зважала на гэтыя кпіны і папрокі, і аказалася вось, што праўда на яе баку, прыйшоў час, калі прадаўшчыца — ці не самая прэстыжная прафесія, з ёю водзяць сяброўства ўсе, нават самыя высокія людзі, гэтак жа, як з урачамі і цырульнікамі; значыць, не такая яна і дурная, калі змагла ўбачыць такую далёкую перспектыву, і сваіх дачок яна ўжо свядома пагнала ў гандлёвае вучылішча, бо ведае, што будуць мець дочкі і хлеб і да хлеба, і золата будзе блішчэць і ў вуху, і на шыі, і на пальцах, як у самастойных, і чхаць яны будуць на тое, што няма ў іх дыпломаў інжынерак ці нас-

таўніц, бо тым інжынеркам і настаўніцам ніколі за імі не ўгнацца, яны, тыя інжынеркі і настаўніцы, да іх, прадаўшчыц, на паклон ідуць, і яго нябожчыца, хай ён не крыўдуе, прыходзіла, хоць і адварочвала нос, балотам мяшчанскім называла, а прыходзіла ўсё ж і прасіла пакінуць ёй, калі будуць, кофтачку, боты на манцы ці фээргэўскага трыкатажу на касцюм...

Але, было, што яна дагаворвалася і да такога, дагаворвалася без злосці, проста канстатавала, так сказаць, факты, не задумваючыся ці, прынамсі, мала задумваючыся над тым, што яму гэтая канстатацыя — як нажом пад сэрца, што яму хацелася, чуючы такое, воўкам выць...

Некалькі разоў ён спрабаваў пярэчыць ёй, даказваць, што існуе на свеце і яшчэ сёе-тое акрамя грошай, але яна і слухаць не хацела. Яна смяялася. Шчыра і добра. Як з малога. Яна гладзіла яго па галаве і гаварыла павучальна-паблажліва. Кімачка, казала, ты ж ужо чуў, што я не божая пташачка і не зяленуха якая-небудзь, што раскрые раток на такі покарм, гэта Валерыя Віктараўна твая магла табе — ці ты ёй — гаварыць такое, і вы верылі, развешвалі вушы, а мне грошы давай, тады я табе адпушчу, што папросіш, такое я разумею, на гэтым свет трымаецца, а кніжку пачытаеш-пачытаеш ды есці папросіш, бо па адной кніжцы сыты не будзеш, хоць твая Валерыя Віктараўна і наадварот казала, і было, што і мае дочкі верылі, і з маткай-прадаўшчыцай спрачаліся, але, дзякаваць богу, нядоўга, пакуль у школку хадзілі, а тады ўраз паразумнелі...

Хоць бы яна ўжо Леру не чапала!..

Сёння ён паскідаў у чамадан свае і Юркавы транты, тыя, што трапіліся на вока, і занёс да Любы Міхалкавай. Старая ўжо стала Люба Міхалкава, а ці даўно ж, здавалася б, хадзіла па гэтай хаце маладзенькая настаўніца Валерыя Віктараўна! З тае пары і хата пастарэла. Мо не так пастарэла, як асунулася ад недагляду. Спытаў у цёткі Любы, ці пусціць з сынам пажыць. Жывіце, сказала. Ёй, маўляў, весялей будзе. І не стрымалася, расплакалася, папракнула: нашто ж гэта ён, каб хто спытаў, раскідаў бацькаву хату, ніколі, маўляў, не трэба таго рабіць, супраць чаго пярэчыць тваё сэрца, а яму ж сэрца, пэўна, балела, ці не так, Кімачка?..

Сам па сабе мо і не рашыўся б на такі крок, калі б не Юрка. Здаецца, і выгляду не падаваў, а заўважаў дзіцячым вокам, лавіў дзіцячым вухам, датклівою душою ўсё, кожную дробязь. І нешта ж варылася ў Юркавай галаве, калі аднойчы сказаў бацьку коратка і адкрыта: пойдзем адсюль, тата! Пачуў ён тыя сынавы словы, і ў яго як гара з плеч звалілася.

Аказваецца, усё проста: пойдзем адсюль, тата!.. От ён і пайшоў...

А Ліза... Ліза не пакрыўдзіцца. Яна зразумее. Што-што, а розуму ў яе не адабраць. І душа яе не подлая быццам. Па-свойму не подлая. Хапае яе недзе і на тое, каб паспачуваць чалавеку, памагчы, падтрымаць. Не кончаны яна чалавек, не. Дачок любіць і шчодра ім падкідвае. Толю свайму помнік паставіла ці не лепшы — даражэйшы — на чырванаборскіх могілках. Казала: ён у яе муж быў, бацька дзяцей, з хаты не цягнуў, а ў хату, дык чаму ж ён не заслужыў дарагога, з мармуру помніка? Праўда, магла і парагатаць: от паставіла, на зайздрасць іншаму, а яшчэ і на спакусу, мо хто захоча ў прымы прыстаць, дык хай ведае, што і яму на помнік не паскуплюся... Будзе пераживаць, вядома, але атручваць яму жыццё не стане. Яна ж казала: трымаць не буду. Не прыжывецца ён, не пусціць карэнняў, дык адпусціць на ўсе чатыры і яшчэ на дарожку дасць...

Вось такія справы, Сяргей Ягоравіч...

А ўголас сказаў:

— Асечка выйшла. Розныя мы людзі... Вось перайшоў да Любы Міхалкавай. У яе Лера калісьці сталавалася. Цяпер мы з Юркам... Таму і прыйшоў да вас.

— Усек,— ляснуў па стальніцы далонямі Сяргей Ягоравіч.— Усек, Кім Вікенцьевіч. І скажу табе, што не прапашчы ты яшчэ чалавек.

— А чаму я павінен быць прапашчы?

— Бо ўмееш па розум вяртацца. І яшчэ таму не прапашчы, што дзела тваё, здаецца, таксама не прапашчае. Вернешся ты, бадай, у сваю ж кватэру. Туды, дзе і жыў. Прараб, якому мы аддалі тваю хату, летуном аказаўся, несур'ёзным чалавекам, ды, шчыра кажучы, і не прарабам. Падаў заяву. Казаў, пад Мінск некуды перабіраецца. Ці то на птушкафабрыку, ці то на цяплічна-агародную... Што на гэта скажаш?

— Што ж тут казаць, Сяргей Ягоравіч!

— Па-мойму, ён ужо на чамаданах. Так што... Праўленне, я думаю, пярэчыць не будзе... Вось так... Ну, будзь!

Сяргей Ягоравіч падаў яму руку на развітанне не цераз стол — падаваць чалавеку руку на развітанне цераз стол благая, кажуць, прыкмета. Таму — навошта? Хай лепш чалавеку шчасціць!

# АПАВЯДАННІ

## СЛОІК ВАДЫ З МІХАЛКАВАЙ КРЫНІЦЫ

Я ехаў з дому...

Напісаў гэтыя словы, і адарваў шарык ад паперы, і пасміхнуўся сам сабе, падумаўшы, як зморшчыцца порсткі цяперашні крытык, калі яму на вочы трапіцца вось такі пачатак апавядання. Зморшчыцца і гэтак дакорліва паківае сваёй разумнай, па-маладому лысаватай галавой: колькі ж, маўляў, можна ездзіць, колькі ж можна пра адно і тое ж...

Мо і яго, крытыкава, праўда. Мо і на самай справе частавата мы ездзім. Туды і адтуль. Ды толькі — ездзілі і будзем ездзіць. Пакуль жывуць там бацькі і мацяркі (у маіх аднагодкаў ужо рэдка ў каго), дзядзькі і цёткі, браты і сёстры, пляменнікі і іншыя сваякі і суседзі. Пакуль стаяць там, атуленыя паніжэлымі, хоць і пастарэлымі дрэвамі, бацькава-матчыныя хаты, праз вокны якіх мы ўпершыню пабачылі белы блізкі свет і ад парога якіх пайшлі, падросшы, у свет далейшы, што здаваўся нам тады надта ж пекным і вабным. Ездзілі і будзем ездзіць, пакуль жывём, пакуль будзем жыць, бо не можа чалавек час ад часу не вяртацца туды, да сваіх вытокаў, балазе Беларусь наша не дужа шырока разлеглася па дняпроўска-нёманскіх прасторах, і вяртацца нам у свае родныя гнёзды не так і далёка — каму, скажам, усяго пяцьдзесят кіламетраў, каму — сто, сяму-таму — дзвесце, і мала каму — далей.

Ну, а пра тое, што, маўляў, колькі ж можна пра адно і тое ж, дык гэты самы наш порсткі крытык не надта і мае тут рацыю, як хтосьці калісьці паспрабаваў перакласці-скалькаваць рускі выраз «он не прав». Па-першае, не так ужо і пра адно і тое ж. А па-другое, важна, пэўна ж, не толькі — пра што, але і — як, і крытыку, мусіць, варта было б зважаць і на гэта.

Дык вось, ехаў я з дому. Ехаў з вёскі, у якой нарадзіўся і вырас і якая дасюль, хоць ужо амаль дзве трэці жыцця пражыты ў горадзе, застаецца ў душы родным домам. На пасадзецкі аўтобус (ці думаў калісь, чытаючы хлапчуком «Малых дрывасекаў» і «Пяць лыжак заціркі», што пройдзе трыццаць гадоў і праз маю родную Слабаду будзе хадзіць з Мінска аўтобус у бядулеўскі Пасадзец?) сесці не змог і быў вымушаны падыбаць на гайненскую гравійку, каб там патрапіць на які-небудзь іншы — аўтобусаў праз Гайну ў бок Ілы і назад бегае нямала.

Дадыбаў я да гравійкі, пасядзеў там з паўгадзіны ў прыдарожнай бярозавай засені і, абцярушаны-абкуродымлены цёплым прысакам-пылам, які шчодрым і доўгім шлейфам цягнуўся за кожнай машынай, зайшоў у аўтобус, сеў на сядзенне поруч з чалавекам, якога цяжка ўжо назваць хлопцам, але і дзядзькам, зважаючы на ўласныя гады, назваць таксама няможна, і па звычцы чалавечай уздыхнуў з палёгкаю, ад пачуцця збытай заклапочанасці — вось цяпер, як бы там ні было, я не чакаю, а еду, і еду зручна, па-цяперашняму — з камфортам, і яшчэ завідна, аказваецца, буду ў Мінску. Зрэшты, мо я і не падумаў так, мо ўздыхнуў адно праз тое, што апусціўся на сядзенне з маўкліва ўсвядомленай задаволенасцю, бо рэдка калі ў прыгарадных аўтобусах, хоць іх, не будзем крывіць душою, досыць многа, табе выпадае такая прыемнасць — сесці.

Сусед няйначай пачуў, як я ўздыхнуў,— адарваўся ад акна, паглядзеў на мяне неяк запытальна і сказаў голасна, прыязна, яшчэ павясковаму, але ўжо трошкі і па-гарадскому:

— Здраствуйце вам!

Некалі ў вёсцы было заведзена даваць «дзень добры» і незнаёмаму чалавеку, ды звычка тая даўно выйшла з ужытку, забылася. Значыцца, сусед мой угадаў ува мне знаёмага?

На мяне глядзеў адкрыты, чысты, з добрым паглядам густа-блакітных вачэй (нават я, дальтонік, угледзеў гэта адразу) твар, і найперш гэтыя вочы смутна мне штосьці нагадалі.

— Дабрыдзень і вам,— адказаў я.

Ды адказаў, пэўна, без чаканай суседам радасці пазнавання, бо ён загаманіў да мяне яшчэ галасней і прыязней.

— А я вас пазнаў,— казаў ён.— Яшчэ праз акно, як вы да аўтобуса падыходзілі. Вы з маім братам у школу хадзілі.

— З братам? — перапытаў я, стараючыся прыпомніць, хто б гэта мог быць, і мне зноў падаліся знаёмымі ягоныя вочы.— А?.. З Цадзілкам?! З Косцем? — знячэўку здагадаўся я.

— Ага.

Ну вядома ж, Цадзілка! У каго яшчэ быў такі ж адкрыты, чысты твар і, найперш, такія ж зіркастыя густа-блакітныя вочы!

Хадзіў, хадзіў са мною ў восьмы, дзевяты і дзесяты класы ў Янавічы Косця з Селішча — хлопец са смешным прозвішчам Цадзілка. Прыгожы, дужы хлопец, а прозвішча меў — як на здзек. Зрэшты, здаецца мне, ён сам найперш і вінаваты быў у тым, што яго прозвішча часта трапляла пад нашыя бязлітасныя хлапечыя здзекі: ён не прапускаў выпадку, каб не падкрэсліць, што ў яго не прозвішча, а мянушка. Натуральна, што мы яго інакш і не звалі-клікалі, як — Цадзілка.

А дзяўчаткі нашы дапякалі яму яшчэ больш — звалі яго пяшчотна, ласкавенька — Цадзілачка, а самі сабе альбо цішком (і Косця ведаў гэта) дадавалі: Дурылачка...

— А вы Віцька? Віктар? — схамянуўся і папраівіўся я, прыпомніўшы і імя цяперашняга майго суседа-спадарожніка.

Ад маёй Слабады да Янавіч восем: кіламетраў. А недзе на паўдарозе між Слабадою і Янавічам і быў пасёлачак — хат дзесяць, напэўна — Селішча, дзе жыў Цадзілка, і мы зрэдзь часу ішлі рэшту дарогі да школы разам. Сяды-тады я, надаралася, і заходзіў па яго, і таму ведаў ягоных маці, цётку Пранцю, і малодшага, маладзейшага на гадоў восем, брата Віцьку. Бацькі ў іх не было. Ён не тое што загінуў на фронце ці ў партызанах. Яго наогул не было. Цадзілка пра бацьку ніколі не загаворваў, а ў мяне, дзіўна, быццам хапала розуму на тое, каб не лезці да яго з роспытамі, бо немаведама ад каго чуў, што цётка Пранця замужам не была, а знайшла сваіх двух сыноў — даваеннага Косцю і пасляваеннага Віцьку — «у салаўіных росах».

— А я Віктар,— заківаў галавою мой сусед і, быццам абрадаваўшыся таму, што я ўспомніў і яго імя, і палічыўшы гэта добрым знакам для збліжэння, загаварыў да мяне як да зусім свайго чалавека, хоць і даўно не бачанага, не забываючыся, аднак, «выкаць».— А я глянуў і адразу пазнаў вас. Вы дык і не змяніліся. А Косця — пастарэў. Дзед ужо. Ведаеце?

— Не, не ведаў.

— Дык нядаўна і абдзедзіўся, адкуль вам ведаць! — махнуў рукою Віктар.— Сваякі цяпер і то рэдка сустракаюцца, а то...

— З Косцем мы неяк бачыліся, але даўно, гадоў з дзесяць, пэўна, назад, а можа, і болей,— я, паддаючыся ягонаму настрою, падтрымаў гамонку.— Як ён, Косця?

— Так сабе. Ён дзе рабіў, там і робіць,— па рамонце халадзільнікаў. У добрае месца ўбіўся. Капейчыну жывую мае і немалую, хоць і не хваліцца,— як усміхнуўся Віктар.— А не хваліцца, бо жонкі баіцца,— сусед сцішыў голас: — Яна ў яго скнара і звягала. Я дык не надта і хаджу да іх. Праз яе...

Вучыўся Цадзілка не вельмі каб. Па алгебры там ці геаметрыі яшчэ сяды-тады мог зарабіць і чацвёрку, а па мове, літаратуры, па гісторыі перапаўзаў з класа ў клас на траяках уперамешку з двойкамі. Не меў дачынення ён і да таго, што рабілася ў класе: без яго выпускаліся насценныя газеты, ладзіліся канцэрты і пастаноўкі, рыхтаваліся сходы, пісаліся плакаты. Аднак жа яго прысутнасць у класе заўважалася.

Я і цяпер не ведаю, якім чынам і чаму, але Цадзілка быў заўсёды дасведчаны ў многім, што выклікала нашу хлапечую ўвагу. Ён «ведаў», напрыклад, што мужык нашай хімічкі, інжынер МТС, мае палюбоўніцу ў калгасе «Энергія». Цадзілка прыводзіў нам «неабвержныя» доказы таго, што малы сынок нашага старэнькага дырэктара зусім не яго сынок, што да яго паяўлення на свет мае дачыненне адзін настаўнік са Смалявіцкага раёна, з якім маладая дырэктарава жонка была на нейкіх курсах. Ён мог на перапынку аглушыць нас «навіной» пра нядаўна прыехаўшых у школу фізкультурніка і яго жонку-геаграфічку. Быццам ён, Цадзілка, аднаго разу нешта рана прыпёрся ў школу, яго напаткаў у калідоры дырэктар і паслаў па ключ да фізкультурніка, а там яшчэ не ўставалі, і ён, Цадзілка, пабачыў, што геаграфічка спіць у пасцелі зусім голая. Тады нам было ўсё гэта дужа цікава!

А яшчэ Цадзілка ўмеў з'арганізаваць нас уцячы з урока і схадзіць у калгасную бручку ці ў гарох. Устрымацца ад спакусы было цяжка — час быў яшчэ галаднаваты, і паласавацца салодкай бручкай, асабліва ж пражаным гарохам было вунь як заманліва.

Бручка расла ці не ўсе тры гады на адным і тым жа полі за рэчкай. Мы, збегшы з урока, шыбавалі ўздоўж рэчкі, хаваючыся за надрэчнымі зараснікамі лазы і вольхі, з лёту ўрываліся ў храбусткія барозны, намацвалі рукамі круглейшую — будзе саладзейшая! — бруччыну і зноў зашываліся ў кусты. Нож меўся ў аднаго Цадзілкі, і мы чакалі, пакуль ён абчысціць сваю здабычу. А ён, як знарок, ніколі не спяшаўся, і мы не вытрымлівалі, абмывалі свае бруччыны ў чыстай і сцюдзёнай рачной вадзе і прымаліся чысціць іх зубамі — здзіраць шалупайку — і грызці крамяную і даўка-салодкую мякаць. Пасля, калі да цябе, нарэшце, трапляў Цадзілкаў сцізорык, ты ўжо толькі падчышчаў амаль абгрызеную, выслабаненую ад шалупайкі бруччыну. Згаворваліся мы ўцячы толькі з аднаго ўрока, але здаралася так, што ўцёкі задоўжваліся: набіўшы жываты бручкай, нам дужа не хацелася вяртацца ў клас, на наступны ўрок, і рэшту ўрокаў мы праводзілі ўжо там, на беразе рэчкі.

Яшчэ лацвей было схадзіць у гарох. Ён таксама, памятаю, рос чамусьці на адным і тым жа полі пры дарозе, за пагоркам, дзе сярод маладога альшэўніку тырчалі бетонныя рэшткі колішняга, яшчэ даваеннага дота — іх калісь нямала было паблізу старой мяжы з Польшчай. Вырваўшыся ў гарох, мы не рвалі стручкоў. Мы ахапкамі цягалі сухое, шапаткое гарохаўе на пясчаную дарогу і там падпальвалі яго. Гарохаўе гарэла зырка, весела, высокім полымем. У гэтым полымі гарэлі і стручкі — было чуваць, як яны, патрэскваючы, лопаліся ад

гарачыні. Пасля, як кучка чорнага попелу трохі астывала, мы бралі той попел прыгаршчамі і дзьмухалі на яго. Попел выдзьмухваўся, а ў далонях заставаўся пражаны, часам ажно падгарэлы гарох — смачны да аб'ядзення. Рукі да локцяў, твары нашы былі чорныя, як у камінараў, адно блішчэлі зубы, але затое ў кожнага ў кішэнях было па некалькі жменяў гароху, які можна было пасля есці і на ўроках цішком, і на перапынках, і пасля якога хацелася адно піць. Адчуванне голаду гарох наталяў куды лепш, чым бручка.

Як было пасля гэтага не заўважаць Цадзілку! Калі б не ён, мы, іншыя хлопцы ў класе, наўрад ці ведалі б тыя незабыўныя ўцёкі ў бручку і ў гарох.

А яшчэ запомніўся Цадзілка сваімі жартачкамі. Нягледзячы на тое, што твар у яго быў добры, пагляд блакітных вачэй шчыры і лагодны нават, Цадзілкавы жартачкі былі, як ні дзіўна, жорсткія.

Аднойчы ён, «жартуючы», паклаў на крэсла за настаўніцкім сталом канцылярскую кнопку вастрыём угору. Вольга Кірылаўна, русічка, той кнопкі, вядома, не ўгледзела і, як заўсёды, спакойна і лёгка апусцілася на крэсла і... падскочыла, як дзяўчынка, з войканнем, збялелая. Потым яна густа пачырванела і, не стрымаўшы слёз, выскачыла з класа. Урок быў сарваны. Прыходзіў да нас у клас дырэктар, паўгадзіны, пэўна, трымаў усіх на нагах, прымушаючы прызнацца, хто гэта зрабіў, хоць усе мы ведалі, што, акрамя Цадзілкі, ніхто гэтага не мог учыніць.

Выбрыкі такія ён рабіў не раз. Неяк пакарміў хлоркай малога Петрыка-паліцая — мянушку сваю хлопец атрымаў у спадчыну ад бацькі, янавіцкага паліцая, якога судзілі і не то саслалі кудысьці, не то расстралялі. А жонка былога паліцая з сынам засталася ў Янавічах, нікуды не паехала, хоць, казалі, ёй і раілі з'ехаць адсюль, не быць сярод людзей, якім усё тое баліць і балець будзе доўга,— жанчыну як шкадавалі, кажучы гэта. Цадзілка злавіў неяк таго самага малога Петрыка, ушчаміў яго між ног, адной рукой націснуў Петрыку на пашчэнкі, а другою набіў повен рот хлоркі. Малы: ледзьве не задыхнуўся, аж вочы пад лоб закаціў і ссінеў увесь, адратоўвалі пасля. Угледзеў гэта Антон Уладзіміравіч, настаўнік матэматыкі, не стрымаўся, заехаў Цадзілку поўху і раз, і другі. Цадзілка вырваўся, адбегшыся, крыкнуў: «Яны газам людзей труцілі! От хай сам пакаштуе, як гэта смачна!..» Антон Уладзіміравіч зноў спружынаю матлянуўся да Цадзілкі і, ухапіўшы яго за каршэнь, закрычаў: «Хто — яны? Пры чым тут Петрык? Ты ж сам паліцай, калі так робіш!» Цадзілку і гэта неяк сышло з рук. — Петрыкава маці не скардзілася, прасіла не чапаць яго:

маўляў, дзякаваць богу, усё абышлося, а злосці прыбаўляць у свеце не трэба...

Хлопцы ў класе казалі таксама, што Цадзілка ловіць, падсмажвае і есць маладых сіваваронак. Само па сабе гэта нас не здзіўляла, усе мы, бадай, любілі паласавацца качынымі ці галубінымі яйкамі, сёй-той, ведалі, каштаваў і тых самых маладых, тлустых сіваваронак. Абурала ж нас, змушала проста ненавідзець Цадзілку тое, што ён падсмажвае птушанят жывымі. Прывязвае да неапераных яшчэ крылляў па арэхаваму пруту і, трымаючы за гэтыя самыя пруты над вогнішчам, падсмажвае, пакручваючы, пераварочваючы тое птушанё пад полымем.

Не любілі мы Цадзілкі. Не любілі, але і — пабойваліся. Пабойваўся і я. І, мусіць, з прычыны гэтай самай боязі і заходзіў сяды-тады да Цадзілкі ў хату, каб разам ісці ў Янавічы...

Аўтобус гайдануўся, затросся — дарога знянацку пагоршала, і сусед мой, як спахапіўшыся, хуценька нагнуўся і, намацаўшы рукамі матузы-вочапкі шарачковай торбы з сінім малюнкам, прыпадняў яе. Павярнуўшыся да мяне, супакоена патлумачыў:

— Не разбіўся, цэлы.

— А што там у вас?

— Ат! Слоік з вадою.

— З вадою? — здзівіўся я.

Сусед быццам збянтэжыўся, неяк журботна ўздыхнуў, пацішэлым голасам загаварыў:

— Мо і смешна трохі. Але ж... Трэці раз вязу. Пасля работы сяду на аўтобус, прыеду ў Селішча, набяру слоік вады і назад... А што рабіць, калі просіць?

— Хто просіць? — не стрымаўся, учуўшы ў ягоным голасе непадробныя скруху і жаль.

— Мама. Хворая яна. Каторы дзень нічога, можна сказаць, не есць. Адно піць просіць... І неяк папрасіла: каб гэта, Віцечка, папіць вады з нашай крыніцы, з Міхалкавай... У Селішчы ў нас крыніца так завецца — Міхалкава... Жонка казала: не едзь, скажы, што з'ездзіў, прывёз, ці ж яна пазнае, што за вада... А я не магу. А як пазнае? Не! Што, мне цяжка з'ездзіць? Хай пап'е... А вада ў крыніцы і праўда смачная...

Мне зрабілася непамысна. І на Цадзілку забыўся. Дай ты веры! За шэсцьдзесят кіламетраў трэці раз едзе, бо — «Мама піць просіць...». Згадалася, як колькі гадоў назад памірала мая мама, і як варам мяне апарыла адчуванне цяпер ужо заўсёднай віны перад ёю...

— Маці даўно хварэе?— пракаўтнуў я ўрэшце горкі камяк у горле.

— Даўно. З год ужо. Усё кволілася, жалілася, што блага ёй, што галава кружыцца, у вачах, казала, нейкія мушкі мітусяцца, але — хадзіла, тупала і работу рабіла — усё ходнікі кручком вязала. А ўжо во трэці тыдзень як злягла. І есці не ўзяла. Адно — піць просіць.

— А што з ёй?

— Ай, не пытайцеся! Гэта самае, мусіць, хоць урачы і не гавораць. Яна сама здагадваецца. Спытаюся: як ты, мама? А яна: есць маё, сынок, нутро, пракляты, смокча і смокча, чую, як ён, быццам клешч, прысмактаўся...

— А маці ў вас ці ў Цадзі... ці ў Косці? — папытаў я, згадваючы, што Цадзілка падчас стрэчы, здаецца, нешта гаварыў пра маці.

— Была ў Косці, але ўжо даўно ў мяне. Косця яе з Селішча сарваў. Перавёз, значыць...— як паправіўся ён.— Тады яшчэ жылі ў Селішчы, тры хаты стаялі. Мама не хацела выбірацца. Казала: не прывыкну я ў горадзе... Ну... Але Косця тады ў кааператыў уступіў, грошы трэба былі. Дык — прадаў хату, пуньку, хлеў і перавёз маму да сябе...

— А цяпер жа во ў вас...— мяне як хто за язык цягнуў.

— Дык жа... Не, вы не падумайце, не таму — Косця... тут ні пры чым. Яго барыня неўзлюбіла, да Косці, як з нажом: ці матка твая, ці я! Мама трывала тое, трывала, а пасля прыйшла да мяне: адвязі ты мяне, Віцечка, у Селішча, няма маёй радачкі болей... Ага, у Селішча, калі там і варыўні нават не засталося... Ну, от... Засталася ў мяне... Косця прыходзіў, казаў, грошы верне, і жонка, казаў, за тое, каб вярнуць грошы, але дзе тыя грошы? Што за хату ўзялі, дык жа на хату і ўперлі! А колькі іх там і было? Гэта ж каб гаспадар купляў жыць там, а то — на перавоз... А пасля на машыну пачалі збіраць. Ці ж спаганяць з іх будзеш? Мама, праўда, была заікнулася перад Косцем, каб той хоць палавіну сплаціў мне, але я сказаў маме, каб не рупілася з гэтым. І Ленка мая гэткая самая: мама, кажа, не трэба, што калі было, тое прайшло, а цяпер — якія грошы з іх спаганяць? І праўда, якія грошы? Мы ж не чужыя. Ці ж я Косці не ведаю? Калі б не яго барыня, дык ён апошняе аддаў бы...

— А вы, даруйце, дзе працуеце і кім? — Я ўсё больш пранікаўся да яго павагаю і спагадаю.

— На трактарным, у кавальскім цэху наладчыкам.

— А жывяце дзе?

— А жыву на другім канцы Мінска, ля Пятроўшчыны. Ленка шмат гадоў дворнікам рабіла, і мы жылі ў службовых кватэрах, з падменнага фонду. А тры гады назад атрымалі, як людзі, сваю кватэру.

— Добрая кватэрка?

— Харошая! Два пакоі вялікія, кухня і прыхожая — танцаваць можна.

— А дзяцей колькі? Не цесна?

— Адна ўсяго каралева! Дык — чаго цесна? У адным пакоі мы з Ленкай, у другім — мама з Лалітай.

— З Лалітай? Так дачку назвалі?

— Ну. Хто ні пачуе — таксама дзівяцца... Яшчэ як з Ленкай, толькі пажаніўшыся, на прыватнай жылі, у гаспадара дачушка была — Лаліта, от і мы назвалі. Памятаеце, артыстка такая была, аргенцінская ці мексіканская?

— Была,— кіўнуў я галавою.

— Мама дык Лідай заве.

— Ладнаватая ўжо?

— Хто — дачка? Я ж кажу: каралева! Трынаццаты год! На танцы, на гэтую самую дыскатэку, бегае!

— Сіратою расце, значыць...

— Чаму — сіратою? — крутнуўся Віктар.— А-а, што адна ўсяго? Дык жа заўсёды задні́м розумам жывеш. Усё кватэры той чакалі, іншай трасцы. Думалі — паспеем яшчэ, і на другую дачку збяромся, і на сына. А гады — як слупы во за аўтобусным акном: сплылі — і няма. Спахапіліся, дык Ленка ўжо і ў хамут: хто цяпер у трыццаць сем раджае, засмяюць усе, і здароўя ўжо нямашака таго... А ў вас колькі?

— Двое. Абодва хлопцы.

— Во! А то дачка і тая адна! Я ж бы вельмі хацеў, каб сын яшчэ. А Ленка — ат, не дзяцінься, я сваё ўжо адраджала, мая чарга прайшла. Дык я назаляюся: давай з прытулку, з дому дзіцяці возьмем. Пойдзем і возьмем. Ленка яшчэ больш злуецца. Нашто мне, кажа, чужое? Калі на тое, дык я вочы заплюшчу і ў сорак табе нараджу... Каб жа так! Я ж ведаю: не народзіць ужо, усё, мінулася кату масленіца...

Даўным-даўно скончылася гравійка, даўно ўжо аўтобус лёгка і мякка каціўся па асфальце, а мы ўсё гаманілі і гаманілі. Пад канец, калі міналі ўжо Бараўляны, папытаў я ў Віктара, што сталася з іхнім Селішчам, ці жыве яшчэ хто-небудзь там, на іхнім пасёлку, ці ўжо мо і хаты ніводнай не засталося,— сам я даўнавата не быў у тым баку. Віктар спахмурнеў і адказаў не адразу:

— Няма Селішча. Апошняй разбурылі і звезлі хату цёткі Веркі, суседкі нашай. Ужо не адразу і ўгадаеш, дзе вуліца была. Сады, гароды заворваюць, яблыні і вішаннікі бульдозерам згрэблі. Адно хацішчы пазнаеш ды старыя дрэвы тырчаць. Ліпа ці бяроза — не яблыня, яе бульдозерам не звернеш...

Ён зноў памаўчаў, а пасля загаварыў неяк дзіўна, быццам не мне казаў тое, а самому сабе:

— Цяжка ездзіць туды. Вусцішна, як на могліцах. Як не ездзіш, дык быццам усё і добра. Быццам так і трэба: ну было некалі, але — даўно, адбалела ўсё, забылася... А прыедзеш, паходзіш, паглядзіш, дык так душа заные... Проста сэрца баліць!.. Вы заходзілі да нас, помніце, ля варот злева ліпа расла, а справа — клён? Клёна ўжо няма, яго маланка расшчапіла, а пасля вецер зламаў. А ліпа — стаіць, толькі нейкая яна... Мусіць, не толькі садовае, але і любое, пасаджанае чалавекам, дрэва любіць расці пры чалавеку. Нейкая яна, ліпа наша, як хворая. Пасядзеў я пад ёй, прыхінуўшыся спінаю да камля, паслухаў, як невясёла шуміць яна, і самому мне так невясёла, журботна зрабілася, што не вытрываў, падняўся і пайшоў да гравійкі, хоць да аўтобуса было яшчэ далёка...

Ад гэтых яго слоў мне зноў зрабілася непамысна. Ажно крыўдна стала нібы. Я ж таксама толькі што адтуль, са свайго роднага котлішча, і мяне там, на ўтравелым падворку, таксама апаноўвалі такія ж пачуцці, і думалася, што гэта ў мяне ў аднаго ные і маркоціцца душа, а тут во, аказваецца, брат майго колішняга няўдаліцы-аднакласніка думае і адчувае тое ж самае, кажа мне пра ўсё так, быццам паўтарае, падслухаўшы, мае ўласныя думкі і мроі...

— А от Косця — той не перажывае. Прыйшоў быў неяк, як мама злягла. Я на работу яму пазваніў, перадаў, што маме пагорала, дык прыйшоў. Я і кажу, што ездзіў у Селішча па ваду і што журботна, горка хадзіць па зніклых сцежках маленства... А ён — хоць бы хны! А чаго іх шкадаваць, кажа. Што ты на тых сцежках добрага бачыў? І пайшоў — пра голад пасляваенны, пра бульбу гнілую, пра парэпаныя да крыві ногі, пра газнічку-смаркачку, што вочы нам сляпіла, пра гразь непралазную... І са злосцю такою пра ўсё гэта!.. А я слухаю, галавой ківаю, а сам думаю, што не ўсё так і блага было там. Бульбу тую самую перамерзлую сонечным вясновым ранкам было збіраць лёгка, хораша. Ходзіш услед за трактарам, разам з гракамі, і, як грак той, дзюбаеш выараную, трошкі падшэрхлую бульбіну за бульбінай, потым нясеш поўны кошык дадому і слухаеш у небе жаўранка, і думаеш, як вечарам мама стаўчэ тую бульбу і папячэ пульхных, пакуль гарачыя, аладак і як будзеш есці іх, апякаючыся, з малаком... Добра было і ў полі з Аўтарэняй, хоць уставаць рана і не хацелася. Калі цяпер убачу я, як узыходзіць сонца, як яго праменні падымаюць над лугам, над полем мройны і духмяны туманок пары? А калі пасяджу, як тады, на падсохлым ужо ад расы пагорку пад альховым кустом і, гледзячы на зыркае і ўжо цёплае па-летняму сонца, паслухаю, як Аўтарэня скубе

расяную, мяккую, салодкую дзяцеліну?.. А рэчка наша, Сліжанка? Летам жа мы там днямі прападалі! А паходы ў грыбы, у ягады, у арэхі? А гойсанне на лыжах па нашых узгорках? Як можна пра ўсё гэта са злосцю? Не, я тут Косцю нашага не разумею! Праўда ж?

— Праўда,— кажу я і пачынаю сам прыгадваць сёе-тое са свайго дзяцінства, і гэтаксама, як і мой сусед, расчульваюся.

У гамонцы і не прыкмецілі, як прыехалі ў Мінск.

Выйшлі з аўтобуса, хвіліну пастаялі перад тым, як развітацца.

— Дзякую, Віктар,— пацiснуўшы яго руку, сказаў я.— Перадавайце прывітанне маці. Хай усё ж цётка Пранця папраўляецца.

— Перадам. Каб жа тое...

Ён пабег на тралейбусны прыпынак. Я паглядзеў яму ў спіну і спахапіўся, што не перадаў прывітання Косцю Цадзілку. Трэба было сказаць — як-ніяк, усё ж аднакласнік. Але нешта быццам замінала мне зрабіць гэта. Што? Напэўна, тое, што так нечакана згадалася ў дарозе і што так шчымліва пацвяліла, расчуліла душу. Хацелася думаць пра нешта лепшае, чым Цадзілка. Як ні ашчаджаў яго, як ні абараняў Віктар, малодшы брат, а ўсё ж, мусіць, Цадзілка застаўся Цадзілкам.

Людскі натоўп павёў мяне дадому. Ішоў я, і ўсё не выходзіла з галавы Міхалкава крыніца, з якой Віктар вязе хворай маці слоік вады. Мусіць, з ёй вельмі кепска, з цёткай Пранцяй, калі папрасіла сына з'ездзіць у Селішча і прывезці вады. Грэх мо так думаць, але гэта няйначай перад канцом. Ды — хай адбудзецца цуд! Хай тая родная вада абернецца жывою вадою і паставіць яе на ногі! Мусіць жа, і казачная жывая вада была ніякаю не жывою, а вадою з роднай крыніцы, смак якое чалавек памятае да самай магілы.

І бруяцца яны, пэўна, з зямелькі роднай датуль, пакуль жывуць у душы: чалавечай. Але, але, так і не іначай. Высахне, ачарсцвее душа — і разам з ёю высахне, заплыве глеем і тванню родная крыніца, крыніца маленства, што выцякала недзе з надрэчнага схілу і паіла чалавека ў яго малыя і юныя гады.

Чаму ж мы змушаем іх марнець і чэзнуць?

Няўжо толькі пасля ростані з маці (ці ў жахлівыя дні чакання яе) даходзіць да нас, што трэба шанаваць родныя крыніцы, што, шануючы іх, мы аберагаем ад спусташэння ўласную душу і заадно аберагаем красу і моц дадзенай нам у спадчыну зямлі бацькоў і дзядоў нашых?

Няўжо так позна?..

## ПРАМЕНЬЧЫК СВЯТЛА

Цяпер, згадваючы дзядзьку Змітрака, я са здзіўленнем адчуваю, што магу расказаць пра яго не надта і шмат. Гэтая акалічнасць мяне нават ці не бянтэжыць. Як жа так? Чаму? Ведаў чалавека, бадай, столькі ж, колькі і самога сябе, а не маю што сказаць? Ну, а і праўда — што?

Калі б давялося запаўняць за яго (колькі часу назад, вядома) лісток па ўліку кадраў, што б я напісаў? Прозвішча, імя і імя па бацьку — гэта проста: Даманскі Зміцер Адамавіч (хоць тое, што ён Адамавіч, успомніў бы не адразу, мне ён усё жыццё быў проста дзядзькам Змітраком). Год нараджэння — памятаю: адна тысяча дзевяцьсот шосты. Месца нараджэння — таксама няма замінкі: наш Падгай, вёска не вялікая, але і не малая, цэлая саўгасная брыгада. Сямейнае становішча — гэтае пытанне таксама сумненняў не выклікала б: жанаты дзядзька Змітрок, мае жонку Марылю Ігнатаўну і пяцёра дзяцей — трох хлопцаў і дзвюх дачок (сын ягоны, Алёшка — мой равеснік, мы разам бегалі ў нашу Падгайскую сямігодку, а за Нінкай, малодшай Алёшкавай сястрой, я трохі ці не ўлягаў). Партыйнасць — беспартыйны быў дзядзька Змітрок. Адукацыя — няпоўная пачатковая, калі дакладна, дык паўтары зімы пахадзіў, яшчэ за старым часам, у Падгайскую царкоўнапрыходскую. Званняў — няма. Узнагарод — таксама не мае. Пасада — правільней за ўсё было б напісаць: хлебароб, хоць работу рабіў самую розную. Ягоныя «перамяшчэнні па службе» можна было б занатаваць так: араты, касец, малатабоец, жняяр, пастух, «куды пашлюць», лазеншчык, вартаўнік, падвозчык і яшчэ сёе-тое. Апошняя графа — веданне моў. Тут таксама ўсё адны толькі прочыркі: аніякае, акрамя роднае мовы...

Зрэшты, досыць. Гэта ўжо змахвае трошкі на гумар, а мне зусім не да гумару. Дзядзька Змітрок, зямляк, сусед, амаль сваяк — памёр, і мне, нягледзячы на шматлікія анкетныя мінусы, вельмі, да болю шкада яго. Дзядзька Змітрок з тых, пры кім я прыйшоў і пакрысе асвойтваўся ў гэтым свеце, хто быў на пачатку маіх пачаткаў значнаю часткаю гэтага абжываемага мною свету, хто і пасля, да апошніх сваіх дзён, быў у кругабегу маіх чалавечых (як былога, ды, зрэшты, не толькі былога, падгайца) інтарэсаў. Скажу нават больш: пакуль жывуць у маім родным Падгаі тыя, што прыходзілі да мяне ў маленстве дзядзькамі і цёткамі, дзядамі і бабулямі, неяк весялей, спакайней, утульней жывецца на гэтым свеце і мне, і еду я туды, у Падгай, усё яшчэ як у родную вёску нават і зараз, праз восем гадоў пасля смерці маці. І

шкада, што з кожным годам іх, дзядзькоў і цётак майго дзяцінства, застаецца ўсё менш і менш.

Сёлета не стала і дзядзькі Змітрака...

Памятаю яго з сорак пятага. Недзе восенню ці на пачатку зімы ён вярнуўся дадому. Вярнуўся не з фронту, а з «трудармііі». Што гэта такое, я тады не ведаў, але адчуваў, што ў гэтым не надта звычным нам слове ёсць нешта ці не абразлівае. Прынамсі, Алёшка, мой сябрук і аднагодак, радуючыся звароту бацькі, не хваліўся, як іншыя, яго ўзнагародамі ці подзвігамі. Узнагарод, мы бачылі, не было. Не было, пэўна, і подзвігаў. Рукі і ногі ў дзядзькі Змітрака былі на месцы, і на целе, бачылі ў лазні, ніякіх шрамаў ці рубцоў, як у іншых мужчын і хлопцаў, што прыйшлі з фронту. А шрамы ж — адзнакі подзвігаў. Ну, значыць, і подзвігаў не было. Пытацца ж у самога дзядзькі Змітрака пра тое, як ён ваяваў у сваёй «трудармііі», было марна: ён быў не з гаваркіх. Без патрэбы слова не прамовіць. Пры мне, памятаю, Алёшка папытаўся быў у бацькі, што ён рабіў у «трудармііі». Дзядзька Змітрок адказаў: «Усё рабіў, што загадвалі: зямлю капаў, будаваў, з канём рабіў...» Алёшка пакрыўдзіўся: «Дык ты зусім не ваяваў, га, тата?» Дзядзька Змітрок адказаў няпэўна: «Як табе сказаць, сынку. Ваяваў і не ваяваў. Другім памагаў ваяваць...»

І яшчэ памятаю. Аднойчы ў лазні да дзядзькі Змітрака прыляпіўся, як ліст да спіны, Юрка Чмель: маўляў, раскажы, Змітрок, як ты Гітлера па Берліне шукаў. Раскажы ды раскажы. Дзядзька Змітрок адмоўчваўся, а ўрэшце не стрываў, адмахнуўся: «Што гаварыць з табой, пустынёй? Лепш сам раскажы, як задніцу фрыцу падставіў, ваяка...» Мужчыны зарагаталі, а Юрку Чмялю як заняло. Вядома, зойме, калі быў Юрка палахлівец — несусветны. Са страху, казалі, і ў партызаны пайшоў — вясною сорак чацвёртага. Ужо і браць не хацелі, але ўрэшце ўзялі, у гаспадарчы ўзвод. Са страху і паранены быў — не ў баі, а па дарозе на фронт. Трапіў нібыта іхні батальён пад артабстрэл на маршы. І трэба ж было такому здарыцца, што асколкам снарада Чмялю пеканула якраз у мяккае месца. Здорава пеканула, вышматала паўсцягна, ці не з паўгода ў шпіталі праваляўся. А прыйшоў дадому і патрапіў мужчынам на язык. Ледзь што, дык і прыплятуць: «Нашаму Юрку Фрыц зрабіў запасную дзюрку...»

Зрэшты, дзядзькі Змітракова «трудармія» мною і Алёшкам хутка была забыта. Іншы інтарэс паявіўся. Мы вучыліся ў дзядзькі Змітрака клеіць бахілы.

Ён клеіў бахілы адмысловыя. Мужчынам — з чорнай гумы, з тупымі мыскамі, шырокія і глыбокія, каб і на валёнкі, і на ватовыя буркі. Жанкам, дзеўкам, калі здабываў чырвоную аўтамабільную камеру,

рабіў бахілкі чырвоненькія, з завужанымі, а то і зусім вузкімі, вострымі мыскамі, мяльчэйшыя, падобныя на бліскучыя куплёныя галёшы, на падэшву наклейваў з таўсцейшай гумы нешта накшталт абцасіка.

Гэтае сваё ўмельства дзядзька Змітрок прынёс з «трударміі». Прынёс не толькі ўмельства. У рэчавым мяшку больш месца, чым сціплыя падарункі і пачастункі жонцы і дзецям, займалі бутэлечкі з клеем, драўляныя калодкі, дзесятак розных — ад буйных, дзіркаватых, да драбнюсенькіх, ледзь-ледзь шурпатых — бляшаных, набітых; на драўляныя дзяржальнікі тарачак-шчотак для зачысткі гумы, пэндзлікі, спецыяльныя з вострымі лёзамі, з тронкамі, абкручанымі скурай, ножыкі, каб рэзаць гуму і абразаць пасля прыклейвання падэшву. Дзядзькава ўмельства аказалася вельмі дарэчы.

У хаце ў дзядзькі Змітрака паявілася ці не сапраўдная майстэрня па вырабу гэтых самых бахілаў. Заказы сыпаліся адусюль, нават з далейшых вёсак, ажно з суседняга сельсавета. Спрыту ў дзядзькі Змітрака хапіла б на ўсіх, не хапала галоўнага — гумы. Тым не менш, невядома адкуль і як, яна знаходзілася, і бахілы клеіліся, і мы з Алёшкам былі ў майстра першымі памочнікамі і вучнямі. Ды такімі, што ў хуткім часе ўжо і самі маглі склеіць бахілы, адно дзядзька Змітрок вырэзваў нам загатоўкі. Тут ён не рызыкаваў: сапсаваць дэфіцытную, як цяпер мы сказалі б, гуму — гэтага ён не мог дапусціць.

Бахілы клеіліся зімою, трохі — вясною. А ўлетку дзядзька Змітрок навучыў Алёшку і мяне плесці кошыкі. З ракітавых дубцоў і сасновага карэння. Найцяжэй было зрабіць аснову, каркас будучага кошыка. Як ні стараешся, а, глядзіш, то аднабокі нейкі выходзіць, то крываваты, то вузкі і доўгі, як чаўнок, то, наадварот, пузаты і круглы, як гарбуз. Дзядзька Змітрок, пакручваючы ў руках маю ці Алёшкаву работу, павучаў: «Ты ж прыкінь спачатку, дзе заплёт зрабіць, каб і не мелкі быў і не глыбокі... І скабіны тыя самыя. Навошта адразу пазарэзваў? Прымерай, а пасля ўжо абрэж...»

У мяне кошыкі атрымліваліся лепшыя, чым у Алёшкі: круглейшыя, раўнейшыя, наогул больш адмысловыя. Адзін кошык, на ягады, я ўмудраваўся сплесці нават з вечкам, прымацаваўшы яго да абруча алюмініевым дротам. Дзядька Змітрок пахваліў мяне і, быццам сам сабе, зазначыў: «От жа ёсць спрыт у пальцах. І галава больш, чым у майго, варыць, і ў руках спрыту больш...» Меў дзядзька Змітрок на ўвазе тое, пэўна, што і ў школе мае поспехі былі большыя, чым Алёшкавы: сын вучыўся слабавата, быў «троечнікам»...

Праз год, а мо праз два дзядзька Змітрок стаў малатабойцам у кузні. Памагаў ён кавалю дзядзьку Андрэю вясну і лета. І мы з Алёшкам тым часам прападалі ў кузні. Рабілі сабе ножыкі-складанчыкі. І

тут у мяне, зноў пахвалюся, выходзіла лацвей, чым у Алёшкі. Зрабіў я сабе такі сцізорык, што сам дзядзька Андрэй, які выштукоўваў з жалеза ўсё, што толькі можна было выштукаваць, здзіўляўся і не даваў веры, што нож зрабіў я. «Калі б не бачыў, дык і не паверыў бы»,— казаў. Лязо я зрабіў з кавалка сярпа. Выпілаваў рашпілем і напілкамі, прабіў у вушку дзірачку, пасля адшліфаваў і завастрыў на тачыле. Спружыну выкаваў з кавалка стальнога дроту. Тронкі высек з таўставатай алюмініевай бляхі, старанна абпілаваў, зачысціў да бляску суконкай, пасля дзюбкай нажа павырэзваў удоўж і ўпоперак розных узораў-малюнкаў. Больш за ўсё намучыўся з заклёпкамі. Мяккі алюмініевы дрот добра кляпаўся, але быў нетрывалы, стальны ж не хацеў кляпацца наогул. Пакуль закляпаў ды пасля апрацаваў заклёпкі напілкам, падсапсаваў трошкі тронкі. Ды такой бяды. Затое нож быў — як ні ў кога. Лязо прутка шчоўкала пад спружынай і не завальвалася назад, як у Алёшкавым ножыку-аскабалку. І дзядзька Змітрок круціў галавой і зноў казаў: «Я ж гаварыў, ёсць у хлопца спрыт у пальцах...»

Пасля дзядзька Змітрок пачаў рабіць на парцы коней. Гэта былі дзве кабылкі — маленькія, грывастыя, буланыя, з белымі мецінкамі на лбах, спакойныя, рахманыя. «Пад бруха падлезь — не зачэпіць ні тая, ні другая»,— казаў дзядзька. А цётка Марыля жартавала: «Які сам, такія і коні. Сам спіць на хаду, то і коні спяць у баразне». Дзядзька Змітрок і праўда быў не толькі маўклівы, але і марудлівы, хоць і не настолькі, каб спаць на хаду. Так што цётка Марыля казала лішняе. І кабылкі, Маруська і Мурка, былі такія ж рахманыя і да яго.

Алёшку і мне ўсё гэта было, па-цяперашняму, да лямпачкі. Галоўнае — былі ў нас коні. У мяне — Маруська, у Алёшкі — Мурка. Штовечар мы, асядлаўшы іх, вадзілі ў Залужжа на начлег, а ранічкаю, калі не залежваліся, прыводзілі з начлегу. Дзядзька Змітрок даваў нам Маруську і Мурку і ў рабоце: напераменку мы з Алёшкам і аралі, і баранавалі, удоўж і ўпоперак. Асабліва ж ганарыліся, калі ў час жніва нам дазвалялася пасядзець на гарачым, як патэльня, мулкім і дрогкім жалезным седале жняяркі. І не проста пасядзець, а зрабіць адзін, другі, трэці круг вакол жытневага палетка. Ух, колькі гонару было ў нас з Алёшкам! Здавалася, што не на жняярцы-стракаталцы сядзіш ты, а на нейкай нябачанай цуда-машыне, што над галавою тваёю махаюць не граблі, зграбаючы, скідваючы са стала чарговы ахапак зжтага жыта, а магутныя, дзівосныя крылы-прапелеры, якія вось-вось адарвуць цябе ад зямлі, падымуць высока-высока і панясуць далёка-далёка.

З коньмі дзядзька Змітрок не разлучаўся шмат гадоў. На змену Мурцы і Марусічцы прыйшлі да яго, памятаю, Сіўка і Цэзар: першы — сівенькі сапраўды, амаль беленькі конік, брыклівы і кусlівы спачатку, пакуль пры дзядзьку Змітраку не абрахманіўся, а другі, наадварот, чорненькі, як варанё, абуты ў белыя «шкарпэткі». Цэзара апекаваў я, Сіўку — Алёшка. Тады мы, ужо ці не сямікласнікі, не забаўляліся з імі, а працавалі па-сапраўднаму, як сталыя, падмяняючы дзядзьку Змітрака, калі яму нядужылася ці трэба было кудынебудзь адлучыцца.

Нейкі час дзядзька Змітрок грэў калгасную лазню. Гэта было зімою, ён тады нечага хварэў, Сіўку і Цэзара перадаў іншаму, а сам падахвоціўся рабіць лягчэйшую работу — грэць лазню. Мы з Алёшкам, вядома ж, і тут былі яго найпершымі памочнікамі. Наносілі паўнюткую бочку — велізарную, стовёдзерную — вады, рэзалі дровы. Увогуле, ваду павінны былі насіць па чарзе вяскоўцы, гэтаксама, як па чарзе, па радоўцы, пасвілі статак, і дровы рэзаць павінны былі таксама ўсе, хто прыходзіць мыцца, аднак мы не чакалі, пакуль падыдуць тыя чаргоўцы, самі насілі ваду і пілавалі дровы, і дзядзька Змітрок ухваляў гэты наш імпэт. Зрэшты, такім чынам нагрэлі мы тры ці чатыры лазні, а пасля прылаўчыліся пампаваць ваду ў бочку проста з крыніцы пры дапамозе ручной пажарнай помпы, а дровы пакрысе пілавалі і калолі загадзя, на працягу тыдня, а то і двух, бо лазню грэлі звычайна двойчы на месяц.

Дзядзька Змітрок і гэтую справу — грэць лазню — умеў рабіць. Марудлівы, маўклівы, ён, здавалася, не надта і стараўся-завіхаўся. Аднак жа ўсе былі задаволеныя. «Вось гэта лазня! — казалі мужчыны, выскокваючы перавесці дух у прылазнік.— Сам чорт спячэцца і не агледзіцца!» Дзядзька Змітрок на гэта адмоўчваўся, але відаць было, што чуць такое яму даспадобы. Ён і праўда, грэючы лазню, найперш дбаў аб тым, каб быў дух. «Вада калі і не закіпіць, дык ліха з ёю. Будзе дух, дык вады тае шмат не трэба. Абы адпарыцца чалавеку. А спаласнуцца можна і з крыніцы».

Вось так спакваля, неўпрыкмет, разам з Алёшкам праходзіў я пры дзядзьку Змітраку школу вясковай, сялянскай, працоўнай навукі. Сталася так, што праходзіў менавіта пры ім, а не пры бацьку. Бацька, хоць і жыў у вёсцы, быў адарваны (не цалкам, вядома) ад зямлі, хадзіў часцей з партфелем, чым з касой, віламі, рыдлёўкай, сякерай...

Ужо больш за тры дзесяткі гадоў я рэдка калі лавіў на лузе якоганебудзь Буланага ці Гнядога, распутваў яго, заводзіў у аглоблі, запрагаў у калёсы ці ставіў з плугам у баразну; зрэдзь часу за гэтыя гады браўся я і плесці кошык, кляпаць касу, пілаваць дровы, грэць лазню,

што-небудзь клеіць, стругаць, майстраваць. Але ўменне тое заўсёды са мной, і, як некалі дзядзька Змітрок казаў свайму Алёшку і мне, кажу сваім сынам: «Умець — не за плячамі насіць». Ці: «Не абавязкова рабіць, абы ўмець...»

Дзядзька Змітрок, мне здаецца, умеў усё. Прынамсі, я не магу прыпомніць ніводнага выпадку, каб ён адмовіўся нешта рабіць, спаслаўшыся на тое, што не ўмее. Як не ведаю і выпадку, каб ён зрабіў што-небудзь блага, кепска, абы-як. Не ведаю, ці быў у нашым Падгаі яшчэ хто-небудзь, хто б гэтак дасканала мог завяршыць стог, як дзядзька Змітрок. Ні ў кога з падгайцаў не было такога багатага і дагледжанага саду, як у дзядзькі Змітрака. Ніхто не меў, бадай, і такога шчодрага медазбору, які меў дзядзька Змітрок са сваіх шасці вулляў. І калодзеж, выкапаны ім у двары пры вуліцы, быў адметны ад іншых: прыкрыты акуратным, пафарбаваным дашкам, з акаваным па-гаспадарску вядром, з лаўкай, на якую можна было, дастаўшы, паставіць тое вядро і пераліць ваду ў сваё.

А тым не менш падгайскія мужчыны не, не ды і пасміхваліся з дзядзькі Змітрака. Падстава для такіх насмешак, часам досыць крыўдных, пагардлівых, была адна: дзядзька Змітрок, маўляў, пад абцасам у цёткі Марылі. У маленстве, бываючы ў іх у хаце, я не прыкмячаў анічога, што гаварыла б пра яго такое падпарадкаванне цётцы Марылі. Было, вядома, што цётка сварылася, крычала на дзядзьку Змітрака, дык — а хто не крычаў, хто не сварыўся? Сварыліся, здаралася, і мае бацькі, і маці часта папікала бацьку, што ён не зрабіў таго ці другога. Бываў я ў Даманскіх і пасля, ужо будучы студэнтам: заходзіў, каб, спасылаючыся на тое, што хацеў пачуць што-небудзь пра Алёшку — ён служыў у арміі, пабачыць іхнюю Нінку, якая ўсё яшчэ мне падабалася. І зноў жа — не сказаў бы, гледзячы на ўсё ўжо і сталей тым вокам, што дзядзька Змітрок трымцеў перад цёткай Марыляй тонкай асінай.

Разгадка прыйшла пазней, калі цётка Марыля неўспадзеўкі памерла. Дзядзька Змітрок, думалі падгайцы, не перажыве гэтага свайго гора. Галасіў ён па жонцы, не саромеючыся ні мужчынскіх слёз, ні людскіх абгавораў. І аказалася, што дзядзька Змітрок вельмі любіў і шанаваў цётку Марылю, дагаджаў ёй, як малому дзіцяці.

Пра гэта мне казала пасля і Нінка. Пакуль я вучыўся, яна выйшла замуж за трактарыста Валерыка Карповіча, з нашага ж Падгая, хутка, аднаго за адным, нарадзіла трох сыноў, і я, прыязджаючы ў родную вёску і сустракаючыся з Нінкай, ужо не бянтэжыўся, не чырванеў і нічым не выдаваў, што некалі млеў перад ёю. Дык Нінка, калі мы неяк спаткаліся з ёю на вуліцы неўзабаве пасля цёткі Марылінай

смерці, гаварыла мне: «Тата ж так любіў маму, так любіў! Як маладзен! Нават і маладзен не кожны дакажа. Мой Валерык хоць бы... І гаварыць не хочацца!.. А тата ссівеў, а да мамы — як да дзяўчынкі: Марылька і Марылька... Ні разу інача не назваў... Так ужо любіў, так любіў...»

І вось дзядзькі Змітрака таксама няма. Не магу з гэтым змірыцца. Апошнім часам я зноў неяк зблізіўся быў з ім, як і ў дзяцінстве. Пасля смерці маці я не прадаў у Падгаі нашай хаты і не кінуў яе на волю лёсу. Наадварот: даў новы падруб, перакрыў, пафарбаваў. І родная хата зноў служыць мне — стала дачай, ці што. Штолета я з сям'ёй жыву ў Падгаі. І дзядзька Змітрок зноў быў маім найбліжэйшым суседам, дарадцам і, бадай, ужо і таварышам. Дзе і пад што зрабіць якую граду, як абрэзаць, абкапаць і пабяліць яблыню, адкуль прывезці колькі вёдзер гліны, каб перакласці на гарышчы дымнік-ляжак — пра ўсё гэта перамовішся найперш з дзядзькам Змітраком. А колькі паперасядзеў я з ім, ужо амаль па-старэчы, на лавачцы — ранічкаю, сустракаючы ўсход сонца, і ўвечары, праводзячы тое ж сонца на спачын! Сядзім, гамонім пакрысе, больш, бадай, я, чым дзядзька Змітрок,— і сыходзіць на душу ціхамірнасць, суладная з гэтым велічным і вечным вечаровым (ці ранішнім) спакоем прыроды, і хочацца верыць у добрае, чыстае і святое на гэтай зямлі, і ціхая, безгалосая крыўда ад таго, што сам ты, на жаль, не такі добры, не такі чысты і ўжо зусім не святы, падточвае, смокча цябе казытліва і тужліва...

У канцы ліпеня ён прыдыбаў да маёй хаты, прыпыніўся, абапёршыся грудзямі і рукамі на штыкетнік. Выглядаў нішто сабе, толькі дыхаў часта і неглыбока. «Як мы сёння маемся, дзядзька?» — гукнуў я з гарода, з драбіны: абіраў ліпавы цвет. «А малайцом,— адказаў ён.— Нічога не баліць, а хадзіць не магу — задыхаюся...»

Праз тыдзень Нінка завезла яго ў Янавічы ў бальніцу. Там яму палепшала. Памятаю, Нінка казала: «Ачуняў тата. Пакалолі яго, падкармілі вітамінамі — і ачуняў. Задышкі як і не было. Казаў: яшчэ пажыву...»

Паехаў я ў горад, там неспадзявана затрымаўся ажно на паўмесяца, а калі на схіле лета зноў прыехаў у Падгай, дзядзька Змітрок пераехаў ужо на пагорак пад бярэзнік і сасоннік. Развітаўся я з ім ужо там, на пагорку. Развітаўся моўчкі, ля свежай магілы — пачуць што-небудзь ён ужо не мог.

Стрэў на вуліцы Нінку, пабедаваў разам з ёю, паспачуваў. Яна пастаяла са мной, паплакала, расказала: «Ужо і лепей стала яму, на вуліцу выходзіў, і доктарка пахваліла яго, сказала, што выпіша скора... А тут прыязджаю да яго, у чацвер гэта было, а ён мне: «Забяры

мяне, дачушка, дамоў. Чую — памру. Не хачу, каб на чужых падушках, на чужым ложку...» Я на яго пасварылася. Ці ты, кажу, тата, здурнеў? Паміраць сабраўся! Доктарка вунь выпісвае цябе... А ён зноў: «Забяры, дачушка...» Пайшла я да доктаркі, кажу ёй, а яна мне; «Мо правільна зробіце, калі забераце... Тут мо маркотна яму, а дома весялей будзе, ён жа ў вас не хворы, можна сказаць, а старэнькі...» От і забрала. Назаўтра ж узяла машыну і забрала. У пятніцу. Пажыў ён дома пятніцу, суботку. Усё добра было. Ну, паляжыць трошкі, трошкі патупае, нават венік у рукі браў, на падворку каля ганка спрабаваў падмятаць... У нядзельку паснедаў яшчэ. Нармальна паснедаў, як заўсёды... А ў абед адмовіўся есці. Мо, кажу, тата, забеленага табе чаго зварыць? «Звары»,— кажа. Ну, я малочнага супіку зварыла, пакарміла яго — самому нешта цяжкавата было яму есці. Паеў, чысценька з'еў, праўда, маленькую, унуччыну місачку. «Я,— кажа,— пасплю, дачушка...» Ну, паспі, тата, паспі, адказваю. Падушку яму паправіла, ногі прыкрыла. Ён тут жа і заснуў. Як дзіця... Пайшла я ў гарод, там пакорпалася. У хату вярнулася праз гадзіну, мо пазней трохі. Чую — як усхрапнуў ён. Я да яго. А ён глядзіць на мяне, толькі дзіўна неяк глядзіць, нерухома. А потым і кажа: «Цёмна як...» А вочы расплюшчаны, а ў хаце відна — сонца, на заходзе, у вокны смаліць... Я да яго: тата, тата, кажу, што з табою? А ён маўчыць, а пасля адкінуў раптам галаву і захроп. Цюкнула мне: памірае!.. Кінулася з хаты, паклікала Верку, каб пры ім пабыла, а сама да фельчаркі, да Сцяпанаўны. Пакуль прыбеглі назад — тата ўжо ўсё, сканаў... Аказваецца, гэта яму перад смерцю, перад канцом у вачах пацямнела... «Цёмна як...» — сказаў... Я ўжо давольна хоць, што забрала яго дахаты, што дома, на сваёй пасцелі памёр. Надта ж не хацеў памерці там, у бальніцы, на казённым ложку...»

Слухаючы Нінку, успомніў я і свайго бацьку. Ён перад смерцю таксама папытаў: «Навошта святло выключылі?..» Папытаў і памёр. А святло ж ніхто не выключаў. У хаце гарэла пад столлю вялікая, на сто пяцьдзесят свечак, лямпка. Зырка гарэла, ярка...

Што гэта — супадзенне, выпадковасць? Смерць — гэта цемра. Змрок. Нішто. Чорная бездань. І няйначай гэта яна падступілася да іх, да дзядзькі Змітрака і да бацькі, гэта яе ў апошняе сваё зямное імгненне ўбачылі і той, і другі і паспелі зрэагаваць, кожны па-свойму...

І ў тое ж імгненне іх пакінуў апошні праменьчык святла...

Праменьчык святла... Мусібыць, гэта добра, што чалавек, паміраючы, не забірае святло, якое было ў ім, з сабою. Ён пакідае яго на зямлі. Нам. З гэтае прычыны мы, людзі, не бяднеем, а багацеем.

Душэўна і духоўна. На колькасць святла, якое пакідаюць нам добрыя людзі. Гэта не надта вялікае суцяшэнне, але ж усё-такі суцяшэнне.

## ПЯЦЬ НАРЗАННЫХ ВАННАЎ

Прачнуўся Паўлюк, як заўсёды, а пятай гадзіне. Расплюшчыў вочы і не адразу ўцяміў, дзе ён: позірк не спаймаў звычнай бэлькі і жаўтлявых, сучкаватых дошак — столь была белая і роўная, як зімовае поле. Упёрліся вочы ў гэтую белую роўнядзь, і тут жа ўспомніў: у санаторыі ён, прачнуўся не ў сваёй хаце, а ў санаторнай палаце.

Павярнуў галаву набок і павёў вачамі па гэтай самай палаце. Пры акне — шырокім, бязрамным — стаяў стол і ля яго тры крэслы, па той бок стала, пры сцяне, спаў, агаліўшыся, вылузаўшыся з-над коўдры, бы малое дзіця, адзін яго супалатнік, а ля сцяны, процілеглай ад акна, спаў у ложку другі — гэты, наадварот, цяжка соп пад коўдрай, акрыўшыся ёю з галавой.

Паўлюк не надта добра запомніў, як іх зваць, хоць учора, уладкоўваючыся, атабарваючыся тут, яны і пазнаёміліся. Падалі мужчыны яму руку, прамямлілі свае імёны і імёны бацькоў сваіх, ды хіба так адразу іх запомніш? Пакуль што ён запомніў толькі, што адзін з іх, ніжэйшы і таўсцейшы, каторы адразу ж заняў ложак ля акна, быў з Палтавы, а другі, худзейшы і вышэйшы, які самохаць прагаласаваў за ложак «далей ад акна і бліжэй да дзвярэй», прыехаў у Кіславодск з Чарнігава.

Палтавец і чарнігавец спалі, і Паўлюк не ведаў, што рабіць яму. Учора, лягаючы, ён папытаўся, на ўсялякі выпадак, якой парою тут прынята ўставаць, але з адказу палтаўца, здаецца, нічога не зразумеў. Выходзіла, што нібыта пад'ём тут, як у салдат, у сем гадзін, але, калі хто лянуецца, можа спаць і даўжэй, абы не спазняўся на сняданак ці на працэдуры. «А раней?» — перапытаў Паўлюк. Палтавец на тое не сказаў нічога, толькі ўсміхнуўся паблажліва, як дзіцяці, а чарнігавец, накрываючыся з галавой, ужо з-пад коўдры прагудзеў: «Як хто хоча, бацька...»

Ложак быў мяккі, зручны, прасціна і падкоўдранік бялюткія, ад іх яшчэ і цяпер, праз ноч, зыходзіў пах нядаўняга мыцця, і пах гэты быў прыемны, хоць і не такі, як дома, калі ён, Паўлюк, пасля лазні лягаў у свежую пасцелю. Чысцінёю і свежасцю пахлі і падушкі, але яны Паўлюку не спадабаліся — дзве, але ж надта маленечкія, як дзіцячыя ясікі, і на дзвюх спаць кепска, няма на што галаву палажыць.

Прачнуўшыся ў гэтым санаторным ложку, згадаўшы, дзе ён і што за людзі смачна пасапваюць у адной палаце з ім, Паўлюк ляжаў і

не ведаў, што рабіць. Найперш мучыла пытанне: уставаць ці не ўставаць? Ведаў, што больш не засне, што ніколі, бадай, не было такога, каб ён, прачнуўшыся, пераварочваўся на другі бок і засыпаў зноў. Значыць, трэба было падымацца. Але штосьці быццам і не дазваляла яму рабіць гэта. А раптам знячэўку разбудзіць суседзяў? Не малыя дзеці, аднак жа — вунь як дружна дзьмуць у чатыры дзюркі! Навошта ж псаваць людзям музыку?

Парашыў паляжаць. Маўляў, такой бяды, бакі не адлежыць, калі ўспомніць і маленства і паваляецца гадзінку ў пасцелі. Калісьці, і не так даўно, як сяму-таму здаецца, калі ганяў пастушком карову на ранкі, надта ж не хацелася ўставаць, упрошваў маці, каб дазволіла паспаць-паляжаць хоць хвілінку... Успомніў і ажно пачырванеў, здаецца — так засаромеўся, і падумаў, што не такое яно і доўгае, жыццё чалавечае, і што ніхто не хоча без пары туды, і больш таго — ніхто не хоча туды нават і тады, калі нібы тая пара прыходзіць. Не хоча, вядома, і ён, Паўлюк. Але каб не сын, дык наўрад ці паехаў бы сюды, за свет. Ліха яго ведае чаму, але раптам заныла ў яго сэрца. Ніколі, колькі жыў, не чуў, ёсць яно ў грудзях ці няма. А тут — пачуў. Быццам цяжар нейкі ў грудзях паявіўся — нібы камень там ляжыць і ўсё цісне, цісне... Нараіў доктар санаторый. І сын таго доктара падтрымаў. Едзь, бацька, і едзь, падлячыся. Вось і прыехаў. Хоць, калі разабрацца, дык мо і без патрэбы. Бо пакуль абследаваўся, пакуль тую санаторную карту афармляў ды пуцёўкі чакаў, падлячыўся ён. Зваліўся камень з грудзей. Сяды-тады сэрца трошкі абзавецца, быццам напомніць: «Тут я, тут», а пасля сцішыцца і не чуе яго Паўлюк, ходзіць і робіць усё, як і да хваробы. Ды, як той казаў, шкадаваць, што прыехаў, не будзем. Мо і сынава праўда: «Ці ж ты, бацька, не заслужыў? Нават калі там асабліва і не падлечаць цябе, дык адпачнеш...»

Успомніў Паўлюк сына, і лёгка, хораша зрабілася яму на душы, па ўсім целе, а найперш па грудзях, цяпло разлілося. Разумны, адзін на ўвесь сельсавет, нават на раён, вырас у яго сын. Гэта ж скажы катораму, дык і не паверыць: яго, Паўлюкоў, сын — пісьменнік! Сам сябе сын так не называе, кажа: «Які я, тата, пісьменнік? Літаратар я, журналіст, калі на тое пайшло», але ж Паўлюк ведае, што не так гэта. Па-першае, і кніжкі ў сына ёсць, і білет спецыяльны, дзе напісана, што не літаратар ён ці журналіст, а пісьменнік. Сынавы кніжкі ён чытаў. Усе да адной, ад пачатку да канца, нават і тыя дробненькія радочкі прачытваў, дзе напісана, колькі такіх кніжак выпушчана. Чытаў ці не з большай цікавасцю, чым кніжкі іншых пісьменнікаў. Адны падабаліся больш, другія — менш. Менш падабаліся тыя, дзе ён,

Паўлюк, ніяк не мог даперці, пра каго гэта сын расказвае, калі і дзе тое было. І гэтак прыкіне, і так, і да таго чалавека прыложыць, і да гэтага, а — не атрымліваецца, не здаралася такога ў іхніх Родзевічах і чалавека такога — ні мужчыны, ні бабы — таксама не было. А тыя кніжкі, дзе людзі і тое, што яны робяць, пазнаюцца, Паўлюк па тры разы перачытаў. Чытае і думае: ну і мастак яго Алесь, ну і штукар, ну і выдумшчык! Усё быццам і так было, і не так. У жыцці, папраўдзе, было неяк прасцей, рабілася ўсё быццам неўпрыкмет, будзённа, не аб адным дні, а месяцамі, гадамі, і людзі між сабою неяк не так адкрыта лбамі сутыкаліся, някідка, здавалася б, жылі, працавалі, жаніліся, паміралі, а як напіша — дык, аказваецца, усё было куды цікавей, чым яны, дурні родзевіцкія, бачылі...

Не, сын у яго — пашукаць! Дока! Не адзін раз быў Паўлюк у яго ў Мінску. Быў не толькі на кватэры, але і на рабоце. І бачыў, што любяць там сына, паважаюць, толькі па бацьку ўсе завуць. Дык і яму, наслухаўшыся таго, хочацца сына Алесем Паўлавічам зваць. Скажа пра гэта старой, а яна смяецца. Ты, кажа, зусім здзяцініўся, Паўлюк, бо мне Алеська як быў дзіцем, так і ёсць, так бы і паляцела да яго, каб прытуліць, пашкадаваць.

Што і казаць — сын маладзец. Ну, а сам ён, Паўлюк Лапатка? Хто ён такі? Аніхто. Прышый кабыле хвост. Адстаўной казы барабаншчык. Перад сынам Паўлюк сябе толькі так і называе. Бо і праўда — хто ён такі? Саўгасны пенсіянер. Пенсіянер-піянер, заўсёды гатоў! Без такіх піянераў што б рабіла іхняя брыгадзірка? Сапраўдных піянераў, спраўных яшчэ баб ды мужчын, хлопцаў ды дзевак — пальцаў на руцэ зашмат, каб пералічыць.

Калісьці, вядома, ён не быў казіным барабаншчыкам. У маладосці хлопцам дужым быў. У сорак чацвёртым, як на фронт трапіў, адзін мінамётную пліту на спіне валачыў. А ў партызанах? Адзін, узяўшыся за канец дышля, выцягваў з багны задок калёсаў з паранeнымі, як у блакаду апынуліся ў непралазным балоце за рэчкай Гайнай. Пасля вайны з коньмі ў калгасе рабіў. Зноў жа — хто за яго больш за дзень узорваў? Аніхто! Нават сам Вінцук Сяліцкі, хоць у яго і коні былі нераўня ягоным, Паўлюковым, а не дапінаўся да яго. І выкошваў за дзень па гектару. Была ў плячах сіла, хоць і душыла бясхлебіца ды нішчымніца... Пасля конюхам быў — і ў калгасе, і ў саўгасе па першым часе, пакуль тых коней на нет не пазводзілі. Ну, а перад самай пенсіяй падвозчыкам на ферме рабіў. І нідзе — усе людзі пацвердзяць — не ленаваўся, рабіў не за пострах, а за сумленне. З маладых гадоў прывык рабіць на поўніцу: калі браць, дык аберуч, а калі падстаўляць, дык увесь карак, а не плячо. Нават і ў сталым веку, як

сын неўспадзеўкі ў пісьменнікі выйшаў, ён, Паўлюк, бы другое дыханне набыў і высільваўся, як і ў маладосці. Убілася яму ў галаву, што не можа ён падводзіць свайго пісьменніка: сыну не павінна быць сорамна за бацьку. Жонка часам і набурчыць: «Ці табе ўжо болей за іншых трэба? Чаго ты, як запрэжаны, штодня ў саўгас? Ты ж пенсіянер! Пуню лепш бы перакрыў, каторы год латаеш...» Ён не зважаў, ішоў на саўгасную работу. Бо ці дакажаш бабе, што чалавека можна пусціць на пенсію, а зямлю — не, не пусціш? А калі чалавек жыве на зямлі, дык і яго — як пусціш?! Наадпускаліся, дзякаваць богу! Чатыры дзесяткі гадкоў, лічы, усё адпускаем і адпускаем — маладых у горад, старых на пенсію, а хлеб і мяса ўсім трэба...

Зірнуў Паўлюк на гадзіннік — палова на шостую. Не, дудкі, палтавец з чарнігаўцам як сабе хочуць, а ён устае. Колькі ж можна ляжаць? Грэшна, прачнуўшыся, ляжаць, бы пан, у мяккай пасцелі. Яно, праўда, невядома, што рабіць будзе, падняўшыся, але ж і ляжаць лежнем, калі сонца высока, не выпадае, сам сабе збрыдзеш.

Падняўся ён, ціхенька апрануўся і выйшаў на калідор. Знайшоўшы ўстанову, куды і цар пешкі хадзіў, нясмела зайшоў туды. Пасля спаласнуў рукі і твар у мыцельніку і спусціўся са свайго трэцяга паверха на першы. Тыцнуўся ў дзверы, каб выйсці на двор, ды яны не паддаліся — аказаліся замкнёныя. Затаптаўся Паўлюк, не ведаючы, дзе шукаць рады, ажно на крокі яго выйшла заспаная медсястра, пазяхнула:

— Куды так раненька?

Ён збянтэжыўся, што не даў ёй даспаць, перабіў салодкі, пэўна ж, ранішні сон, сказануў няўцямна:

— Дык яно... Раніца ўжо. Мне, старому, не спіцца...

Дзяўчына адчыніла дзверы і моўчкі пасунулася ў свой пакойчык — няйначай дасыпаць. А Паўлюк, стараючыся не бразгнуць вялікімі шклянымі дзвярамі, выпхнуўся ў двор, а там і на вуліцу.

Гэтай вуліцай ён учора надвячоркам ехаў аўтобусам з вакзала. Але што ён мог бачыць з акна таго аўтобуса? Адно запомніў, што ўсё ўгару ды ўгару ехалі. А мо тое здалося? Цяпер, зірнуўшы ў адзін і ў другі канец вуліцы, зразумеў, што не здалося. Левы канец быў кароткі, зусім недалёка вуліца абрывалася ці, наадварот, упіралася ў стромую сцяну гары, а ўправа яна бегла ўніз і там далёка, было відаць, крута забірала ўлева. Значыць, адтуль, знізу ехаў ён учора ад вакзала, здагадаўся Паўлюк. Парашыў прайсціся вуліцаю сюд-туд, агледзецца, дзе давядзецца яму пражыць ажно дваццаць чатыры дні.

Брыў паціху ўніз. Справа і злева ўзвышаліся дамы — у два, тры, чатыры паверхі. На жылыя, на такія, як у Мінску, у якіх жывуць у

кватэрах людзі, дамы былі не падобныя. У двары гэтых дамоў вялі жалезныя каваныя вароты і такія ж узорыстыя каваныя весніцы. І Паўлюк, яшчэ да таго, як прачытаў ля адных варот шыльду, здагадаўся, што дамы гэтыя за высокімі каменнымі сценамі-агароджамі — такія ж санаторыі, як і той, у які ён і сам прыехаў. Здагадаўся і сам сабе паківаў галавой: гэта ж трэба, цэлы горад санаторыяў!

На скрыжаванні сваёй вуліцы з іншай спыніўся. Тут, ля невялічкага дашчанага магазінчыка, стаяў конь, запрэжаны ў звычайныя, амаль такія ж, як і на Беларусі, калёсы. Чалавек у чорным зашмальцаваным халаце браў з калёс скрынкі з бутэлькамі і слоікамі і насіў у магазінчык. Паўлюк узяўся падсабляць. Чалавек зірнуў быў на яго са здзіўленнем, але прамаўчаў, нічога не сказаў.

Занёсшы апошнюю скрынку, ускінуўшы яе на высокі стос выгружаных скрынак, Паўлюк абтросся і паціху пайшоў далей — гэтай, сваёй, вуліцай, баючыся куды-небудзь зварочваць па першым часе, каб пасля не блукаць. Яго дагнаў чалавек у чорным халаце, загаварыў:

— Чаго ўцякаеш? Пайшлі назад! Шклянку соку вып'еш! Нехарашо так!

Паўлюк замахаў рукамі:

— Дзякую, чалавеча! Я ж не дзіця, не люблю таго соку...

Чалавек пастаяў, паглядзеў яму ўслед, пасля ўсміхнуўся, сказаў сам сабе:

— Калгаснік, калі такі добры...

Паўлюк гэтага, вядома, не чуў. Ён, пазіраючы направа і налева, ішоў уніз. Але неўзабаве занепакоіўся. Непакой гэты ўзнік ад таго, што раптам кінулася яму ў вочы адна дзіўная акалічнасць: ніхто, бадай, акрамя яго, не ішоў уніз, а ўсё больш і больш людзей, паяўляючыся невядома адкуль на вуліцы, ішлі — досыць хутка, сёй-той нават уподбежкі — пад гару. Паўлюк спыніўся, агледзеўся. Так і ёсць. Усе джгаюць толькі пад гару. Ён павярнуўся і таксама пабрыў за людзьмі.

«Ягоная» вуліца, аказалася, не ўпіралася там, наверсе, у стромую сцяну гары. Там яна пераходзіла ў вузейшую, няйначай пешаходную сцежку і, звіваючыся, паўзла кудысьці вышэй. Туды кіраваўся і людскі струмень. Пашкробся туды і Паўлюк.

Вузкая пакручастая асфальтоўка, павадзіўшы яго сюд-туд па лесе, вывела ўрэшце на чыстае і роўнае месца. Тут іграла музыка, і чалавек сто, а мо і болей, пад гэтую музыку махалі рукамі, прысядалі, падскоквалі. Ага, здагадаўся Паўлюк, робяць ранішнюю зарадку, як дзеці ў піянерскім лагеры. Стаяў, глядзеў, і чым больш стаяў, тым

больш разбіраў яго смех. Нельга было без смеху глядзець, як старыя, з вядзёрнымі жыватамі мужчыны і такія ж разлезлыя рапухі-бабы, бы зайздросцячы маладзейшым і спрытнейшым, таксама стараліся круціць азадкамі і, нагінаючыся, кранацца рукамі зямлі...

— Што, баця, дыхаем у Храме паветра?

Ля яго спынілася маладая кампанія хлопцаў і дзяўчат у стракатых спартыўных касцюмах, у аднолькавых шарсцяных шапачках на галовах і аднолькавых, сіне-белых красоўках на нагах — сын улетку прыязджае ў Родзевічы ў такім жа абутку. Паўлюк схамянуўся. Нехта з кампаніі, здаецца, штосьці ў яго пытаўся, але што — ён не датумкаў і пазіраў на хлопцаў і дзяўчат неўразумела.

— Баця, відаць, язык праглынуў? — засмяяўся адзін з хлопцаў.

— Ён, напэўна, першы раз тут,— выказала здагадку дзяўчына.

— А-а,— хлопец бесцырымонна ўзяў Паўлюка пад локаць.— Точна, баця, першы раз тут?

— Ага,— кіўнуў галавой Паўлюк.

— Увядзём бацю ў курс,— падміргнуў хлопец кампаніі.— Гэтая мясціна, каб вы ведалі, называецца Храмам паветра. Такога паветра, як тут, няма больш нідзе ў Савецкім Саюзе. А вунь там, вышэй, бачыце дамок і шпіль над ім? Там — Чырвонае сонейка. Загар там, баця, крымскі... А яшчэ вышэй, вунь там, дзе станцыя пад'ёмніка,— Сінія скалы. Усёк, баця?

— А чаго туды ўсе людзі ідуць?

— Як гэта чаго, баця? Вы самі — чаго сюды прыехалі? Не ведаеце? Набірацца здароўя. Вось і бягуць людзі па здароўе. Там яго дарма раздаюць, направа і налева, хто колькі ўхопіць.

Хлопцы і дзяўчаты зарагаталі, засмяяўся і Паўлюк.

— Вясёлыя вы, бачу. Але ж мне, старому і дурному, і праўда хацелася б ведаць, чаго туды людзі спяшаюцца... І дарожкі во гэтыя пакручастыя — нашто іх парабілі?

— Усё дзеля таго самага здароўя, баця,— страсянуў Паўлюка ўжо пад абодва локці хлопец.— Тэрэнкурам называецца дарожка гэтая. Каб хадзіць і бегаць па ёй і набірацца здароўя. Гайда з намі на Чырвонае сонейка? Толькі — не адставаць, баця!

Паўлюк, як баючыся, што яны, гэтыя хлопцы і такія ж дрындалястыя дзеўкі, сапраўды падхопяць яго і пацягнуць з сабой на тое Чырвонае сонейка, зрабіў крок назад, пакруціў галавой:

— Дзе ўжо мне... Бяжыце вы...

Кампанія дружна паджгала пад гару, і Паўлюк зноў не пачуў, як той жа хлопец-весялун, што ўсё называў яго бацем, засмяяўся-сказаў:

— Калгаснік! Святая прастата!..

Вярнуўся Паўлюк у санаторый а палове восьмай, вярнуўся радасны, задаволены і прагулкай, і тым, што не заблудзіўся, знайшоў дарогу дадому сам. Палтавец і чарнігавец, па ўсім было відаць, падняліся толькі што, бо не паспелі ні пагаліцца, ні памыцца. Паўлюк, сам таго не хочучы, пахваліўся:

— А я ўжо ў Храме паветра пабыў. Хацеў з дзеўкамі і на Чырвонае сонейка паджгаць, але бабы сваёй пасаромеўся — а раптам уведае?

Яшчэ што-небудзь пра свае ранішнія ўражанні сказаць не паспеў, бо зайшла сястрычка і паклікала яго да ўрача.

Доктарка — маладзенькая, ласкавая і нейкая нясмелая — Паўлюку спадабалася. Яна прызначыла яму нарзанныя ванны, кіслародныя кактэйлі і прагулкі па тэрэнкуры. На гэта ён памяркоўна кіўнуў галавой: маўляў, зразумеў, хоць што такое кіслародныя кактэйлі — паняцця не меў. Пытацца не стаў: пажыве тут, дык і зразумее, што да чаго.

Кактэйль той самы ён пакаштаваў неўзабаве пасля сняданку. У кабінеце, куды яго завяла тая ж сястрычка, яму падалі глыбочанькі спадачак з нечым лёгкім і пульхным, як пена, і сказалі: «Ешце». З пены тырчала лыжачка. Узяў ён у рот той камкаватай, бурбалачнай кашы, хацеў каўтануць, ды папярхнуўся, закашляўся, ажно слёзы з вачэй пасыпаліся. «Каша» падалася нейкай прэснай, нясмачнай. Ён азірнуўся, агледзеўся: паўсюль за столікамі людзі ўпляталі яе з апетытам. Сумеўшыся, Паўлюк таксама пачаў есці. Сяк-так з'еў, але парашыў, што калі можна будзе, дык больш сюды не пойдзе: паветра глытаць можна і без лыжачкі.

А ванну ён прыняў надвячоркам, перад вячэрай. І яна прыйшлася даспадобы. Збянтэжыў толькі нечаканы прыход дзяжурнай сястры. Дзе ж гэта бачана, каб да голага мужчыны ў кабіну заходзіла кабета? Што з таго, што ванна прыкрыта лістом фанеры ці нейкай іншай трасцы? Хіба ж гэта схованка? Адно сорам прыкрыты, а ўсё астатняе... А сястра як і не бачыць, не шманае. Спакойненька гэтак зайшла, узяла яго за руку, пульс палічыла, спыталася, як ён сябе адчувае, і выйшла, бы тая пава. А ён у ванне — ні жывы ні мёртвы. Вядома, ён ёй не раўня, стары ўжо, але ж мужчына ўсё-такі, не баба...

Ляжаць у ванне было прыемна. Чым і як яна лечыць, не даняў. І ці лечыць наогул? Нічога ж ён не адчуў ні тады, як ляжаў у ёй, ні пасля, як вылез.

Гэтымі сваімі сумненнямі падзяліўся Паўлюк з суседзямі па палаце, калі ўсе трое лягалі спаць. Палтавец хмыкнуў штосьці, чаго Паўлюк не зразумеў, а чарнігавец параіў:

— Ты, бацька, рубля ці траяка той кабеціне дай, якая ванну нарзанам напаўняе, от тады і пабачыш, ці лечыць.

— А хіба за гэта трэ было плаціць? Ай-яй-яй, а я, дурань, сораму не маючы, бясплатна паляжаў...

Палтавец з чарнігаўцам пераміргнуліся, і пагляды іх сказалі адно аднаму: «Што з яго ўзяць! Калгаснік! Дзеравеншчына!..»

Назаўтра ранічкою, прачнуўшыся зноў роўненька ў пяць, ён ужо не вагаўся, уставаць ці не ўставаць. Цішком, стараючыся не рыпнуць і не грукнуць, падняўся, апрануўся, выйшаў з палаты. Спусціўшыся ўніз, зноў выявіў, што дзверы зачынены. Ніякавата было ісці і турбаваць сястру, аднак пайшоў.

З пакойчыка, куды ён нясмела пастукаўся, выйшла ці то маладая жанчынка, ці яшчэ незамужняя маладзіца, спытала:

— Што здарылася, хворы?

Паўлюк, пачуўшы гэтае «хворы», азірнуўся, нікога не ўбачыў, перапытаў:

— Чаму — хворы?

Маладзіца перасмыкнула плячамі, ужо зласнавата сказала:

— Я пытаюся, што здарылася?

Ён сумеўся, адказаў:

— А нічога не здарылася. Мне каб выйсці, гэта самае...

— Чаго так прыспічыла? Малады дык на спатканне, можна было б падумаць, прэцца, а то ж...

— Дык жа... Сонца ўзышло, чаго ж ляжаць? Грэх...

Маладзіца не даслухала, сказала:

— Не замкнёна там, зашчэплена,— і адвярнулася ад яго, пайшла ў пакой.

Ідучы да дзвярэй, Паўлюк пачуў, як яна сказала камусьці ў глыбіні пакоя:

— Калгаснік! Прывык успорвацца разам з сонцам...

Ён не зразумеў, пахваліла яна яго ці зганіла. Вось толькі — пры чым калгаснік? Калгаснікам ён быў даўно, а ўжо шмат гадоў як у саўгасе, у саўгасе і на пенсію выйшаў. Пры чым жа тут — калгаснік?

У двары санаторыя махаў дзеркачом дворнік. Паўлюк пастаяў, пагледзеў на яго, не стрываў, падышоў і папрасіў:

— Мо і мне якая работа знойдзецца?

Дворнік быў прыблізна такога ж веку, як і Паўлюк. Ён перастаў падымаць пыл, сказаў:

— Па Чырвонае сонейка ідзі, там твая работа.

Паўлюк крутнуў галавой:

— Ат, дзіцячыя забаўкі, тыя храмы паветра і сонейкі! Ці ж у нашым веку шукаць гэтак здароўя? Высалапяць язык і бягуць пад гару!

— Дык дзеля гэтага ж і едуць сюды! — усміхнуўся дворнік.— І сам жа во...

— А не кажы, чалавеча!— пагадзіўся Паўлюк.— І сам прыпёрся...

— І здалёку?

— З-пад Мінска ажно.

— Здалёку, праўда. Не быў там. І як у вас?

— А нішто. Не горш, чым тут. Нават, братка, ці не лепш. Гор такіх нямашака, гэта праўда, але затое зеляніны, травы і лесу, болей, і вады ўсякай — рэчак, азёр, балот...

— А кілбаса, мяса ёсць?

— Ну, а як жа! Вядома, ёсцека! Як жа без гэтага?

— Тады ў вас лепш,— заключыў дворнік.

— Там добра, дзе нас няма,— удакладніў Паўлюк і папытаў: — Мо ў цябе каса ёсць? Я каля кветак во абкасіў бы, і там, ля кустоў.

— Кажу ж — на Сонейка ідзі, да Сініх скал!

Паўлюк замаркоціўся. Не разумее яго чалавек, хоць такі ж пенсіянер, як і сам ён. Ты яму пра работу, а ён... Два дні ў цягніку бакі адлежваў, учарашні дзень здоўжыўся, рук ні да чаго не прыклаў, а тут во і другі разгараецца — колькі ж можна, каб ні пальцам аб палец?

Дворнік, раптам як штосьці зразумеўшы, прапанаваў:

— Дык мо дзяркач свой табе перадаць? Махай, калі без работы не можаш.

— У ахвоту, братка!

— То, можа, і заўтра мяне падменіш? У мяне іншы клопат ёсць, я адарваўся б...

— І заўтра, братка, і паслязаўтра, і яшчэ дваццаць дзён,— шырока ўсміхнуўся Паўлюк.— На дваццаць чатыры дні пуцёўка.

— А ты... А ты, выбачай, не жартуеш?

— Якія жарты, чалавеча! Во так ранічкою выйду і памахаю тваім памялом на халадку. Ты мне толькі пакажы, дзе і што, а пасля ідзі, спраўляй свой клопат.

Добрыя дзве гадзіны махаў Паўлюк дзеркачом. Падмёў усё наўкол. Не толькі двор, дарожкі ў двары, прыступкі галоўнага ганка, але і тыльны дворык, і нават тратуар перад галоўным корпусам. Пасля сядзеў у двары і цешыўся са свае работы: гэта ж не толькі яму, а і ўсім, хто выходзіць сюды, прыемна, што паўсюль чысценька, утульна, святочна.

І назаўтра разам з усходам сонца шмараваў Паўлюк дзеркачом двор. І цэлы дзень быў у Паўлюка добры настрой. З добрым настроем ішоў ён і ванну прымаць.

Памятаючы пра тое, што гаварыў яму чарнігавец, не забыўся ўзяць з сабою рубель. І перад тым, як распранацца, падаў яго жанчыне, што спаласквала і пасля напаўняла ванну. Падаў і сказаў выбачліва:

— Вазьміце, калі ласка. Я ж і не ведаў, што вам трэба плаціць.

Жанчына, бы ашпараная, адскочыла ад яго, закрычала:

— Вы што, звар'яцелі? Якія грошы? Хто вам такое наплёў?

Выскачыўшы з кабіны, яна голасна сказала дзяжурнай сястры:

— Ну і вёска! Тыцкае няшчаснага рубля і кажа: я ж і не ведаў, што вам трэба плаціць... Плату знайшоў!

Хацеў Паўлюк пасля ванны падысці да тае кабеціны і растлумачыць, чаму ён тыцкаў, як яна сказала, таго рубля, але пасаромеўся, не падышоў. Ат, парашыў, лепш будзе, калі ён прамаўчыць, не стане напамінаць, хоць, падалося яму, пакрыўдзілася кабета не за тое, што даваў ёй рубля, а за тое, што даваў мала. А на чарнігаўца пакрыўдзіўся: ён жа яму не смаркач які, каб так па-дурному жартаваць...

Пасля гэтага без вялікае ахвоты, як і на кактэйлі, хадзіў Паўлюк і на ванны. Цераз сілу хадзіў. Прыйдзе, сядзе з краёчку і выглядвае, ці дзяжурыць тая кабеціна. Калі дзяжурыць, дык цаляе, каб хаця не яна налівала ў ванну таго цёплага і невядома чым карыснага нарзану. Перажываў, нерваваўся, але хадзіў. Бо як жа не пойдзеш? Толькі ж, бадай, дзеля гэтых самых нарзанных ваннаў і едуць сюды людзі за няблізкі свет. Усе навыперадкі хваляць гэты самы нарзан. Трэба і яму, значыцца, не быць за ўсіх разумнейшым і папрымаць ванны да канца, колькі іх яму прызначана.

Але дванаццаць прызначаных ваннаў ён усё ж не прыняў. Паляжаў у цёплым, ажно гарачым і не надта бурлівым нарзане ўсяго пяць разоў, бо прабыў у санаторыі дзесяць дзён — ванны доктарка прапісала прымаць цераз дзень. На адзінаццаты дзень, пасля гаворкі са сваёй маладзенькай і ласкавай доктаркай, ён паехаў з Кіславодска дадому. Зрэшты, не так пасля гаворкі з доктаркай, як з чарнігаўцам...

Доктарка ранічкою таго дня ўгледзела Паўлюка з дзеркачом. Яна спынілася, паглядзела на яго пільней, пасля, як не верачы сваім вачам, падышла да яго.

— Таварыш хворы, што гэта вы робіце? — спытала яна.

Паўлюк, не адчуваючы перад ёю аніякай сваёй віны, перапыніў работу, кіўнуў на дзяркач:

— А хіба вы не бачыце? Двор падмятаю.

— Бачыць-то бачу,— сказала доктарка,— але хацела б ведаць, чаму вы гэта робіце?

— Захацеў от і раблю,— адказаў, як умеў, як яно і на самой справе было.

— Таварыш хворы, як вас? Павел Іванавіч? — Доктарка чамусьці не ўспрыняла ягонай усмешкі.— Вы ж прыехалі лячыцца!

Паўлюк заківаў галавой:

— Дык я і лячуся, дачушка. Хіба ж гэта не лекі? Хіба зарадка на Храме паветра дакажа? Гадзінку-другую з дзеркачом у руках — лепшай зарадкі і не трэба.

— А дворнік дзе? — запытала яна, ужо чымсьці збянтэжаная.

— А няма. Я адпусціў яго. На ўсе дваццаць чатыры!

— Ой, Павел Іванавіч, Павел Іванавіч, дзіўны вы чалавек! — яна, нарэшце, таксама ўсміхнулася і пайшла.

А пасля яна паклікала яго праз сястрычку да сябе ў кабінет. Там памерала ціск, паслухала сэрца, пасля зняла кардыяграму. Сядзела, глядзела на яго, усміхалася, урэшце сказала:

— Усё добра, Павел Іванавіч, сэрца ваша ў мяне трывогі не выклікае... Але вы ўсё ж вярнулі б мятлу дворніку, га? Вы ж адпачыць прыехалі, падлячыцца. Мне, вашаму ўрачу, няёмка... Хворыя з вас пасміхваюцца, сёстры...

— А чаго? Чаму? Што ж я такое смешнае раблю?

— Ну хоць бы гэтае самае дворніцтва ваша ўзяць...

— І чаму гэта людзям муляе — не датумкаю,— пацiснуў плячамі Паўлюк.

На гэтым і разышліся.

Не стрымаўся, расказаў Паўлюк пра гаворку з доктаркай у палаце. Палтавец з чарнігаўцам ад душы парагаталі. А каб што сказаць людскае, дык і не сказалі.

Толькі пасля, калі палтавец пайшоў на нейкую працэдуру, чарнігавец пашкадаваў ці, наадварот, паздзекаваўся з Паўлюка:

— Не крыўдуй, бацька, але ўрач праўду казала. Прыехаў лячыцца, дык лячыўся б. З цябе ж, бацька, усе смяюцца. Увесь санаторый. Калгаснік — ніхто інакш і не заве...

Паўлюк толькі і змог спытаць:

— А калі ж гэтае слова стала абразаю, га? Ды і не калгаснік я, чалавеча!

— Ат, бацька, ці ты прыкідваешся, ці не хочаш разумець,— адвярнуўся да сцяны чарнігавец.

Пасядзеў Паўлюк у палаце, падумаў, разважыў над тым, што пачуў, а пасля падняўся, зноў пайшоў да доктаркі і запатрабаваў неад-

кладна выпісаць яго з санаторыя па ўласнай ахвоце. Чаму — не стаў тлумачыць. Ёсць у яго гонар, і не дазволіць ён, Павел Іванавіч Лапатка, каб кожны смаркач, каб нейкі аплыўшы тлушчам дурань ці спешчаная альбо разбэшчаная кабетка — а іх уга колькі ў іхнім і ў іншых санаторыях, спешчаных, разбэшчаных, атлусцелых і зусім здаровых! — пагарджалі ім, пасміхваліся з яго...

У той жа дзень вечарам ён сядаў у цягнік. Сядаў і ўжо думаў пра тое, як прыедзе дадому, у Родзевічы, як здзівіць сваю старую, заявіўшыся раней часу. А яшчэ думаў пра тое, што абавязкова зойдзе ў Мінску да сына і раскажа яму, пісьменніку, як ён лячыўся ў Кіславодску ў санаторыі, як прыняў там пяць нарзанных ваннаў. Мо калі-небудзь сын напіша і пра гэта...

## АДНОЙЧЫ ЎБАЧЫШ У НАТОЎПЕ...

На пачатак — невялікае, мо не надта і лірычнае адступленне...

Трыццаць гадоў назад (нават ужо трыццаць з гакам), калі я прыехаў у Мінск, жыло ў нашай сталіцы нешта каля чатырохсот тысяч чалавек, і было ў ёй надта ж вольна, няспешна і ціха. Тралейбусы, аўтобусы і трамваі досыць лёгка спраўляліся адвозіць усіх на работу і з работы, і не трэба было тымчасовым мінчукам ні штурмаваць іх на прыпынках, ні куксіцца пасля між чужых мокрых спін і вострых локцяў, як штурмуем і куксімся мы, цяперашнія мінчукі. Не трэба было нервавацца ў чарзе, каб купіць пляшку малака і кавалак кілбасы на вячэру, бо чаргі той проста, дай сёння гэтаму веры, не было — хапала магазінаў, ларкоў і латкоў. Не было чэргаў і ля кінатэатраў, хоць іх тым часам можна было пералічыць на пальцах — «Першы», «Цэнтральны», «Перамога», «Летні» ды яшчэ два-тры бліжэй да ўскраін. У парк Горкага брама бясплатна не пускала, патрабаваўся білецік, і таму нам, студэнтам, часцей за ўсё даставаўся «ў арэнду» праспект — для праменадаў і спатканняў («балдзенне», «кайф» тады яшчэ не былі ў модзе, яны «ашчаслівілі» нашых наступнікаў).

На праспекце штовечар было людна, аднак жа не тлумна, не вірліва, малады і стары люд шпацыраваў з годнасцю, шануючы адно аднаго, не дазваляючы сабе няўзнак нават штурхануць суседа, а калі такое і надаралася, дык тут жа чулася вымольна-ветлівае: «Прабачайце» ці «Даруйце, калі ласка». І там, на праспекце, вельмі проста і звычна было напаткаць свайго такога ж маладога, як і сам, земляка, бо ўсе мы, дзе б ні жылі, імкнуліся сюды, у цэнтр, які быў на той час у Мінску адзін і межы якога пазначаў адрэзак праспекта ад паштамта да Цэнтральнай (цяпер Кастрычніцкай) плошчы.

З той пары прамінулі тры дзесяткі гадоў. У гістарычным разрэзе — зусім няшмат, а вось жа змены адбыліся велізарныя. Аграмадныя змены! Замест чатырохсот тысяч Мінчукоў стала за паўтара мільёна. Горад, як цеста на дражджах, рос нястрымна: праглынуў неўпрыкмет усе свае колішнія драўляныя ўскраіны, рассунуўся да кальцавой шасейкі, а ўрэшце пераступіў і цераз яе, палез пад Шчомысліцу, Уручча, Красоўшчыну. У розных кутках новага, вялікага Мінска створаны, думкаю архітэктараў і намаганнямі будаўнікоў, новыя, так званыя гандлёва-культурна-адміністрацыйныя цэнтры, але яны, ніводзін з іх, не можа параўнацца па прыцягальнасці з тым, старым і адзіным калісьці цэнтрам, і па-ранейшаму па праспекце ад паштамта да Кастрычніцкай плошчы людна, прытым цяпер не проста людна, а па-мурашынаму мітуслíва. Паабапал праспекта шырокія тратуары ледзь утрымліваюць у сваіх берагах-межах людскую стракатую плынь. І плынь гэтая, да ўсяго, не тая колішняя, спакойная і павольная, коласаўска-прыпяцкая, а імклівая і нястрымная. Рос горад, і расла імклівасць хады Мінчукоў. Цесната, дзіўна, быццам падганяла людзей. І чым шчыльней рабілася на мінскіх тратуарах, тым больш выразна спаважная хада людзей мянялася на хаду ўподбежкі. І ўсе мы так хутка прызвычаіліся да новага гарадскога тэмпу, што ўжо асмельваемся і бурчым на якога-небудзь маруду, які, круцячыся-блытаючыся пад нагамі, збівае нас з гэтага самага тэмпу: маўляў, ты, таварышок, не на вясковым прасёлку, а на сталічнай вуліцы, на вуліцы паўтарамільённага горада, і таму, калі ласка, тупай, як усе — борздзенька, таварыш, борздзенька!

Дык вось. Спаткаць, угледзець у гэтым шчыльным і імклівым людскім патоку знаёмае, скажам, зямляцкае, аблічча ўжо і нялёгка. Калі нават часам і ўгледзіш, калі хто-небудзь знаёмы знячэўку і мільгане сярод мноства чалавечых, надта ж застандартызаваных апошнім часам, постацей, пакуль азірнешся ды прыпынішся, дык таго і след прастыў — шукай ветру ў полі, як кажуць, ці іголку ў стозе, што яшчэ больш праблематычна.

Зразумела таму, што калі не так даўно мяне на праспекце хтосьці знячэўку схапіў за руку і грымнуў над вухам: «Куды ківаемся?», я ці не пералякаўся. Прынамсі, здрыгануўся — ажно гарачая хваля пракацілася па спіне. «Хто гэта?» — прашаптаў я сам сабе, злуючыся на незнаёмца і на свае ўласныя разбэрсаныя ўшчэнт нервы. Урэшце збавіў тэмп, азірнуўся і ўбачыў побач з сабою земляка, колішняга аднавяскоўца і аднакласніка (з першага па сёмы клас разам шмаравалі школьныя парты) Мішку Саламянку, а больш правільна — Мішку Жызневіча, бо Саламянкі было іх вулічнаю назоўкаю, а яшчэ больш

правільна, на цяперашні выхаваны і модны лад, каб гэта абавязкова яшчэ і па бацьку, дык Міхася Рыгоравіча Жызневіча. Злосці ў мяне як і не было. Мы парукаліся, вылузаліся з нястрымна-імклівага натоўпу на ўзбочыну, пад шаты ліпавых праспектных прысадаў, і прыпыніліся калі не пагаварыць, дык хоць перакінуцца словам-другім.

Я заўсёды рады сустрэць у горадзе земляка. Мільгане на вуліцы, у тралейбусе, у магазіне, а цяпер ужо і ў метро знаёмае, роднае з маленства, хоць, праўда, ужо трошкі і змененае часам аблічча, і адразу ж агорне цябе цёплая радасць, усплыве шчымліва-вабная згадка з колішніх, лепшых і святлейшых, бо маладых, гадоў, і ты памкнешся насустрач земляку, як на спатканне з тым дарагім і незабыўным, што носіш, зберагаеш у душы праз леты і зімы. Памкнешся з салодкім спадзяваннем пабачыць, пачуць, успомніць тое, што табе быццам даўно ўжо карцела пабачыць, пачуць, успомніць.

Так думаецца.

Ды, на жаль, часцей здараецца так, што сустрэнешся, парукаешся, папытаешся пра сёе-тое і... пачынаеш з ніякаватасцю пераступаць з нагі на нагу, муляцца і бянтэжыцца,— бо раптам пабачыш, адчуеш, што зямляк твой некуды спяшаецца, што не вельмі рады ён гэтай нечаканай стрэчы, што там, дома, гэта значыць, у роднай вёсцы, ён даўно не быў, нават не памятае калі, і таму не можа задаволіць тваёй прагнай цікаўнасці, што там і як, і ты, на хаду прыдумаўшы якуюсьці больш-менш прыстойную прычыну, таксама заспяшаешся і развітаешся. Аказваецца, змянілі яго (ды і цябе таксама) гады, павялі зусім па розных дарогах, і ўжо мала чаго засталося з таго, што калісьці яднала, павязвала яго і цябе, і праз гэта яшчэ больш ніякавата зробіцца табе.

Ды ніякаватасць тая хутка мінаецца, забываецца, і неўзабаве ты зноў аднойчы ўбачыш у натоўпе, у вірлівым людскім патоку роднае, дарагое аблічча, і зноў з колішнім, непераходным хваляваннем памкнешся насустрач...

Абрадаваўся я стрэчы і з Мішкам Жызневічам, з Мішкам, вядома, а не з Міхасём Рыгоравічам. Хай недзе там будзе ён Міхасём Рыгоравічам, на здароўе, як кажуць, а для мяне больш звычнае, больш роднае, амаль сваяцкае імя — Мішка. Не бачыліся мы даўнавата, не гаварылі яшчэ даўней, а калісьці ж разам не толькі вучыліся ў нашай Альхоўскай сямігодцы, але і свіней разам пасвілі, і кароў паранкі ганялі, і ў грыбы бегалі, і ў вайну на аселіцы гулялі, і ў пікара на крыжавых дарогах рэзаліся. Сябрук маленства, што ні кажы! На добры лад дык і абняцца б не грэх. Ды толькі адвыклі мы, развучыліся, ужо чамусьці нават саромеемся праяўляць свае натуральныя эмоцыі адкры-

та, прызвычаіліся ўсё рабіць неяк быццам з аглядкаю, з прыкідкаю на некага, каб было культурна, як у людзей, а не, крый божа, па-вясковаму! А як жа! Нашы мацяркі і бацькі дзеля гэтага ж і гналі нас у гарады. Ну, можа, не толькі дзеля гэтага, аднак жа з надзеяй, што там мы выйдзем у «людзі», адвыкнем, забудземся на ўсе гэтыя выбрыкі вясковага ідыятызму...

Вось так і мы з Мішкам — не абняліся, не пацалаваліся. Адно, як я ўжо казаў, парукаліся.

— Дык і куды ківаемся? — паўтарыў Мішка сваё ранейшае пытанне.— Куды бяжым-спяшаемся?

— Ехаў дахаты ды ўспомніў, што ў аптэку трэба, вось вылез з тралейбуса і іду,— адказаў я шчыра, нічога не прыдумляючы і праз гэта як чагосьці саромеючыся.

Мішка на гэта нечакана вельмі ж паразумела заківаў галавою:

— Ясненька, ясненька! Калі пасля сарака ты прачнуўся і ў цябе нічога не баліць, значыцца, ты памёр... Дажылі і мы, зямляча, да такога веку, перажылі нават. Што ў цябе?

Я адмахнуўся:

— А ліха яго ведае! Урачы супакойваюць, а рады даць не могуць. Слабасць, галава кружыцца, сэрца б'ецца, як авечы хвосцік у летні жар... Жывеш, быццам падвешаны, усё чакаеш, калі абарвешся...

Мішка перабіў:

— А ты не чакай. У мяне, зямляча, цэлы букет: і гіпертанія, і арытмія, і тромбафлебіт, а цяпер нешта і з вачамі стала, толькі я не шманаю. Бо ўзяць да галавы — канцы! Піць, курыць кінуў? Правільна. Я таксама даўно ўжо святы. Анёл! Глядзіш, яшчэ і паківаемся трохі, га, зямляча? І не трэба пра гэта. Хваліся лепш чым-небудзь.

Я пацiснуў плячамі:

— Чым жа хваліцца? Ці ёсць што лепшае за здароўе?

Мішка зарагатаў:

— Грошы, кажуць! Ключы ад раю. Фільм такі быў.

— Фільмы зараз найбольш пра такое глупства... Жыву памалу. На работу, з работы — глядзіш, і няма дня, а там і тыдня, месяца...

— Не кажы! — падхапіў Мішка.— Я таксама заўважаю, што Зямля пачала круціцца хутчэй, што суткі карацейшыя сталі. Не толькі дні ці тыдні, як ты кажаш,— гады мільгаюць. Мы ж з табой пасля вайны ў школу пайшлі, ці даўно тое было, а — па пяцьдзесят грукне вось-вось... О, пахвалюся: я ўжо дзед, зямляча! Двойчы нават. Унука і ўнучку маю. А ты?

Я пакруціў галавой.

— Ясненька,— сказаў Мішка.— Ты ж доўга выбіраў, позна ажаніўся. Але не бядуй. Не агледзішся, як і табе паднясуць пісклю. І скажуць: гадуй, дзед, а нам трэба ў Карпаты!..

— Акрамя дзеда, чым пахвалішся?

— Нічым, зямляча. Раблю там, дзе і рабіў — казаў жа табе некалі. Начальнікам транспартнага цэха. Дзевятнаццаты год ужо. У мяне там адладжана ўсё, народ надзейны падабраўся, так што... Клопату хапае, не без таго, адны запчасткі душу выматваюць, але жыць можна. Галоўнае — з шэфам пашанцавала. Не тузае, не ўмешваецца. Я сам сабе начальнік.

— Гэта добра, вядома. Трапіўся б які дурань...

— Ведаю, перажыў,— перабіў Мішка.— Двух перажыў, з трэцім, нарэшце, пашанцавала. Да пенсіі дацягну, калі нічога такога...

— Ты, можа, спяшаешся? — спахапіўся я.

— Не, няма куды спяшацца, халасцякую. Усе ў вёску паехалі, да цешчы, а я адмовіўся. Цяжкавата мне ўжо ездзіць. Там збярэцца поўная хата гасцей, ні адпачыць, ні паспаць па-людску... Іх выправіў, а сам адасплюся хоць.

— Ну, але, гэта ж заўтра субота,— быццам успомніў я. І папытаў: — У Альхоўцы даўно быў?

Мішка спахмурнеў, адказаў:

— Даўно. На радаўніцу і то з'ездзіць не выпала. Не надта ўжо ёсць да каго ездзіць, а цягне,— Мішка зірнуў мне ў вочы, нібы шукаючы там падтрымкі таму, што сказаў.— І чым старэеш, тым больш цягне. Пра аднагодкаў сваіх, равеснікаў часцей успамінаеш. Думаеш часам: разбегліся і ўжо як чужыя... Ты пра гэта не думаеш?

— Чаму ж не,— падхапіў я.— Думаю, браце, і часта. І мяркую, што недавяркі мы ўсе. Быццам і праўда чужымі парабіліся, гадамі не бачымся.

— А пабачыцца хочацца. Каб гэта ўсім разам сабрацца, га? — сказаў ці прапанаваў Мішка.

Я падхапіў яшчэ гарачэй:

— Ты ў мяне з зубоў вырваў! Я ўжо каторы год мару: сабрацца б усім разам, аднагодкам альхоўскім, усім-усім, з жонкамі, з дзецьмі... Прызначыць бы дзень загадзя, за месяц, а то і за паўгода наперад, сазваніцца, спісацца, каб кожны мог у той дзень вырвацца, ці адпрасіцца з работы, ці адгул узяць і прыехаць. Можа, на свята якое, на Май ці Дзень Перамогі, вызвалення... Я ўжо і гаварыў з тым-сім, каго сустракаў. Усе быццам «за», а як да дзела, дык і...

Мішка таксама загарэўся:

— Давай з табой возьмемся. Сустрэнемся як-небудзь, у мяне ці ў цябе, прыкінем, дзе хто, з кім сазвонімся, са сваякамі звяжамся, чый-го адраса не ведаем... Колькі нас набярэцца, равеснікаў? Чалавек дваццаць пяць? Адзін вечар пасядзім і ўсіхнія адрасы здабудзем. Давай?

— Давай! Я ўсёй душой — за,— ахвотна згадзіўся я.— Вось табе мой тэлефон, звані. Вечарамі я звычайна дома. Будзе вольны вечар — звані і прыходзь.

— Альбо ты да мяне,— Мішка ляпнуў мяне па плячы.— У мяне тэлефона дома няма, павінны скора паставіць — я ж, зямляча, кватэру новую атрымаў, забыўся пахваліцца,— а на рабоце тэлефон ёсць, на маім стале стаіць, так што таксама звані.

— Згода,— кіўнуў я.

— Ну, то і добра,— сказаў Мішка.— Значыцца, дамовіліся, зямляча. Усё ясненька. А цяпер — давай лапу, будзь здароў і не кашляй! Прывітанне жонцы!

— Будзь і ты,— адказаў я.

І мы разышліся.

Ішоў я і са шчырай, здавалася б, радасцю думаў пра гэтага самага Мішку Жызневіча, па мянушцы Саламянка, пра тое, што вось жа, аказваецца, не толькі я, але і ён думае гэтак жа, што і ў яго душы жыве сум па Альхоўцы, што цягне і яго туды салодкі, хоць і не надта, бадай, усвядомлены, покліч, што і ён, несумненна, быў рады сустрэчы са мною, як я зусім шчыра быў рады пабачыць яго, што і ўва мне і ў ім, аказваецца, адначасова трымціць думка-мара сабраць там, у Альхоўцы, усіх нашых равеснікаў-аднагодкаў, сабраць іх сённяшніх, разам з жонкамі, дзецьмі і ўнукамі (ужо і з унукамі!)...

Думаў пра ўсё гэта і ўжо ўяўляў, як будзем прыязджаць у прызначаны дзень туды, у Альхоўку, хутчэй за ўсё на паляну ў Баранаўскім лесе, як пасядзім там, пагамонім, успомнім маленства і юнацтва, мо нават паспяваем, паслухаем дзяцей нашых — яны могуць спецыяльна падрыхтаваць нам, татам і мамам, канцэрцік, пасля сходзім на могілкі, у адведкі да бацькоў і дзядоў, да альхоўскіх дзядзькоў і цётак, былых суседзяў і аднавяскоўцаў, якія адышлі ў нябыт, але якія ўсё яшчэ жывуць у нас, у нашай памяці; потым пакажам жонкам і дзецям наваколле, мясціны, дзе мы спазнавалі свет і сябе ў гэтым свеце, пакажам куток роднай зямлі, дзе мы былі юныя, маладыя, а значыць, і лепшыя — чэсныя, даверлівыя, добрыя, незайздросныя, справядлівыя, дзе нашымі настаўнікамі былі не толькі пасляваенная нястача, нішчымніца, голад, але і людская дабрыня, спагада, ласка...

Мы абавязкова, думаў я, збяромся. Збяромся ўсе. Пра Колю Ладуцьку і Віцьку Шапялевіча клопату няма — яны, двое, толькі і засталіся ў Альхоўцы, пажаніліся, пабудаваліся, гадуюць дзяцей, працуюць — адзін шафёрам, другі на ферме, разам з жонкай, каторы ўжо год даглядае цялят. Найбольш нашых, вядома, прыедзе з Мінска — Веня Вайтовіч, інжынер радыёзавода, Іван Лявіцкі — ён ці не трыццаць гадоў токарам на трактарным, Генусь Фурс — ён, хто б мог паверыць, аціраецца недзе ў гандлі, Саша Шалак — інжынер-будаўнік, Толік Тарлецкі — слесар-рамонтнік халадзільнікаў, Слаўка Барэйка — таксіст, Мішка і, само сабой, я. З Ліды прыедзе Лёўка Маркевіч — архітэктар ці то землеўпарадчык, з Ленінграда — дыспетчар аэрапорта Пеця Вершаль...

Прыпамінаў я колішнія не проста знаёмыя, а родныя, можна сказаць, імёны і прозвішчы, і душа радавалася. Аказваецца, не так і складана будзе наладзіць гэтую сустрэчу. Вось, па хаду, за колькі хвілін прыпомніў я ці не ўсіх хлопцаў-аднагодкаў. Трэба, мусіць, не забыцца і на дзяўчат. Але, але, абавязкова запрасіць і дзяўчат. Мо нават і даручыць ім усю арганізацыйную работу. Яны ўхопяцца за такую прапанову ахвотней, бадай, чым мы, мужчыны. Пазвоніць Мішка, дык трэба будзе сказаць яму пра гэта...

Думаў я пра гэта і дома. Нават пахваліўся жонцы, што спаткаў на праспекце земляка, і дамовіліся мы арганізаваць сустрэчу былых альхоўцаў-аднагодкаў. Жонка паблажліва ўсміхнулася: ну-ну, ці першы раз ты гаворыш пра гэта...

Памятаў я пра сустрэчу з Мішкам Жызневічам і назаўтра, у суботу, і паслязаўтра, у нядзелю. Сяды-тады згадвалася тая сустрэча і ў наступныя дні. У мітульзе спраў, клопатаў і турбот раптам успыхвала ў галаве згадка пра тое, што абяцаўся пазваніць — запісаў жа мой тэлефон!— Мішка Жызневіч, ды ўжо чамусьці ад гэтай згадкі твар мой азмрочваўся іншай думкай: хоць бы не сёння, хоць бы не дадумаўся ён напрасіцца да мяне сённяшнім вечарам, бо парушыць усе планы, зноў не зраблю справаздачы ў тэрмін і зноў нарвуся на непрыемнасць...

А яшчэ праз тыдзень-другі забылася тая выпадковая сустрэча на праспекце, і я ўжо не палохаўся Мішкавага званка. Сам жа яму пазваніць я ці то не сабраўся, ці то не рашыўся, хоць напачатку зусім шчыра, здаецца, верыў, што пазваню. Потым жа гэтае жаданне пакрысе пакінула мяне. Знайшлося і апраўданне. Ён жа не пазваніў! Дык чаго ж я буду званіць, прытым не на хатні, а на службовы тэлефон? Пры выпадку можна заўсёды спаслацца на тое, што званіў, ды, на жаль, не заспеў яго ў кабінеце.

І калі напачатку, у першыя дні ці тыдні, мне яшчэ было ніякавата ад усяго гэтага (маўляў, свінтус я ўсё-такі, чэрствы і абыякавы чалавек), дык пасля гэтыя папрокі ўжо адрасаваліся і Мішку, і наогул усім маім колішнім альхоўцам, аднагодкам і неаднагодкам, і ўжо думалася, што, мусіць, гэта дзіцячыя, несур'ёзныя, наіўныя мары і намеры, што наўрад ці хто адгукнуўся б, калі б і сапраўды паспрабаваў гукнуць іх на такі збор, што колішняя еднасць наша была даўно, з таго часу шмат вады сплыло, што наогул ці была тая еднасць (мы не толькі сябравалі, але і варагавалі, часам досыць зацята, так, што даходзіла да боек), што цяпер усе мы розныя, звязаныя па руках і нагах сямейнымі і іншымі абавязкамі і клопатамі, што няма ўжо нам ніякае справы да Альхоўкі (калі не ўсім, дык многім, скажам, тым, хто пахаваў сваіх бацькоў ці забраў з сабой у горад), і таму, калі па шчырасці, наўрад ці звязаны мы між сабою сёння хоць чым-небудзь — хіба толькі ўспамінам, які мяне (і Мішку таго самага) і расчуліў, а не расчуліць ён не мог, бо гэта быў успамін пра маленства, успамін, які заўсёды, да самага апошттяга дня будзе салодзіць душу, прымушаць сэрца біцца хутчэй, зваць туды, у незваротнае...

І ўсё вярталася на кругі свае...

Але аднойчы ты зноў убачыш у вулічным натоўпе знаёмае зямляцкае аблічча, і табе, затурканаму мітуснёй, рытмамі і тэмпамі паўтарамільённага чалавечага мурашніка, захочацца кінуцца яму напярэймы, парукацца, мо нават абняцца, распытаць, як зямляча маецца, ці даўно быў у роднай Бярозаўцы (ці Залессі, скажам, альбо Мачулішчах), што там чуваць, і, расчулены, ты загаворыш аб тым, што добра было б сабрацца там, у Бярозаўцы (ці Залессі), усім разам, бярозаўскім (ці залескім) аднагодкам, сабрацца з жонкамі і дзецьмі, пасядзець, пагаманіць, успомніць, прычасціцца з тае крыніцы, з якое пілі, калі былі лепшымі — чыстымі, добрымі, даверлівымі, чэснымі, калі не ведалі, што ёсць на свеце подласць, несумленнасць, фальш, пошласць, несправядлівасць і звычайная, зусім, нібыта, бяскрыўдная чалавечая абыякавасць...

© OCR: Камунікат.org, 2013
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2013
© PDF: Камунікат.org, 2013

**ЗМЕСТ**

АПОВЕСЦІ
Прагал
Кім і Валерыя

АПАВЯДАННІ
Слоік вады з Міхалкавай крыніцы
Праменьчык святла
Пяць нарзанных ваннаў
Аднойчы ўбачыш у натоўпе...

**Гіль М.**

Кім і Валерыя: Аповесці і апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1988,— 270 с., іл.

ISBN 5-340-00008-7

Гераіня новай аповесці Міколы Гіля «Прагал» — былая калгасніца Стэпачка, а цяпер гарадская пенсіянерка. Ёй восемьдзесят гадоў. Шэсцьдзесят з іх яна пражыла ў вёсцы, пасля перабралася да сына ў горад. У поўным дастатку жывуць яе дзеці і ўнукі. Толькі заўважае яна ў сваіх дзяцей холад і раўнадушша. Паўстае супраць сытага, спакойнага, але пустога, пазбаўленага высокіх ідэалаў жыцця і саўгасны інжынер Кім з аповесці «Кім і Валерыя».